

Шамава
Раздзел
Вяхра
Падсолтава
Стар.Сяло
Пячкоўка
I
Пячонкі
Шыркі
Мсціслаў
Капачы
Кудрычы
Белая Натапа
Чырвоная Горка
Каўщова
Доўгавічы
Мушына
Ходасы
Сялец
Забалацце
Чорная Натапа
Сож
Крычаў



Г. Ф. ЮРЧАНКА

---

# НАРОДНАЯ СІНАНІМІКА

ВЫДАВЕЦТВА «НАВУКА І ТЭХНІКА»
МІНСК · 1969

Ю 83
4 с (Бел.)

Рэдактар

кандыдат філалагічных навук
А. А. КРЫВІЦКІ

**Юрчанка Г. Ф.**

Ю 83 Народная сінаніміка. Рэд. А. А. Крывіцкі. Мінск. «Навука і тэхніка», 1969. 280 с. 1100 экз. 52 к. У перапл.

У кнізе на матэрыяле гаворак Мсціслаўшчыны распрацавана 440 сінанімічных радоў, у якія ўвайшло больш 4000 шырокаўжывальных слоў. Прыследжваюцца асаблівасці сінанімізацыі лексікі народных гаворак, паказваецца ўзаемасувязь народна-дыялектнай і літаратурнай лексікі. Значная ўвага ўдзяляецца сінаніміцы розных фразеалагічных зрашчэнняў.— Бібліягр. с. 278—279.

7-1-5
80-69

4с (Бел.)

# АД РЭДАКТАРА

Слоўнік Г. Юрчанкі «Народная сінаніміка» — другая яго лексікаграфічная праца па мясцовай мове Мсціслаўшчыны [1]. Крыніцай, з якой чэрпае ён матэрыял па лексіцы, з'яўляецца яго родны дыялект, на якім гавораць па Сожу і Вяхры на мяжы са Смаленшчынай.

У сваёй новай працы Г. Юрчанка падае пераважна лексіку, якая не трапіла ў ранейшы слоўнік. Змешчана тут больш чатырох тысяч слоў. Аднак гэта не алфавітны збор мясцовай лексікі, а невялікія або значныя па колькасці рады слоў, якія ўжываюцца ў ґаворцы ў якасці абазначэнняў аднолькавых з'яў рэчаіснасці. Словы, якія ўваходзяць у падобныя рады, у практыцы лічацца сінонімамі. Слоўнік уключае 440 такіх сінанімічных радоў.

Слоўнікі сінонімаў складаюцца звычайна па лексіцы літаратурных моў. Праўда, пакуль што яны — досыць рэдкая з'ява ў лексікаграфіі. Стварэнне ж сінанімічных слоўнікаў па дыялектнай лексіцы, можна сказаць, зусім не практыкуецца. Адсутнасць падобных слоўнікаў не азначае, аднак, што дыялектная сінанімія не заслугоўвае ўвагі.

Лексічныя сінонімы ў гаворках — гэта яркія фарбы ў моўнай палітры народнай паэзіі, маляўнічага жывапісу словам, выяўлення пачуццяў да розных падзей, абставін і з'яў жыцця. Спецыфікацыя слоў у дыялектнай мове не па іх абазначальнай, а па эмацыянальна-выразнай сэнсавай функцыі надзіва багатая і разнастайная. І вядома, штоназіранне над сінаніміяй і раскрыццё асаблі-

[1] Першая яго праца па лексіцы Мсціслаўшчыны — «Дыялектны слоўнік» (Мінск, 1966; больш за 2 тысячы слоў). Надрукаваны таксама артыкулы: «Скарбы — побач» («Полымя» № 1, 1965); «Пра адзін сінанімічны рад» (З жыцця роднага слова. Мінск, 1968); «Устойлівыя сінтаксічныя кампаненты ў сінанімічным радзе» (Лінгвістычныя даследаванні. Мінск, 1968).

вай сэнсавай ролі кожнага асобнага слова ў складзе сінанімічных радоў паказвае складаную распластаванасць лексікі ў мясцовай гаворцы, выяўляе разнастайнасць яе экспрэсіўных, выразных, стылявых і проста абазначальных сродкаў.

Слоўнікі дыялектнай сінаніміі раскрываюць таксама, як працякае працэс пранікнення ў дыялектную мову лексікі літаратурных моў, паказваюць, якія функцыянальныя ўзаемаадносіны складваюцца паміж мясцовымі і новымі словамі ў розных галінах моўных зносін. Адначасова яны даюць магчымасць выявіць у дыялектным слове не толькі бліжэйшыя, прамыя яго значэнні, але і прыгледзецца да яго семантычнай перыферыі. Супастаўленне і параўнальная ацэнка значэнняў слоў у сінанімічным радзе дазваляе выявіць самыя тонкія іх сэнсавыя адрозненні. Такія адрозненні немагчыма заўважыць пры назіранні над кожным словам паасобку, як бы ні стараліся мы ўглыбіцца ў яго семантыку. Пра гэта гаворыць, напрыклад, той факт, што ў некаторых словах, якія разглядаліся раней у «Дыялектным слоўніку» (*гудзець, дрызнуць, заткнуцца, калоць, найціць, наравіцца, пакласць, свіснуць, убухацца* і інш.), раскрыты новыя значэнні. Сінанімічным слоўнікам у гэтым можна нават аддаць перавагу перад звычайнымі алфавітнымі зборамі дыялектных слоў.

Значную вартасць і цікавасць з гэтага боку мае і слоўнік «Народная сінаніміка» Г. Юрчанкі. Але галоўная каштоўнасць слоўніка — новыя шматлікія нізкі разнастайных слоў усходняй дыялектнай перыферыі нашай мовы, вялікія стосы ўдала падабраных і яркіх мясцовых выразаў і сказаў. Беражліва і дбайна адносіцца аўтар да мовы свайго роднага кутка, да яе спрадвечных лексічных багаццяў. Не адно стагоддзе служылі мясцовыя дыялектныя словы ў зносінах нашым продкам. Але многім з гэтых слоў яшчэ і цяпер рана адмаўляць у прыдатнасці, рана выстаўляць іх толькі за вітрынай, як старыя рэчы, на дзіва аматарам усялякай моўнай экзотыкі. Сакавітае, вобразнае і зладжанае па гучанню дыялектнае слова або выраз вельмі да спадобы і пісьменніку, і журналісту, і літаратуразнаўцу, і іх чытачам. Нямала такіх добрых слоў і ў гэтым невялікім слоўніку. А тая дыялектная лексіка ў ім, якой ужо не трапіцца стаць у шарэнгі слоў нашай агульнанароднай мовы, паслужыць яшчэ,

безумоўна, нашай лінгвістычнай навуцы пры даследаванні мінулага беларускай мовы.

Пра лексікаграфічны бок слоўніка «Народная сінаніміка» Г. Юрчанкі гаварыць было б зараз, зразумела, недарэчы. Да таго яшчэ трэба зазначыць, што ў сувязі з нявырашанасцю пытання аб сутнасці сінаніміі аўтару, можна сказаць, амаль што навобмацак даводзілася вызначаць сінанімічнасць слоў. А нераспрацаванасць прынцыпаў укладання сінанімічных слоўнікаў прымушала яго іншы раз зыходзіць з адных толькі ўласных меркаванняў адносна таго, як лепш падаць матэрыял у слоўніку. Але яго вопыт з'явіцца цікавым для спецыялістаў, карысным для тых, хто возьмецца за вывучэнне дыялектнай сінанімікі іншых беларускіх гаворак.

*А. КРЫВІЦКІ*

# ПРАДМОВА

Мова жыве ў слове. Словы называюць не толькі прадметы, з'явы, але і самыя найтанчэйшыя паняцці пра іх, адценні іх прыкмет і асаблівасцей. Важным сродкам такога выражэння з'яўляюцца сінонімы, якія служаць адным з асноўных паказчыкаў багацця мовы, яе развітасці і выразнасці. Сінонімы садзейнічаюць дакладнасці выражэння думак, даюць магчымасць абрысаваць усебакова прадмет, з'яву ці выдзеліць іх пэўны бок, дапамагаюць выявіць адносіны гаворачай асобы да выказанай думкі. Гэта неад'емная частка і найкаштоўнейшае багацце слоўнікавага складу любой развітай літаратурнай мовы і мясцовай гаворкі.

## АБ СУТНАСЦІ СІНОНІМАЎ

Для таго каб правільна зразумець сутнасць сінонімаў і ўсіх звязаных з імі пытанняў, неабходна ў першую чаргу вызначыць, што такое сінонімы як моўная з'ява.

У азначэнне кожнага паняцця павінна ўваходзіць тое асноўнае, што вылучае яго з рада іншых падобных з'яў. Пры падыходзе да сінонімаў, на наш погляд, трэба ўлічваць наступныя моманты. Па-першае, тое, што яны абазначаюць адно і тое ж паняцце, адну і тую ж з'яву, прадмет аб'ектыўнай рэчаіснасці, а не розныя, хоць і блізкія прадметы. Па-другое — сінонімы маюць паміж сабой сэнсавыя і стылістычныя адрозненні. Па-трэцяе — сінонімы адрозніваюцца па гукавому складу.

Значыць, у аснове сінанімічнасці ляжыць агульнасць значэння, семантычная блізкасць слоў. Сінонімы выражаюць раўнацэнныя паняцці і супадаюць у істотных прыкметах свайго зместу. Розняцца яны паміж сабой у прыватных адценнях агульнага значэння, а таксама па шырыні, сферы і асаблівасцях ужывання, аб'ёму

значэння, па моўнай прыналежнасці, граматычнай і сінтаксічнай спалучальнасці, кіраванню, здольнасці да форма- і словаўтварэння, па адносінах да актыўнага ці пасіўнага запасу лексікі і інш. У сінамічныя адносіны ўступаюць таксама словы лексічна звязаныя: *чорны* — (толькі пра каня) *варанэй*[1], *старый* — (толькі пра чалавека) *пажылэй, хадзіць* — (толькі пра чалавека) *шалацца* і інш. Слоў, якія б абсалютна супадалі ва ўсіх аспектах, у мове наогул не існуе. Праўда, з пункту гледжання толькі семасіялогіі пра абсалютныя сінонімы гаварыць можна, семантычная тоеснасць, ідэнтычнасць у мове існуе. Але нават лексічныя дублеты маюць тыя ці іншыя адрозненні. Возьмем, напрыклад, у мсціслаўскай гаворцы сінонімы *самалёт* і *ераплан*. Семантычна яны супадаюць поўнасцю, затое прыкметна адрозніваюцца шырынёй бытавання. Другое слова ў цяперашні час сустракаецца толькі ў мове старэйшага пакалення і то досыць рэдка. Яно ўжо фактычна перайшло ў пасіўны запас лексікі. Не выключана магчымасць, што з цягам часу гэты сінанімічны рад распадзецца, паколькі яго другі член можа зусім знікнуць з жывой мовы. Няма ні сэнсавых, ні эмацыянальна-стылістычных адрозненняў паміж членамі сінанімічнага рада *рушнік* — *палаценца, уціральнік, уціркa,* але ў іх таксама неаднолькавая ступень бытавання сярод розных узроставых груп насельніцтва. Словы *ўціральнік* і асабліва *ўціркa* пераходзяць у пасіўны запас, прадстаўнікам малодшых пакаленняў яны амаль невядомы. *Палаценца* прыйшло ў гаворкі параўнальна нядаўна, але пачынае бытаваць актыўна і паступова выцясняе апорнае слова *рушнік.*

Лексіка-семантычныя сінонімы розняцца паміж сабой рознымі сэнсавымі адценнямі аднаго і таго ж значэння: *плакаць* — *галасіць, угаварываць* — *увяшчаць, вазіць* — *цягаць*[2] і інш. Сэнсавыя адрозненні могуць заключацца ў ступені інтэнсіўнасці дзеяння, яго працягласці, абставінах працякання, у градацыі па нарастанню ці спаду прыкметы, дзеяння, у якасных ацэнках, у ступені канкрэтнасці ці абстрактнасці і г. д.

---

[1] Увесь ілюстрацыйны матэрыял у «Прадмове» прыводзіцца з гаворак Мсціслаўшчыны.

[2] Тут і далей у «Прадмове» ў радзе выпадкаў, з-за немэтазгоднасці прыводзіць увесь сінанімічны рад, падаюцца толькі пары яго членаў.

Стылістычныя сінонімы супадаюць па значэнню, але належаць да розных стыляў мовы, надаючы ёй асаблівую выразнасць і вобразнасць. У ролі такіх сінонімаў вельмі часта выступаюць пераносныя значэнні слоў. Эмацыянальна-экспрэсіўныя сінонімы таксама супадаюць семантычна, але выражаюць розныя ацэначныя адносіны да з'явы, прадмета, дзеяння: *дрэнный — гадкій, плюгавый; рукі — лапы, граблі.*

Сінаніміка цесна звязана з мнагазначнасцю слоў. Таму шмат якія словы ўваходзяць у некалькі сінанімічных радоў. Адны з іх супадаюць ва ўсіх значэннях, іншыя—у асобных ці толькі ў адным. Утвараецца складаная, рознагаліновая сістэма сінанімічных сувязей. Так, у залежнасці ад кантэксту *ляснуць* у пераносных значэннях сінанімізуецца з *ударыць, пайціць, пабежч.* Цікавыя рады ў сваіх пераносных значэннях утварае слова *схваціць.* Яно ўступае ў сінанімічныя адносіны з усімі словамі, што абазначаюць уборку ўраджаю: *зжаць, скасіць, згрэсць, змалаціць, выкапаць, выбраць* (лён), *падняць* (лён) і інш.

Важнай уласцівасцю сінонімаў з'яўляецца іх здольнасць нярэдка ўзаемазамяняцца (у межах аднаго сінанімічнага рада). Сапраўды, напрыклад у сказе *Я не стану жалаць нікому дрэннага*, інфінітыў можа быць заменен словамі *прыяць, зычыць.* Сэнс выказанай думкі ад такой замены не змяніцца. Узаемазамяняльнасць — наогул важная катэгорыя і ў шмат якіх выпадках, безумоўна, дапушчальная. Гэта адзін з паказчыкаў сінанімічнасці і досыць часта практычны спосаб яе праверкі. Але агульным і абсалютным паказчыкам узаемазамяняльнасць не з'яўляецца, гэту прыкмету нельга лічыць дамінуючай і класці ў аснову вызначэння сінанімічнасці. Абсалютнай узаемазамяняльнасці сярод сінонімаў не існуе. Яны часта і ўзнікалі як дыферэнцыруючыя адзінкі. Самой іх прыродай у большасці выпадкаў узаемазамяняльнасць выключаецца. Далёка не заўсёды сінонімы могуць узаемазамяняцца ў адным і тым жа радзе з-за дадатковых семантычных, стылістычных і эмацыянальна-экспрэсіўных асаблівасцей, якія патрабуюць іменна данага, а не іншага слова. Так, словы *вазіцца* і *бянтэжыцца,* абазначаючы адно і тое ж дзеянне, не ва ўсіх выпадках могуць замяняцца з-за аб'ёму значэння: *вазіцца* можна з неадушаўлёным прадметам, жывёлай, чалавекам, а *бянтэжыцца*— звычайна з дзіцем. Трэба таксама мець на ўвазе, што

відавыя паняцці досыць лёгка падмяняюцца родавымі, а яны сінонімамі не з'яўляюцца.

Сінонімы, як правіла, адносяцца да аднаго лексіка-граматычнага разраду слоў, да адной часціны мовы, паколькі розныя часціны мовы называюць розныя бакі аб'ектыўнай рэчаіснасці. Так, словы *разумнік, разумок* абазначаюць асобу (прадмет у шырокім значэнні слова), якая валодае пэўнай якасцю. *Разумны*—прыкмета прадмета. *Разумнець* — спосаб набыцця якасці. *Разумна* — спосаб выражэння якасці. Але гэтыя аднакарэнныя словы не ўтвараюць сінанімічнага рада. Разам з тым сустракаюцца выпадкі сінанімізацыі розных часцін мовы. Гэта адбываецца тады, калі словы аднаго лексіка-граматычнага разраду выконваюць функцыі іншых часцін мовы: *многа — гібель, цьма, засыпацца, не сасчытаць.*

Бясспрэчна, сінанімічныя сістэмы літаратурнай мовы і народных гаворак не маюць істотных адрозненняў. Але ў апошняй ёсць рад асаблівасцей, на якія варта звярнуць увагу.

Мова народа багатая і дакладная, яркая і вобразная. Багацце яе ў разнастайнасці выяўленчых сродкаў, дакладнасць — у надзвычайнай здольнасці выражэння таго ці іншага значэння, яркасць і выразнасць у выключнай вобразнасці. У народна-дыялектнай мове многа жывога, трапнага, каларытнага, што можа пашырыць выяўленча-стылістычныя магчымасці мовы літаратурнай. Тут сустракаюцца словы, што выражаюць паняцці, якіх няма ў літаратурнай, або выражаюцца ў ёй груваста і нязграбна. У дыялектнай мове багатыя і своеасаблівыя адценні згушчанай экспрэсіўнасці, дакладная абрысоўка, вялікая вобразнасць: *жвянькаць* — далёка не тое, што эмацыянальна нейтральнае *гаварыць; торснуць* — не ідэнтычна *штурхнуць;* а *ўкінуць* прыкметна адрозніваецца ад *пасеяць.*

Мсціслаўшчына цесна прымыкае да тэрыторыі сучаснай рускай мовы. Тут сутыкаецца беларуская і руская дыялектная лексіка, адбываецца шырокі міжмоўны кантакт. На гаворцы Мсціслаўшчыны пакінула пэўны адбітак багатае гістарычнае мінулае гэтага кутка Беларусі. Для цяперашніх мсціслаўскіх гаворак найбольш характэрнай адзнакай з'яўляецца двухмоўе. Сістэма сінанімікі тут складаная і своеасаблівая.

Лексічныя багацці народнай мовы яшчэ далёка не вывучаны. Знаёмства з яе сінанімічнай сістэмай дае нямала цікавых і карысных матэрыялаў для вывучэння дыялектнай лексікі наогул. Але калі распрацоўка сінанімікі літаратурнай мовы звязана са значнымі цяжкасцямі, паколькі яшчэ да канца не высветлена, што лічыць сінонімамі, якія межы сінанімічнага рада, як адносіцца да архаізмаў, шматлікіх пераносных значэнняў, родавых і відавых паняццяў, рознага роду словазлучэнняў і г. д., то яшчэ больш пытанняў паўстае пры распрацоўцы сінанімікі народна-гутарковай мовы, ды яшчэ такой, што знаходзіцца на мяжы сутыкнення розных нацыянальных моў, пры іх цесным узаемадзеянні. Тут нярэдка бытуюць побач літаратурныя і дыялектныя назвы адных і тых жа паняццяў. У народна-дыялектнай мове часцей, чым у літаратурнай, да асноўнага значэння дабаўляюцца дадатковыя, удакладняльныя, функцыянальныя. У ёй у сінанімічныя адносіны часам уступаюць словы, якія ў літаратурнай мове маюць далёкія значэнні: *счытацца — думаць, празнаваць*.

## ПАХОДЖАННЕ СІНОНІМАЎ

З'яўленне сінонімаў у мове тлумачыцца у першую чаргу тым, *як, якім чынам* адбываецца працэс называння прадметаў, з'яў акружаючай нас рэчаіснасці. Кожны прадмет, з'ява маюць не адну, а многа ўласцівасцей, якасцей, прыкмет. Пазнаючы прадметы, з'явы, чалавек у канкрэтных моўных формах выражае пэўнае паняцце аб іх, гэта значыць дае ім назву. «Пачуццёвае ўспрыманне,—пісаў У. І. Ленін,—дае *прадмет*, розум — *назву* для яго... Што ж такое назва? Адметная адзнака, які-небудзь асабліва прыкметны прызнак, які я раблю прадстаўніком прадмета, ... каб уявіць яго сабе ў яго татальнасці» [1]. Пры называнні ў канкрэтнай сітуацыі выдзяляецца той або іншы бок прадмета, з'явы, дзеяння. У розных месцах і ў розныя часы адным і тым жа прадметам, з'явам надаюцца розныя назвы. Паколькі працэс пазнання адбываецца паступова, назвы якасцей, уласцівасцей прадметаў, з'яў матэрыяльнага свету з'яўляюцца неадначасова.

[1] У. І. Ленін. Творы, т. 38, стар. 376.

Усё глыбейшае пазнанне чалавекам матэрыяльнага свету выклікае ўзнікненне новых слоў або пераасэнсаванне старых для абазначэння кожнага асобнага паняцця. Але адно слова не можа выразіць усёй сутнасці таго ці іншага паняцця. «Усякае слова (мова) ужо *абагульняе»* [1]. А «ўсякае агульнае толькі прыблізна ахоплівае ўсе асобныя прадметы» [2]. Значыць, чым больш слоў будзе абазначаць адно і тое ж паняцце, тым больш дакладна гэта апошняе будзе абрысавана, тым больш інфармацыі аб ім мы атрымаем.

Для з'яўлення сінонімаў для абазначэння аднаго і таго ж паняцця павінны быць пэўныя ўмовы — магчымасць ацэначнасці з'явы, вызначэння ў ёй колькаснай і якаснай градацыі, яе колькаснай і якаснай афарбоўкі і інш. Многа сінонімаў там, дзе выдзяляецца многа прыкмет з'явы. У сінанімічным радзе кожны яго член выражае тое ці іншае адценне агульнага значэння. Агульнавядомае слова *ісці* толькі канстатуе, называе пэўны від руху, не выражаючы ніякіх дадатковых прызнакаў, і з'яўляецца эмацыянальна нейтральным. Але ж гэты рух мае рад асаблівасцей. Ён бывае шпаркі і павольны, энергічны і расслаблены, цяжкі і лёгкі, старэчы і маладзецкі, імклівы і марудны, неахвотны і г. д. Зразумела, адно слова ўсіх гэтых адценняў выразіць не можа. Акрамя таго, нярэдка бывае патрэбна падкрэсліць суб'ектыўна-ацэначны момант. І мова стварыла новыя словы, што выражаюць тое ж значэнне 'рухацца ў адным кірунку, пераступаючы нагамі': *дзяжыць, перцца, клыпаць, чапаць, дыбаць, цюхаць, цёхаць* і інш. Тут ужо цэлае багацце адценняў, шэраг дадатковых адзнак руху. Сапраўды, *дзяжыць* далёка не тое, што нейтральнае *ісці*, а *чапаць* не адно і тое, што *дыбаць*, і тым больш не тое, што *перцца*, хоць усе яны нясуць асноўную прыкмету апорнага слова. Але і гэтыя словы яшчэ не выразілі ўсіх разнавіднасцей таго руху, які чалавек назірае ў паўсядзённым жыцці. І паколькі словаўтваральныя магчымасці мовы не бясконцыя, яна прыстасоўвае іншыя, ужо гатовыя словы для выражэння новага значэння ці яго адценняў. Адбываецца перанос назвы з адной з'явы на іншую. Слова, такім чынам, набывае некалькі значэнняў, становіцца

---

[1] У. І. Ленін. Творы, т. 38, стар. 263.
[2] Там жа, стар. 351.

шматзначным. Пры гэтым нейтральныя словы ў пераносных значэннях набываюць ярка выражаныя эмацыянальна-экспрэсіўныя фарбы. Спосаб выкарыстання мовай пераносных значэнняў слова выразна прасочваецца на прыкладзе сінанімічнага рада з дамінантай *іціць*. Каб выразіць дадатковыя адценні гэтага значэння, ужываюцца словы *поўзць, дрыгаць, ламіць, валіць, каціць, дрынчэць, шаваліць, шпарыць* і некаторыя іншыя. Кожнае з іх, выконваючы свае непасрэдныя функцыі прамога значэння, без асаблівых намаганняў нясе дадатковую «нагрузку». Такім чынам адно слова пачынае абслугоўваць некалькі паняццяў. Другасныя значэнні настолькі «прыжыліся» да гэтых слоў, што ўспрымаюцца ў іх нават без кантэксту. Такія словы з поўнай падставай можна ўключаць у сінанімічны рад. Сінонімамі становяцца розныя тропы — метафары, метаніміі, сінекдахі, перыфразы і іншыя паэтычна-вобразныя сродкі: *зляжацца — зліравацца, трэсць — патрашыць, чалавек — мурло, заплеснявець— зацвісць, карова — хвост, панаравіцца — спазрыцца, расплакацца — раскрыўляцца, выпіць — ажажурыць* і г. д.

У народныя гаворкі ў наш час асабліва інтэнсіўна пранікае літаратурная лексіка. Гэты працэс адбываецца пад уплывам усеагульнай пісьменнасці, дзякуючы небывала шпаркаму росту адукацыі, павышэнню агульнай, у тым ліку моўнай, культуры. Гэта пранікненне таксама садзейнічае ўтварэнню сінонімаў. Літаратурныя словы пачынаюць бытаваць побач з дыялектнымі, абазначаючы адны і тыя ж прадметы, з'явы. Часам літаратурныя словы ў гаворках пераасэнсоўваюцца, набываюць іншае значэнне. Сустракаюцца таксама пашырэнні і звужэнні значэнняў літаратурных слоў.

У гаворцы Мсціслаўшчыны сустракаюцца запазычанні з іншых моў, як блізкароднасных, так і больш далёкіх. Пры гэтым словы, што прыйшлі з іншых дыялектаў ці літаратурных моў, пачынаюць актыўнае жыццё ў новым асяроддзі, уступаюць у шматлікія сувязі з карэннымі словамі, значны час жывуць паралельна, утвараючы нярэдка лексічныя дублеты, а часам і выцясняюць іх у спаборніцтве за права бытавання.

І нарэшце, важным сродкам сінанімікі з'яўляюцца рознага роду сталыя словазлучэнні, аб якіх размова пойдзе ніжэй.

## ДАМІНАНТА

Пры складанні сінанімічнага рада надзвычай важна правільна выбраць апорнае слова — дамінанту. Ад яе залежыць дакладнасць вызначэння членаў усяго рада, яго межаў. Апорнае слова вызначаецца па тых элементах, якія характэрны для ўсяго сінанімічнага рада. Дамінанта найбольш дакладна і поўна выражае агульнае значэнне рада. Гэта найбольш тыповае і характэрнае, найбольш ужывальнае ў даным значэнні слова, нейтральнае ў стылістычных адносінах. Але калі ў радзе няма стылістычна нейтральных слоў, тады ў ролі дамінанты можа выступаць слова з пэўнай афарбоўкай. Дамінанта змацоўвае сінанімічны рад, падтрымлівае яго сістэмнасць. Словы, аб'ядноўваючыся ў сінанімічны рад на аснове сэнсавай агульнасці, павінны несці намінатыўную функцыю дамінанты. Гэта найбольш ёмістае і ўмяшчальнае слова. Члены сінанімічнага рада, як правіла, больш канкрэтызаваныя і, значыць, абмежаваныя.

Дамінанта дапамагае правільна размясціць члены сінанімічнага рада і даць ім больш ці менш поўную характарыстыку. Часцей ў ролі яе выступае адназначнае слова або асноўнае значэнне мнагазначнага. Але некаторыя мнагазначныя словы выступаюць дамінантай у некалькіх радах: *іціць, бежч, біць* і інш. Пераносныя значэнні слоў таксама могуць выступаць у ролі апорнага слова: *прагарэць — вылецець у трубу*. Іншы раз у якасці дамінанты выступае фразеалагічнае зрашчэнне: *сайціць с ума* 'звар'яцець'. Нярэдка мнагазначныя словы адначасова выступаюць і дамінантай і членамі сінанімічнага рада. Так, цесна пераплятаюцца ў сінанімічных радах словы *даіць, ссаць, цягнуць: даіць — цягнуць; ссаць — цягнуць, даіць, дудоліць; цягнуць —валоч.* Такое ж пераплященне дамінанты і радавых членаў у сінанімічных радах *вісокій — здаровый; здаровый — крэпкій; крэпкій — здаровый.* Першы рад абазначае рост, другі — фізічны стан арганізма, трэці — фізічную развітасць.

## СІНАНІМІЧНЫ РАД

Больш складаным, чым у літаратурнай мове, з'яўляецца ў народных гаворках пытанне аб складзе сінанімічнага рада. Тут трэба ўлічваць рэальныя факты толькі

вуснага бытавання слоў, іх стылістычную і эмацыянальна-экспрэсіўную афарбоўку. Састаў і аб'ём сінанімічнага рада вызначаюцца яго сэнсавай асновай — тым агульным, што ўласціва членам толькі данай групы слоў. Сінанімічны рад — гэта група слоў, якія звязаны паміж сабой агульнасцю значэння.

Сінанімічныя рады — не ізаляваная, нерухомая з'ява. Яны ўзнікаюць, павялічваюцца, змяншаюцца, распадаюцца, хоць працэс гэта павольны. На тым ці іншым канкрэтным этапе сінанімічны рад можна лічыць замкнутай лексіка-семантычнай групай. Сінанімічныя рады дазваляюць прасачыць жыццё слоў, іх рух у гістарычным аспекце, убачыць, якія з іх адыходзяць, забываюцца, якія ўзнікаюць. У дыялектах, як і ў літаратурнай мове, існуе актыўны і пасіўны запас. У радах ярчэй раскрываюцца часам зусім нечаканыя грані слова.

Пры складанні сінанімічных радоў маем справу не са словамі ў поўным аб'ёме іх значэнняў, а толькі з іх асобнымі значэннямі. А паколькі ў сінанімічны рад уключаюцца словы з адным і тым жа лексічным значэннем, то больш дакладна будзе гаварыць не пра сінаніміку слоў, а пра сінаніміку іх значэнняў, прамых і пераносных.

Важнае месца займае пытанне аб уключэнні ў сінанімічны рад пераносных значэнняў слоў і слоў абмежаванага функцыяніравання. У мсціслаўскіх гаворках сістэма пераноснасці вельмі развіта. Пераносна-фігуральныя, вобразна-метафарычныя значэнні слоў, безумоўна, трэба ўключаць у сінанімічныя рады. У многіх выпадках у сінанімічныя рады ўваходзіць большасць слоў з пераносным значэннем.

Ёсць пастаянная сінанімічнасць і выпадковая. Мяжа паміж сталым і выпадковым ужываннем слова вельмі ўмоўная, неакрэсленая, яе нельга вызначыць дакладна. У дыялектнай лексіцы многа сінонімаў звязаных. Таксама вялікае месца належыць тут словам індывідуальнага ўжывання, якія выступаюць як кантэкстуальныя сінонімы, гэта значыць іх сінанімічнасць праяўляецца толькі ў сказах. У кантэксце словы могуць атрымліваць дадатковыя адценні, таму ў іх нярэдка ўзнікаюць новыя сінанімічныя сувязі.

Патрэбна ўлічваць неаднароднасць слоў індывідуальнага ўжывання. У гаворках яны сустракаюцца асабліва часта. У такіх словах у выніку іх індывідуальна-творчага

выкарыстання выражаюцца суб'ектыўныя адносіны гаворачага да выказанай думкі, іх сэнс часам перадаецца інтанацыяй, акцэнтацыяй, сітуацыяй размовы, слоўным акружэннем.

У сінанімічныя рады могуць, відавочна, уключацца тыя кантэкстуальныя, сітуацыйныя сінонімы, ужыванне якіх у даным значэнні замацавалася досыць стала. Але ў мове часам выкарыстоўваюцца выпадковыя словы, наогул далёкія ад гэтага значэння. Іх у сінанімічны рад уключаць нельга. Так, у сінанімічны рад з дамінантай *ісці* не ўключацца словы *дуць, жаць, цісну́ць,* бо намінатыўнай функцыі данага значэння яны не выконваюць, хоць у значэнні 'ісці' іх час ад часу можна сустрэць.

Не з'яўляюцца сінонімамі словы, паміж якімі існуюць відавыя адносіны: *чарана≠грабяльнішча≠вілашнік; армяк≠тулуп≠касцюм≠тужурка.*

Складаныя адносіны ўзнікаюць паміж родавымі і відавымі паняццямі. Безумоўна, гэтыя паняцці ў іх «чыстым» выглядзе не сінанімічны: *бяроза≠дзерава, пастройка≠гумно.* Разам з тым у гаворках часам назіраецца звужэнне родавага паняцця, а таксама ў розным моўным асяроддзі, у розных пазіцыях слова можа абазначаць і родавае і відавое паняцце, і тады яно можа выступаць сінонімам да відавога: *іціць — дзвігацца.* Таксама слова *скаціна* на Мсціслаўшчыне настолькі трывала ўжываецца са значэннем *карова*, што іх правамерна лічыць сінонімамі: *Гані скаціну ў пастух; Скаціна на градах, згані скарэй; Ідзі за скацінаю: сонца заходзіць.* П. С. Аляксандраў у артыкуле «Да пытання аб некаторых лексікалагічных тэрмінах» зусім слушна прызнае, што «ў ролі сінонімаў могуць быць ужыты ў гаворцы таксама значэнні, якія абазначаюць родавыя і відавыя паняцці»[1]. У гэтых выпадках відавое паняцце выражаецца праз родавае: *пограб — ямка.* Значэнні падобных слоў збліжаюцца, і родавае паняцце як радавы член уваходзіць у сінанімічны рад.

У некаторых выпадках шырокія значэнні слоў не набылі родавага паняцця і «распаліся» на некалькі відавых: *пацяраць — згыркаць, разбіць — згыркаць, зламаць — згыркаць.* Родавага значэння *згыркаць* у гаворцы не існуе. Пры складанні сінанімічных радоў нельга

[1] Ученые записки Куйбышевского гос. пед. ин-та им. В. В. Куйбышева. Кафедра русского языка, вып. 26, Куйбышев, 1959, стр. 206.

скідваць з разліку і наша «моўнае чуццё», якое некаторыя даследчыкі, думаецца, не без падстаў лічаць зусім рэальнай катэгорыяй [1].

Сінанімічныя рады вельмі неаднародныя па свайму аб'ёму. Шмат якія з іх уключаюць толькі два словы, у іншыя ўваходзіць па некалькі дзесяткаў слоў. На велічыню радоў, апрача іншых фактараў, уплывае таксама лексіка-граматычная прыналежнасць слоў. Так, сярод сінонімаў-назоўнікаў часцей сустракаецца семантычная ідэнтычнасць. Велічынёй вылучаюцца дзеяслоўныя рады, асабліва тыя, што абазначаюць рух і розныя працоўныя дзеянні. У сінонімах-прыметніках часта сустракаецца ўзрастаючая ацэначная характарыстыка. Маюць свае асаблівасці прыставачныя і бесправачныя дзеясловы-сінонімы. Дзеясловы закончанага і незакончанага трывання ўтвараюць самастойныя сінанімічныя рады. Некаторыя фразеалагізмы адначасова ўваходзяць у прыметнікавыя і прыслоўныя рады. Сустракаюцца ў гаворках сінонімы да тэрмінаў: *прывіць — прышчапіць; прычарціць — прыпусціць.*

У сінанімічныя рады словы ўключаюцца ў зыходнай форме. Граматычна абумоўленыя фразеалагізмы падаюцца ў той форме, у якой яны ўжываюцца: *зуб загарэўся, хоць шаром пакаці.*

Некаторыя кампаненты сінанімічнага рада маюць лексіка-фанетычныя варыянты. Іх увогуле нямнога, але больш, чым у літаратурнай мове. Асобныя з іх адрозніваюцца шырынёй ужывання, нясуць розныя дадатковыя адценні і, значыць, ужо выходзяць за межы ўласна варыянтаў: *змоўчыць — змаўчаць, шаваліць — шавяліць.* Некаторыя з іх абумоўлены з'яўленнем у мове пэўных новых з'яў. Асобныя варыянты вылучаюцца націскам. У народна-дыялектнай мове наогул націск больш рухомы. Для стылістыкі марфалагічныя і нават фанетычныя варыянты маюць пэўнае значэнне, таму іх трэба ўключаць у сінанімічныя рады.

Важна правільнае размяшчэнне слоў у сінанімічным радзе. Тут не можа быць прымальным, напрыклад, алфавітны парадак, таму што менш характэрныя словы, а таксама пераносныя значэнні слоў, словы індывідуальна-

[1] В. А. Звегинцев. Замечания о лексической синонимии. Вопросы теории и истории языка. Сборник в честь проф. Б. А. Ларина. Л., 1963, стр. 133.

га ўжывання, сітуацыйныя могуць заняць першае месца. Члены сінанімічнага рада трэба размяшчаць зыходзячы з семантычных і стылістычных прыкмет.

Спрэчным застаецца пытанне аб тым, як павінны сінанімізавацца члены ў сінанімічным радзе. У літаратуры на гэты конт існуюць розныя думкі. Правільна, на нашу думку, падыходзіць С. Ф. Леўчанка [1], лічачы, што пры складанні сінанімічнага рада трэба ісці ад апорнага слова і з ім, а не з папярэднім словам суадносіць члены рада.

Сінанімічныя рады ў данай працы складаліся з улікам апошняй думкі.

## ФРАЗЕАЛАГІЗМЫ Ў СІНАНІМІЦЫ

У народных гаворках вялікае месца належыць разнастайным устойлівым словазлучэнням. Яны ўпрыгожваюць мову, робяць яе вобразнай, каларытнай, жывой. У іх скандэнсавана шматвяковая мудрасць народа, яго ідэі, вопыт, тонкі густ, наглядальнасць. Яны валодаюць вялікім зарадам трапнасці і экспрэсіўнасці, вялікай выяўленчай сілай. У народных гаворках, як правіла, няма моўных штампаў або ўяўных фразеалагізмаў.

Устойлівыя словазлучэнні, асабліва ўласна фразеалагізмы, павінны заняць сваё месца ў сістэме сінанімікі, таму што па сваіх асноўных прыкметах, па свайму прадметна-лагічнаму зместу яны эквівалентныя слову, маюць усе адзнакі яго лексічнага значэння. Устойлівыя словазлучэнні, як і словы, носяць намінатыўны характар, ужываюцца ў гатовым выглядзе, а не будуюцца гаворачым, і выражаюць адно паняцце: *балавацца — хадзіць на галовах.* Яны валодаюць граматычнымі ўласцівасцямі слоў, выконваюць функцыі часцін мовы. Іх граматычныя ўласцівасці вызначаюцца па граматычна незалежных кампанентах або па значэнню і сінтаксічнай ролі ў сказе.

Фразеалагізмы сінанімізуюцца са словамі і паміж сабой. Як і словы, яны маюць сэнсавыя і стылістычныя асаблівасці, уваходзяць у актыўны ці пасіўны запас, уступаюць у разнастайныя сінтаксічныя сувязі, некаторыя з іх маюць па некалькі значэнняў. Яны валодаюць павышанай эмацыянальна-экспрэсіўнай выразнасцю.

---

[1] Лексическая синонимия. М., 1967, стр. 87.

Фразеалагізмы пастаянныя па свайму саставу, але ў іх магчыма апушчэнне аднаго з кампанентаў — звычайна дзеяслова-звязкі *быць* ці блізкіх да яго па граматычнай ролі *станавіцца, дзелацца* і інш.: *відна, ні па сабе было ў гасцях — яму нешта не па сабе.* Устойлівыя словазлучэнні з апушчанай звязкай — гэта скрытыя фразеалагізмы: *не па сіле, не па гадах, у гадах, не па душэ, на віду, пад корань.*

Сярод фразеалагізмаў сустракаюцца застылыя формы — *чэснае слова, галава яловая, галава і два вухі, ступень па пень, вош за кайнер запаўзла.* Тады яны сінанімізуюцца толькі ў гэтых формах. Але большасць з іх змяняецца, дапасоўваючыся да іншых слоў у сінанімічным радзе і ў сказе: *зубы загаварыць, вочы атвесць*— тут дзеясловы спрагаюцца, мяняюць трыванні.

Фразеалагізмы могуць мець розныя формы варыянтнасці — лексічную: *зарубіць на лбу — зарубіць на насу*; граматычную: *прыкінуцца дураком — прыкінуцца дурачком*; фанетычную: *жывыя мошчы — жывэя мошчы.* У іх можа мяняцца парадак слоў. Пры гэтым перастаноўка кампанентаў адбываецца часцей, чым у літаратурнай мове (у данай працы захоўваецца найбольш ужывальны парадак). У аснове фразеалагічных варыянтаў адзін семантычны вобраз, характар якога пры змене аднаго са слоў не парушаецца: *узяць за горла — браць за горла.*

У сінанімічныя рады ўваходзяць не ўсякія словазлучэнні. Свабодныя спалучэнні слоў тыпу *здзелаць падшчот, даць пользу* не валодаюць сінтаксічным адзінствам і таму ў сінанімічныя рады не ўключаюцца. Параўнальна часта адно і тое ж паняцце абазначаюць словы з адмоўем: *запусціць — не даіць; бярэжч — не траціць.* Тут таксама маем справу з свабодным спалучэннем слоў.

У народных гаворках сустракаюцца словазлучэнні, якія знаходзяцца на мяжы паміж фразеалагізмамі і свабоднымі словазлучэннямі. Так, паняцце 'многа' на Мсціслаўшчыне выражаецца паўторам назоўніка ў назоўным і месным склонах з прыназоўнікам *на*: *стог на стагу, капец на капцу, мех на мяху, капа на капе, грыб на грыбу* і г. д. Іх, бадай, нельга назваць уласна фразеалагізмамі, але яны ўжо набылі пэўную ўстойлівасць, выражаючы вобразнае мысленне народа. Іх правамерна ўключаць у сінанімічныя рады.

# БУДОВА ПРАЦЫ

У данай працы не ставіцца спецыяльнай задачы вырашыць тыя ці іншыя тэарэтычныя праблемы сінаніміі. Задача яе больш сціплая. Яна мае на мэце паказаць багацце народнай гаворкі, яе вобразна-выяўленчыя магчымасці, спецыфіку ўжывання тых ці іншых слоў і пэўных іх груп, спосабы выражэння аднаго і таго ж значэння пры наяўнасці розных яго адценняў. Паказваецца рэальна існуючая ў гаворках сінанімічная сувязь. Пры распрацоўцы сінанімічных радоў улічвалася ў першую чаргу, што кніга павінна мець практычнае значэнне пры вывучэнні лексікі народных гаворак.

Для данай працы адабрана толькі частка складзеных і апрацаваных сінанімічных радоў. Пры адборы перавага звычайна аддавалася тым з іх, у якія ўваходзяць найбольш яркія дыялектныя лексемы. Гэтыя рады складае галоўным чынам бытавая лексіка, што выражае самыя распаўсюджаныя паняцці. Апрача сінанімікі назоўнікаў, прыметнікаў, дзеясловаў, тут паказаны сінанімічныя магчымасці прыслоўяў, злучнікаў, мадальных слоў і рознага роду ўстойлівых словазлучэнняў. Праца дапаможа высветліць узаемаадносіны паміж дыялектнай лексікай і лексічнай сістэмай літаратурнай мовы.

Прынцыпы складання сінанімічных радоў наступныя:

сінанімізуюцца не словы ў поўным аб'ёме, а толькі іх значэнні;

кожны сінанімічны рад пачынаецца апорным словам — дамінантай, якая служыць адначасова і назвай рада. За дамінанту бярэцца найбольш ужывальнае і стылістычна нейтральнае слова. У залежнасці ад дамінанты сінанімічныя рады размешчаны ў алфавітным парадку. Яны складаліся толькі па аднаму значэнню дамінанты. У сінанімічныя рады не ўключаліся павелічальныя, памяншальныя і іншыя ацэначныя формы слоў;

сінанімічныя рады для зручнасці карыстання індэксам пранумараваны;

пасля дамінанты раскрываецца змест сінанімічнага рада — прыводзіцца літаратурная назва паняцця, якая ў далейшым выкарыстоўваецца скарочана, і даецца кароткае азначэнне. Затым прыводзяцца члены рада з вызначэннем іх асаблівасцей — семантычных, стылістычных, эмацыянальных, экспрэсіўных, указваюцца асаблі-

васці ўжывання слоў, іх бытавання, для дзеясловаў часам указваецца кіраванне;

у асобных выпадках першае пасля дамінанты слова прыводзіцца без памет. Гэта азначае, што яно вельмі блізкае да дамінанты і лічыцца яе аналогам. У некаторых выпадках даецца характарыстыка адразу двух ці некалькіх сінонімаў. Гэта, безумоўна, не значыць, што паміж імі няма ніякіх адрозненняў. Але адрозненні гэтыя настолькі тонкія, што іх не ўдалося выдзеліць;

словы ў сінанімічных радах размяшчаюцца па прызнаку пэўнай градацыі — па меры нарастання ці спаду дзеяння, прыкметы, меры якасці. Улічваецца пры гэтым розная афарбоўка, шырыня бытавання слоў, асаблівасці іх ужывання. Устойлівыя словазлучэнні прыводзяцца ў канцы;

кожны з членаў сінанімічнага рада ілюструецца прыкладам-сказам. Ілюстрацыйны матэрыял падаецца асобна пасля апісання сінанімічнага рада. Прыклады адбіраліся з такім разлікам, каб іх змест найбольш выразна раскрываў значэнне слова;

члены сінанімічнага рада пры іх апісанні прыводзяцца ў літаратурным запісе. Для ілюстрацыйнага матэрыялу прынята спрошчаная транскрыпцыя. Націскі ставяцца ў тых словах, якія без націску могуць быць прачытаны няправільна. *О, э, е, ё* заўсёды ўжываюцца пад націскам, таму над імі націск не пазначаецца.

некаторыя словы ўжываюцца з націскам на розных складах. У адных выпадках гэта амонімы, якія ўваходзяць у розныя рады: *панара́віцца — панаравíцца, бу́дзіць — будзíць.* У іншых выпадках гэта словы з рухомым націскам. Калі словы ў залежнасці ад месца націску не маюць істотных адрозненняў, яны паказваюцца адзін раз з двума націскамі: *акапíрава́цца.* Гэта азначае, што ўжываюцца два раўнапраўныя варыянты—*акапíравацца* і *акапірава́цца.* А калі ў залежнасці ад націску варыянты слова прыкметна адрозніваюцца (звычайна па шырыні ўжывання), яны паказваюцца двойчы з указаннем асаблівасцей ужывання: *вы́жымкі, кіда́ць,* але *выжы́мкі, кíдаць;*

дужкі выкарыстоўваюцца ў наступных выпадках: пры падачы варыянтаў слоў: *стоўпіцца (staўпіцца),* варыянтаў змяняльнай часткі фразеалагізмаў: *вочы калоць (пароць).* У дужках падаецца слова, якое з іншым словам

можа ўтвараць фразеалагічнае спалучэнне: *лухта (непадсяваная)*, а таксама розныя абмежаванні пры агульнай характарыстыцы рада і асобных слоў.

У ілюстрацыйным матэрыяле сустракаюцца вузкадыялектныя словы. Значэнне некаторых з іх раскрываецца ў прыкладах, а іншыя тлумачацца ў дадатку-слоўніку.

Пры тлумачэнні асаблівасцей сінонімаў ужываюцца стылявыя і экспрэсіўна-ацэначныя паметы. Большасць іх агульнапрынятыя, але некаторыя патрабуюць спецыяльнай агаворкі: *абмеж.* — абмежавана. Памета ставіцца пры тых словах, якія ў даным значэнні ўжываюцца рэдка, а ў іншых — бытуюць шырока. Гэта звычайна пераносныя значэнні; *адзінк.* — адзінкава. Словы з гэтай паметай адзначаны ў адным-трох выпадках; *іншаск.* — іншасказальна. Даная памета ставіцца пры словах, якія ўжываюцца не ў сваім прамым значэнні; *кніжн.* — кніжнае. Гэта словы, якія прыйшлі ў гаворку пад уплывам беларускай літаратурнай мовы і «запазычанасць» якіх адчуваецца досыць выразна; *малаўж.* — малаўжывальнае. Гэта словы, якія ўжываюцца радзей у параўнанні з іншымі словамі данага сінанімічнага рада; *руск.* — рускае. Словы з гэтай паметай запазычаны з рускай мовы, і гэта запазычанасць выразна адчуваецца.

## СПІС СКАРАЧЭННЯЎ

*абмеж.* — абмежавана
*абраж.* — абражальнае
*адзінк.* — адзінкава
*адм.* — адмоўнае
*асудж.* — асуджальнае
*він.* — вінавальны склон
*груб.* — грубае
*гумар.* — гумарыстычнае
*дав.* — давальны склон
*дзіц.* — з дзіцячай лексікі
*звыч.* — звычайна
*зневаж.* — зневажальнае
*іншаск.* — іншасказальнае
*кніжн.* — кніжнае
*ласк.* — ласкальнае
*лаянк.* — лаянкавае
*малаўж.* — малаўжывальнае
*неадабр.* — неадабральнае
*неалаг.* — неалагізм
*нездав.* — з нездаволенасцю
*паблаж.* — паблажлівае
*пагардл.* — пагардлівае
*прыназ.* — прыназоўнік
*род.* — родны склон
*руск.* — рускае
*рэдкаўж.* — рэдкаўжывальнае
*спец.* — спецыяльнае
*творн.* — творны склон
*часц.* — часціца
*шкадав.* — са шкадаваннем

## СІНАНІМІЧНЫЯ РАДЫ

### 1. Абайці́цца

*абысціся, задаволіць патрэбы тым, што ёсць* — абярну́цца *а. малым;* вы́вернуцца *а. з цяжкасцю;* вы́круціцца *а. у нязручным, складаным становішчы;* перапіхну́цца *а. пры недахопе прадуктаў харчавання.*

Я магу абыйці́цца і адным тыпаром, а во як ты біз руба́нка абойдзісься. Ні рышчыні́ла ўчора, зыбясхлебілі, ну, праўда, прясну́шку раскыча́ла, па́ру пріснакоў зь дзежкі ўськінула, так і абярну́ліся. Яно, канешня, няўдобна було, ну неік жа вы́вірнуліся і дзьвюмя́ карзі́нкымі. Адда́й мяшкі́, яму большы на́да, мы як вы́круцімся. Цэлы тве будуць, ду́жа яны́ хліпясьлі́выя, дзень можна і с прісныка́мі піріпіхну́цца.

### 2. Абайці́ць

*паправіць, дагледзець пасля акучвання* — перайці́ць *п. лёгка*; перахадзі́ць *п. лёгка і хутка;* перабраць *п. старанна;* паправіць *п. хутка, абмеж.;* падправіць *п. крыху;* аббежч *п. вельмі хутка, нядбайна, неадабр.*

Прівы́к ты ехыць ну слуга́х, як ну скула́х, і гря́дкі бу́льбы ні абойдзіш. Дровы сырэя, дык тапі́ла чуць ні да беда, а тады зымі́ла́, крупені ў лёхкую печ пыста́віла дый пабегла гря́дкі піряйці́ць,— учора атпыха́лі. Рузурі́лыся мыя́ гылыва́, калі тую бульбу піріхадзі́ць — сена ні сагребіна і еткыя туча находзіць. Атпыхалі бульбу, пірібра́лі, ладна пыпра́вілі,— узіла́ся як — што ухадзі! Мазкі́ ня дбіла, дайжа грядкі пыпра́віць ні пашоў, а з гра́бількымі луччы пругуляцца. Було толька ходу ды тае бульбы, яе пытпра́віць — пуўчыса работы. Нешта німа бу́льбі ні расьценія, нічога, алі што ж зьдзелыіш, нада й такую аббежч, можа, айдзе камлы́жкыю зываліла.

**3. Аббе́гаць**

*ababeгаць, пабываць у розных месцах без затрымак там* — абнасіцца *а. шпарка;* аблётаць (аблятаць) *а. надзвычай шпарка;* абкалясіць, іскалясіць *а. усё навокал, неадабр.;* абкалаціць *а. без сур'ёзнай патрэбы, іран.;* вы́калаціць *а. вельмі многа без сур'ёзнай патрэбы, іран.;* абзы́каць *а. па пустой справе (пра худога, лёгкага), іран.;* абшны́ра́ць *а. цішком, патаемна, асудж.;* абла́хаць *а. з карыслівымі мэтамі, з мэтай разнюхаць або пажывіцца, асудж.*

Айдзе ты ся́ньня толька ні пабы́ў, наверна паўсьвета аббегыў. Абнасіліся за́ дзінь і ў Радкеўшчыні, і ў Рыва́х, і ў Па́шыні, а каб хто спрасіў, чаго вас насіла. Дыла́ся мне спраўка: і канторы аблётыла, і сільсавет — то піча́ці німа, то стыршына́ пашоў,— толька к вечыру спра́вілыся. Ты, хочыш, абліта́іш ня толька свой раён, а й за Сож пасьпеіш. Сколька ты апкылясіў за́ ныч, чаго табе прітулья ніійдзе німа. Зы ірундоўскыю бумажкыю прі́дзіцца цэлый сьвет іскылясіць. Што ім еткім лабрэтым, апкалоцюць за ноч пыўраёна. Айдзе яны піряполюцца, спа́лі дзень у кустах, выкылыцілі ж і Лешчынкі, і Зяцíцы. Як ноч — і пашлі, на дзесіць вёрст кругом абзы́кыюць. Апшныря́ў і Сьлёзкі, і Ду́ччычы, усю́дых ні лало. Ну, Мыла́нка, Дуброву апшны́ріиць, а біз грібоў ня верніцца. Дзелыць жа ні за што ні бярецца, абла́хыіць хаты — во і ўсё яе зыня́цця.

**4. Абвалíцца**

*абваліцца, упасці зверху пад уздзеяннем уласнага цяжару* — абру́шыцца *а. неспадзявана, з моцным грукатам;* праваліцца *а. унутр;* заваліцца *а. усёй масай;* ру́хнуць *а. неспадзявана;* ша́мнуць *а. адразу, ціха, іншаск.;* абсу́нуцца *а. паволі.*

Трошку выда пыцьцікла́, а тут пацсошкі гнілэя, так і абваліўся погріб. Ты глянь-ка, ета паветка чуць ліпіць, тут усё можыць абру́шыцца. Сьцены крепкія, а ба́лькі зыціка́лі, пыдгнілі, ну зьверьху ўсё і прывалілыся. Зывалілыся кры́ша ды на́бык зьехыла, бульбу пымясіла. Ета ж нада прідумыць, каб столь ру́хнула. Усё гыраджэньня тваё ша́мнула з ба́лік, якей быў клок кармі́ны — у гной. Апсу́нулыся столь зразу с тры́мя бруса́мі, а тады і астатнія злума́ліся.

**5. Абгаварыць**

*абгаварыць, недобразычліва выказацца пра чалавека, узводзячы паклёп* — абсудзіць *а. спакойна*; абтрапаць *а. легкадумна;* аббразкатáць, аббрáзкаць *а., пусціўшы шырокую пагалоску, асудж.*; абмалаціць, аблапатáць *а. рэзка, надумана, асудж.;* абжвя́нькаць *а. падкрэслена недобразычліва, дробязна аж да агіды, асудж.;* аблáхаць *а. у выпадковых размовах, недарэчна, неадабр.;* абзваніць *а. многіх, іран., абмеж.;* ачарніць *а., узводзячы грубую напрасліну, прыпісваючы нядобрае;* разабрáць па костачках *а. да дробязей, гумар.;* косці (костачкі) перамыць *а. да дробязей, іран.*

Каго хочыш агаворіць, язык нізыбáрсывыный. Сыбрáлыся іхнія кодла, пыстыя́лі, апсудзілі яе кругом і рызыйшліся. Пыдажджы́, ні зырікáйся, і цябе аптреплюць. Ім многа ні нáда, удзьвю́х каго хочыш аптрепюць. Скажы́ця вы мне, каго вы толька ні аббрізкытáлі сяньня сваімі языкáмі. Ну што, і цябе аббря́зкылі? Пуўлючкá абмылацілі, цяперіцька біріцёся зу другога. У Адáркі язык такей, што каго хочыш аблапочыць. Сыбяру́цца і сідзяць, аднаго абжвя́нькыюць, тады зу другога бяру́цца па вочырідзі. У цябе, знаць, адно толька на ўме, каб аблáхыць каго-небудзь. Етык абзваніць нада ўменьня ні абы́-якоя. Прітворык — мякчэй пáріный репы, ізыком лах-лах-лах— харош, а любога ачэрніць. Во, во, ім толька дай, па костычках рызьбяру́ць. Каму вы зы цалю́хтынькій дзень касьцей ні пірямы́іця. Усі костычкі яму пірямылі.

**6. Абду́маць**

*абдумаць, разабрацца разумова ў дэталях і сутнасці з'явы* — развáжыць *а. уважліва, няспешна;* рассудзіць *а. стала, сур'ёзна;* прыкінуць *а. крыху, неглыбока;* праду́маць, узвéсіць *а. усебакова і поўнасцю;* абмазкавáць *а. глыбока, часам гумар.;* раскіну́ць (пашаваліць, пашавяліць) мазкáмі *а. сур'ёзна, старанна, гумар., іран.*

Ты сьпірвá абду́мый усё як нада, а тады пычынáй дзелыць. Тут зналопу ні рызвáжыш, нада пыгадзіць ды хырашэнька пыміркувáць. Нада ж сымаму́ руссудзіць, што к чаму, каб людзі ні сьміяліся. Каб прікінуў, ці ля́жыць тыкáя захвостывытыя палка сюда, дык ба і ні цягну́ў ны сьцяну. Праду́мыў я і так, і етык,— нада сымаму́

ехыць, ма́ліц нічога там ня зьдзелыіць. Мы ўжо самі узьвесілі, што к чаму. Яны ня ты, перша чым бра́цца, абмазку́юць усё пы пыря́дку. Нада мызка́мі раськінуць, на што йта пахожа бу́дзіць. Пышывалі мызка́мі, пышывалі, большы пользы бу́дзіць. Каб мызкамі пышывяліў, ны надворы б адзёжы ня кінуў,— сушы́ся цяперіцька.

### 7. Аб'е́ддзе

*аб'едкі, рэшткі недаедзенага жывёлай корму (сена, саломы, трасянкі)* — аб'е́дкі, во́б'еддзе, во́б'едкі, недае́дкі, недае́ддзе, вы́баркі *а., з якіх жывёлай выбрана лепшае*; аста́ткі, аста́так *а., пакінутыя жывёлай па прычыне сытасці.*

Сыбярі аб'едзьдзя, ніхай ні гамзіцца ў гной. Прібра́ў вун аб'едкі ў вугалок, ніха́й пыліжа́ць. Нябось ты, нюхну́ла цёлка, што ета воб'ідзьдзя, і ні блізка. Растрёс воб'-ідкі пад ногі, куды я іх дзену. Сыбра́ў нідаедкі ў карзіну, пыстаіць галодныю, дык зьесьць. Пірякінь каровіна нідаедзьдзя аўцам, яны яшчэ троху папорюцца. Убу́хыў каню аха́пык сена як зыхваціць, а ўра́ньні глянуў — там адны вы́быркі. Сыка́ ні сыка́, а ўсё паела за́ ныч,— шчэпыць аста́ткыў. Якей там аста́тык, трухні пад ногі, ня будзіш жа насіцца упярёд-ныза́д.

### 8. Абжы́цца

*абжыцца, нажыць неабходнае* — абгле́дзецца, агле́дзецца *а. крыху, набыўшы самае неабходнае, іншаск.;* абчы́сціцца *а. крыху, набыўшы самае неабходнае, іншаск., абмеж.;* акапа́цца, акапашы́цца *а. у гаспадарцы;* акапірава́цца *а., асеўшы надоўга;* ачу́хацца *а. крыху пасля нягод;* абчу́хацца *а. крыху пасля нягод, малаўж.;* абгарну́цца *а. у маёмасці;* прычапуры́цца *а. уборамі, іншаск., жарт.;* устаць (стаць, падня́цца) на ногі *а. нядаўна.*

Ай, як-небудзь абжывесься, у мяне вун ні тыка́я біда́ была і цэла, а пацьцёлык піріжывецца. Посьлі вайны нічагенічка ні аста́лыся, а тады патроху абгледзіліся — і хату пыста́вілі, і на скот узьбіліся. Ого, агледзілыся, жывець пріпіва́ючы. Зыхадзіла к ім, глядзела, живу́ць нічога, апчы́сьціліся. Акыпа́ўся сь сям'ёю, усё ўжо ёсьць, можыць жыць. Нябось, акыпашы́ўся: і цілівізыр, і мытацы́кыл свой. У Каробчыні прістаў у зяці, акыпірува́ўся

і жывець. Па-мойму, яны акапірывыліся ныўсігдá і зь места большы ня тронуцца. Ладна пугурювáў, нічога ні було, цяперь ачýхыўся. Апчýхыісься ты, апчýхыісься, плáкыць ні нада. Абгарнýліся, нічога жывуць. Вун Марья прічупурілыся з новым мужуком — куды там, пáлкыю носа не дыстáніш. Пыжывеш трошку бядней, а тады ўстáніш на ногі, у жызьні роўна ні бувáіць. Стáла наша Хадоска на ногі, купіла карову, пырысят, аўцу зь ігнятымі. Пыдняліся на ногі посьлі вайны ня скора, нічога ж ні було. Раз мужык хызяйлівый, то й скора пыдняліся на ногі.

**9. Абідзіцца**

*пакрыўдзіцца з адчуваннем прыніжэння годнасці* — надýцца *п. моцна;* насýпіцца *п. да слёз;* пасýпіцца *п. крыху*; намамы́ліцца, намамы́рыцца *п., рэзка нахмурыўшыся, іран.*; замамы́ліцца, замамы́рыцца *п. раптоўна, прыняўшы непрыступны выгляд, іран.*; аскарбіцца *п., руск., іран.*; разабідзіцца *п. вельмі моцна* (*пра крыўдлівага*), *іран.;* надýць гýбы *п. моцна, іран.;* атвесіць (развесіць, адтапы́рыць) гýбы *п. вельмі моцна, іран.;* распусціць губы *п. вельмі моцна, пагардл.;* надуць (атвесіць, развесіць, адтапы́рыць, распусціць) грыбы́ *п. вельмі моцна, груб.*; гýбы закапы́ліць *п., прыняўшы непрыступны і злосны выгляд, неадабр.;* грыбы́ закапы́ліць *п., прыняўшы непрыступны і злосны выгляд, груб.*; надýцца як мыш на крýпы *п. без прычыны, іран.*

Абідзіўся Пынкрáт, што ты саўсім забыў пры яго. За дно слова нада було табе надýцца, ён жа нічога такога ні скызáў. Напроця яе плахога слова ні скызáў, а йна насýпілыся, чуць ні рявець. Іх усё па шэрсьці гладзь ды нікога ні ўгняві,— пасýпюцца,— на сьвет ні глідзяць. Нымамы́ліўся, усёдно як там кріўда бог знáіць ікáя. Як нымамы́ріцца, то ўжо ні ўмáсьліш і ні ўлáшчыш. То було ні дыслáцца к цёткі, то зымамы́ліўся, с хаты ня йдзець ат яе. Каб галодзін — галодзін, а то зымамы́ріўся — ня ў тую міску яму нылілá. Вун твой паніч аскарбіўся — пылажы́ла мы́ла прастоя. Айдзе ж ты яе ўгаворіш,— рызабідзілыся. Як ня ў дýхі — губы надýіць і атверніцца. Ікáя ня ёсьць карміна, сыламіна, мякніць, а ён губы атвесіў і сядзіць: ні так глянулі ны яго. Чуць што ні пы яго, нізашто — забі — ня возьміць, губы разьвесіць і будзіць сядзець. Ня трогый, січас губы аттапы́ріць, а хо-

чыш — рызрявецца. Губы руспусьціў, пахож ніізьвесна ны каго. Случы́лыся к дзелу — ён наду́ў грібы́ і ў кусты́. Сядзеў, сядзеў, мурзапон етый, грібы атвесіў, а тады́ як сноп пу́к у паду́шку і сьпіць. Із-за нічога ні́якыга разьвесіў грібы на цэлый дзень. Дужа ты ва́жын некыму, калі грібы́ аттапы́ріш. Грібы руспусьціў і ходзіць як радзі́міц нейкій. Як зыкапы́ліў губы, як зайшоўся, а ўсе кругом сьмяю́цца. Грібы зыкапы́ліў — ні пуцступіся. Ну, наду́ўся як мыш на кру́пы, ня скора атойдзіць, — ца́ца дай божа.

### 10. Абкра́сць

*абкрасці, забраць патаемна чужую маёмасць* — абабра́ць *а., забраўшы шмат чаго;* абчысціць *а., забраўшы ўсё з лоўкасцю;* агалі́ць, абгалі́ць *а., забраўшы ўсё адзенне;* абшавалі́ць *а., перамацаўшы або launched пeратросшы (воз, сад);* аблаташы́ць *а., павыбіраўшы або пазрываўшы (у садзе, агародзе, у возе);* абтрэсць *а. дашчэнту;* ператрэсць *а., параскідаўшы ўсё ў гаспадарцы;* пашчу́паць *а. моцнага, багатага гаспадара, дзе існуе сур'ёзная небяспека, іран.;* пачы́сціць *а. часткова моцнага, багатага гаспадара, іран.;* пашавалі́ць *а., пeратросшы часткова, іран.;* абабра́ць (абчы́сціць, агалі́ць) да ніткі (нітачкі) *а., забраўшы ўсё дачыста.*

Ужо гадоў дзесіць ня чу́тна, каб айдзе каго апкра́лі, а ра́ншы було і пачу́іш — то там, то там аббяру́ць. На ху́тырі, помню, жылі: крышу ўзыдра́лі з зату́ла нат клецьцю, на столь пралезьлі, а клець была замкну́та, дык пычалі́ ша́ріць, каб кватэрку ўзыдра́ць, а мы прашну́ліся ды зь вілкымі ў сенцы, — дык уцяклі́, а каб ні пачу́лі — абыбра́лі б. Ці чу́лі вы — апчы́сьцілі ўчора Пітраковых. І так у яе нічога дужа ні було, а цяперь агалі́лі саўсім. Зыбра́лі ўсё чы́сьцінька, абгалілі, кінулі, як стаіць. Якея былі я́блыкі—ні я́блыкі, а сад апшывалі́лі. Ні кіда́й дужа калёс адны́х, у міну́ту аблытыша́ць. Ныбра́ліся чужбіны́, ні адзі́н двор аптрясьлі́. Са́мі б ні даду́мыліся, пірітрясьлі́ пы чыйму-небудзь наводу. Якей ужо сам ма́хырь, а й яго пашчу́пылі, дый, знаць, ду́жа ла́дна. Ні пымаглі́ ні замкі́, ні сыбакі, — і ключы пыдыбра́лі, і сыбак пыткармі́лі,— і пачы́сьцілі. Зьехыў у сьвет ускорысьці посьлі тога, як яго пышывалі́лі. Ніхто там ні ткуль ні пріхадзіў, свае залезьлі і абыбра́лі да ніткі. Ходзіць сыбаторія і ныглідаіць,

каб куды зыбра́цца і апчы́сьціць да ніткі. І так у Кузьмы ні чырта́ дужа ні було, а тут на́ табе—крышу ўзыдра́лі і агалі́лі да ніткі. Храбрі́ся, храбрі́ся, аббяру́ць да нітычкі — на́ўчысься і зычыня́ць, і замок на́йдзіш. Чаго-небудзь другога ат іх ні глядзі́, а да ні́тычкі апчы́сьціць могуць. Помніш, як да ні́тычкі агалі́лі, зьмяні́цца ў баню нечым було, дык зра́зу Пёкла дыла́ трошку тряхолья, а тады Ва́ся.

## 11. Абляні́цца

*зленавацца, зрабіцца гультаём, прывыкнуць ленавацца* — аблянець з. *моцна;* зляні́цца, злянець *з., ператварыўшыся ў гультая;* разляні́цца, разлянець *з., прывыкшы гультаяваць пастаянна;* разгульта́іцца, разгульта́йнічацца *з. у выніку працяглага гультаявання, гумар.*; згульта́іцца, згульта́йнічацца *з. канчаткова, гумар.;* згульта́іць, згульта́йнічаць *з. канчаткова, гумар., малаўж.*

Ай, ну цябе, абляні́лыся, што гыршка́ сь печы дыста́ць ня хочыш. Мы ж с табою хату работылі, і ты бра́ўся як чылавек, а тут аблянеў — зы тапор ня хочыш узя́цца. Ні дыва́й патворы: зьліня́цца — тады слу́хыць ня бу́дуць. Папомніш маё слова — зьленюцца, што ха́ту ні пірясту́пюць. І прыпіва́іць усё на нет, і зьлянеў ужо настолька, што да́льшы некуды. Ты ўжо настолька рызьляні́ўся, што табе ступень па пень і ды калодзіжа дайці́ць. Ці ты ня ві́дзіш, што ту́ча ныця́гыіць, ай рызьлянеў — с крыва́ці ні падні́місься. Так ты ўжо, чылавек, рузгульта́іўся, што большы некуды, яй-богу, некуды. Прыкыча́ўся зіму, рузгульта́йнічыўся — леніцца зы мятлу́ ўзя́цца. Што, можа й ты згульта́ісься, як бацька твой? Згульта́йнічыўся, толька б спаў, і спаў, і спаў. Усё кыза́лі рыбыця́шчый, стыря́цільный, а ён згульта́іў — па́лкі дроў ні расколіць. Калі ты пасьпеў так згульта́йнічыць?

## 12. Абману́ць

*падмануць, ашукаць намерана* — падману́ць; абмані́ць, падмані́ць *п., рэдкаўж.;* абдуры́ць *п. хітрыкамі;* паддуры́ць *п. хітрыкамі, лёгка;* наду́ць *п. з выгодай;* абду́ць *п. груба з прыбыткам*; абкруці́ць *п. затлуміўшы*; абжу́льнічаць, абжу́ліць *п. махлярствам;* правесць, абвесць *п. перахітрыўшы;* акалпа́чыць, аблапашы́ць *п., выкарыстаўшы даверлівасць;* аб'ягорыць *п. груба;* падкава́ць *п., выка-*

*рыстаўшы даверлівасць або недасведчанасць іран.;* абу́ць, падбу́ць *п. нязначна, выкарыстаўшы даверлівасць або недасведчанасць, іран.,* ахмуры́ць *п. недалёкага, даверлівага, груб.;* купіць *п. з уяўнай выгодай, іран.;* абу́ць (падбу́ць) у лапці *п. значна, выкарыстаўшы даверлівасць або недасведчанасць, іран.;* абвесць кругом па́льца *п. з лёгкасцю.*

Эйш ты яго, адзь зямлі́ ні атрос, а ўжо глядзіць, каб абману́ць. Во́ табе: хвалі́ўся, што зь ім ніхто ні зрыўня́іцца, а тут на·мелычы пыдману́лі. Не, мяне ні абма́ніш, ні ны таго нырва́ўся. А мяне вы нізашто ні пыдмыніцё. Ты й бальшэй, а як ма́лінькыга цябе хто захочыць, тэй і абдуріць. Во ты ўжо дажы́ўся, цябе й дзіцёнык пуддурі́ў. Ета ж нада каб так наду́ць—заместа цёлычкі прыдалі́ бычка́. Нейкія бысякі́ нырва́ліся і абду́лі. Сыбра́ліся ку́чыю, адзін адно вярзець, другей — другоя пляцець, так і абкруцілі. Ні жывець, каб ні абжу́льнічыць, што ў ім зывіря́іцца! Купля́й, ды варон ні шчыта́й: раз-два абжу́люць. Хітряцом усё сябе пыка́зывыў, а прывялі́ і яго́. Такей прайдоха, каго хочыш абвядзець. Там ня то што Пітрычка́, а сь сямю́ галовымі акылпа́чуць. Уміг аблыпашы́лі, пывярну́цца ні пасьпеў. Хіцір, хіцір, а толька ў два шчоты аб'ягорілі. Ні храбрі́ся, путкую́ць і цябе. Дужа ні дывіря́йся, січа́с абу́юць. Як жа ета ны такой ірундзе цябе падбу́лі? Некыга ж найшоў, ахмурі́ў—так і прыда́ў. Відзіш, як цябе купі́лі, што ты ні пыглядзеўшы браў. У тоя скрысеньня лоўка Максіма абулі ў лапці. Ні зырікайся, нойдуцца атлёты, так падбу́юць у лапці — дзівіцца бу́дзіш. Абвялі́ цябе кругом па́льца як мілінькыга.

### 13. Абнасі́цца

*абнасіцца, давесці да непрыгоднасці адзенне пры карыстанні* — абарва́цца, абадра́цца *а. да дзірак і шмаццця;* абтрапа́цца *а. да дзірак і шмацця з-за неахайнасці;* абшарпа́цца, абшэрпацца *а. ушчэнт, да лахманоў, асудж.;* абдры́пацца, задры́пацца *а. з-за неахайнасці, іран.;* аблупіцца *а. дагала, іран.;* датрапа́цца *а. канчаткова з-за бестурботнасці, асудж.*

Ны каго ты паходж у етым сваі́м тряп'е, чаго ты абнасі́ўся як ста́ріц? Абырваўся, ажно шма́цьця кускамі вісіць. Айдзе гультай заробіць, абыдраўся, ходзіць у лахмоцьці. Аптрепліцца і ходзіць, ажно глядзець сты́дна. Калі што й спра́віць, дык за месіц апшырпа́іцца, — саў-

сім ні бірягець адзежыну. Апшэрпыўся як старіц галеіўскій. Усё ў глотку, усё ў глотку, вочы зыліваіць, абдрыпыўся ды пасьледнія ніткі. Саўсім задрыпыўся, як яму толька людзей ня стыдна. Прапіўся, аблупіўся, ходзіць—сьвеціць дзірькымі. Ты скора датрепліська, што пірядзець нечыга будзіць, і так ужо ні знатна, што адзежа.

### 14. Абняць

*абняць, заключыць у абдымкі* — абшчапіць *а. моцна за шыю;* абхваціць абхапіць, *а. як папала;* павіснуць *а. за шыю моцна і надоўга, неадабр.;* абшчапуліць, абшчалепіць *а. моцна, гулліва, жарт.*

Абніму я дырагога, ніхай людзі дзівюцца. Ці відзіў ты ету указэю: апшчапіў пысярёд вуліцы і цалуіць. Я ішла ціхінька, нічога ня думыла, а ён із-зы дзьвярей торьк і апхваціў мяне. Відзіш, апхапіла, як год ня відзіла. Павісла на ім — ні тарьвецца. Апшчапулілі за шыю і ні тпускаюць. Апшчалепілі яго кругом, круцюцца, пішчаць, а ён нудубыріўся, як мамрюк нейкій.

### 15. Абсеч

*адсцябаць, пакараць фізічна дзягаю, дубцом* — адхвастаць *а. моцна, але не вельмі балюча*; адшпіляць, адшмуляць *а. балюча;* нашпіляць, нашмуляць *а. вельмі балюча, са злосцю;* адлупцаваць, налупцаваць *а. моцна, кніжн.;* адлупіць, налупіць *а. са злосцю;* адшпарыць *а. моцна, балюча, іран.;* ссеч, зрэзаць *а. без жалю, балюча;* адсцягаць *а. досыць моцна;* адсцябаць (адсцёбаць) *а. злёгку;* адчахвосціць *а. добра, гумар.;* даць баню (лупку, лупцоўку, узбучку, пытлю) *а. моцна і сур'ёзна*; даць бярозавай кашы *а. дубцом, іран.;* зрэзаць на горкае яблыка *а. без жалю, цяжка і балюча;* злупіць (спусціць) кожу (шкуру), спусціць мехам шкуру *а. бязлітасна з лютасцю.*

Усёроўна апсяку, ладна прутым ныджгаю. Хырашо атхвыстала, мутузоў уволю пулучыў. Кызалі, ачшпіляла свайго, знаць, што п'яный прішоў. Ладна супонькыю ачшмуляў, пыкызаў чужую маліну. Нышпіляла зу гуркі, большы ні палезіць. Нушмуляла, нушмуляла, во як табе, гыварю, вокны біць. Не, я ўжо даўно віджу: пакуль цябе ні атлупцуіш, толку ніякыга ня будзіць. Нулупцуваў свайго, і дарогу у тэй сад забудзіць. Думыіш, лучшы зьдзелыла, што атлупіла? Бывала, налупіць іх, налупіць,

сколька ўлезіць, дык ці яны ка́юцца, ныза́ўтря ўзноў зы сваё. Што ты ачшпа́ріш, ці ён твайго шпа́ріньня баіцца. Дыбра́ўся, сьсек, места жывога ня кінуў. Так ужо зрежу, што шку́ра тресьніць. Ты толька грозіш, што ацьсьціга́іш, ты і па́льцым ні зачэпіш. Не, сяньня ты ня вы́круцісься, ацьсьціба́ю, ды ла́дна палу́чыш. Ацьсьцёбыў пру́цікым, рёў троху. Калі ні ўспакоісься — аччахвошчу і пойдзіш з рю́мзымі. Пла́кыў увечырі, відна, да́лі баню зы ра́нішнія. Калі ты мне толька січа́с жа ня зьдзелыіш, што гывары́ю, дам лу́пку. Крепкую лупцоўку далі, рёвым рёў. Во пыля́дзіш, дадуць табе ўзбу́чку зы такоя дзела. Дай свайму пы́тлю: у чужэй сад лазіў. Дыла бярёзывый кашы, ікыта́ў на ўсю дзяреўню. Зрежу на горькыя я́блыка, места жывога ні ста́ніцца. Некылі я ды цябе дыбяру́ся, злуплю кожу. Вазьму вожкі ряменныя, бу́дзіш харош, спушчу кожу. Сь цябе пакуль шкуру ня злу́піш, нічога і нікога не паслу́хыіш. Ці ты січа́ж жа паслу́хыіш, ці шкуру спушчу. Ідзі, пакуля ні спусьціў мехым шкуру.

## 16. Абстры́жч

*абстрыгчы, зняць нажніцамі ці машынкай валасы, шэрсць* — абчыкры́жыць, абчыка́ніць *а. роўна, нізка, жарт.;* абгалага́ніць *а. дагала, жарт.;* абгаліць *а. нізка, неахайна або дагала, неадабр.;* абрэзаць *а. няроўна, неадабр.;* абску́сць (абску́бсць) *а. як-небудзь, іран.;* аббалва́ніць *а. гладка, іран.; адзінк.*

Сяньня пыхадзі так, а заўтря атвечыра я вы́біру як мінутку і апстрыгу́. Апчыкры́жылі ж цябе ла́дна і ні пызна́ць ста́ла, што йта ты. Зы міну́ту яго апчыка́ніў, доўга ні вазі́ўся. Калі ты толька ня бу́дзіш гылаву́ мыць ды рашчэсывыць, абгылыга́ню на голыя калена. Ён жа ўжо ў цябе ла́дный ма́ліц, а ты яго абгалі́ла як ма́лінькага. Ні паслу́хыісься — вазьму́ авеччыя ножні, злаўлю́ і агалю́. Абреж лахмоцця, ходзіш, а пы кыўнярю́ гріва ляжыць. Апстры́жч ні апстрыгець, а апску́сьць можыць. Што, і мяне хочыш апску́бсьць? Пыглядзі-ка, як Міхалку аббылва́нілі, блішчы́ць як гарбу́з.

## 17. Абы-я́к

*абы-як, нядбайна, без жадання* — як-небудзь (як-ні-бу́дзь), як-лі́ба, сяк-та́к, кой-я́к, туды́-сюды́ *а. з-за спешкі, ляноты або адсутнасці зацікаўленасці;* на́сме́х, дзеля блі-

зіру, дзеля мадзелі *а. толькі для выгляду;* спусця́ рукава́ *а. з лянотай, павольна;* цяп-ля́п, шулды-булды́, абы з ру́к, абы ра́д здаць, з бухты-бара́хты, цераз пень-калоду, пусці, божа, павалю́ся, ні сабе паглядзе́ць, ні людзям паказа́ць *а., вельмі нядбайна*; з пя́тага цераз дзеся́тае *а., спехам.*

Касі́ць абы-як, пыха́ць абы-я́к і жыць луччы ўсіх хочыць. Зьдзелыіць як-небудзь, кініць, рініць і пашоў, хуць трыва́ не расьці́. Усігда́ глядзі́ць, каб як-ніб́удзь. Іка́я там работа, сыбяруць як-лі́ба ўместа, толька што ні ў пірібіра́нкых пыд дажджом. Сыбра́лі сяк-так, што ўзя́лі, што асталося. Кой-як ські́дылі і скарей зыпріга́ць. Туды́-сюды́ згрымазьдзі́ў ды кры́шу ныцягну́ў, хуць ні пыд дажджом. Прівы́к усё дзелыць на́сьміх, дык і тут тоя са́мыя. Ну ці ты на сьвеці жыць ні зьбіра́ісься, што ўсё насьмех дзелыіш. Кыпану́лі дзеля блізіру, во і ўсё. Дзеля мадзелі вілкымі пымыха́ў, дзелыў ня дзелыў, а ны рабоці быў. Ета работа Мікіла́іва, ён усё спусьця́ рукыва́ дзелыіць. Ты ўсігда́ прівык дзелыць цяп-ляп. Ці ня відзіш, хто строіў — шулды-булды́ зьдзелына. Ну й прівы́чка ж у чылавека: усё абы з рук. І бацька з бу́хты-быра́хты, і сын абы ряд здаць. Нехта ські́дывыў з бу́хты-быра́хты, дзі́рькі — воўк улезіць. Вы́йдуць, цірясь пень-калоду лупа́ткымі пырянуць, а дзень кыча́юцца. Мацьвей усігда́ адзіна́кыва дзелыіць: пусьці, божа, пывалю́ся. Зьдзелыў ні сабе пыглядзець, ні людзя́м пыкыза́ць. Ён ўсю́дых адзіна́кыва: сь пя́тыга цірізь дзіся́тыя кыпанець і пашоў, і ўся работа.

### 18. Абяза́цельна

*абавязкова, пры любых абставінах, у любым выпадку* — край, непрыме́нна, беспрыме́нна; канешня *а., адм.*; усёро́ўна (усёраўно́, усёраўна), усёдно́, усёадно́ *а., нават наперакор*; на *а. як прадказанне*; кроў з носу *а. як клятва.*

Ты мяне яшчэ ні зна́іш, што я скажу́ — абіза́цільна вы́пыўню. Як вы́прывіцца — дыб-дыб-дыб-дыб-дыб, — кра́й зыва́ліцца і нос рыскв́асіць. Ма́лый такей — дай ты яму шчэпычку, ніпріменна шчэпычка ў яго ў пачоці. Ты ні сучу́ствуіш, што мне біспріменна у горыд атвярну́цца нада. Канешня табе плесца зы два́ццыць вёрст? Раз заду́мыў, ета ўжо ўсёро́ўна зьдзелыіць, хуць реж. Кінь ты, ўсёраўно́ пыста́віць на сваём. Нет, усёрыўна пайду, ты ня ўдзержыш. Усёдно́ зьдзелыю, як скыза́ў. Куплю ўсё-

адно́ касьцю́м, ці мне абырва́нцым хадзіць. На пупадзець табе за етыя твае ду́рікі. Раз я скыза́ў — кроў з носа, а зьдзелыю.

## 19. Аб'ясні́ць

*растлумачыць, зрабіць ясным, зразумелым шляхам тлумачэння* — раз'ясні́ць *р., раскрыўшы парадак дзеянняў ці структуру з'явы;* паясні́ць *р. проста і зразумела;* расталкава́ць *р. падрабязна;* разажва́ць *р. вельмі падрабязна, неадабр.*; растулма́чыць *р. дэталёва, малаўж.*; растлума́чыць *р. дэталёва, кніжн., рэдкаўж.;* уталкава́ць *р. дэталёва, цярпліва, рэдкаўж.;* укла́сць (улажы́ць) у мазкі́ *р. з цяжкасцю, неадабр.*

На́йдзіць адзін дарогу, я хырашо яму аб'ясьні́ла і яшчэ прывілá трошку. Рызьясьні́ ім, што к чаму: нія́к ні рызьбяру́цца. Ты ж пыясьні́ хырашэнька, што ўзяць, а што ты так пысыла́іш. Ніхай ты яму рысталку́іш, усёрыўна ні паймець. Во ні рызажві́, што і як зьдзелыць — і ня бу́дзіць зьдзелына. Табе рустулма́чыць — нада цярьпеньня ймець. Ну як жа табе яшчэ рустлума́чыць? Зьмітраку́ утулкува́ць што-небудзь няпроста. Ну, ка́жыцца, укла́ла у мазкі́, пыня́ў. Ка́жыцца ж лу́ччы некуды, як улажыла ў мазкі, — не, заместа Рожыва заехыў у Га́лкывічы.

## 20. Адзе́жа

*адзенне, сукупнасць прадметаў для апранання, адзявання* — адзёжа; шмоткі *а., пагардл.;* шмоцце *а. старое, пагардл.;* шалу́п'ецце *а. старое, зневаж.;* надзява́нне *а. для носкі;* форма (хорма) *а. салдацкае;* абмундзірава́нне *а. салдацкае, неалаг.;* амуні́цыя *а., іран.;* нара́ды, абра́ды, прыборы, уборы *а. святочнае;* нараджа́нне, абраджа́нне *а. святочнае, іран.;* свісты *а. вузкае, цеснае, пагардл.;* матузы́, шкуматы́, рубцы́, хвяру́б'е, тра́нты, тра́нне, барахло, бараxо́лле, трахо́лле, лахмо́цце, рыззё, тра́пкі, трап'ё (тра́п'е), ра́ссе, стар'ё, шкума́цце (шкумаццё) *а. старое, рванае, пагардл.;* пляхо́цце, плевуці́нне *а. зношанае, старое, пагардл.;* шарабу́р'е, шаллё (шы́лле) *а. старое, непрыбранае, пагардл.;* шкума́ці́нне, шкума́чанне, шкума́рджанне *а. рванае, пагардл.*

Ляжы́ць адзежа ку́чыю, нада ў шкап павесіць. Пірісушы́-ка адзёжу на сонцы. Ныкря́тыла сунду́к шмотык, і

куплёныга, і сымытка́ныга. Сыбра́ў мокрыя шмоцьця ды вун вы́кінуў ну бульбоўнік,—нада на сонцы разьвешыць. Домна разьвесіла сваё шалу́п'іцьця, каб усе лю́дзі ві́дзілі, і су́шыць. Я ж ві́дзіла тваё ныдзіва́ньня, на хворысьці пад вербыю ляжы́ць, а ты і́шчыш ветра ў полі. Ні бузу́й форму, чы́сьціць зы цябе дужа ніхто ні ста́ніць. Вазьмі́ хорму, прібярі́ у шкап, тут звыля́іцца. Абмундзірыва́ньня зьняў, павесіў акура́тнінька і палез ны хату. Пірібра́ў ба вун амуні́цыю, ныдзіва́ць жа бу́дзіш. Гатоў ныря́ды, віча́рінка бу́дзіць, зы гырмані́стым паехылі. Пыкажы́, пыкажы́ свае абря́ды,— хырашо, нічога ні скажыш. Чаго ты кінуў свае пріборы пысярёд хаты, я ж зы табою ня буду уха́джывыць. Лю́біць, каб уборы яму спруўля́лі, а бярежч саўсім ні бірягець. Хува́й сваё ныріджа́ньня, січас саўсім ня ўремя зь ім вазі́цца. Як жа, мне тваё абріджа́ньня дужа ва́жна, толькі пры яго і думыю. Уськінь вун сьві́сты на шост, ніхай прасохнуць. Якея былі мутузы́ — знасі́ла, цяперя нада узноў ду́мыць троху ны адзёжу ўзьбі́цца. Ні хадзі́ ў шкумута́х, надзенься, як усе людзі ныдзяю́цца. Нымачы́ла шайку рубцоў, нада будзіць вічарком пірісьцірну́ць. Вун тваё хвярю́б'я на лесьвіцы вісі́ць. Ны тра́нты зываліўся і сьпіць, тут яму ўся й вічарі́нка бу́дзіць. Хадзіў нейкій партнэй тра́ньня троху пірятрёс,—зь яго й ма́сьцір ня дужа каб сьпецный. Бырыхла́ троху ёсьць, надзецца можна. Купля́іць бырахольля ўсякыя, справіў ба путны́х сколька адзежын. Зы пасьледнія гады троху абжыла́ся, і с тряхольля сёя-тоя купі́ла. Ходзіць у лахмоцьці як ста́ріц сапры́ныўській, а грошы ўсё бірягець, склыда́іць. Іка́я там адзежа, рызьзё адно, большы нічога. Нуспруўля́ла троху тря́пык, ёсьць што надзець і ны вічарі́нку, і ў горыд, і ны сва́дзьбу. А ёсьць тріп'я́, надзецца можна, калі яго дужа надзеніш. Ляжы́ць вун цэлыя тваё тря́п'я, ніхто яго ня трогыў. Купілі ў скрысеньня адзёжный шкап, хуць ря́сься ня бу́дзіць выля́цца ды па сьценых вісець. Сыбярі́ старьё ды зьвяжы́ ў ву́зіл, будзіць тря́пышнік езьдзіць, дык здасі, ныдзіва́ць там ужо нечыга. Якея там дужа пріборы, так, шкума́цьця. Кініць-рініць шкумацьцё, пы́льныя і выля́іцца. Якоя було пляхоцьця, усё пірамы́ла. Ці ні пыт пря́слым забы́ў сваё плівуці́ньня. Шырабу́рья ку́чыю ляжы́ць, прусушы́ць нада. Прібярі́ троху шальлё, мажа, хто ў хату за́йдзіць. Пірямы́й шы́льля і пірісушы́, пы́ліцца кыря́ўкымі. Ні трясі́ шкумаці́ньнім лі гаршкоў, пытпіряжы́ся.

Што ты рызглідáіш ета шкумáчыньня, яго толька вы́крысіць ды вы́брысіць. Вод жа бірягеш усякыя шкумáрджыньня, тря́пышніку б здылá.

### 21. Адстáвіць

*адставіць, адвесці ўбок* — адтапы́рыць *а. нязграбна, нязручна, гумар.;* аддуды́рыць *а. нязграбна, няўклюдна, іран.*

Што ты ацстáвіў рукý, хочыш, каб пупáла па ёй. Адзін пáлкыю мыхáіць, а другей рукý аттапы́ріў, тэй хрясь пы пáльцых. Рукý аддуды́ріў і ходзіць, гаворіць, ні магý пріжáць к сабе.

### 22. Адстáць

*адстаць, аддзяліцца ад ствала асобным слоем (пра кару)* — адстрáць *а. зусім;* адсачáць *а. у самы разгар руху сокаў;* адсачы́ць *а. у самы разгар руху сокаў, рэдкаўж.;* адхлýпнуць *а. поўнасцю*; атайцíць *а. злёгку, іншаск.*

На то ж і віснá, што кырá ацстáла, нябось, увосінь сілыю ні адзьдзяреш. Кырá як ацстря́ла, так і пашлí сьвісткі зьнімáць. Што ты хочыш, тыкáя цяплы́нь, даўно ўжо на ўсіх дзерівых кырá ацсычáла. Кырá ацсачы́ла, а каромісьлікым зычапіў, дык ну пуўствылá і зьлезла мехым. Такея пікуны́ ды сáмыга ціплá дзіржáліся, а кырá зрáзу атхлýпла, як толька пыцяплела. Відзіш, кырá ўжо трошку атыйшлá, на то ж і віснá.

### 23. Адчапíцца

*адчапіцца, перастаць прыставаць, чапляцца; пазбавіцца прыставання, чапляння* — адстáць, адстрáць *а. пры настойлівым чаплянні, прыставанні;* аддзелацца *а., прыняўшы рашучыя захады;* атвязáцца *а. з нецярплівасцю;* адкасáцца *а. пры фізічным чаплянні, прыставанні;* адкаснýцца *а. з нецярплівасцю, у адзін заход;* адсукáцца *а. пры настойлівым чаплянні, неадабр.*; адкарáскацца *а. з намаганнямі;* атлезць *а. рэзка з нецярплівасцю;* атмалíцца, адхрысцíцца *а. пакорліва;* адшаснýцца *а. з пачуццём непрыязнасці;* адшатнýцца *а. з пачуццём спалоху;* адчурáцца *а. з просьбай, пакорай;* адцурáцца *а. з просьбай, пакорай, рэдкаўж.;* адшы́цца *а. рэзка, груб.*

Устреціў Хвядоса,— як прістаў, як прістаў з рызгаворымі, а мне некылі, чуць аччапіўся. Хырашо було б, каб ты ацстаў і ні дурііў мне гылавы́. Ацстря́нь ты ат мяне, нікýды я с табою іціць не зьбіраўся і ні зьбіраюся. Лявон ні такей чылавек, каб ат яго скора можна було адзьдзелыцца. А каб табе скýльля зываліла, як аць цябе ні ны мінýту ні атвізáцца. Ня трогый чорта, зачэпіш — ні аткысáісься. Як увідзіць мяса, аж дрыжы́ць, тут ужо ат яго ні аткасьнесься. Ацсукáйся ты сы сваімі новысьцімі, іх ні ў век ні піряслýхыць. Як ета ты ат яго так скора аткыраскыўся, — я яго знаю, ня дужа лёхка аччапіцца. Атлезь, калі ня хочыш заробіць ны лáдныя арехі. Ну й ныдыя́длый жа ты чылавек, аць цябе ні атмаліцца, ні атхрісьціцца. Як пупадзець, прічэпіцца, ні атхрісьцісься тады. Ачшаснýўся, аж яго кылатнýла, як лягýшку прыглыціў, а ты гаворіш, цяперь яго прівярнýла нысаўсім. Ачшатнýлыся, як яе хто удáріў. Аччурáйся ты, мне ікрáз уремя с табою руссусолівыць. Дýжа б ладна було, каб ты аццураўся і ні ныдыідаў. Ачшы́йся ету ж мінуту, кылі хочыш чылавекым пайціць.

## 24. Адчыніць

*адчыніць, зрабіць адкрытым, адчыненым* — адкры́ць *а., кніжн.;* адтвары́ць *а., неалаг.;* адкýтаць *а. часцей печ, комін, уст.*

Аччыні коўрыты, січáс прібягіць скот. Аткры́й погріб, ніхáй праветріцца, інáчы туды ні пыкáжысься. Аттваріла вокны праветріцца, а вецір пылавінкыю брязь і шы́бка пасы́пылыся. Дзьвёрку нехта аткýтыў і ўвесь дух вы́йшыў сь печы.

## 25. Акале́чыць

*акалечыць, нанесці калецтва, зрабіць калекай* — скале́чыць *а. раптоўна;* абязве́чыць *а. вельмі цяжка;* ізуве́чыць *а. вельмі цяжка, рэдкаўж.,* падкале́чыць *а. не цяжка.*

Яны знáлі, што бýдзіць адзін іціць, пірястрелі і акалечылі. Скалечылі яго яшчэ у дзецтві. Нешта пупáлі і дывáй кывіря́ць,— яно як стрілянець: аднаго нáсьмірць, а другога абязьвечыла. Ізувечылі нізашто, ніпрашто. Ну што, страшныга нічога, толька ж пыткалечыла,— пыкычáіцца, кріцыю бýдзіць ліжáць.

## 26. Аканóміць

*эканоміць, абмяжоўваць выдаткі* — аканомнічаць, аканоміцца, аканомнічацца *э. з-за скваnнасці, неадабр.;* цягнýць *э., змяншаючы выдаткі, іншаск.;* ціняціць *э., выдаткоўваючы вельмі ашчадна, пры недахопе;* расцяґгываць *э., выдаткоўваючы з разлікам, іншаск.*

Ня ўмеіш ты аканоміць, вун цётка твыя́ былá — у яе зяренца ні прыпыдáла. Ну й жáднысьць твыя, кáжныю крошку аканомнічыіш. Ні аканомся, спраў путнэй касьцю́м. Ня ў меру вы аканомнічыіціся, во што я вам скажу. Цягнула й цягнула патрошку, дык яно й хвацíла да новыга сáла. Па крошычкі цінячý, уволю дужа ні даю, дýмыю, хвáціць, пакýля троху другога пыдглáдзім. Дужа ні трачу, рысьця́гывыю, каб хваціла да лета.

## 27. Апазóрыць

*зганьбіць, пакрыць ганьбаю* — астрамíць *з., дапусціўшыся да непрыстойнасці;* абстрамíць *з. з сорамам*; аслáвіць, абслáвіць *з., распусціўшы кампраметуючыя чуткі, іншаск.;* абняслáвіць *з. моцна, распусціўшы кампраметуючыя чуткі;* зняслáвіць, сastрамíць *з. вельмі моцна, распусціўшы кампраметуючыя чуткі;* праслáвіць *з., распусціўшы чуткі вельмі шырока, іншаск., іран.;* аканфýзіць, сканфýзіць *з., гумар.;* замарáць *з., распусціўшы брудныя чуткі, іншаск.*; спорціць рэпутáцыю *з. знарок, руск., іран.*

Глядзí, дзеўка, апазоріш матку ны стáрысьці гадоў. Астрамíў бацьку, хуць на людзі тамý ні пыкáзыйся. Ці ты знаіш, як мяне апстрамíў етымі гуркáмі. Ліканор любога можыць аслáвіць нізашто ніпрашто. Так ужо цябе апслáвілі, ты можыш кáпнуць, зь места ні схыдзя. Абніслáвілі хлыпца за што зы я́кыя, ён у тых Сьлёзкых нагою ня быў і дарогу туды ці знáіць. Зьніслáвіла чылавека, а первый жа раз у вочы вíдзіць. Сыстрамíла мужукá, таму цяперя вачэй на вуліцу ні пыкáзый, усе пáльцымі заторкыюць. Як жа ў цябе совісьці хвацíла нас так прыслáвіць, у нашым жа радý ні разу злодзія ні зывадзíлыся. Ну так ужо аканфýзілі цябе, як толька ты жыў астáнісься. Ну чым жа я цябе сканфузіла, ці я ж ніпрáўду скызáла? Зымырáлі чылавека на ўсю жысьць, а ён жа ніколічка ні вінувáт быў. Глядзі ты — спорцілі яму ріпутáцыю, гінірáл такей.

## 28. Арганіза́тар

*арганізатар, завадатай, ініцыятар, важак* — завада́тар, завадэвуш *а., ініцыятар, неадабр.;* завадзі́ла *а. у заганнай справе, неадабр., а. у дзіцячай гульні;* запява́ла *а. як першы пачынальнік;* закапёршчык *а. вынаходлівы, дасціпны*; верхаво́д *а. як кіраўнік, неадабр.*; атама́н *а. у стыхійна арганізаванай групе, іран.;* канавод *а. як кіраўнік у падазронай кампаніі, іншаск., асудж.*

Ета ні було ныстыя́шчыга аргынізáтыра, дык у вас нічога і ня вы́пыліла. Біз зывыда́тыра тут ні абыйшлося, зра́зу відна. Быў усё ці́хінькій, а тут ніжда́на зывадэвушым стаў. Ну, ці ты ні знаіш, хто ў іх зывадзі́лыю быў,— Сямёныў большый. Ён усігда зыпіва́ла, таго к яму й ку́чуцца. Такей ужо зыкапёршчык, пряма ўсё гарі́ць на ім. Любіш ты вірьхаводым быць, каб цябе ўсе слу́хылі. Чаму ж я ня помню Сірьгяёнка, атыма́н быў ну гулю́шкых. Ны якую-небудзь дурату́ ён усігда первый кынавод.

## 29. Асвабадзі́ць

*вызваліць, пазбавіць турбот, клопатаў, абавязкаў* — вы́зваліць *в. ад прысутнасці, уст.;* аслабадзі́ць, аслабані́ць *в. ад значных турбот, клопатаў, рэдкаўж.;* даць спакой *в. ад тлуму;* даць адхлы́н *в. ад тлуму на пэўны час;* даць адду́ху (праду́ху) *в. на кароткі час;* развязаць рукі *в. поўнасцю, іншаск.*; вы́зваліць рукі *в. поўнасцю, іншаск., рэдкаўж.;* апраста́ць рукі *в., памёршы пасля працяглай хваробы;* развяза́ць галаву *в. духоўна.*

Столька було работы, што ні зна́ла, як спра́віцца, хырашо — сын пад’ехыў, памог, асвыбадзі́ў троху мяне. Вы́звыль ты мяне ат етыя марокі, некылі мне зь естымі карзі́нкымі вазі́цца. Во як ла́дна ты мяне аслыбадзі́ла на цэлыю нядзелю. Ну, аслыбані́ў мяне тэй гыварок ат трілю́ды. Да́йця вы мне спакой, хуць ба я мінутычку пыліжа́ла, аддыхну́ла. Як сыбяру́цца разым, дык ні даюць атхлы́ну нісколічка, усё носюцца, гарцу́юць. Кріклі́вый, дзіцёнык, адду́хі ні даець ні днём, ні ўночча. Хуць ба даў хто праду́ху ат етыга лёну, пра́ньнік ужо рукі атырва́ў. Нывазі́ліся сы спра́ўкымі, пакуля рызьвіза́лі сабе рукі. А тыкі паехылі, вы́звылілі рукі, цяперя слыбадней бу́дзіць. Наму́чылыся сы стыріком: ліжаў, ні пыднімáўся

большы паўгода, пакуль апрыстáў рукі. Ні знáла сымá, што дзелыць і як быць, во тут ныскачы́ла пляменьніца, сістріна́ дычка́, рызьвіза́ла гылаву́.

### 30. Аслабéць

*знясілецца, страціць сілы* — абяссілець *з. моцна ў фізічных адносінах;* саслабець *з. да крайнасці;* асла́бнуць *з. моцна, адразу*; сасла́бнуць *з. да крайнасці, адразу*; знясілець *з. моцна;* абнясілець *з. моцна, рэдкаўж.;* зда́цца, здаць *з. канчаткова, безнадзейна, іншаск.;* аплаша́ць, аплашэць *з. значна ў выніку хваробы;* сплашэць *з. моцна ў выніку хваробы;* сплашаць *з. моцна ў выніку хваробы, часта гумар.;* паслабець *з. часткова;* паплашэць *з. яшчэ больш у выніку хваробы, старасці;* падупа́сць *з. у некаторай ступені, часова;* вы́дыхнуцца *з. ад стомленасці;* ізняможч *з. зусім, руск., гумар.*

Лу́ччы еж, а то аслабеіш, ні пывылакеш ног. Абясьсіліў — чуць ціга́іцца. Нешта ты зы пасьледнія ўремя сыслабеў. Зы якея дзьве нядзелі асла́бла, чуць ногі валочыць. Ай, ні гывары́, як сысла́бніш, нічога ня міла і ня лю́ба. Зьнясілілі ўжо абоя, што ж ты хочыш, гады́ пыдыбра́ліся. Гады сваё бяруць: абнясіліў і Сьпірідон. Доўга дзіржа́ўся, толька ў пасьледній год зда́ўся. Дзіржа́ўся, дзіржа́ўся і ны ліцо, і на цела, а цяперя здаў. Што ж ты так зразу аплыша́ў. Аплашэла Праскоўя, дужа сла́быя стала. Відзіў іх ніда́ўна, абея нешта дужа сплашэлі. Нада ж яму так скора сплыша́ць, такей мушчы́нішча быў. Пыслабеў жа ты, рана пыслабеў. Што ж ты хочыш, што пыплашэў, балезьня — ня родныя матка. Троху пудупа́ў зы пасьледнія ўремя. Вы́дыхнуўся за́ дзінь, і ног ні пывылакець. Ну што, ізьнямог ны на́шый рабоці, ета табе ні с кырында́шыкым сядзець.

### 31. Атамсці́ць

*адпомсціць, ажыццявіць акт помсты* — адпомсціць *а., кніжн., абмеж.;* адплаціць *а. жорстка, іншаск.;* папомніць *а. праз пэўны час;* прыпомніць *а. праз пэўны час, іншаск.;* рассчыта́цца, расплаціцца *а. за ўсё, іншаск.;* пасчыта́цца *а. за ўсё, іншаск., абмеж.;* разлічы́цца *а. за ўсё, іншаск., кніжн., рэдкаўж.*

Я табе етыга ні забу́ду, пыдбяру́ ўремя і атамшчу́. Во ві́дзіш, як табе атпомсьцілі. Сі́дырька, гывары́о, ні зыдзіра́йся, яны ж табе атплоцюць,— айдзе там паслу́хыіць, і ў вус ня дмець. Пыдажджы́, пыдажджы́, так ня бойдзіцца, Мікіцёнкі табе напомнюць снапы́. Ета ж сколька гадоў прайшло, а пріпомнілі, ну што ты хочыш, злудзюга́ны еткія. Рышшчыта́ліся Драчы с Хвядосым за ўсё, ну ён жа ім і нысаліў, сколька жыць ні дыва́ў. Восіп так ні мінець свайго, хто-небудзь расплоціцца зь ім. Ну во, пышчыта́лыся Каця с Хрісьцінкыю за просу. Гулубец так ні прасьці́ць, абіза́цільна разьлі́чыцца.

## 32. Атвучы́ць

*адвучыць, прымусіць адвыкнуць* — атучы́ць, атва́дзіць *а. за працяглы час, у некалькі прыёмаў;* атахо́ціць *а. ад жадання;* адшы́ць *а. рэзка, груба.*

Глядзі́, карова, атвучу́ я цябе ну Лугува́тку бегыць, як атлуплю́ бакі́ вярёўкыю. Пыгадзі́, пыгадзі́, ату́чыць цябе хто-небудзь ла́зіць пы сыда́х. За нешта атва́дзіла Аксю́та Пілі́па, пройдзіць міма і дайжа ні гляніць ны яе хату. Як атахоціла яго паленым ат хаты, дык ні пыка́зыіцца, зяць еткій. Ачшы́ла ат хаты, большы і ні пыка́зыіцца.

## 33. Ахо́тна

*ахвотна, з вялікім жаданнем, задавальненнем* — ахотня *а., уст.*; з ахоццю *а. вельмі*; ахоццю *а. вельмі, рэдкаўж.;* у ахоту, у ахотку *а., да поўнага задавальнення;* да слова *а., з гатоўнасцю (звыч. даць, згадзіцца);* як заветачку *а., з гатоўнасцю (звыч. пайсці);* с удавольствіем *а., з прыемнасцю, неалаг.;* за мілую душу́ *а., з вялікай прыемнасцю*; з дарагою душою *а., з выключнай прыемнасцю.*

Нешта ты сяньня ня дужа ахотна зьбіра́ісься. Пызаві́, іна ахотня пойдзіць. Толька слова прікі́ніць, с ахоцьцю пыбіга́ць. Ня ду́мыю, каб Сідарёнык што-небудзь ахоцьцю даў. Пыработылі ў ахоту, аж рызапрелі. З расою пыкасіў у ахотку, ня то што жарі́шчыю. Зьбегый к Пуўлючку, ён да слова дасьць, калі ў яго ёсьць цісла́, а ў яго дылжна́ быць. Напрей, бува́ла, ўсігда́ як заветычку паслу́хыіць. Мне што, я с удавольствіім пыдыйду́. Пы-

прасі́ Анікына, ён табе за мілыю душу́ зьезьдзіць,— ну, паўлітра пыста́віш, ні накры́ісься ж хвастом. Во Каця, бува́ла, з дырагою душою зьдзелыіць што ні пыпрасі́,— і пла́ты ня возьміць.

### 34. Ашы́бцца

*памыліцца, дапусціць, зрабіць памылку* — ашыбі́цца *п., малаўж.;* ашыбну́цца *п. у адным выпадку;* прашы́бць, прашыбі́ць *п. груба, са стратай*; прашыбну́ць *п. груба, са стратай, у адным выпадку*; абміш́у́ліцца *п. прыкра ў разліках, меркаваннях*; абмылі́цца *п. прыкра ў дробязях, рэдкаўж.;* спаткну́цца, спатыкну́цца *п. нечакана ў важным, значным, іншаск.*

Пышчыта́ў, а тады пірішчыта́ў, і пулучы́ўся ра́зный шчот,— нейдзі ашы́бся ці первый раз, ці другей. Ты ня слу́хый етыга трілю́ду, можыш ашыбі́цца. Ну, каб ты ды ашыбну́ўся, такога ні ў век ня бу́дзіць. Прашы́б с каровыю—толька на трі цыцкі́ доіцца, пра́ўда, мылако жы́рныя. Глядзі́ця, каб ні прышыбі́лі, пацсу́нуць што зря — і возьміця. А ні прышыбну́лі, што пашлі́, хуць троху пыдмя́клі, затоя пы карзі́нішчы бырывікоў, ды такіх мыладзенькіх. Нада ж було так абміш́у́ліцца, ка́жыцца, сам ны сябе й ні падумыў ба. Ня думыю, каб Хвядос абмылі́ўся. Ні бярі́ся і ні руча́йся, і ты можыш спаткну́цца. Сколька гадоў усё йшло гла́дка, а тут спытыкну́ліся, дый здорыва.

### 35. Бага́та

*багата, у матэрыяльных дастатках* — зажы́ташна *б. умеру, неалаг.;* раскошна *б., з вялікімі выдаткамі;* шырока *б., з вялікімі і разнастайнымі выдаткамі;* у даста́тку (у даста́тках) *б., не маючы ні ў чым патрэбы;* як сыр (клёцка) у ма́сле *б., з вялікімі дастаткамі ў спажыванні;* на шырокую ногу *б., з вялікімі і разнастайнымі выдаткамі;* пан па́нам *б. вельмі;* як у бога за па́зухай *б., спакойна, без турбот;* на кары́ ка́ша, на пра́сле блінı́ *б. празмерна, іран.*

Піря́днінцы абжылі́ся, чорт іх ні бярець, быга́та жывуць. Зажы́тышна дужа я ня жыў, ну біс куска́ хлеба ні ра́зу ні сядзеў. Жыць ты любі́ш раскошна, а ны работу ня дужа пытхва́цін. Пыжылі шурока, ды мала раскошы-

ствывылі, ніхто за іх зырыбляць ні хацеў. Зыхадзіла і ў хату — у дыстатку жывуць, абстаноўка новыя, цілівізыр, хыладзільнік. У дыстатках былі сталі жыць пірід вайною, а ў вайну пашло ўсё прахым. Пыспытала іна усякый жызьні — і як сыр у масьлі жылося ёй, і біс куска хлеба сядзела. Што ёй атходзіць, жывець як клёцка ў масьлі. Пыжыла зу мужуком ну шурокую ногу. Што яму атходзіць, жывець пан паным. Жылі як у бога зы пазухый. Я знаю, табе каб жыць так — ны каре каша, ны прясьлі бліны.

### 36. Багач

*багатыр, той, хто мае вялікі дастатак* — багацей *б. з раскошай;* тумар *б. з гонарам, іран.;* вараціла *б. уплывовы, іран.;* буржуй *б., іран., рэдкаўж.*

Барчонкі ўсе хадзілі у быгычах. Як паслухыіш — такей ужо быгацей, на ўсю акругу адзін. Тумырым стаў, нос зыдраў, а ці даўно старцым хадзіў. Як Дзім'янёнкі жылі? — быгаства нямерныя, вырацілымі былі. На ўсю акругу буржуй быў, на тройкі рыскатывыўся.

### 37. Балаваць

*балаваць, рабіць недысцыплінаваным, свавольным* — распускаць *б. у паступках, свавольстве;* патураць, патакаць *б. у свавольстве, апраўдваючы яго;* патвараць, патворстваваць, патворнічаць *б., бяздумна садзейнічаючы ў свавольстве;* патвораваць *б., бяздумна садзейнічаючы ў свавольстве, рэдкаўж.;* папусціцельстваваць *б., садзейнічаючы ў свавольстве, руск.;* даваць волю (свабоду) *б. празмерна паблажлівымі адносінамі, неадабр.*

Нашто ты яго так балыіш, ён жа табе ні дасьць нічога у рот укласць. Руспускай, руспускай, пыглядзіш, што будзіць зь яго цірізь якіх гады два-трі. Сыма ж ўсё ўремя путурала, дык во й дупутуралыся. Во будзіш ім пытыкаць — ныгарюісься, так цяпніш горя, што зукукуіш. Ты як большыя над ім вірядуіш, большы я табе пытвыряць ня буду. Прівык, каб яму патворствывылі, а як у рукі троху ўзялі, дык нісмашна стала. А ніхай цябе лом вылыміць, як ты ім патворнічыіш. Не, каб зьдзелыць што двору, а ўсё з двыра, з двыра, а ты йшчэ патворыіш. Нашто ты сваім лабрэтым пупусьціцільствыіш, яны ж

рызьлянелі — ног цігáць ня хочуць. Ці чýлі вы етыю новысьць, дывáйця яму волю, ён, што захочыць, бýдзіць дзелыць. Хочыш, каб я табе на ўсё дываў свабоду,— не, ня бýдзіць етыга.

### 38. Балаўствó

*свавольства, няўрымслівыя паводзіны* — бáлаўства; бáлаванне *с., неадабр.;* балавáнне *с., неадабр., рэдкаўж.;* адуравáнне *с. грубае;* дур, дуры́, дýрыкі, duratá *с. з рознымі глупствамі;* дурэ́нне *с. з шумам і гвалтам, неадабр.;* дурáчанне *с. з легкадумнымі глупствамі, неадабр.;* ашмуравáнне *с. з пракудамі;* распýста, разурáтнасць, разурáтлівасць *с. з. ганебнымі ўчынкамі, асудж.;* распýснасць *с. з. ганебнымі ўчынкамі, асудж., рэдкаўж.*; здзякáнне *с. у час яды*; самавóльства *с. з грубымі, неабдуманымі ўчынкамі;* арцікýлы *с. з нечаканым вычвараннем, асудж.*

Успакойся троху з бáлыўствым, пысядзі ціха. Столька ў табе былыўствá, што, верна, ні ў кога німа большы. У цябе на ўме адно бáлывыньня. І кáжыцца ж, бальшэй хлопіц, а булувáньня усё ні кідáіш. Такоя ўжо ў тваіх сарвíлыўцыў адурювáньня, што й гывaрíць ня хочыцца. Адзін дур аць цябе й вíдзіш, большы нічога. Дужа ж ныдаелі твае дуры́. Ой, нада меншы табе дýрікыў, ой, нада меншы. Пірістáнь з дуратою, пакуль ні ўляцела. Унімі січас жа сваё дуреньня. Гляджý ны тваё дурáчыньня дый думыю: даўно ўжо хлыбазíна плачыць пы табе. Узноў у вас пычынáіцца ашмурювáньня? Столька ў тых хлопцых распýсты, і ніхто за імі ні глядзíць. Ты сам нырáшыісься, каб я сь цябе троху рузурáтнысьці вы́гныў. Чаго ў цябе рузурáтлівысьці столька многа? Ат етыя вáшыя распýснысьці аж у гылаве гудзíць. Зы сталом у цябе зьдзікáньня ня бýдзіць, жы́ва вы́гыню. Ні гывaрí ты мне, ці я сымá ні знáю, сколька ў яе сымавольства. Ну й арцікýлы ж у цябе, вíдна, некыму іх выгынáць.

### 39. Балéць

*балець, знаходзіцца ў стане болю (аб частцы цела)* — сáдніць *б. злёгку пры паверхневых ранах;* ныць *б. тупа;* шчымець *б. злёгку і аднастайна;* знібець *б. тупа, аднастайна, іншаск.;* гарэць *б. пякуча, іншаск.;* смылець *б. вельмі пякуча, іншаск.;* калоць *б. з вострымі імгненнымі ўспышкамі;* печ *б. вострай пякучасцю;* рэзаць *б. востра,*

*іншаск.;* ламіць *б. моцна тупа (звыч. пра боль касцей);* агнём гарэць (смылець) *б. надзвычай пякуча.*

Іна́ карова тыка́я, калі дзень паводзіць, дык заводзіць, ні хыця́ ногі будуць балець. Рыссадзі́ў калена на нейкій прытырча́к, цяперя са́дніець. Плячо што́-то ны́іць і ны́іць, усёдно як пірід дажджом. Нешта шчыміць і шчыміць, ні так больна, як ныдаедліва. Зьнібіць у грудзя́х, нешта зда́ўлівыіць там, ні рызьбяру́ што. Руку́ ражном носіць: гаворіць, гарі́ць уся чы́ста. І прамы́лі і пірівіза́лі, а йна ўсёраўно смылі́ць. Відна, прудуло, чаго-то баліць у грудзя́х, аж коліць. Як жы́рныга зьем, так і зыбіра́іць пуд грудзя́мі, і зыбіра́іць, зразу патроху пякець, а тады як смылянець, дык я соды скарей,— во атпу́сьціць. Нешта режыць і режыць, каб гнаенія ні пашло ў сярёдык. Ломіць гылыва́, аж рызрыва́іцца. Ай-яй-яй, што там тварі́цца — агнём гарі́ць. Ні знаю, што зывіря́лыся, только смылела агнём.

## 40. Бая́цца

*баяцца, адчуваць страх* — трусіць *б. ад адсутнасці смеласці;* дрыжэць *б., іншаск.;* трэсца, калаціцца *б. вельмі, іншаск.;* апаса́цца *б. небяспекі;* пужа́цца *б. перад нечаканасцю;* пуга́цца *б. перад нечаканасцю, руск.;* дрэйфіць *б. крыху, гумар.;* пабаіванца *б. крыху, увесь час;* ду́ху баяцца *б. намёку на небяспеку.*

Ці чу́лі вы еткыя дзіва—ён ня пойдзіць адзін на вуліцу,—каго ж там быя́цца—кыта́? Ёлычка калю́чыя, баюся, укалюся я; мілыя красівыя, баюся, улюблюся я. Ду́мыю, трусі́ла адна ціріс кусты́ такою пызнатою бежч, пакуль ня вы́скычыла ны чысьці́ну. Што ён за жы́ціль, усяго дрыжы́ць. Тама жывэя душы́ німа, а ён аж трясецца — ня йдзець. Такея ўжо грімоты былі, я ажно кылаці́лыся. Мы апыса́ліся, ці ні зублудзі́ўся айдзе; дужа ж цёмна. Ні пужа́йся, ета я, ато ўціка́ць яшчэ кытанеш. Ні зыпріга́й Зьвёздычку, іна ўсяго пуга́іцца, ат птушкі ўціка́іць. Ня дрейфіць зяць, даець цёшчы атпор. Пыба́івыўся, каб аднаго айдзе ні пупалі, маглі б ныкліпа́ць. Што ты зы ба́цька, што цябе дзеці ду́ху быя́цца.

## 41. Бе́гаць

*бегаць, шпарка рухацца ў розных напрамках, моцна адштурхоўваючыся нагамі ад зямлі* — ля́таць *б. вельмі*

*шпарка, іншаск.;* лётаць *б. вельмі шпарка, іншаск., неадабр.;* насіцца *б. імкліва;* гойсаць, гайса́ць *б. пры гульні, свавольстве, неадабр.;* гарца́ць *б. з топаннем, крыкам, асудж.,* гоцаць *б. з цяжкім топаннем, іншаск, неадабр.;* дзогаць, дзу́гаць *б. з гулкім топаннем, іншаск., асудж.;* дзы́гаць *б. з топаннем, няўклюдна, іншаск., пагардл.;* зы́каць *б. ад гізу (звыч. пра жывёлу);* бры́каць *б. гулліва (звыч. пра каня);* мата́цца *б. лёгка, шпарка, б. стомлена.*

Мінут дзесіць таму ныза́д бегылі тут, а куды яны дзеліся — хто іх знаіць. Літа́лі па вуліцы чуць ні да поўнычы с крі́кымі. Лётыюць і лётыюць, у хаці ні стыка́юцца. Носюцца жырібя́ты па вы́гыну с кынца ў канец, што ім, рузгудува́ліся. Пашлі куды́ — упя́ліцца, а гойсыць гатоў да ночы. Айдзе ён пыладнеіць, калі гыйса́іць ні пірістуючы́. Хуць ба што памог у дваре зьдзелыць, дык не, у цябе адно на ўме — гырца́ць. Га́дысьць адна́ ў мірі, знаіць толька гоцыць і гоцыць. Кругом двыра́ адзі́н за дным дзогыюць, глядзі́, вокны вы́сыдзюць. Нукупа́юцца, тады лі былььшыка́ дзу́гыюць, каменьнім кі́дыюцца. Пу лужку́ дзы́гылі, усю траву́ пымялі, пытыпта́лі, пыга́дзілі. Сонца пріпякець, вадні́ ныліця́ць — і пашлі́ каровы зы́кыць. За лета ат'еліся, гла́дкія сталі, бры́кыюць. Мыта́лыся цэлый дзень туды — ныза́д, туды — ныза́д, к вечыру так вы́білыся — чуць ногі вылыкла́.

## 42. Бе́днасць

*беднасць, малыя, абмежаваныя дастаткі* — нястача *б. з матэрыяльнымі недахопамі;* недаста́ча, недаста́ткі *б. з невялікімі недахопамі;* нужда́ *б. з вялікімі недахопамі;* голь, гале́ча, галота *б. з крайнімі недахопамі (звыч. у рэчах), іншаск.;* злы́дня, злыдната́, нішчата́ *б. безвыходная*; старэ́шчына *б. вельмі працяглая*; сарві́лаўшчына *б. з-за ляноты, някемнасці, асудж.*

Беднысьць цяперя бува́іць так — калі ня хочыш работыць, во й беднысьць, а дзелыўшы прыжывеш. Пыжылі́ й мы ў ніста́чы, чаго там гывары́ць. Была вы́скычыла нідыста́ча, сяк-так пірябі́ўся. Нідыста́ткі случа́ліся, ну то так, то етык, бува́ла, вы́крucісься. Ета ты жывеш — горя ні зна́іш, а мы нужды́ ныцярьпеліся, хва́ціць. Уся́кій жа ві́дзіць, чаго цябе голь зыіда́іць — спаць многа любіш. Каб ты ыспыта́ў галечы, як я, тады б знаў, што стоіць кусок хлеба. Чаго ні було, а галоты хвыта́ла. Ці ты ня помніш хутароў: зімля пуста́я, сена ні расьцець,—

тыкая была злы́дня, што луччы і ні ўспымінáць. Злыднаты́ ця́пнулі, большы ні нада. Ці ты знаіш, у якой нішчаце мы гудувáліся?— адны лапці ны піцяры́х былі. Сколька я помню, яны ўсігдá жылі́ ў старешчыні,— так, пірібівáліся з бы́ка ны інды́ка. Ці ты ня помніш Хвядоськіных, у іх у хаці ўсігдá была сарві́лыўшчына.

## 43. Бежч

*бегчы, шпарка рухацца ў адным напрамку, моцна адштурхоўваючыся нагамі ад зямлі* — тру́хаць *б. няспешна; каці́ць б. бадзёра, іншаск., гумар.;* дзя́жыць *б. вельмі бадзёра, гумар.*; джгаць *б. шпарка, гумар.*; (і) мчáцца, (і) мчаць *б. вельмі шпарка;* несца *б. надзвычай шпарка;* ляцець *б. надзвычай шпарка, імкліва, іншаск.;* часáць *б. вельмі шпарка, бадзёра, іншаск., гумар.*

Доўга бег, аж ні адды́шуся — так зады́хыўся. Цілы́ты голывы зыдрáлі, ныпырядзі́ліся бежч. Ніхай сабе стар конь, а трошку трю́хыіць біс пыдгыня́ньня. Коцюць, толька пыл с-пад ног клубáмі. Куды ты дзя́жыш нáныч? Джгáіць, ажно полы рызьвівáюцца. Калі хочыш засьпець іх, імчы́ся с усіх ног. Вун яны мчáцца із-за ліпык. А чаго було так імчáць, у шы́вырыт хто гнаў ці што? Мчыць с усіх ног на злом гылавы́. Ух, нясу́цца, як голыў сабе ні пузлумáюць. Ляці́ць, ні глядзі́ць куды, бу́хніцца ў я́му, хочыш — ногі пывыкру́чыіць. Так ужо чэшуць, адзін пініда дным стыря́юцца, хто каго пірягоніць.

## 44. Безразлі́чна

*абыякава, без зацікаўленасці і інтэрасу* — адзінáкава, нявáжна, усёдно́, усёадно́, усёро́ўна (усёраўно́, усёраўна), хоць ба што́, ня го́лена, дык стры́жана, ні хало́дна ні жáрка, ні ў кармáн ні с карманá *а. абсалютна;* хоць травá не расці́, хоць гары́, хоць гáрру гары́ *а. абсалютна, неадабр.*

Няўжэлі табе бізразьлі́чна, што пры цябе стáнуць гывары́ць. А мне адзінáкава — і тэй дужа лáдзін, і етый дужа харош. Мне нівáжна, ніхáй жэніцца, ніхáй ня жэніцца. Я знаю, што табе ўсёдно, дык мне ня ўсёдно, сь кім жыць. Усёадно́ куды йціць, дзьві́нім, знаць, ны Бірязу́йкі. Яму усёро́ўна, пріедзіш ты ці не. Думыіш, мне ўсёраўно́, касі́ць ці пыхáць. Айт, мне ўсёрыўна, капу́сты улі́. Ці гывары́, ці маўчы́, яму хуць ба што. Ікáя там рáзь-

ніца, Іван ці Стыхва́н, ня голіна дык стры́жына, адзіна́кыва сь кім ехыць, што міру, то й ба́біныму сыну бу́дзіць, паеду. Тряпіця што хочыця, мне ат вашыя тріпагні ні халодна, ні жа́рка. Ці ён ку́піць кра́лі, ці ня ку́піць, мне ні ў кырма́н, ні с кырмына́. Ніхай дождж, ніхай ня дождж, ім хуць трыва́ ні расьці. Як жа ён жывець, што яму ўсё хуць гарі́. Я знаю, табе ўсё хуць га́рьрю гарі.

## 45. Бервяно́

*бервяно, ствол ссечанага і ачышчанага ад суччa дрэва (без верхавіны)* — бярно́ *б. вышэйшай якасці;* краж *б. вельмі тоўстае;* па́лка, пале́на *б. сярэдніх памераў, пагардл.;* калода, це́леш (цяле́ш) *б. тоўстае кароткае (звыч. для распілоўкі);* кругля́к *б. кароткае;* бернушко́, бернушо́к *б. адносна невялікае і нятоўстае.*

Рысьпілілі бірьвяно пыпыла́м, два шу́лы вы́йшлі. С твайго бірна́ пыдва́лкі вы́йдуць. Ныцігаў бёрныў ны піцісьценку. Ліжа́ць два кряжы́, ні апхваці́ць. Пушчу́ па́ру па́лык ны рысьпілоўку ны аса́ду. Выля́іцца палена, нада пыць сьцяну́ пыткаці́ць. Здаровыя калода і чы́стыя, столь вы́йдзіць, бу́дзіць аж блішчэць. Харошый целіш, ны аса́ду лу́ччы ні на́да. Во каб айдзе такей цялеш дыста́ць, ды шту́кі трі-чаты́рі, столь ба была́ як яйцо. Зьверьху кругля́к здаровый, а ў сірядзі́ні дуплюва́тый. Апчы́сьціў бірнушко, ніхай пацсохніць, пойдзіць на досткі. Руспусьці́ў бірнушок ны аса́ду і нескылька па́лык пыпыла́м на нарожнік.

## 46. Беспако́іць

*турбаваць, пасяляць трывогу, клопат* — непако́іць *т. у невялікай меры;* трыво́жыць *т. з трывожным клопатам;* ру́піць *т. неадвязна;* скрэсць *т. шчымліва, надакучліва, іншаск.;* му́ліць *т. перашкаджаючы, іншаск.;* таўха́ць *т. напамінам, іншаск.;* тоўхаць *т. напамінам, іншаск., рэдкаўж.;* валнава́ць *т. моцна, іншаск.;* ва́дзіць *т. назойліва, адчувальна, неадабр.*; пароць *т. адчувальна, частымі напамінамі, іншаск.;* трогаць *т. хвалюючы, да расчуленасці, іншаск.;* чапа́ць *т. злёгку, краем, іншаск.;* брыдзець *т. прыкра, надакучліва.*

Мяне ду́жа біспакоіць, што паехылі мае ў лес і ні ўзялі цёплый адзежы. Нас усё ўремя ніпакоіць, як ён

там адзін у нізнакомым горыдзі. Бірягём, бірягём і бярежч некуды, а ўсё трівожыць, хуць ба ня зьдзелылыся чаго. Мне ўсё рýпіць, чаго там дым так шврьгáў пат крышу. Дайжа пыня́цiя ня ймею пра етых чарцей тулкувáць, мяне саўсім другоя скрябець. Кажный мáткі мýліць, як там яе дзеці. Усё нешта мяне туўхáла, ці даехыў ты к сроку. Усё неік тоўхыіць, як ім там у сьвеці. Дужа нас вулнувáла, ці ўсё ў вас було ў пыря́дку. Вáдзіла ўвесь дзень, што забы́ў табе пірідáць Гáньніну прозьбу. Толька зывінýся айдзе, узноў поріць, што ні зайшоў к Зьмітраковым. А чаго мяне далжно трогыць, што яны там нытварíлі, ніхай сáмі біспакоюцца. Неік пряма чыпáіць, што ні схадзíў ні нывясьцíў. Ці ніхáй гаворіць, ці ні гаворіць, мне ета дайжа ні брыдзíць, а во што забыў скызáць Ганьні, што Пёкла прасíла зайціць, неік аж нялоўка, аж мішáіць.

### 47. Беспарáдак

*беспарадак, адсутнасць парадку* — неразбяры́ха, бязлáддзе *б. поўны;* путанніца *б. з-за блытаніны;* рóіла *б. пры складванні*; кáша *б. пры вялікім скапленні, іншаск.;* куламéса, кавардáк *б. вялікі, з поўнай блытанінай;* халэмус, ералáш *б. вялікі і непрыступны, дзе немагчыма разабрацца;* куцярмá *б. вялікі і непрыступны, руск.*

У цябе ні на двор ні пыкызáцца, ні ў сенцы ні ўвайціць — усю́дых біспыря́дык. Нада ж чым адбыриня́цца у еткый нірызьбярíхі. Такога бізлáдзьдзя днём с агнём большы ні знайцíць. Сам пýтыньніцу дзелыіць, а тады ну другíх зьвярнýць хочыць. У хаці було роіла, аж сты́дна пыкызáцца. Ні пасьпелі яшчэ нічога прібрáць, там кáша, і глядзець нечыга. Рáзьві у такой куламесі рызьбярецца хто,— ні ў жысьць ні рызьбярецца. У іх там такей кывырдáк, што сам чорт нагу зломіць. Устроілі халэмус у пýні, усё рыгізою стаíць. Сы трыдá ня вíдзіў такога ірылáшу, як у цябе тут ныграможджына. Дáйжа ня йдзі і ні пыкáзыйся, там куцюрьмá ныстыя́шчыя, зáўтря можа прібярýць троху.

### 48. Біцца

*стукаць, пульсаваць (пра сэрца)* — тáхаць *с. роўна, адчувальна;* тáхкаць *с. роўна, адчувальна, рэдкаўж.;* трапятáцца *с. узмоцнена ў сполаху, с. ціха, роўна, жарт.;*

сту́каць *с. моцна;* ты́хаць *с. адчувальна ў сполаху;* ты́хкаць *с. адчувальна ў сполаху, рэдкаўж.*

Б'ецца у пту́шычкі серца, як ня вы́скычыць. Прікла́ла я руку́ к грудзя́м, дык серца та́хыіць — тах-тах-тах. У цябе серца ні ра́зу так ні та́хкыла, як у мяне. Я ду́мыў, ты памёр, а ў цябе серца тряпечыцца. Ні дзяржы́ся, ні прітвыря́йся, тваё серца сту́кыіць, як мылаток. Так вы́пужылыся, ажно січа́с серца ты́хыіць. Дужа ты́хкыла серца, ні знаю ач чаго.

## 49. Блі́зка

*блізка, на невялікай адлегласці* — недалёка; ра́дам, па cусе́дству *б., побач;* пад (са́мым) бокам, рукою пада́ць *б. зусім;* пад рукою *б. зручна;* пад носам *б. зусім, неадабр.;* не за гара́мі *б. досыць, хоць і не бачна;* на віду́ *б., так, што заўсёды відаць*; на валасо́к *б. надзвычай, жахліва.*

Тут блізка, ты зы час якей туды́ й ныза́д абернісься. Нідалёка пыхадзі́ў, нескылька ба́бык найшоў і вярну́ўся. Вы, знаць, ря́дым стыя́лі, а мы вас і ня відзілі. Ну хутура́х мы с Ыльлёвымі жылі́ пу суседству. Што ты клапоціш, твыя́ пад бокым вы́йшла,— і ў дваре і за́мужым, во мыя́ аж у Му́рмынску. Што тут іці́ць ды таго лужка́, ён жа во, пыц са́мым бокым. Бягі пряма ціряс поля, Шумяні́чы во́ яны, рукою пыда́ць. Люблю́, як інструмент усігда́ пуд рукою. У цябе ж пад носым тапор, а ты і́шчыш, горы пірівярну́ў дыгары́. Ты ж ні зы гыра́мі жывеш, што мінуты якой пріці́ць ня можыш вы́брыць. Вун і́хныя хата, ны віду́. Ты знаіш, я ўчора быў ны выласок ад сьмерці: воўк за мною гна́ўся.— А можа то быў кот?

## 50. Будзі́ць

*будзіць, прымушаць прачнуцца* — падніма́ць, падыма́ць *б., прымушаючы ўставаць, іншаск.;* пароць, успа́рываць *б. катурхаючы, іншаск.;* таўха́ць, таўка́ць *б., злёгку штурхаючы, іншаск.;* тоўхаць *б., асцярожна штурхаючы, іншаск.;* шту́рха́ць *б., катурхаючы досыць рэзка, іншаск.;* шаваліць, шавяліць *б. ціха, павольна, іншаск.;* трэсць *б., рэзка калоцячы, іншаск.*; тармасі́ць, тармашы́ць *б., рэзка калоцячы, іншаск.;* узганя́ць *б. рэзка, не цырымонячыся, іншаск.;* узбутура́ць *б. з шумам, крыкам, іншаск.*

Будзіў-будзіў, чуць растýркыў, — ні хацеў пыднімáцца. Калі засну́, падні́міш мяне пірід зáхыдым сонца. Пыдымí, ніхай мыíцца, цэлыя печ вады. Нада пароць хлопцыў, ужо на зорьку бярецца. Ня дужа яны хочуць, каб іх рана успáрывыў. Туўхáй, рáньня ны дваре, ён жа сам прасіў узбудзíць да сонца. Нада б туўкáць, прасьпíць. Тоўхыў я яго, тоўхыў, ня хочыць пыднімáцца, хуць забí. Штурьхáй яго ні штурьхáй, ня хочыць пыднімáцца. Штýрьхый, ні жалей, кычаіцца чуць ня сýдкі. Шывалí-ка, шывалí, даўно ўремя устаць. Штó, шывялíць ці ніхай трошку пывыляíцца? Трясí, нечыга вылежывыцца, уремя дорыга. Яго тырмасíць нада цярьпення — ні ўстаець і ўсё. Тырмашы́, хвáціць вылежывыцца. Стаў узгынящь, дык ныгáмі адбіваіцца: ні пуцступáйся і ўхадзі. Узбутуря́й, хвáціць вылежывыцца, ніхай меншы бегыіць.

## 51. Бурчэ́ць

*бурчаць, выражаць незадаволенасць, абзываючыся сярдзіта, невыразна* — бубнець *б. паціху, бесперапынна, іншаск., асудж.;* грымець *б. гучна, іншаск.;* гы́ркаць *б. адрывіста, рэзка, іншаск., груб.;* гы́каць *б. адрывіста, гучна, груб.;* балабоніць *б. манатонна, бесперапынна, асудж.;* хýркаць *б. злосна, адрывіста, асудж.;* пýрхаць *б. вельмі злосна, адрывіста, асудж.;* мырчэ́ць, маркатáць *б. паволі, невыразна, іншаск., іран.*; барматáць *б. невыразна, іран.*

Чаго ты бурчы́ш, як бýркыла, сыбрáлыся і пайду, у цябе ні спрашу. Бубнíць і бубнíць цэлый дзень, а чаго — дык і сам ні знаіць. Рузурíлыся мыя гылыва і бісь цябе, а тут ты яшчэ гріміш, спакою ні даеш. Каб цябе шкýра ні чыпáла, я ж цябе ня трогыю, чаго ты гы́ркыіш. Пуўдня́ гы́кыў, пакýль ні ўспакоіўся, усё ні пы яго. Я дыхадзíлыся, кажу, што ні магу стыяць, а ты яшчэ нуд душою былабоніш. Ня хýркый, дужа цябе нехта баіцца ці прізнаець. Што ты ны яе як сьвёкыр буркліывый пýрхыіш. Я табе ні зыпрыдáныя, што будзіш ны мяне пýрхыць. Мырчы́ць, і мырчы́ць, і мырчы́ць, а яго ніхто і прізнывáць ня хочыць. Ні мыркачы́, а вазьмі сам ды піряреж. Хвáціць бырмытáць, зьбірáйся ды паедзім.

## 52. Бяднíцца

*прыбядняцца, прыкідвацца бедным* — прыбядня́цца *п. крыху, гумар.;* скнáрыцца *п. у дробязях, неадабр.;* стаг-

на́ць *п. з скаргамі, іншаск., іран.;* квакта́ць *п. з папрокамі, іншаск., іран.*

Хто б ужо бядні́ўся, толька ня ты. Прібідня́цца ўмеіць, гля́ніш — ну пря́ма кыза́ньськыя сірыта́. Зыкарю́злый, зыкарю́злый, скна́ріцца ўсё ўремя. Сундукі́ і за́сікі ўсяго ўся́кыга ныкря́тына і ныва́ліна, а ўсё стогніць, чуць ня з голыду пыміра́іць. Каму́ — каму́, а табе квыкта́ць стыдна, чаго сь цябе ні хвыта́іць.

## 53. Бяздзе́льнічаць

*бяздзейнічаць, праводзіць час у бяздзейнасці* — гульта́йнічаць, гульта́йстваваць *б. ад лені;* лодарнічаць *б. ад нежадання рабіць;* загара́ць *б. вымушана, іншаск.*; гуля́ць *б., праводзячы час вольна, у забавах;* гу́льма гуляць *б., зусім нічога не робячы, неадабр.;* лы́нды (бры́нды, баклу́шы) біць *б., праводзячы час у бязмэтным бадзянні, іран.;* грэць зубы *б., праводзячы час на свежым паветры, іран.;* валя́ць дурака́ *б., ухіляючыся ад працы, асудж.;* сабак ганяць *б., трацячы час папусту, асудж.;* пляваць у паталок *б., зусім нічога не робячы, руск., іран.;* ляжаць на баку *б., зусім нічога не робячы, гумар.;* лодыра спраўляць *б., зусім нічога не робячы, іран., рэдкаўж.*

І мой любіць бязьдзельнічыць, а ныйпа́чы с тваім зьбяру́цца. Садзісь-ка ты зы прясьліцу, нечыга гультайнічыць. Ні гультайствуй, а ідзі хуць падоньня у сяні́цы сыгрябі́. Аччы́сьці устань хуць пя́цьміны, хва́ціць лодырнічыць. Пріехылі ны машы́нах і ўзноў зыгыря́юць: сеілкі спорчыны. Гуля́іць і гуля́іць, палкі дроў дайжа ляні́цца пірясеч. Гу́льма гуля́іць цэлыя лета, ні кажы яму што зьдзелыць і ні гывары́ — дрень бу́дзіш. Лы́нды б'ець і б'ець, дайжа су́ру с-пад ног ні прібярець. Прівык бры́нды біць, па́лкі с-пад ног ні падні́міць. Баклу́шы б'ець і б'ець дзень прі дні, ні да чога ні дату́ркыісься. Якоя там у яго паство, зубы дзень прі дні греіць, скот як ні па́сьвін. Во пражыў на сьвеце — выляў дуруќа́ цэлый век, па́ліц ап па́ліц ні ўда́ріў. Ні знаіш, што Шурка твой дзелыіць— сыбак гыняіць дзень прі дні. Ты яму гатоў, пыднасі́, трахту́й яго, а ён будзіць у пыталок плюва́ць. Ну што, ты, знаць, цэлыя лета ны баку́ ляжы́ш. Лодыря спруўля́ць ты гатоў, а каб с касою прайці́ць — дык не, а зы цябе ж другея дзелыць ні стануць, ні надзейся.

## 54. Бярэ́жцa

*берагчыся, засцерагаць сябе* — сцярэ́жца *б. пастаянна;* надберага́цца, насцерага́цца *б. у некаторай меры;* абера-га́цца, асцерага́цца *б. вельмі, пастаянна;* прыберага́цца, прысцерага́цца *б. у некаторых выпадках;* засцерага́цца *б. з увагай.*

Бірягі́ся, іх кымпа́нія можыць зьдзелыць усё, што дайжа ні паду́мыіш. Ён ні такей як ты, усю жы́зьню сьцярёгся, ні табе бысяком ні прайшоў, ні халодный вады ні напіў-ся. Посьлі бальні́цы ныдбірігаўся, дужа нікуды ні ла́зіў. Посьлі апіра́цыі нада нысьцірíга́цца, еж большы малошныя. Ідзі, ды абірíга́йся, там дзірька хуць сіміріком едзь. Ты яго асьцірíга́йся, ён калі ні сарьвець, тады зубамі. Абея прібірíга́юцца, куды зря ня пойдуць. Дужа ж ужо прісьцірíга́ліся, бысяком, бува́ла, на мост ні адзін, ні другей, забі, ні ста́нуць. Зысьцірíга́йся, у тубуне ёсьць дужа баду́чыя каровы.

## 55. Бярэ́жч

*берагчы, захоўваць ад страты* — блюсць *б. да часу;* пад-берага́ць, падблюда́ць *б. часткова, да пэўнага часу;* над-берага́ць, надблюда́ць *б. часткова, з разлікам;* прыбера-га́ць, прыблюда́ць *б. эканомна;* хаваць *б. не на віду, ін-шаск., іран.*; трэ́сца, калаці́цца *б. са сквапнасцю, іншаск., асудж.*

Бірягу цубулю, дужа ні расходыю — і сабе нада на семя, і сістра́ прасі́ла пысадзі́ць. Блюла́ сувойчык белінырга пылытна́, а тады пусьці́ла ны руба́шкі, ніхай носюць. Новую адзежыну пыдбірíга́й, у грязь дужа ні гамзі́. Хочыш ты, каб тая кыря́ўка пудблюда́ла адзежыну. Ні тряпі-ка ты харошыга касьцю́ма, ныдбірíга́й, пра́зьнікі скора. Длі каго мне дужа нудблюда́ць, хочуць — ніхай ядуць, кылі есца. Купіла сялёдык, прібірíга́ю, свае ж абішча́лі заехыць. Тэя гады дык прíблюда́ла кілба́сы к іхніму пріезду, а сёліта — вазьмі́ тря́сцу, німа. Усё хува́іць, усё бірягець, як ёй дужа многа нада. Трясецца ныт ка́жныю цубу́лінкыю, кру́ціць, мярьку́іць, каб яе ня то што пыпыла́м, а й пылаві́нкі пыпыла́м разрезыць. Калоціцца нут кусочкым са́ла, вы́ніць, агледзіць і ныза́д паложыць — ні атрежыць і ня зьесьць як чылавек.

## 56. Бяссмы́сліца

*бяссэнсіца, глупства, думка без сэнсу* — ярунда́ *б., дробязь, неалаг.;* чапуха́ *б., пустое;* чуш *б., недарэчнасць;* трылю́да *б. відавочная;* ахінея *б. недарэчная і няскладная;* бязглу́здзіца *б., пазбаўленая ўсякай думкі;* глу́пасць *б., дробязь, руск.*; лухта́ (непадсява́ная), мох з балота *б. абсалютная з выдумваннем.*

Скыза́ла іці́ць удвору — усёроўна як ні ды яго, сядзіць, бяссмы́сьліцу слу́хыіць. Ні гырадзі́ ты мне ірунды́, я бісь цябе рызьбяру́ся, што мне брацць, што ні брацць. Чупуху́ нейкую порiць, а яны і раты́ пырызіўля́лі. Прі́дзіць, чушы нынясець, нывярзець, ду́мыіць, яму хто веріць. Пірістá нь ты тріл́юдыю зынімáцца як Гырáс Пархвеныў. Што ён там рыскажыць, нёс ахінею, аж слу́хыць ня хочыцца. Хвáціць табе бязглу́зьдзіцу слу́хыць, вун ўсё ня дзелына. Глу́пысьць якую рыскáжыць— і ўсе рáды, сьмяю́цца. Сядзеў ба дзень, лухту́ слухыў, каб толька нічога дзелыць ні зыстыўля́лі. Вярзець лухту ніпыцьсівáную, што сам пріду́мыіць. Сыбяру́цца і каб жа казкі, ато мох з балота пруць.

## 57. Вазі́цца

*важдацца, дзейнічаць, рабіць няспешна, павольна* — цáцкацца *в., дробязна даводзячы, неадабр.;* мáсліцца *в., залішне даводзячы, іншаск., неадабр.;* бáбчыцца *в., залішне марудзячы, неадабр.;* мэнчыцца, валы́ніцца *в., бескарысна трацячы час, неадабр.;* дрэнчыцца *в. доўга і па-пустому, груб.;* шарахоніцца *в. цярпліва, іран.;* цырымоніцца *в. цярпліва і доўга, іран.;* чы́кацца, чыкры́ніцца *в. з асцярожнасцю, неадабр.;* бянтэжыцца, валхві́цца *в., пестуючы (дзіцё), неадабр.;* валаводзіцца *в. доўга і беспарадкава, неадабр.;* каніцеліцца *в. доўга і неарганізавана, неадабр.;* далікáтнічаць *в. з празмернай абыходлівасцю, іншаск., іран.;* кукобіцца *в. з асаблівай увагай і прыхільнасцю (з дзіцем, з болькай), неадабр.;* пароцца, калупáцца *в. марудна, іншаск., неадабр.;* капашы́цца *в. вельмі марудна, іншаск., неадабр.;* валту́зіцца *в., барукаючыся, рухаючыся з сілай, неадабр.;* цягацца *в. рухаючыся, іншаск., неадабр.;* кавэнчыцца *в. з болькай, неадабр.;* дуры́цца *в., стамляючы думкі, неадабр.;* масоліцца *в., пэц-*

*каючыся ў тлустае, неадабр.*; квáкліцца *в., пэцкаючыся ў густое, іншаск., неадабр.*; вазголіцца *в., пэцкаючыся ў вязкае і цягучае, іншаск., неадабр.*

Сяньня вазíцца с табою саўсíм німа ўремя, прíдзіш як-небудзь другей раз. Троху цісанí, цісанí дый зыклыдáй у шýлля, дужа ні цáцкыйся с палкыю,—красý нывадзíць. Крыса-то тыкáя шýла, мáсьліцца зь ім цэлый дзень,—троху шпар вы́дзіўбыў і зыкáпывый, бýдзіць стыяць, нійдзе дзеніцца. Ні бáбчыся, сёя-тое скорінька ўкінь у кашолку дый ны калёсы, стыя́ць дужа некылі. Мэнчуцца і мэнчуцца сы снапом, усёроўна як німа другога зыня́ція. Валы́ніціся вы біз усякыга толку. Дрэнчыся зь ім, дрэнчыся, а работа ніхай стаíць. Я б дужа стаў зь еткім супчыкым шырахоніцца, раз-два пыкызáў ба дарогу ныза́д. Цырімоніліся с табою доўга, а цяперь хвáціць, ці за розум бяріся, ці асвыбыджáй места. Ты сам знаіш, што я чы́кыцца с табою доўга ні стáну, хлыбазíну ў рукі і путурю́ піріц сабою. Я табе дылá судзенца кíдыць бульбу, а ні чыкрíніцца. Некылі мне с табою бянтэжыцца, пыбягу якей мяшок травы́ прінясу. Валхвíлыся і зь меншым, і з большым валхвíлыся, дык менщый і пріедзіць, і капейчыну якую дасьць, а большый і носа ні пыкáзыіць, і дайжа пісьмо ляніцца ныпісаць. Доўга зь Мітрыхвáным вылаводзіліся, і ўгывáрівылі, і ўвішчáлі, і чаго толька ня дзелы́лі, — нічога ды чылавека ні даходзіць, тады ўзялі дый прыгнáлі — ідзі куды хочыш. Сколька ўгодна ня возьміць, будзіць кыніцеліцца. Ты б дылікáтнічыў, каб зы цябе хто пастух глядзеў. Нешта малый зыхвырáў, усё жывоцікым жáліўся, дык пасьці дзьве нядзелі кукобілыся зь ім. Пароўся кыла тых вáлінык цэлый вечыр і ні прішыў пы-чылавечы. Кулупáіцца і кулупáіцца, а там аць сілы ны час усяго дзела. Хваціць кыпашы́цца, пірідзівайся ды пыбягíм скорінька к машыні, ждаць нас доўга ні стáнуць. Валтýзіцца і валтýзіцца, а каб хто спрасіў, на што і ны якоя, дык і сам ні знаіць, — так, дзелыць нечыга. Цігáюцца вун лі бані, езьдзюць адзін ны адным. Лáдныга кавэнчыўся з рукою, пакуль зыжылá троху, а то було нічога ні ўзяць і ні к чаму ні прітронуцца. Тут уремя гарíць, дыхнýць некылі, а тут з вамі дурíся. Масолісься ты зь естыю косткыю як мáлінькій. Ні квáкліся дужа, ныклыдáй скарей, пынясу ў кары́та вы́клыду. Сколька ты вазголілыся зь естымі блінáмі? — відзіш, ны быльшаку сколька,—сьцёмшыся ідуць.

**58. Вазня́**

*ważданіна, неапраўдана працяглыя і неарганізаваныя дзеянні* — валакіта, валы́нка *в. прадналмераная;* каніцель *в. бясконцая і безвыходная;* цеганіна *в. цяжкая і працяглая;* клопат *в. вельмі турботная.*

Сколька вазьні було, паку́ліцька тэя спраўкі вы́бігылі. Ну іка́я ж тут вылакіта, схадзі, і стыршына січас табе патпішыць. Ай, ці ты ні зна́іш Ігнацёнка, яму толька каб найціць зачэпку длі валы́нкі. Ні хачу кыніцелі, яшчэ раз с тым чортым зьвя́зывыцца. Хваціла і мне ціганіны, большы ні нада. Було клопыту, ныхадзіліся і набегыліся.

**59. Вало́ссе**

*валасы, раслінасць на галаве чалавека* — хахолле *в. нерасчэсаныя і даўно не стрыжаныя, неадабр.;* ку́длы *в. узлахмачаныя, зневаж.;* па́тлы, касмоцця *в. вельмі ўзлахмачаныя і даўно не стрыжаныя, груб.;* пэйсы *в. даўно не стрыжаныя, што звісаюць на шыю, каўнер, іран.;* кучма́ *в. пышныя, узлахмачаныя, гумар.;* гры́ва *в. вялікія, пышныя, даўгія, іран.;* ку́дры *в. кучаравыя;* хахол, чупры́на *в. над ілбом, іран.;* прычоска *в. упарадкаваныя.*

Рышчыса́ла б троху валосься, ны каго ты пахожа. Як вума́ рішомшы быў, яго ніхто ні глядзеў, хахольлім увесь аброс. На́ зеркыльца, глянь ны свае ку́длы, можа, сам спужа́ісься. Як с такімі па́тлымі за стол лезьць, цябе ўжо ня стрыжч, а смаліць нада. Руспусьціў касмоцьця і ходзіць як чу́чыла ны гародзі. Будзіш у горыдзі — зайдзі ды пыцстрыжы́ся, пэйсы вун пы кыўнярю́ ліжа́ць. Ня лезь кучмою у гаршкі. Зугудува́ў гріву хуць косы зыплітай. Хто іх бу́дзіць зывіва́ць, ат роду такея ку́дрі. Як пацстры́г свой хахол, ны чылавека троху пахож. Ці помніш ты, калі сваю чупріну чыса́ў. Сколька ты ні нывадзіся, веціp зы ра́з тваю прічоску растрепліць.

**60. Везць**

*везці, перамяшчаць пры дапамозе пэўных сродкаў у адным напрамку*—цягну́ць *в. многа, павольна, іншаск.;* валоч *в. вельмі многа або неакуратна, іншаск., неадабр.;* перць *в. вельмі многа, з цяжкасцю, асудж.*; імча́ць *в. вельмі шпарка, неадабр.*

Каму ты вязеш сена? Каторый ужо воз ся́ньня ця́гніць і ка́жный пудоў пы два́ццыць пяць. Толька паехылі, ужо ўзноў вузюга́н вылакець. Такей воз пёр, што як ён толька ныкла́ў. Відзіш, твае памошнікі імча́ць вазы́ на́ўскыч, пызыгыня́юць коні, — унімі і ўспакой.

### 61. Ве́рный

*верны, такі, які не мяняе сваіх перакананняў, унушае давер* — надзёжный *в., такі, на якога можна пакласціся;* прэданный, адда́ный *в., такі, у якога асаблівая сіла і глыбіня вернасці;* непадку́пный *в., такі, якога нельга падкупіць;* закады́шный *в., вельмі блізкі;* прэданный (адда́ный) душою і целам *в., поўнасцю адданы.*

Ты мой са́мый верный тыва́рішч, я табе верю. Кузьма — надзёжный чылавек, раз скыза́ў — дзела сьвя́та, ні пыдвядзець. Большы такога предынныга чылавека ты ні зна́йдзіш. Вун твой адда́ный Кірей, ідзі пыдыма́й яго. Не, пры Лявона ты ні гыварі, чылавек ён ніпатку́пный. Быў у мяне зыкады́шный друг — ета Кыныстра́т, — ны вайне пагіб. Лісей сваёю хвалі́ўся, што дужа предынныя душою і целым, а вярну́ўся с Крі́чыва — паехыла зь Мікілаёнкывым. Яны адзін другому душою і целым адда́ныя, ня то, што ты — прыдасі́ зы капейку любога.

### 62. Ве́рыць

*верыць, аказваць давер* — давярацць *в. поўнасцю;* давяра́цца *в. пры наяўнасці прычын для недаверу;* паклада́цца, палага́цца *в. без сумнення;* дава́ць веры *в. поўнасцю, в. з сумненнем.*

Пірістаў я табе веріць, ты мяне дужа-дужа падвёў. Я іду, а мне наўстречу ряд зялёных ёлычык; табе ўруць, а ты ўсё веріш, дырагой мілёнычык. Яму можна дывіря́ць, ён жа ні разу ні пыдвадзі́ў. Ты ка́жныму дывіря́ісься, ета табе калі-небудзь бокым вы́лізіць. Ны Сярьгея можна пыклыда́цца, ён хлопіц чэсный. Я то дужа ні на кога ні пылыга́юся, а ны Міркулёнкыў пыкла́сца можна. І ты лухце даеш веры?—у яго пра́ўды ні на грош.

### 63. Віднéць

*віднець, пачынаць святлець (у адносінах да світання)* — святлець *в. прыкметна;* світа́ць *в. прыкметна, кніжн.;* віднецца *в., іншаск., абмеж.*; дзяннець *в. досыць пры-*

*кметна;* днецць *в. досыць прыкметна, рэдкаўж.;* зарáць, брáцца на зорку *в. ледзь-ледзь.*

Веціp-веціp быў, як пычынáла віднець. Што ты, вазы ныклáлі як каню́ дзёрнуць, пріехылі, як сьвятлела. Ужо сьвітáла, тады неткуля прівылакліся мокрыя па вýшы. Бýдзіць віднецца, тады пыбягу, а цяпер пыляжу трошку. Іду я, ужо дзяньнеіць троху,— ляжыць ён ны зямлі, адзін і бісь пінжыкá. Устывáй-ка ты, ужо днеіць, зыпрігáць скора нада. Пасі яго, ні прагледзь, ён пыднімáіцца, як толька зыря́іць. Брáлыся на зорьку, як устáлі, яны ні прысьпя́ць, злыйдухі сідзяць у іх.

## 64. Відный

*паважны, такі, які прыкметна выглядае знешне* — заметный *п. досыць*; знáтный *п., прыкметны;* вáжный *п. з вялікаснасцю;* салідный *п., са стрыманымі рухамі і спраўнасцю, неалаг., малаўж.;* сцяпенный *п., павольны ў рухах, руск.;* прадставіцельный *п., высокі ростам, неалаг., руск.*

Пáвіл пыджылы́й чылавек, алі яшчэ відный сь сябе. Ён і ў хлопцых быў заметный — і рослый, і вёў сябе строга. Відзіў яе мужукá, ні скызáць, каб ужо дужа быў, а толька нічога, знáтный мушчы́на. Прііжджáў ідáўна, рызадзетый, вáжный. Усе троя вы́вучыліся, былі ў прошлым гадý, такея салідныя, толька пыглядзець. Антон — мужык сьцяпенный, ён ня кініцца як другія на злом гылавы́. Відзілі мы яго: пріцставіцільный стаў мушчы́на.

## 65. Вініцца

*вініцца, прызнавацць сябе вінаватым* — кары́цца *в., згаджаючыся на расплату;* кáяцца *в., шкадуючы аб зробленым.*

Есьлі ўжо што ні так зьдзелыюць мае, усігдá віня́цца. Каріўся ён піряд ёю, каріўся, чуць ні стынавіўся ны каленкі, дык прасьціла. Кáіўся,— нашто мне так було дзелыць.

## 66. Висóкій

*высокі, вялікі ростам* — рослый *в. не па ўзросту;* доўгій *в. пры малой таўшчыні, іншаск., гумар.;* длінный *в. пры малой таўшчыні, іншаск., іран.;* бальшэ́й, бальшы́й *в. да-*

*статкова*; здаровый *в. пры значнай сіле і камплекцыі;* даўгавя́зый *в., няскладны*; даўгалы́гій *в., з доўгімі нагамі, іран.;* як біржа *в. вельмі, рухавы, неадабр.;* як дрында *в. вельмі, худы, іран.;* як жэрдзь (жардзіна) *в. вельмі, тонкі, груб.*

Вісокія вы́мыхылі хлопцы, ныстыя́шчыя гвардзейцы. Стыхвыня́ты усе рослыя. Нашто б ужо яму росьць такому доўгыму. Вы́рыс длінный, длінный. Ён бальшэй, табе такому кыраты́шку ні спра́віцца зь ім. Усе яны бальшы́я хлопцы. Здаровый мушчына, як дуб. Устрецíла, ішла іна сы сваім,— дыўгывя́зый-дыўгывя́зый. Што ёй пыныра́вілыся ў тым дыўгалы́гім? Вы́рысла як біржа, так і носіцца, так і носіцца, тут ёсьць, тут німа. Як дры́нда вы́цігнулыся, усё бегыіць і бегыіць, як ня дзеўка, а радзіміц нейкій. Знаць, рос як жэрдзь, на лес гледзічы, Вымыхыў хлопіц як жардзіна, куды ён толька й рос.

## 67. Во́ддых

*адпачынак, перапынак у працы* — перады́шка *а. кароткі;* адды́шка *а. невялікі;* праду́ха, адду́ха *а. выпадковы, як прамежак паміж працай;* адду́шына *а. выпадковы і кароткі;* адхлы́н *а. ад знясільваючай працы;* пераку́р *а. кароткі, іншаск.;* перапы́нак *а. невялікі, прадугледжаны, кніжн.;* перапы́нка *а. невялікі, прадугледжаны, рэдкаўж.;* перары́ў *а. невялікі, прадугледжаны, руск.*

Посьлі воддыху узя́ўся зы работу як вол. Хва́ціць, пыдажджы́, нада зьдзелыць хуць нібальшу́ю піряды́шку. Харошыя была адды́шка, ды скора кончылыся. Ацьсеіліся, дык хуць трошку праду́ха бу́дзіць. Сёліта нічога вы́йшла: пыкасілі і пыгряблі, а жніво ні пыдыйшло, дык адду́ха пулучы́лыся. Якоя там свабодныя уремя, адду́шына была, агледзіцца ні пасьпелі. Так ужо вы́білыся сь сіл, калі там якей атхлы́н бу́дзіць. Кынча́й піряку́р, нада дацёсывыць, каб к цёмныму пасьпець ны дзяреўню. Што мы дзелылі пы піряпы́нкых? — курілі. Як будзіць піряпы́нка, я прінясу́ цітра́дзі. Хва́ціць, нымыха́ліся, дывай дзелыць пірярыў.

## 68. Во́ля

*воля, адсутнасць абмежаванняў* — свабода *в. поўная;* слабода *в. поўная, уст., рэдкаўж.;* пата́чка, пабла́жка *в. паблажлівая, без патрэбных абмежаванняў, неадабр.;*

патвора, патворства *в. пры заганнай паблажлівасці, неадабр.;* патýра *в. пры празмернай паблажлівасці і садзейнічанні, неадабр.*; прывілегія, вільгота *в. з асаблівым забеспячэннем;* распýста *в. на ганебнае, асудж.*

Ты хырашэнька запомні: волі ны гылаве хадзíць у мяне табе ня бýдзіць. Глядзí-глядзí, дужа, знаць, многа ты сабе свабоды узяў. Дылá слабоду: мáлінькія, мáлінькія, а цяперь кукýіць, ні знáіць, як пуцступíцца к ім. Ня ў тэя ты рукі, хлопіц, пупáўся, ат мяне пытáчкі ня жджы. Во вíдзіш, дылá пыблáжку, а цяперіцька ні знáіш, як у рукі ўзяць. Многа ты, я віджу, патворы даеш. Мы яго змалку дзіржáлі ў руках, патворства ня вíдзіў, як другея. Патýры ні дывáй, ні прыгыдáіш. Ета ж як з вашыга племя быў брыгадзíр, тады вам была прівілегія, а цяперя мінецца. Луг скасíлі рана, атáва лáдныя, посьлі дажджоў ацскачы́ла, скатý стáла вільгота. Дылá распýсту змáлку, лáсіца, вазіся цяперь.

## 69. Вóчы

*вочы, орган зроку* — глазá *в., неалаг., руск.;* цáцкі *в., іншаск., груб.*; бельмы, бельмакí *в., груб.*; бýркалы, зíркалы, глядзелкі, шáры *в., груб., малаўж.;* зенкі *в., зневаж.;* рýмзы *в. заплаканыя, іран.;* шклянне, шклянкі *в., іншаск., зневаж.*; кіслякí *в. загноеныя, непрамытыя, абраж.*

Веіў ды засы́пыў мякíныю вочы, ні глянуць стала, нада прамы́ць скарей. Хвáлісься, што свае глыза ёсьць, а каго ж ты браў тады. З горычкі спускáлыся, зы трáвушку дзіржáлыся; гдзе былі мае глызá, ў каго я ўлюбля́лыся. Вы́трішчыў свае цáцкі бясстыжыя, ні стыдá німа, ні сырымá. Прулупí бельмы, усе ўжо ны работу пашлі даўно. Більмыкáмі глядзі, куды пресься, ня вíдзіш? — лужа пыд ныгáмі. Ні ўстыўля́йся бýркылымі, куды ня просюць. Чаго ты зíркылы вытрішчáіш, чылавека голыга ня відзіла? Ні прыдывáй глядзелкі, усё чы́ста у хаці ня дзелына. Прулупí шáры, сонца нівісь айдзе, а ты брю́зьніш. Ні бярёг зеньк сваіх, ні прымувáў посьлі пылі, цяперь чуць вíдзіць зерь піріц сабою. Абмы́й рю́мзы, дужа цябе абідзілі — ні так слова скызáлі. Шкля́ньня ац сну апýхла,— бяс просыпу дзень і ноч, дзень і ноч. Ідзець — дык шкля́нкі на сьвет ні глідзя́ць. Вы́лупіўся кісьлікáмі, верна, год ні прумувáў.

## 70. Вы́гнаць

*выгнаць, прымусіць выйсці, пакінуць*—прагна́ць *в. і адагнаць далей;* пагна́ць *в. рашуча;* вы́турыць *в. з напорам і хуткасцю;* пратуры́ць *в з напорам далей;* турну́ць *в. энергічна, імкліва;* пугну́ць *в. напалохаўшы, іншаск.;* шурну́ць *в. з напорам і хуткасцю (звыч. аб групе істот);* шугану́ць *в. з напорам і хуткасцю, іншаск.;* вы́ставіць, вы́дварыць *в. груба за межы памяшкання ці тэрыторыі;* вы́перць *в., нягледзячы на нежаданне ці супраціўленне, груб.;* прапе́рць *в. далей, нягледзячы на нежаданне ці супраціўленне, груб.*; вы́каціць *в. з фізічным уздзеяннем, груб.;* вы́месць *в. хутка, імкліва, іншаск., іран.*; вы́чысціць *в. з калектыву (калгаса), іншаск., спец., уст.*

Ні ўспакоісься — вы́гыню, аж дзіві́цца бу́дзіш, як бу́дзіш дрынчэць. Вы́гынь авец на вуліцу, ніхай біга́ць у насту́х. Узноў прыгна́лі свайго зя́ця, верна, ўжо раз дзіся́тый. Прішоў, расьсеўся як у гысьця́х, а тут яго як пагонюць, аж дзіві́ўся. Эх ты, дажы́ўся, што с хаты вы́турілі. Прутурі́, ніхай зьбегыіць у ла́ўку ды ку́піць, ні малінькій. Турні́ цялёнка, чаго яму ў тэй гарод лезьць, зьмесіць усё. Хацеў быў пріма́зыцца, пугну́лі як мілінькыга. Шурні́ разым з-за прясла, ня столька пускубу́ць, сколька сталу́юць. Шугану́ў раз-другей, большы ня лезуць. Што ты сабе, маліц, ду́мыіш — і раз бацьку завуць у школу, і другей раз, і трецьцій,— цябе ж вы́стывюць. А й хырашо, што вы́двырілі зь дзяреўні, хуць пыцішэла. Ня хочыць пыднімá́цца, ляжы́ць, пру́тым узыгна́ла ды вы́пірла. Прапёрлі чуць-чуць, дайжа ў горыд ні дашлесься. Пашоў, гыварілі, пірірыша́ць, дык чуць ні ны высьпя́ччых вы́кыцілі. Доўга зь ім ні пыца́цкыюцца, вы́мітуць скора. Помніш, быў улез у кылгас і яшчэ пычаў рызіва́цца, дык яго на сходзі тады і вы́чысьцілі, доўга ня чы́кылілся з гырлыхватым.

## 71. Вы́даць

*выдаць, па-здрадніцку выкрыць* — прада́ць *в. з карыслівым разлікам;* уда́ць *в. вераломна;* прыда́ць *в. вераломна, абмеж.;* утапі́ць *в., паставіўшы ахвяру ў безвыходнае становішча;* затапі́ць *в., паставіўшы ахвяру назаўсёды ў безвыходнае становішча;* падторнуць, падторкнуць

*в., указаўшы на ахвяру;* заявіць, падáць *в. афіцыйна;* данесць *в., вераломна паведаміўшы.*

Вакýла быў такей: сам на што-небудзь пудбухторіць, а тады й вы́дысць. Каб цябе ды хто ні знаў, што ты зы чарку гарелкі прыдасі чылавека. Знаіш хто — цябе шумяніцкія хлопцы удáлі, яны відзілі, як ты зь ім ішла пад рýчку. Умесьці пілі, а тады яго аднаго прідáлі. І хто б цябе мог утапіць, я ні ны каго ні магу падýмыць. Зытапілі, ні за што, ні пра што зытапілі саўсім. Можа пудлужáні патторнулі, а можа й кылатовінцы,—відзілі тэя й другея. Патторкніць, а тады сьмяецца, во ўжо халеріна нейкыя. Зыявілі ны яго і ўсё, а ён богу душою ні вінувáт. Хто б мог пыдáць? — нада ж пайціць ны такоя. Ну й ізыкí, ужо дынясьлí і ў дзесіць раз пріклáлі.

## 72. Вы́есць

*выесці, з'есці ўсю траву да астатку (у адносінах да жывёлы)* — вы́скусць *в. рэдкую траву;* вы́грызць *в. да каранёў;* вы́гладзіць *в. да каранёў, іншаск.;* вы́гладаць *в. да зямлі;* вы́травіць *в. ядомае;* вы́біць *в. вытаптаўшы;* здзелаць ток, здзелаць як (на) ток *в., вельмі вытаптаўшы.*

Вы́іў скот аборычык, ні травíнкі німа. Нехта коні пыдзіржáў, вы́скублі бічавíну ныглáдка. Пáрініну кáжныя лета скот як вы́грызіць, нічога ні бувáіць, а тады прагонюць табýн — аткуль што возьміцца. Вы́глыдзілі коні балота — як бýбін стáла. Харошыя была трывá пы лагý, а трі тубуны́, як зупусьцíлі,—вы́глыдылі нáчыста. Вы́трывілі Шы́іну зы адну ноч. Вы́білі пáрініну, аж пыл пыднімáіцца, а травішча ж была—касу зыклыдáй. У лесі табýн ну тубунý, прáма ток зьдзелылі. Лі Мáслывыга балота зьдзелылі як ток. Зы два дні зьдзелыюць на ток і Міждарожжа.

## 73. Вы́капаць

*выкапаць, зрабіць паглыбленне* — вы́рыць *в. са значнымі намаганнямі;* раскапáць, разры́ць *в. занадта шырокае паглыбленне;* разбýхаць *в. празмерна шырокае паглыбленне, неадабр.;* вы́бухаць *в. празмерна вялікае паглыбленне, неадабр.*

Вы́кыпыў сáжылку, ныбрáлыся вады, паўнюсінькыя, як вока. Вы́рыць то вы́рыў, а толька хвацíла, убíўся здо-

рыва. Нашто ты рыскыпа́ў такую я́мішчу. Разры́лі тэй погріб — ты́січу пудоў сып. Ідзі, ямку вы́кыпый, толька ні разбу́хый як на хутырі, што було хуць сіміріком зыіжджа́й. Вы́бухылі дык вы́бухылі я́міну, зысыпа́ць ны пылаві́ну нада.

### 74. Вы́піць

*выпіць, ужыць вадкае* — вы́жмурыць *в., жарт.;* вы́цягнуць *в. няспешна;* вы́смактаць, вы́цмактаць *в. заўзята, іншаск., іран.;* вы́ссаць *в. заўзята, іншаск., асудж.;* вы́цадзіць *в. да кроплі, груб.;* вы́жлукціць *в. у значнай колькасці, іран.*; вы́хлябтаць, вы́лакаць *в. з прагнасцю, іншаск., груб.;* ажажу́рыць *в. многа, асудж.;* перавярну́ць *в. да дна, іншаск., неадабр.;* апаражні́ць *в., не пакінуўшы ні кроплі, іншаск., іран.*; асушы́ць, вы́сушыць *в. дасуха, іншаск., іран.;* кулды́кнуць *в. хуценька, адным махам, іншаск., гумар.*

Адным глытком кружку мылыка вы́піў, во́ горла дык горла. Калі йта ты пасьпеў кушунок бярёзывіку вы́жмуріць? Вы́цігнуў конь пуўтыра́ цэбра, піць дужа зыхацеў. Хува́й да́льшы: на́йдзіць — вы́смыкчыць і бу́дзіць выля́цца. Найшоў пра што кыза́ць — яму паўлі́тра вы́цмыктыць, як табе стыка́н вады вы́піць. Ніхай толька буты́лку пупадзець, з горла вы́сьсіць і стыка́на ні ста́ніць ждаць. Што-што, а бутылычку вы́цыдзіць умеіць. Вы́жлукціў усю ваду і мне ня кінуў. Пу́ста ўжо, вы́хліптылі, нічога німа. Пыдыва́й ім, узнасі́ся — вы́лыкыюць, і спасі́ба ні пачу́іш. Рызагреўся, а тады с пуўвідра халодныя вады ажажу́ріў, ну й зьлёг. Пы стыка́нчыку пірівярну́лі, а тады пу другом дыба́вілі. Пыста́віла пы бальшэнный кружкі — апаражні́лі мігым. Графі́нчык удваіх асушы́лі і яшчэ глідзя́ць. Што ім тэй лі́тыр, яны б вядро вы́сушылі. Кулды́кнуў стыка́нчык, наверьх другей, гурок у рот і пашоў.

### 75. Вы́прасіць

*выпрасіць, атрымаць у выніку просьбы* — вы́маліць *в. з уніжэннем сябе;* вы́клянчыць *в., прыстаючы з працяглай назойлівасцю, неадабр.;* вы́цыганіць *в., прыстаючы з неадвязнай назойлівасцю, іран.;* вы́канькаць *в. з працяглым хныканнем, неадабр.;* вы́мандзырыць *в. ашуканст-*

*вам, неадабр.;* вы́манчыць, вы́цягнуць *в., прыстаючы настойліва і надакучліва, неадабр.;* вы́плакаць *в. са слязамі, іншаск., неадабр.;* вы́маніць *в. працяглай надакучлівасцю, неадабр.*

Зыкарю́злый чылавек, у яго са сьвечкыю нічога ня вы́прысіш. Тыка́я ўжо йна — што хочыш вы́мыліць. Са́ўка ўсігда бува́ла як ныста́ніць, як ныста́ніць і ўсёро́ўна вы́клінчыць. Вы́цыгыніць ён у любога, пріста́ніць — дык руба́шку зьдзеніш і аддасі. Ты і ў ніжывога вы́кынькыіш. Пры Га́пку ты мне ні талку́й — вы́мындзыріць у дзіцёнка і тады сьмяецца. Ні ра́зычку с хаты ня пойдзіць да тых пор, паку́ліцька чаго-небудзь ня вы́мынчыць. Будзіць ныдыіда́ць і ныдыіда́ць і абіза́цільна вы́цігніць. Што, у цябе вы́плыкыла пінжачок? — у мяне руба́шку. Ты ўмеіш вы́мыніць, як цыга́нка іка́я, ато й яшчэ чы́шчы.

### 76. Вы́сахнуць

*высахнуць, стаць сухім* — вы́чаўрыць *в. вельмі;* вы́петрыць *в. празмерна, зрабіўшыся лёгкім, неадабр.;* перасо́хнуць *в. звыш меры;* засо́хнуць *в., пакрыўшыся цвёрдаю коркай.*

Прішоў — ла́піка сухога ні було, усё мокрыя, а за́ ныч вы́сыхла. Зімля́ вы́чыўріла, лупа́ткі ні ўбадзю́ліш, нада-нада дождж. Курчы́гі пыць сьцяною за лета ня толька вы́сыхлі, а й вы́пітрілі. Зьнімі жы́та сь печы, яно даўно пірясохла. Так зімля́ засохла, што зьверьху як кірьпічы́на, прыпа́ла ўсё біз дажджу́.

### 77. Высме́іваць

*высмейваць, выражаць насмешкай адмоўныя адносіны* — прасмяха́ць *в. усюды*; асме́іваць, абсме́іваць *в. рэзка*; насмяха́цца *в. слабейшага;* надража́цца *в. здзекліва слабейшага.*

Другі́х ты высьмеівыіш, а сам якей. Найшоў ты каго прысьміха́ць, ён у трі разы старей зы цябе. Айдзе ні пыка́жыцца, усюдых асьмеівыюць. Сьпіцыяліст апсьмеівыць, толька каб каго-ніб́удзь, ні сябе. Ну што ты ныд дзіцёнкым нысьміха́ісься. Нат кім-небудзь ты ма́сьцір ныдрыжа́цца, а цябе зычапі́ — дык на́дыбы.

## 78. Вы́спацца

*выспацца, задаволіць патрэбу ў сне* — атаспа́цца *в. пасля доўгага часу без сну;* вы́качацца *в., доўга спаўшы і валяўшыся, іншаск., іран.;* вы́брузнуцца *в., вельмі доўга праспаўшы, асудж.*

Ці я ні зна́ю — табе вы́спыцца нада су́дык троя пыдря́д. Ну, сяньня, знаць, атыспа́ліся за ўсю нядзелю. Калі ты ўжо вы́кычыісься, як табе бакі ні збыля́ць ат лежні. Устыва́й, устыва́й, вы́брюзнуўся ўволю, большы некуды.

## 79. Вы́тапіць

*выпаліць, закончыць паленне* — пратапі́ць *в. хутка;* пракла́сць *в. злёгку, іншаск.;* прапалі́ць *в. злёгку, кніжн.;* пракуры́ць, вы́курыць *в. нязначна, іншаск.;* вы́паліць *в. няспешна, добра, кніжн.*

Печ вы́тыпіш і хлу́зым, толька ціпла ты́ ат яго ня жджы. Уста́нь-ка ды прытапі́ сам, ато ўсё я ды я, а ты нашто ў хаці. Паку́ліцька печ прыкла́ла, дык і скот прыгна́лі — ні пагледзіла. Летым дубовыя дровы у баню ні нада, трошку прыпалі́ў і мы́йся. Ра́нінька, с сонцым, устаю, печ трошку прукурю́ і пабегла ў лес. Ні було калі дужа мэнчыцца, на скорую вы́куріла, гаршчонычык бульбы пріста́віла і пабегла. Можа б ты сам як-небудзь вы́пыліў, а я б пышла ды хуць гря́дкі трі бульбы пірійшла́.

## 80. Вы́церпець

*вытрымаць, перанесці выпрабаванні (мукі, пакуты, гора, боль)* — вы́трываць *в. параўнальна лёгка;* вы́дзержаць, вы́несць *в. выпрабаванні стойка;* пера́несць *в. працяглыя выпрабаванні;* перацярпе́ць (пераце́рпець) *в. пакутлівыя выпрабаванні;* паражы́ць *в. стойка працяглыя выпрабаванні;* перагарава́ць *в. выпрабаванні ў муках;* перасмягава́цца *в., пакутуючы з-за нястачы харчавання.*

С са́мыга ра́ньня так лумані́ла гылыва́ — вы́цірьпіць нільзя. Баню ныпалі́ў, ныда́ў ду́ху, што чуць вы́трывыць і вы́пыріўся,— усю прасту́ду як рукою зьняло. Стаў ну вухна́ль нагою, ён і пралез чуць ні наскрозь, дык чуць вы́дзіржыў ад болі. Вы́ніські мы ўсяго за свой век, былі і с хлебым, і з вадою. Сколька яны пірінясьлі́ абея ат

яго хыра́кціра, ніхто толька ні знаіць. Піріцярьпела, ні зыкрічáла, хуць було ня вы́трывыць. Піряцерьпілі, хвáціць, як біс хаты асталіся. Піріжылá я ўся́кыга ны сваім вяку, було й хырашо, а було й такоя, што урагу́ свайму́ ні пыжыла́ю. Ні такоя піріжывáлі, пірігарю́іш і ету бяду. Што ж ты зьдзелыіш, год як-небудзь пірісьмігу́імся, а там іка́я ча́рка мылыка́ бу́дзіць.

## 81. Гадзі́ць

*гадзі́ць, задавальняць, робячы прыемнае* — ла́дзіць *г. з пачуццём уласнай годнасці;* угаждáць, дагаждáць *г. паслужліва;* угаджáць, дагаджáць *г. паслужліва, іран.;* угоднічаць *г. вельмі паслужліва, неадабр.;* пісáць *г. надзвычай паслужліва, іншаск., толькі з прыназ. перад, іран.;* хадзіць на пáльчыках (на зáдніх лáпках) *г. з празмернай ветлівасцю, іран.;* гадзі́ць як ску́ле (ліхой ску́ле) *г. вымушана.*

Ты яму гадзі́, ты яго трахту́й, а пыпрасі́ што зьдзелыць — толька тады й чуў. Ла́дзіла я ім, ла́дзіла, толька віджу: толку ня бу́дзіць, ні ўжыву́. Я ім дужа угыждáць ня буду, ніхай абнырывя́ць і пыдажду́ць. Міну́лыся тоя ўремя, што табе дыгыждáлі. Ты ёй угыджáй, пішы́ піряд ёю, а йна цябе скыря́віць кырявей кыря́ўкі. Што найшоў, то й еж, ня жджы, каб табе дыгыджáлі. Прівы́к ты, каб пірі́т табою угоднічылі. Так ужо стыря́іцца, так стыря́іцца, аж пішыць. Ганна пішыць піряд Полькыю, надзеіцца ны яе бульбу. Хадзі яму ны пáльчыках, ета ён любіць. Хуць ты хадзі піряд ёю ны задніх лапкых, усёднó бу́дзіць бріха́ць, так ня бойдзіцца. Прівык, каб усе гадзілі табе як ску́лі. Нягож, зыхацеў, каб яшчэ я табе гадзіла як ліхой ску́лі.

## 82. Галавá

*галава, частка цела чалавека* — лазбéнь *г., пагардл.;* башкá, мазкаўня́ *г., іран.*; кацялóк, чарапóк, чарапáнка, шалабáнка *г., груб.;* ку́мпал *г., іншаск., зневаж., адзінк.*

Вы́мыла гылаву, цяперя сяджу́, сушу́. Ні пыцстыу́ля́й лазьбень, кылі хочыш, каб цэл быў. Башкою думый, раз ны плічáх сядзіць. А мызкыўня́ табе нашто — ду́мыць ці касмоцьця насі́ць. Кыцялок ны плічах носіш — дык думый. Чыряпок твой саўсім ні вáріць. Каб ты паду́мыў

чыріпáнкыю, дык ба ні стаў так дзелыць. Убірáй сваю шылыбáнку, пакуля па ёй ні пупáла. Кýмпыл ны плічах носіш, толька ён табе ці нада.

### 83. Гараваць

*гаравацъ, жыць у горы* — мýчыцца *г. увесь час;* бéдстваваць *г. страшэнна, кніжн.;* цярпéць, перажывáць *г. у нястачы;* страдáць *г. працягла*; гора гаравáць *г. востра*; гора мы́кацъ *г. у пакутах і нястачы.*

Ні гарю́й, ні старýха, нáйдзіцца хто-небудзь яшчэ і табе. Чаго ні було, а мучэньня хвытáла, мýчыліся, ніхто ні знаіць як. Васіль ня тэй чылавек, каб бедствывыў. Цярьпела дый гыварю́ сабе — хвáціць; зы палку і пряма яму: «Ні хацеў жыць — вон с хаты!» Буду я дужа пірі-жывáць із-зы таго біндавокыга. Стрыдáю, што ніхто толька ні знаіць як. Було мне ач чаго горя гурювáць — пулучы́ла ізьвяшчэння ны днаго, а ўскорысьці прішло ну другога. Мы́кыю горя ўвесь век, а ім хуць ба што, ні спыгыдáюць, ні пусучýствуюць.

### 84. Гарэць

*гарэць, спальвацца на агні* — цьмецъ *г. без агню;* сіпецъ *г. (пра сырое);* тлець *г. без агню;* капцець, капціць *г. з чорным дымам;* пылáць *г. вялікім агнём;* шугáць *г. вялікім полымем;* бушавáць *г. вельмі вялікім і моцным агнём, іншаск.;* гудзецъ *г. вельмі моцным агнём з гудзеннем, іншаск.*; смылецъ *г. моцна, ярка*; кіпецъ *г. моцна, з сілай, іншаск.*

Гнілýю салому пытпалілі зь вечыра, дык ня столька гарела, сколька дыміла. Мáмінька радзíмыя, гарела неба сінія, гарела неба, тáіла, любíла, ды астáвіла. Паткíнула таршы́н, ды сурувáтых, цьмеюць і ўсё. Уськінула асінывых пáлык, сіпя́ць, адзін дым. Гнілýшкі, пырыхня́, толька тлеюць. Сыры́я хря́пкі сасновыя кыпця́ць і кыпця́ць, агню́ ня вíдна, адзін дым. Ні кідáй смылякоў, капціць будуць, ды́мым усё возьміцца. Кусты́ пылáюць, толька íскырья сы́пліцца. Шугáла нешта у бок Сквіряты́ ны паўнеба, аж кропна було. Смылякі́ бушýюць, ажно ў комін агонь скáчыць. Ныкря́тылі на хворысьця смылякоў, пряма гудзя́ць. Сýчча вы́сыхла, смылíць — ні пуцступíцца. Гумно було дужа смалíстыя, а тут вецір, дык яно пря́ма кіпела.

**85. Гато́віцца**

*рыхтавацца, рабіць падрыхтоўку* — гатава́цца *р. досыць энергічна, гумар.;* падгата́ўлівацца *р. загадзя*; падгатаўля́цца *р. загадзя, абмеж.;* прыгата́ўлівацца, прыгатаўля́цца *р. крыху, абмеж.;* збіра́цца, сабіра́цца *р. дзейсна, іншаск.;* рапярці́цца *р. энергічна, гумар.*; шарудзі́цца *р. мітусліва, гумар.;* шарахо́ніцца *р. дзейсна, з шумам, іран.;* харахо́ніцца *р. дзейсна, з шумам, абмеж.;* шарава́цца *р. спяшаючыся, гумар.;* напараджа́цца *р. у дарогу, іран.;* трахтава́цца *р. карміць, частаваць, гумар.*

Я дужа ня буду гатовіцца, са[illegible] нарежу, гуркоў вы́біру, ніхай ядуць. Гутуваліся цэлую нядзелю. Дыва́й пыдгыта́ўлівыцца, у Ходысых поізд ма́ла стаіць. Антон пычаў пыдгытыўля́цца к сва́дзьбі. Ні цягні́, прігыта́ўлівыйся, зразу посьлі абеда пыбягі́м. А што мне прігытыўля́цца, пінжа́к на плечы — і ўся пыдгатоўка. Зьбіра́йся скарей, ра́зым пыбягім ны быльша́к. Даўно сыбіра́юцца к сва́дзьбі, ныгатовілі ўсяго ўся́кыга. Ріпярці́ся, сяньня ж твой зьбіра́ўся пріці́ць с хлопцымі. Шурудзі́ліся, шурудзі́ліся — і на табе, гы́рмані́ст паехыў у дровы. Як ён шырахоніўся: рыбы нылавіў у Сажы́, пырасёнка зарезыў, гарелкі нукупля́ў — а яны ні заехылі. Відзіў, хырахоніліся, верна, ны запоіны. Выгла́джыюцца, ма́сьлюцца, шуру́юцца і ў вакно пыгліда́юць, а там дождж як зь відра льлець. Куды ж сяньня ныпырядзі́ліся, ці ні ў Жыга́лкі? Трахту́йся, госьці едуць, самыя ва́жныя твае.

**86. Глядзе́ць**

*глядзець, накіроўваць погляд* — пагляда́ць *г. час ад часу;* пагля́дываць *г. урыўкамі, рэдка;* прыгляда́цца, прыгля́дывацца *г. уважліва;* угляда́цца, угля́дывацца *г. з напружаннем;* узіра́цца *г. з напружанай цікавасцю;* любава́цца *г. з прыемнасцю, асалодай;* зерыць *г. прыжмурана, неадабр.;* зрэць *г. са здзіўленнем, іран., абмеж.*; лы́пацъ *г. з неразуменнем, неадабр.;* зы́ркаць *г. час ад часу, злосна, неадабр., абмеж.;* лы́біцца *г. нахабна, асудж.;* вытрашча́цца *г. уважліва, асудж.*; вылупля́цца *г. уважліва, груб.;* пя́ліцца, пя́ліць зе́нкі *г. з большай увагай, чым трэба, здалёк, асудж.*; не звадзі́ць (не спуска́ць) вачэй *г. неадрыўна, з зацікаўленасцю.*

Глядзі́-ка, там далжны́ быць пу́кынкі, яны смашней, чым зь дзеріва. Пыгліда́ю, можа тога вірязу́быга увí́джу.

Пыгля́дывый, я зы цябе ня буду глядзець. Ходзіць, усё нешта прігліда́іцца, што-то, знаць, шука́іць. Уніма́цільна, уніма́цільна прігля́дывыўся, як што пызнываў. Што ты ўглі̀да́ісься, — абыкнавенный сьвісту́н, рускусі́ — там чырьвяк. Угля́дывыйся — ні ўгля́дывыйся, нічога ня ўві́дзіш. Узіра́ўся ды ня ў тэй бок, а чэрня дызарезу нада. Любуіцца сваімі сенцымі, давёў як яечка. Стыяў, зеріў нешта ны балота. Пыдажджы, мы яго угаворім, ато ён ня хочыць зрець. Стыяла тая ды́лда, толька лы́пыла. Збоку пріту́ліўся, усё нешта зы́ркыў — то гля́ніць, то атверніцца. Чаго ты лы́бісься, праскоўкі ня відзіў? — можыш сам пулучы́ць. Вытрі̀шча́ісься, як нейкій ціляпень піря́дніньській. Хто ня йдзець, ны ка́жныга вылупля́юцца, як людзей ня відзілі. Ні пя́лься, а пыдыйдзі́ ды пыглядзі́, як нада, а хочыш што скыза́ць, дык скажы. Лі пря́сла стыялі і ўсё нешта пя́лілі зенкі у тэй бок, а тады шу-шу-шу-шу адна другой. Нешта ты с Анюты вачэй ня зводзіш. Куды ня пойдуць, іна зь яго вачэй ні спуска́іць.

### 87. Гнаць

*гнаць, прымушаць рухацца* — туры́ць *г. вельмі шпарка;* каці́ць *г. вельмі энергічна, іншаск.;* перць *г. груба.*

Я гнаў скот у пастух і ві́дзіў, як ета ў іх зывя́зывылыся сварка. Турі авец, хва́ціць ім капусту абгрызаць. Каціла яго піріц сабою пру́тым, пыкызала і вічарінку і вічарі́нышнікыў. Пёрла б с хаты качу́лкыю, каб ногі дрынчэлі.

### 88. Гнісць

*гнісці, псавацца пры гніенні* — тлець *г., непрыкметна разбураючыся;* тынець *г. ад сырасці;* прэць *г. ад сырасці і цеплыні;* трухлець *г., прыкметна разбураючыся (пра цвёрдае);* парахнець *г. у парахню;* трупехнуць *г. да мяккасці (пра дрэва);* гарэць *г. пры злежванні ў сырасці, выдзяляючы цяпло.*

Бульба гніець, нада скарей пірібраць. Пыглядзі́-ка, пірібярі адзежу, ці ня тлеіць іна ў цябе. Бочка тынеіць у погрібі, нада вы́цігнуць наверьх. Ныкря́тыла кучу ўсякыга шырабу́рья, преіць, ажно па́хніць прелым. Трецьцій год салома ляжыць, трухлеіць. Ліжала куча сакі, пырах-

нела, дык пустухі пытпалілі. Крю́чча на крышы зыцікáіць кыла коміна і трупехніць. Зірня́ты ссы́пылі сыры́мі,— гыря́ць.

### 89. Гóра

*гора, падзеі, абставіны, якія выклікаюць пакуты, нягоды* — бядá, няшчáсце *г. нечаканае, у выніку якіх-небудзь здарэнняў;* нядоля *г. працяглае*; бяздóлле *г. пастаяннае;* безгалоўе, немярэ́ч *г. раптоўнае, цяжкое*; ліха, ліхалéцце *г. злое;* кáра *г. як пакаранне;* трáсца *г. раптоўнае, прыкрае;* напáсць *г. раптоўнае, вельмі прыкрае;* навáла *г. шмат;* насланнé, праклянцце *г. як фатальная, непазбежная з'ява.*

Якоя ета горя ны маю гылаву́ — вумá ні прікладу́, У нас еткыя сáмыя біда тожа случы́лыся, гады трі нызáд. Столька тае бяды, а ўбіваíцца як німаведыма па чым. Нешта даўно мае ня пішуць нічога, каб якога нішчáсьця у іх там ні було. Сколька ўжо ўремя — усё ў нядолі жывець. Прыжылá ў бяздольлі ат рáньня ды зьмірькáньня. Аткуль якоя бізгалоўя — усё ны мяне, усё ны мяне. Адню толька піріжылí, другáя німяреч нывалíлыся. Такоя ўжо ліха сёлітній год нывалíлыся, што пряма ні знаю. Пыдажджы́, мінецца ліхалецьця, як-небудзь піріжывём. Длі цябе ета ныстыя́шчыя кáра. Ізноў тыкая ж сáмыя трясца нывалíлыся. Купіў ныпáсьць ны сваю гылаву́, важу́ся цэлый дзень як з бальною ску́лыю. Еткыю нывáлу сёліта піріжылá, нікому ня зычу такога. Усёдно як нысланьнё адню за дным ны мяне. Узноў ны мяне ета прыкля́цьця: ён зьлёг, адна піклу́йся, хвытáй ротым і носым.

### 90. Грáзный

*брудны, пакрыты брудам* — карáвый *б., злубелы ад засохлага бруду;* бру́дный *б., кніжн., абмеж.;* мурзáтый *б. на твар;* заму́рзаный, абму́рзаный *б. вельмі на твар;* замурзáный, абмурзáный *б. вельмі на твар, рэдкаўж.;* рудзя́ный *б. да чарнаты;* зарудзéлый, закарэ́лый *б., пакрыты застарэлым брудам;* брудзя́ный *б. надзвычай;* закару́злый, каржанéлый *б., пакрыты вельмі застарэлым брудам.*

Ні хадзí грязным, памы́йся ды пірядзенься. Прівы́к хадзіць кырявым, у баню ні дашлесься. Пыцягну́ўся некуды бру́дным, аж пацёкі пы шчыкáх. Мурзáтыя-мурзá-

тыя бегыюць па вуліцы. Такей замýрзыный ты са мною ня пойдзіш. Абмýрзыный, кырáвый неткуль чуць пріцягнýўся. І ўчора зумурзáный, і сяньня еткій самый. Нямы́тыя, абмурзáныя, адны толька вочы блішчаць. Некуды ўжо рубашку ныдзівáць, рудзяный каўнерь, вазьмі другую. Уся адзежа зурудзелыя, нада шчолык дзелыць. Ікáя ны табе адзёжа зыкарелыя, яе ж ні дамы́ісься. Пыль, грязь, усё брудзяныя, ні намы́ісься і ні ныацьцірáісься. На што ўжо што, а ны табе кожа пряма зыкарю́злыя. Выляюцца вун лі вуглá тваe трáнты кыржанелыя.

## 91. Грубíць

*грубіць, гаварыць грубасці* — грубіяніць *г. са скандалам, неалаг.;* хамíць *г. па-хамску, неалаг.;* вока на кулáк несць *г. з нястрыманасцю.*

З мылалества такей — кáжныму грубíць і ўсё. Мáлінькій быў ціхій, а цяперь грубіяніць, слова яму ні скажы́. Папробый пыгыварі зь ім — хамíць любому. Ніхай мáлый, ніхай стáрый, ён кáжныму вока ну кулáк нясець і наўгрудкі кíдыіцца.

## 92. Грымéць

*грымець, раздавацца (пра гром)* — стýкаць, грýкаць *г. адрывіста;* бýхаць *г. моцна, адрывіста*; біць *г. рэзка, адрывіста;* трахаць *г. рэзка адрывіста, абмеж.;* стукатáць, грукатáць *г. працягла, раскаціста.*

Толька я прашнýлыся, і пычало грімець. Стýкыла, стýкыла, а дождж так і ні сыбрáўся. Глядзі, што дождж пройдзіць, даўно нешта грю́кыіць. Во ўжо бýхыла ноч, я вачэй дайжа ні зьвілá. Нешто цэлыя лета б'ець, нейкія грозы сталі стрáшныя. Ой, як трáхыіць, як неба пупулáм ськіпáіцца. Ну што толку, што яно стукочыць, кылі зімля пірясохла як камінь, і дайжа ні прабры́зьніць. Крепка грюкутáла ноч, а ўраньні харошый прайшоў, ні забойный.

## 93. Гýртам

*гуртам, некалькі чалавек разам* — гуртóм *г., рэдкаўж.;* гурбою *г. значным;* рáзам, умéсце *г., сумесна;* кýчаю, гáмузам *г. вялікім і неарганізаваным;* рóем *г., мноствам;*

саабшчá, саўмéсна *г. сумесна, руск.*; арцéллю *г., зладжана;* калякціваm *г., зладжана, неалаг.;* талакóю *г., спецыяльна скліканым;* скóпам *г. вялікім, бязладным, рэдкаўж.;* арáптам *г., зладжана, уст., рэдкаўж.*

Калі ім було дужа рыссáджывыцца, трошку глыданýлі ны хадý і гýртым пыдаліся ціряз речку. Гуртом ім апетывыць етый чугунок раз-два. Ходзюць вун гурьбою с кынца ў канец па вуліцы. Кылі разым возьміціся, дык етыя палкі вам згуртувáць і дзелыць нечыга. С пыдмітáйлыю ўмесьці я і стыяць дайжа ні хачу. Цэлую кучыю зыявіліся, вічаріык ім нехта нуспруўляў. Гáмузым вы́сунуць — дык ім тую бульбу схваціць і дзелыць нечыга. Прільнýлі роім, глянь-ка, сколька коп пыстáвілі. Проста табе нехта глузьдзіў, айдзе тэя карю́зьлікі сыыбшчá возьмуцца. Хто там што саўмесна дзелыць станіць — хлю́ндра, бэньсь і бырдады́н? Арцельлю як прільнýлі, дык і такую цэль быйстра склáлі. Дружный у іх народ, за ўсё ўсігда кылікціывым бярýцца. Ныляцелі тылакою, ны пыўдня́ тае работы було. Во гыварілі, што будзім скопым, — аж удваіх явіліся, і большы каб лялька. Што ні бярýцца дзелыць, яны ўсігда арáптым.

## 94. Даглядáць

*даглядаць, ажыццяўляць догляд* — прыглядáць *д. клапатліва;* глядзéць *д. час ад часу;* ухáжываць *д. старанна;* ухáджываць *д. старанна, уст.;* валхвіць, бянтэ́жыць *д. з асаблівым важданнем (дзіця), неадабр.;* цáцкацца *д. з празмернай увагай, неадабр.;* ня́нчыць *д. з празмернай увагай, іншаск., неадабр.;* пéсціць *д. з асаблівымі клопатамі і ласкай;* аглядáць, абглядáць *д. утрымоўваючы.*

Лáдна ўжо, едзь, пáру якіх дней і я буду тваю доінку дыглідáць. Як ні пріглідáю, а нешта дужа німа я́блынкым расьценія. С самыга рáньня лі яго тыўклáся, глядзела, а тут нада і на двор вы́скычыць глянуць, — ужо абедзьдзя, а я і ні агрішáлыся. Каторый год ляжыць Хадоска пластом, меншыя за ёю ухáджывыіць. Так ужо за імі ухáжывыю, што ім нічога ні нада. Валхвіла яго, валхвіла, дык ён і адзьдзя́чыў. Умáлку бянтэжыла — цяперя бянтэж. Цáцкыйся, цáцкыйся, дýмыіш, якей узны́к бýдзіць. Ня́нчыла гадоў ды пяці, з рук ні спускáла. Дзірявенцы так сваіх ня песьцюць, як ты дýрісься.

Злума́ла нагу, кавэнчыцца, — і яе аглідаю, і ў сябе ніхто зы мяне ня зьдзелыіць. Гады трі яе абглідалі, а тады дычка пріехыла і зыбрала.

## 95. Дажыцца

*дажыцца, дайсці да апошняга ў жыццёвых патрэбах, расходах* — дажыць; прыжыцца, прычыхацца *д. дашчэнту, іран.;* дастукацца *д. у выніку неашчаднасці, іншаск., асудж.;* дастукаць *д. у выніку неашчаднасці, іншаск., асудж., абмеж.;* прычыгацца, дачыгацца, прыдрыгацца *д. у выніку безгаспадарлівасці, іран.*; прычыгаць, дачыгаць, прыдрыгаць *д. у выніку безгаспадарлівасці, іран., абмеж.*; даскакацца *д. у выніку гультайства, іншаск., іран.*; даскакаць *д. у выніку гультайства, іншаск., іран., абмеж.*; дакаціцца *д. у выніку легкадумнасці, асудж.*; датраціцца, датранжырыцца *д. у выніку непрадуманых страт, асудж.*; дайціць да ручкі *д. канчаткова, іран.*

Скажы ты мне, ды чаго ты дыжывесься с такімі зымашкымі. Што ты дальшы сам сабе думыіш — дажыў, куска хлеба ны стале німа. Дзелыць нічога ня хочыць, дык пріжыўся — што толька на ём, то й быгаства яго. Прічыхыіцца, бувала, бяз бульбіны сядзіць, — і ўсё гультайства. Дастукыісься і ў етым гаду, як у прошлым. Дастукылі — жывуць як старцы сапрыныўскія. Прічыгыліся, што нічагенічка німа. Папомніця маё слова: дачыгыіціся — будзіця бульбіну прасіць пазычыць. Што, і ты прідрыгыўся як Сімын лешчынскій. Прічыгыла, што спыднічэнкі незышта купіць. Дачыгыіш, што ні капейкі ня будзіць, і я тады ні дам: жыві як хочыш. Так ужо прідрыгыў, што дальшы і нада, ды некуды. Адна дыскыкалыся і другая — і добря: будуць знаць як жыць на сьвеці. Пылядзіш — дыскачуць, што будуць прасіць ны абед. Што, дыкаціліся — ны дарогу прасіць нада? Дытраціўся, што капейкі ні асталыся. Дытранжыріліся — пяшком з Мугулёва кацілі. Ну ўжо, кажыцца, усё: дайшоў да ручкі, дальшы йціць некуды.

## 96. Далёка

*далёка, на вялікай адлегласці* — за светам, за гарамі *д., за межамі бачнасці;* у свеце, у белым свеце *д. недзе вельмі;* на краю света *д. надзвычай;* блізкій (белый) свет, не блізкій свет, тэй свет, айдзе *д. досыць;* у вірах,

у віру *д. неапраўдана, нездав.;* нямаве́дама айдзе́ *д. надзвычай*; далякó *д., руск., рэдкаўж.*

Я б так далёка нізашто б ні пашоў. Наша ву́ліца шурока, лентычкый ня зьмерііш, а мой мі́лінькій далёка, вічарком ня зьбегыіш. Айдзе тэя Сапры́нывічы — за сьветым, каб туды ны вічарі́нку вы́прывіцца. Зы гыра́мі тоя Бялі́шчына, што табе пывады́рь нада. Айдзе у сьвеці тоя Яўкіна, мне да яго дыбіра́цца нада двоя судык. Айдзе ты яго будзіш шука́ць у белым сьвеці. Ты, знаць, нейдзі жывеш ны краю́ сьвета. Блізкій сьвет Ша́мыва тоя, ні з маімі ныга́мі туды йціць. Белый сьвет да тых Шы́рык, пакуль да́йдзіш, ду́ху дасі́ся. Ні храбрі́ся, ні храбрі́ся. Зімоніна ня блі́зкій сьвет. Тэй сьвет вы́прывіцца у Бялі́шчына. Айдзе тоя Пнёва, і там умудрі́ліся пабы́ць. Жылі на ху́тырі у віра́х, людзей жывых ня відзілі. У віру́ вун за Рослывым буду я цябе шука́ць. Німаведыма айдзе пысялі́ўся, як бліжы места ні було. А мой мілый дыляко, дыляко на ю́гі, пысабіця зыбыва́ць, мілыя падру́гі.

## 97. Дарма́

*бясплатна, без аплаты грашыма* — да́рам, бяспла́тна; зада́рам *б., малаўж.*; за́да́рма́ *б., малаўж.*; так, за так, за спасіба, за здарова жывеш *б., неадабр.*

Ні хачу́ я дайжа дырма́ тваіх ца́цык. Дыва́й ты мне да́рым яблыкі — я іх ні вазьму і ў рукі. Ну хто ж табе біспла́тна ны быза́рі што аддасьць, там грошыкі пыдыва́й. Чаго йта я буду зыда́рым аддыва́ць. За́дырма купі ў каго другога. Стыяў да вечыра і аддаў зыда́рма. Не, зыдырма́ і ў свайго дужа ня возьміш, тожа глядзі́ць: зыплаці́. За што я тут буду грошы требывыць, так бярі. Зы так у свайго бацькі вазьмі, ён быга́т. Не ўжо, ня жджы, каб яшчэ зы спасіба і пырыся́т пулучы́ць. Любіў ба ты брацьзы здарова жывеш.

## 98. Даўно́

*даўно, многа часу таму назад* — пара́дкам *д. досыць;* пара́дашна (га), ла́дна (га), каторая пара́ *д. адносна;* це́персь (це́перся), калі́, калі́ яшчэ, бог знаіць калі *д. вельмі;* пры цару́ Гароху *д. вельмі, жарт.*

Даўно ўжо таго Холды німа на сьвеці, а я як січа́с помню, як ён прістыўляў камедзію. Пыря́дкым як пашлі́, ужо часы два бу́дзіць, пыра́ б вярну́цца. Пыря́дышна ўжо як ня пішыць, ці пірівялі куды, ці што. Пыря́дышныга як паехыў, січас далжон вярнуцца. Ла́дна ўжо бу́дзіць, як я цябе ні сустрюка́ла. Ла́дныга як жаўрынкі пріляцелі, а ціпла́ пакуль німа. Цепірьсь ты ня быў у нас, мог ба калі і забежч. Цепірьсе як пашоў, а ўсё ня чуць і ня чуць. Калі йта ён зыхрамеў і ўсё ка́рствыіць. Калі яшчэ я надворья тоя сыбіра́ўся прібраць. Бог знаіць калі яны та́мыцька заселі — сідзя́ць, розбырышы п'юць. Ты яшчэ, ві́дна, і прі царю Гароху варіла ў дырабку́, ніяк ны быза́р ня вы́біріsься.

## 99. Даць

*даць, уручыць для карыстання* — раскашалі́цца *д. досыць многа, іран.;* раскашы́рыцца *д. колькі трэба (пра скупога), іран.;* разагну́цца *д. колькі трэба (пра скупога), іншаск., іран.;* аджалець *д. са шкадаваннем, іншаск.;* піхну́ць, торнуць, торкнуць *д. для прыліку, іншаск., нездав.;* уручы́ць *д. непатрэбнае ўрачыста, іран.:* удружы́ць *д. зусім дрэннае або непатрэбнае (пры сяброўскіх адносінах), іран.;* усу́нуць *д. непатрэбнае, іншаск., неадабр.;* су́нуць *д. хаваючыся, іншаск., неадабр.;* усучы́ць *д. непатрэбнае падманам, іншаск., неадабр.;* уперць *д. непатрэбнае падманам, іншаск., груб.;* уцу́ргаць, удзудзу́рыць *д. зусім непатрэбнае, груб.;* наградзі́ць *д. клопатнае, турботнае, іншаск., іран.;* атвалі́ць *д. многа, д. мала, іншаск., іран.;* падарава́ць *д. як падарунак.*

Хто табе даў пыпря́ньнікыў? Ўзялі брата у сылда́ты ўзялі ў кывалерію, да́лі серыга кыня́, да́лі шынель серыю. Жджы, Стыхва́н табе рыскышалі́цца. Рыскашы́рілыся на сва́дзьбі, руб пудурува́ла. Пітрачок ні такей чылавек, ні рызагнецца дужа. Як жа ета ты аджалела, карю́злыя еткыя, стырасьвецкій камлёт? Піхну́ла булку хлеба: ідзі. Торні ў руку пы быра́нку, ніхай біга́ць на вуліцу дый грызуць. Дзіцёнку што торкнуў у руку, абы ні пішчэў. Што ж табе зы пыда́рык уручы́лі? Што ж ты такоя удружы́ў свайму пріяцілю, нешта гываріць стыдзі́цца. Усу́нула мне тря́пык, куды зь імі дзіва́цца. Су́нуў — на́ табе, божа, што мне нягожа. Усучы́ла гырла́ч мылыка: нясі, — а мне па вуліцы несьць. Мы дужа й

ні хацелі брацъ тае аўцы, а ён ныстаў, ныстаў: «Бяріця, бяріця»,— так і ўпёр нам. Ны бызáрі ўсяк буваіць: то купіш што харошыя, а то ўцýргыюць якую дрянь і ні рызьбяресься зразу. Пырáска усігдá удзудзýріць пасвойму: нá табе, што я выкідáць дýмыла. Ыградзілі — сколька тае солі і тая с сурком. Атваліў жа ты стары́м грошы: сы́ты будуць і надзеты. Склáліся ўтраіх ці ўчыцьвярых і пудурувáлі ёй ны свадзьбу цілівізыр.

### 100. Дзéлацца

*рабіцца, адбывацца ва ўнутраным стане асобы* — тварыцца, завярáцца *р. працяглы час;* дзеяцца *р. часамі;* адхадзіць *р. увесь час, іншаск., неадабр.;* станавіцца, падскакываць *р. выпадкова, іншаск., неадабр.;* утварáцца *р. часамі, кніжн., неадабр.*

С табою, хлопіц, нешта дзелыіцца, што цябе ні дашлесься і ні датýркыіся. Дакуль дурутá ў табе будзіць тварíцца, што ты і вýхым ні вядзеш, калі табе гаворюць. Дуры́ ў табе зывіря́юцца, толька я іх скора вы́гыню, як вазьмý вярёўку ці хлыбазíну. Што зь імі тама дзеілыся, — глянула я: усё піряверну́та дыгары́ ныгáмі. Што табе атходзіць, гýльма дзень прі дні гуля́ць. Што яму там становіцца і чаго? Узноў ім нешта пыцскакыіць. Ікая табе халера утвыряіцца, што ты места сабе ні нáйдзіш.

### 101. Дзёшава

*танна, за вельмі нізкую плату* — дзешава; дармá, дáрам *т. зусім, іншаск.;* нядорга *т. параўнальна;* ніпачом, нізашто́ (нізáшта), нізáштачка *т. вельмі*; за бясцэнак, ні за панюх (нюх) табáкі *т., з мізэрнай платай;* па дзяшоўкі *т. выпадкам;* за паўцаны́ *т. вымушана;* жáльсья божа *т. шкадуючы*; на вецер, дзяшэўлі (дзяшэўшы) пáранай рэпы *т., за пустую плату.*

Цябе я знаю, ты дзёшыва дужа ні прыдасі. Дзешыва купіў бульбы: многа було. Купіў бульбы пря́ма дырмá— па сорык капеік за пуд. Дáрым ціплят нукуплялі — многа нынясьлí, а торгу ніякыга. Да не, нядорга зыплацíлі, пряма ў рукі пупáў пацьцёлык. Повін бызáр быў жы́та, цынá спáла, аддывáлі ніпачом. Купіў пырасёнка пря́ма з рук нізашто. Ніхто нічога ні суліў, прішлося нізáшта аддаць. Пыдвязло табе: нізáштычка купіў еткіх достык.

Я табе гыварю, ні вязі сяньня пырысят: ці зы бясцэнык аддасі, ці ныза́д прівылакеш. Аддаў мякі́ну ні зы панюх тыбакі. Ні за нюх тыба́кі прыда́ў цубу́лю тваю. Яно ж так, бува́іць, пупадзецца, і пы дзяшоўкі ку́піш. Ячмень сяньня зы пыўцаны́ аддыва́лі, — столька було. Ні було бызару, усё жа́лься божа прішлося аддыва́ць. Курей я тваіх аддаў на веціp, ніхто іх браць ня хочыць. Ціля́ты былі дзяшэўлі па́ріныя репы. Якей там торг, аддыла́ во ўсё дзяшэўшы па́ріныя репы.

## 102. Дрыжэ́ць

*дрыжаць, калаціцца целам* — трэсца *д. моцна;* калаціцца *д. вельмі моцна.*

Стыя́ць, дрыжа́ць, а ў хату пагрецца ні загоніш. Пірікалелі, аж трясу́цца, зуб на зуб ні пыпыда́іць. Вот вы ж і ўчора кылаці́ліся, і сяньня пы-чылавечыскі ні надзеліся.

## 103. Ду́жа

*вельмі, у вышэйшай ступені, меры* — пара́дкам, здорава, сільна *в., але нетэрмінова;* край, кра́йня, горка *в., тэрмінова;* конча *в., уст.;* бязмерна *в., абмеж.;* чартоўскі *в., руск.;* пільна, дазарэзу, да смерці, як раз хлеба ўкусі́ць *в., неадкладна;* як піць даць *в., рэдкаўж.*

Ду́жа б хацела пабы́ць у сваіх і атырва́цца ніяк ні магу: усё хызя́йства і хызя́йства. Зымарі́ліся пыря́дкым, сьпяшы́лі, ні мінуты ні ддыхну́лі. Здорыва зыхацелі есьць, дарога ла́дныя. Сільна хацеў паехыць ны шахты, а тут у сям'е тыка́я нізыда́ча, — ні паехыў. Ну што ты ны быза́р, я край хачу ў ягыды зьбегыць: нада і пусушы́ць, і настойкі пыста́віць. Крайня ў Віхряны атвярну́цца нада. Кукшуны́ пашлі па целу, горька нада баню нытапі́ць ды вы́пыріцца. Конча хацеў схадзі́ць к Пына́сывым, а тут сырва́лыся зь естым лесым. Абея сьпяшы́лі пряма бязьмерна, дык і пыгывары́ць ні прішлося. Ого, у вас тут чартоўскі хырашо: і лес, і ріка, і воздух хуць еж. Пільна, пільна нада було б уві́дзіць айдзе Гаўрі́лу. Мы дызарезу хацелі устреціць вас. Сялёдку зьеў, ды сульнува́тыя, піць зыхацеў да сьмерці. Мне ж як раз хлеба ўкусі́ць нада зьбегыць за Сож к сваім. Як піць даць карову купі́ць нада, з ма́лымі біз мылыка́ ні прыжывеш.

## 104. Дух

*прысутнасць пры непажаданасці* — зва́нне *п., іран.;* пах *п., груб.;* прысу́ствія *п., руск., іран.*

Ні хачу да́йжа ду́ху яго ў сваёй хаці. Убіра́йся етыю ж мінуту, і каб твайго зва́ньня тут большы ні було. А я гыварю́, яго паху ў мяне зь естыга дня ня бу́дзіць. Ой, як яно мне важна тут, яго пріcу́ствія.

## 105. Душа́

*душа, жыццё ў слабога, хворага* — дух *д., іншаск.;* чар *д. у вельмі слабога;* зва́нне *д. як адзінае, што засталося, іншаск.*

Толька што яшчэ душа́ дзяржы́цца ў целі, а так ён ні жылец. Вы́сых, вы́пітріў, у чым тэй дух дзяржы́цца, а дуроў ні кіда́іць. Я ж гываріла, айдзе тэй чар будзіць дзіржа́цца, хадзіў, як жывэй мярцьвец. Адно зва́ньня, што мальчы́на, ды вочы блішчаць, а есьць нічога ня есьць, носіцца аць цімна́ ды цімна́.

## 106. Е́здзіць

*ездзіць, перамяшчацца пры дапамозе сродкаў перамяшчэння* — ката́цца, ката́ць *е. дзеля прагулкі, без мэты, іншаск.;* раз'язджа́ць, раз'язджа́цца *е. у розныя месцы дзеля забавы, іншаск., неадабр.;* раска́тываць, раска́тывацца *е. дзеля забавы, пышна, іран.;* калясіць *е. шпарка без мэты ў розныя месцы, асудж.;* насіцца *е. шпарка, іншаск., неадабр.;* лётаць (лята́ць) *е. вельмі шпарка, іншаск.*

Відзілі яго, езьдзіў нешта па полю, зразу пыт Піря́днінa, а тады ў бок Лешчынкі паехыў. Кыта́іцца увесь дзень ны лісапеці. А што яму дзелыць?— кыта́іць сабе і знаць нікога ня хочыць. Куды такой ляпёхі рызыжджа́ць вярьхом? Рызыжджа́іцца ла́нка сы сваім мужуком, гресьць іціць ня йдзець. Калі мне ёсьць рыска́тывыць, работа гаріць. Як жа я прімоўчу, калі рыска́тыюцца, а ты на іх ірьвіся. Кылясіць ты ўжо дужа ладна наўчы́ўся, каб работыць так. Глядзі, будзіш так насіцца — зьверніш гылаву. Лётылі усю ноч пы Пыдгародзьдзю. Чаму ім ні літа́ць — конь разьеўся як лялька і самі вы́гуліліся.

**107. Есць**

*есці, прымаць ежу* — ку́шаць *е., руск., іран., абмеж.;* жвя́ліць *е., бяззуба комкаючы;* ша́мацць *е. жвава і старанна;* га́мацць, га́мкацць *е., дзіц., ласк.;* ліза́цць *е. мала, перабірліва, неадабр., іншаск.;* куса́цць *е. крыху, іншаск.;* аграша́цца *е. пасля сну, гумар.;* хру́пацць *е. з хрумканнем, іншаск.;* хру́мкацць *е. паволі з хрумканнем, іншаск., ласк.;* храпата́цць *е. з моцным хрумканнем;* руба́цць *е. вельмі энергічна, неалаг., рэдкаўж.;* муры́жыцць *е., мучаючыся з кавалкам;* грызцць *е., скрабучы кавалак зубамі;* масоліцць *е., возячыся з кавалкам, пэцкаючы яго, неадабр.;* дзёўбцць, дзяўба́цць *е. старанна, але маленькімі кавалачкамі (звыч. пра дзяцей), іншаск.;* упі́сывацць *е. старанна, апетытна і прагна, іншаск.;* уплята́цць *е. прагна, спешна, неразборліва, іншаск.;* аплята́цць *е. вельмі прагна, спешна, неразборліва, іншаск.;* навара́чывацць *е. многа, іран.;* камса́цць, камсі́цць *е. добра, старанна, гумар.;* камка́цць *е. старанна густое, камякаватае, іншаск., іран.;* комкацць *е. энергічна густое, камякаватае, іншаск., іран.;* тоўч *е. густое з прагнасцю многа, іншаск., іран.;* укла́дывацць *е. размерана, грунтоўна, іншаск., іран.;* малоцць *е. бесперапынна і хутка, іншаск., іран.;* мяжджу́ліцць *е. многа, груба, без разбору, іран.;* малаці́цць *е. многа і хутка, іншаск., іран.;* мясі́цць *е. многа, мяккае, іншаск., іран.*; церабі́цць *е. часта з стараннем, іншаск., гумар.*; жрацць *е. многа са сквапнасцю, груб.*; лопацць, трэскацць *е. хапаючыся, іншаск., груб.*; пу́ргацць *е. вадкае хапаючыся, груб.*

Ні прісі́лівый ты мяне, есьць я нічагенька ні хачу. Устыва́й, мой пан, ку́шыць ныгатоўліна і пыда́на. Айдзе мне тую скарі́нку зьесьць, мя́куш трошку жвя́лію. Ша́мыіць і ша́мыіць міску за міскыю. Га́мый, га́мый, я табе мі́сычку пыдзяржу́. Хадзі ка мне ны калені, бу́дзіш га́мкыць. Сколька ты бу́дзіш ліза́ць, ці мне ўремя стыя́ць, ждаць цябе. Позна ўжо, нада було б куса́ць. Я дык яшчэ ні агріша́лыся. Хру́пый, хру́пый, быра́нкі дужа сма́шныя. Зра́зу дзічы́лыся, а тады асвоілыся, дывай хру́мкыць пячэньня. Чуіш, як кошка храпочыць пат печчу нейкыю птушку. Дывай-ка мы будзім руба́ць с табою. Муры́жыць бру́квіну, ажно засопся. Што ні дасі, усё грызу́ць, — еткыя ара́ва. Што ты столька масоліш, зьеў і пашоў. Пыся́дуць кыла міскі і дыва́й дзёўбць, абальлю́цца кругом. Чаго там гывары́ць — дзіўба́юць, толька гатовіць

спруўляйся. Што ні дасі, упісываюць пыччыстую. Уплітаюць ладна, нечыга богу гряшыць. Сідзяць удваіх ныд гаршком, аплітаюць, аж зу вушамі тряшчыць. Нывырачыіць адзін зы траіх, праўда і зьдзелыць што, кылі возьміцца — работа гаріць у руках. Кымсаіць, і кымсаіць, і кымсаіць, калі ты ўжо ныясіся. Камсіў ба і камсіў цэлый дзень бісьпірістанку. Што ні дасі, кымкаіць і кымкаіць, будзіць час сядзець. Комкыіць куряціну пряма с кысьцямі. Сядзіць, таўкець сабе бульбу і таўкець і яшчэ мурлычыць нешта, длі яго ж ета ноў. Укладыіць здорыва, зы дваіх зразу, а ўсё маліцца. Што ні дай, будзіць малоць, аж нос гнецца. Мяжджуліць тую бабку, толька пыдывай. Што ім дзелыіцца, малоцюць ладна. Як сядуць удваіх мясіць — чугунка мала. Толька атойдзіць, кажыцца наеўся — не, ўзноў бягіць, і дывай цірябіць. Жраў ба й жраў і ўсё зь яго мала. Сколька б ты лопыў, каб табе пыднасіў і пыднасіў. Трескыіць дык трескыіць, верна, ўпіцярых зь ім ні справюцца. Во ета пургыіць, чугунок-вядзернік зразу апыражніў.

## 108. Ехаць

*ехаць, рухацца пры дапамозе сродкаў перамяшчэння ў адным кірунку* — каціць *е. шпарка, бадзёра, іран.*; смаліць *е. вельмі шпарка, з імпэтам, іншаск., іран.*; грымець *е. шпарка, з стукатам, іншаск., іран.*; (і)мчацца, (і)мчаць *е. шпарка*; несца *е. вельмі шпарка*; ляцець *е. надзвычай шпарка, іншаск.;* трухаць *е. павольна (на кані)*; цягнуцца *е. павольна, стомлена (на кані)*; гудзець *е. з шумам, іншаск., іран., абмеж.*; лескатаць, дрынчэць *е. з грукатам, звонам, іншаск., неадабр.*; перць *е. напралом або празмерна шпарка, іншаск., асудж.*

Я відзіў, як вы міма ехылі, хацеў гукнуць, ды ні пасьпеў. Коцюць адзін за дным, зыдываньня — куды там! Так ужо смаліў і ні на кога ні глядзеў, як піряд ім нікога і німа. Толька паехыў — гриміць нызыд: грошы забыў. Узноў імчыцца нызад, ну й дыкаріцільный хлопіц. Толька паехылі—гляджу: мчацца нызад, дык у мяне і серца ёкнула. Куды йта імчаць Вірькііняты? Вірьхамі мчалі некуды у бок Жырiцiна. У мяне зразу вомырык ба стаў, каб так нісłася. Мурзалей ты йшчэ ляцець так, як Пітрачок лётыіць. Куды ты трюхыіш, ці ня к цёшчы ў госьці? Цягнуўся на нейкім лубаку — ныга зы нагу

чыпля́іцца. Глянула ў вакно — гудзя́ць некуды ны ліхкавой. Так ліскыта́ць — айдзе ж тая дзіржа́ва бу́дзіць у калёсых, і каткі́ рассы́плюцца. Дрынчы́ць пу бургуна́х на́ўскыч, а там бургу́ньня — толька гылаву злума́ць. Ні глядзі́ць, куды ён едзіць і што ён едзіць, прець ныпрямі́к — і большы нічога.

### 109. Жале́ць

*шкадаваць, выяўляць спагаду* — шкадава́ць *ш., кніжн., рэдкаўж.*; божкаць *ш. крыху або прытворна*; убіва́цца *ш. вельмі, іншаск.*; дрыжэць, трэсца, калаці́цца *ш. празмерна, іншаск., неадабр.*

Ра́зьві ты дужа жалеіш, што ён паехыў. Шкаду́ю, што так вы́йшла, толька што ж ты зьдзелыіш. Ня божкый ты, ня божкый, тваю жа́лысьць кажный зна́іць. Я асобінна ні ўбіва́юся, сыбра́ўся іціць — ідзі. Дрыжы́ць над ім, каб і на ву́ліцу ня вы́скычыў, і вады ня вы́піў,— нічога. Так ужо іна над ім трясецца, так жалеіць, як ён рассы́пліцца ці рыста́ніць. Ну чаго ты калоцісься так, зь ім жа нічога ні случы́лыся і ні случы́цца.

### 110. Жыво́т

*жывот, частка цела* — пу́за *ж., іран.*; бру́ха, трабу́х *ж., груб.*; бу́бен, бараба́н *ж., іншаск., гумар.*; ночвы, начоўкі *ж. вялікі, іншаск., гумар., іран.*; утроба, чэ́рава *ж. вялікі, руск., неадабр., рэдкаўж.*

Чуць зьеў толька трошку ні так, жывот січа́с хвыта́іць, і што зь ім толька зывіря́іцца. Нугудува́ў сабе пуза, нічога ня дзелыючы. Таўсьценный-таўсьценный, брюха тоя вісіць цірязь ремінь. Адгудува́ў сабе трябу́х, нечыга скыза́ць. Наб'ець свой бу́бін чым пупа́ла, ходзіць — ня спы́шыцца. Набі́ў сабе бырыба́н, пыўвядзернік капу́сты убу́хыў. Во ета ночвы, як ён толька носіць такея. Твае начоўкі напоўніць — нада ні абы-якей чугунок убу́хыць. Здаволіў сваю утробу, сыт. Відзіш, рузгудува́ў чэріва, пудоў ны пяць сала, а можа й большы.

### 111. Жы́рный

*сыты, укормлены з выгляду* — гла́дкій *с. роўна, у адносінах да чалавека, іран.;* сы́тый, спра́ўный *с. умерана, моцны фізічна;* поўный *с. умерана, здаровы;* ту́чный *с.*

*вельмі, з тлустасцю, руск., рэдкаўж.*; адкормлены, раскормлены *с. вельмі, часта іран.*; ажырэлы, аплыўшы *с. празмерна, неадабр.*; таўстамя́сы, таўстапу́зы, таўстабру́хі *с. празмерна і тоўсты, груб.*; як налі́ты, як налі́ваны, як перавя́заны *с. вельмі* (*пра дзіця, падростка*); як ля́лька *с. і выпешчаны*; як клёцка *с., невялікага росту*; як слімéнь *с. вельмі, гультаяваты, неадабр.;* як вапéр *с. празмерна, іран.*; у цéле *с. умерана, моцны целаскладам*; у шку́ры не мéсціцца *с. вельмі, здаровы, неадабр.*

Ай, калі ўжо хто ціряшчу́р жы́рный, ці мыладэй, ці ста́рый, дык ня дужа хырашо. Каціў пы дзяреўні, конь гла́дкій-гла́дкій, аж блішчы́ць. Пріехыў сы́тый, нябось троху пудуреў ды абрузуміўся, жывець — чорт ні бярець. Знаць, корміш ла́дна, што ён у цябе такей спра́ўный. Некуды ны Кыўказ езьдзіў у вотпуск, пріехыў поўный, чыстый. Стаў ту́чный, разбу́хыўся як кыба́н. Што таму шкарю́дніку, аткормліный, гла́дкій, толька пасьвістывыіць. Відзіла ўчора Тріхвынка́: такей раскормліный, што пряма хуць ты на ім сала крой. Куды ўжо такому ажырелыму быць, ета ж хадзіць дайжа ця́жка. Кісель увесь аплы́ўшый, ходзіць, толька сапіць. Ідзі ўжо, йдзі дыглідáй свайго тыўстымя́сыга, ато ён ні дагледжын. Ніканешня таму тыўстапу́зыму клявéц дываць: згы́ркыіць. Лявон ты тыўстабрю́хій, во хто ты, і большы ніхто. Ла́дный кырапу́з, увесь як налітый, ручонкі тэя, як пірівя́зыныя. Прівазіла сваю дзяўчонку зь Лінінгра́да, — як нылівáныя. Відзіла яе мульчуга́на: як пірівя́зыный. Рыскарміў карову па сьцежкых ды кына́ўкых, стала як ля́лька. Ні гарю́й ты ўжо, ні гарюй пы сваёй, іна як клёцка. Рузгудува́ўся, як сьлімень стаў. Устреціў яго ну лугу — ішоў ужо такей, як ваперь. Сёліта коні у целі: сена хвыта́іць, ды яшчэ аўса пыцсыпа́юць патроху. Разьеўся — стаў, што ў шкурі ня месьціцца.

### 112. Задзéржка

*затрымка, запынак у выніку перашкод ці непаразуменняў* — за́гваздка *з. нечаканая і складаная;* затор *з. на доўгі час*; замі́нка *з. кароткая*; заця́жка *з. з валакітай*; закавы́рка, закавы́рына, закавы́чка, закавы́ка *з. прыкрая.*

Я ду́мыю, задзержкі нія́кія ня бу́дзіць, зразу пулучу́

ўсе дукументы. Каб жа мне знаць, што тыкая за́гвыздка палу́чыцца, нядзелю б якую піріжда́ў. Што там у цябе затор с ку́плію пулучы́ўся, ці можа разду́мыў. Ні-бальша́я замі́нка вы́йшла, нада айдзе грошы піріхваціць. Я ж ні прідві́дзіў такея зыця́жкі. Усё хырашо ішло — і на́ табе, зыкавы́рка пыд канец. Зыкавы́ріна выйшла: ні там піча́ць пыста́вілі. Каб ня ета зыкавы́чка, я б даўно быў на месьці. Ён табе пацстроіць зыкавы́ку, і нічога ня зьдзелыіш, будзіш глядзець толька ды лы́пыць, як мыла зьеўшы.

## 113. Задзе́ць

*закрануць з ушчамленнем годнасці, гонару, самалюбства* — затронуць, тронуць *з. злёгку*; зачапіць *з. адчувальна*; забосць *з. моцна, іншаск.*; заесць *з. глыбока*; заму́ліць *з. журботна, іншаск.*; узяць (задзець) за жывое *з. балюча.*

Гыварі́ што хочыш, ета мяне нісколька ні зыдзяець. Нябось, затронула, кылі скызалі ёй пры Хвядоську. Можа, троху й тронула, толька ня ду́мыю, каб дужа. Я знаю, што яго зачэпіць: зывядзі́ця рызгавор пры Машу. Нешта цябе ладна зыбрало, што ціряз ноч вы́прывіўся ў Лідагошча. Тут ужо яго заела, чуць зьдзержыўся. Што табе так заму́ліла ў тым горыдзі? — верна, устреча ціряшчур ва́жныя. Што, і цябе узяло зы жывоя, ня вы́дзіржыў? Задзела зы жывоя, ну толька віду ні пыка́зыіць.

## 114. Задрама́ць

*задрамаць, упасці ў дрымоту* — задрамну́ць, уздрамну́ць *з. на кароткі час*; прыдрама́ць, прыдрамну́ць *з. лёгка, на зусім кароткі час*; прыкархну́ць *з. у зручны момант.*

Зыдріма́ў, зыдріма́ў, а тады засну́ў і прыспа́ў да вечыра. Якей там быў сон, зыдрямну́ў адну міну́тку. Пыднімі́ вун пасьці́лку, уздрямнеш трошку. Прілёг, думыў хуць прідріма́ць, дык ці яны ж дадуць спакою. Што ты дужа будзіш дзелыць, прідрямні́. Толька прікархну́ў, ужо бу́дзюць: устыва́й, а я вы́біўся са сну— вачэй ні магу ўзьняць.

### 115. Зайціць

*зайсці, прыйсці мімаходам, выпадкова, ідучы з іншай мэтай* — забежч *з. спяшаючыся*; заскачы́ць *з., вельмі спяшаючыся, на вельмі кароткі час*; заглянýць *з. на вельмі кароткі час*; загля́нуць *з. на вельмі кароткі час, малаўж.*; завярнуць *з. выпадкова*; нос паказаць *з. дзеля прыліку.*

Сяньня трошку раншы вы́брылыся дый пы дарогі к сваім зыйшла. Ай, якея госьці, забегла, глянула, як іх тама здароўя. Зыскачы́-ка ты пы дарогі к Дзімідзёнку, зыбярі вогылыва. Во, тыкі і ты зыглянýла, выбрыла часіну. Нада б трошку у хаці прібраць, можа свае зыгля́нуць. Ні разу ні была, а й тая хлюндра зывярнýла. Якоя там зыхадзіла, так, нос пыкыза́ла, можа мінут пяць пысядзела.

### 116. Закрыча́ць

*закрычаць, пачаць крычаць* — загарла́ць, загарла́ніць, загарлапа́ніць *з. вельмі моцна, груб.*; зарэўць *з. дзіка, іншаск., груб.*; разі́нуцца, разя́віцца, раззя́піцца, расчыніцца, распасцерцца *з. вельмі моцна, іншаск., груб.*

Усё муўча́ў, а як яго затронулі, нябось ты, зыкріча́ў. Узноў зыгырла́лі, ні мінуты ім ні айдзе спакою німа пабы́ць ціха. Вы́йдзіць ны гарод, як зыгырла́ніць, усе сьмяю́цца. Якей сход, Мікіта зыгырлыпа́ніў, слова ні даў скызаць нікому. Чаго цябе хвытáіць, — зарёў, як цябе резыць сыбра́ліся. Як пычанýць, як разі́нуцца, адна хырашо, а другая яшчэ луччы. Ну чаго рызя́вілыся, режыць хто ці што. Ета ўжо Мікіла́іха рызьзя́пілыся, большы ніхто так ня можыць. Як рышчыні́ліся пысярёд, ажно поля тряшчэла ат кріку. Пыдажджы, пачуіш, як рыспастрецца с крікым пря́льля.

### 117. Залі́ць

*заліць, пакрыць вадою* — затапі́ць *з. значна*; паня́ць *з. нязначна*; пакры́ць *з. значную прастору, кніжн., рэдкаўж.*

Сёліта ладна зыліло лугі, трыва дылжна́ быць. Еткыю траву зытапíла, што дажджы надзелылі пысярёд

лета. Усе курганкі пынілá выда і зіляпцы́ пыплылí. Пыдзь дзяреу́ню рызьлілося, а луг увесь пакры́ла, тольк кýсьцікі тырчáць.

### 118. Занепагóдзіцца

*занягодзіць, устанавіцца дрэннаму надвор'ю* — занепагодзіць, закулáжыцца *з. з прыкметай працяглых дажджоў;* занянáсціцца, занянасціць *з. з дажджом;* раскулáжыцца *з. з прыкметай дрэннага надвор'я*; разнепагодзіцца, разнянáсціцца *з. надоўга;* задаждждждыцца, задажджы́ць *з. дажджамі;* раздажджы́цца *з. працяглымі дажджамі.*

Глядзі, што зыніпагодзіцца: і ластыу́кі апусьцíліся к зямле, і пітухí крічаць як на дождж. Думылі, ужо дажджы пірістали, а яно у́зноу́ зыніпагодзіла. К вечыру зукулáжылыся, пасíціу́ дождж. Зынінáсьцілыся і, відна, надоу́га, сена можыць пагнíсьць. Ну й зынінáсьціла, ня вы́лізьць нікуды. Рускулáжылыся, во у́жо трецьцій дзень усё мя́кніць. У сáмыя жніво рызьніпагодзілыся нядзелі на дзьве. Помніш, летыся як рызьнінáсьцілыся, трыва пыгнілá у́ пакосых. Як зыдажджы́лыся, дык усё ета у́ремя Стыхван у нас ня быу́. Толька скасілі луг—і зыдажджы́ла. Як рыздажджы́лыся, дык і рыздажджы́лыся, і рыздажджы́лыся і калі хуць трошку нацьцíхніць.

### 119. Заплацíць

*заплаціць, аддаць за купленае пэўную колькасць грошай* — аддáць, падсýнуць *з. не таргуючыся, дорага, іншаск., неадабр.;* уперць *з. вельмі дорага, без патрэбы, іншаск., неадабр.*; увалíць, убýхаць *з. надзвычай дорага, неадабр.*; уцýргаць *з. неабдумана надзвычай дорага, неадабр.*

І дорыга зыплацíу́, і пырасёнык ніва́жный: есьць ня дужа хочыць, глядзіць, каб мылыка лінýу́ ды лінýу́. Пау́сотню аддау́ зу пулушýбык, ды яшчэ мыгары́ч рысьпілí. Ныпрáсна ты столька пацсýнуу́, ён ба многа спусьціу́. Упёр нізашто дзьвесьця рублей, тут крáсныя цына пау́сотня. Увалíу́ зы сыпагí семдзісят рублей, ну, думыю, на век хваціць, а пыглядзеу́ хырашо — у левым дзíрічка. Хуць убýхылі зы карову нямерныя грошы, зато, прау́да, мылыка хуць залíся і дужа жы́рныя. За што ж ты уцýргыу́ пяцьсот рублей, етый жа хвост ны мяса здаць — і ці возьмуць.

**120. Засну́ць**

*заснуць, упасці ў сон* — усну́ць *з., руск.;* захропсць, захрапець *з. з храпеннем;* зада́ць храпака́ *з. з асалодай, жарт.;* звесць вочы (вача́мі) *з. на вельмі кароткі час.*

Дождж, ляж дый засьні, дзелыць усёроўна нечыга. Думыў, трошку пыляжу, а тут зразу зыдріма́ў, а патом і саўсім уснуў. Лёг і захроп як пяньку прыда́ўшы. Адзін зыхрапеў і другей усьлед, а скот ні выгыня́н. Ла́дна зыда́ў хрыпыка, паўсу́дык—ня меншы—спаў. Толька зьвёў вочы — чую, сморьгыіць: устыва́й, устыва́й. Якей тут сон, трошку выча́мі зьвёў і ўсё, з ма́лымі дужа ні засьнеш.

**121. Застаўля́ць**

*прымушаць, ужываць прымусовыя меры* — зацява́ць *п. настойліва і нецярпліва*; прысіліваць, прыцясня́ць *п. настойліва (пры пачастунку);* прыганя́ць, паганя́ць *п. настойліва, іншаск.;* налягаць, прынужда́ць *п. настойліва;* вынужда́ць *п. настойліва, малаўж.;* няволіць *п. наперакор жаданню;* пароць, падпа́рываць *п. катурхаючы, іншаск.;* шаваліць, шавяліць *п., злёгку напамінаючы (звыч. пры пачастунку), іншаск.*; пашава́ліваць, пашаве́ліваць, падшава́ліваць, падшаве́ліваць *п. злёгку, напамінаючы перыядычна (звыч. пры пачастунку), іншаск.;* стаяць над душою, не даваць дыхну́ць *п. неадчэпна;* гнаць у ка́рак (шыю, сугон) *п. настойліва і груба.*

Нада зыстаўля́ць, прівучаць патроху к рабоці. Цябе кылі ні зыціва́й, дык ня выйдзіш с хаты дайжа скацíні паткíнуць. Ні прісíлівыйця мяне, хлопцы, я ўжо большы ні піць, ні есьць і ні хачу, і ні магу. Пріцісьня́й, пріцісьня́й, ніхай заку́сыюць. Што ты мяне прігыня́іш, ці я ў чужых, ці што. Пыгыня́іць старэй, дыхну́ць ні даець. Пычыла нылíга́ць, дык я і ўзяў. Я цябе дужа прінужда́ць ні стану, ня хочыш — ні бярí. Ну хто ж цябе вынужда́ў браць Та́нічку, на ком хацеў, на том і жанíўся. Дужа я цябе няволю, што хочыш, то й ныдзіва́й. Парí іх, парí, ніхай яшчэ пы чаркі нальлюць. Пытпа́рывыў, дык вісялей ішло дзела. Цябе ні шывалí — і ў рот нічога ні ўкладзеш. Ну няўжэлі ж і цябе шывяліць нада, ты ж ні ў чужых людзей. Пышава́лівый, твае госьці саўсім заснулі. Нада пышавеліваць, вісялей бу́дзіць. Пычшыва́лівый,

вісялей дзела пойдзіць, скарей. Нада хуць трошку пычшавелівыць. Ну як ба ж я ні ўзяў, кылі яны стыяць нуд душою: бяріі бяріі. Зь ёю работыць ні ў карты гуляць, іна табе дыхнуць ні даець. Дужа я цябе стану гнаць у кáрык. Ён такей — гані ды гані ў шыю. Я ўжо іх дужа ў сугон ні гнáла.

## 122. Застáць

*застаць, паспець сустрэць, убачыць* — заспець, заскачыць *з. перад самым адпраўленнем;* захваціць, засцігнуць *з. раптоўна;* захапіць *з. раптоўна, рэдкаўж.*; паймáць, спаймáць, злавіць, папáсць *з. шукаючы, іншаск.*; зашчýчыць *з. выпадкова ў патрэбным месцы, жарт.;* накрыць, застýкаць *з. на месцы злачынства, іншаск.*

Во хырашо, што я зыстáла вас, хуць пыгаворім разым, даўно ня відзіліся. Цыляў, каб як засьпець цябе у дваре, прібег, а ты, гаворюць, у лугý,— жалеў я, жалеў: дужа нада быў, хацеў фугáнка ўзяць. Ні разу цябе ні заскочыш на месьці, усё ны рабоці, а ты мне дужа-дужа нада. Айдзе мне яго зыхваціць, кылі яго ні разу на месьці ні бувáіць. Прібегла і ўжо ні засьцігла, толька выіхыў. Дýмыла, у дваре — ні зыхапіла. Бягі пы Мáслыўскый дарогі, можа, айдзе пыймáіш, кызáлі, там яго відзілі. Айдзе ж ба спыймáць таго брігадзіра? Зловіш, будзіць злоўлін,— ён ужо, наверна, пыт Пірядніным. Зы капою схуваўся, ну я яго ўсёрóўна пупáў. Во хырашо, што я цябе тут зашчýчыў. На што йшоў, тоя й пулучыў, накрылі пряма ў амбáрі і акт сыстáвілі. Нуц сундуком застýкылі, у вузіл адзёжу склáдывыў.

## 123. Заступіцца

*заступіцца, стаць на абарону* — зашчыціць *з., цалкам узяўшы на сябе абарону;* уступіцца *з. актыўна;* устрáць, устрáцца, абараніць *з., не даўшы ў крыўду;* адбараніць *з. пры нападзе;* абстаяць (абстóяць), адстаяць (адстояць) *з., з рашучасцю адбіўшы або адвёўшы любыя напады;* закінуць слова *з. у невялікай меры выказваннем;* не даць у абіду *з., абараніўшы ад крыўды*; стаць гарою *з. рашуча і непахісна;* душу пакласць (палажыць) *з. самааддана, як магчымасць, гатоўнасць.*

Зуступіся хуць ты, яго ж па слову зыдзяўбуць. Ні прасі і ня думый, каб я цябе зышчыціў, ты сам кругом вінуват. Каб ні ўступіўся я, яны б табе далі. Далі б табе, каб браты ні ўстрялі. Ня думый, што зы цябе яшчэ хто-небудзь устряніцца. Ты абароніш, гірой знайшоўся. Хырашо, што ўтраіх былі, дык адбыранілі, адзін ба нічога ня зьдзелыў. Як устáлі адзін за дным і абстыялі так. Як нываліліся ўсе на сходзі, а мы ўдваіх выступілі і апстоілі. Зьмітрыкá нада ацстыяць, ён нікому нічога плахога ня зьдзелыў. Ацстоім — ні ацстоім, а паспробыім. Прідзі ны пасежыньня, можа слова закініш. Сьмела реж праўду ў вочы, мы цябе ў абіду ні дадзім. Яму б там уськінулі, ды знакомыя хлопцы былі, гарою сталі. Адзін зы днаго гарою, душу гатовы пыкласць. Душу зы яго ўсігда паложыць,— так стаіць.

**124. Засыпацца**

*засыпацца, атрымаць з лішкам, празмерна* — асыпацца; агрэсца *з. да немагчымасці сабраць;* адгрэсца *з. да немагчымасці сабраць, абмеж.;* атабрáцца, абабрáцца *з., сабраўшы звыш меры;* азяліцца *з. да неразумення, што рабіць;* азязюліцца *з. да разгубленасці;* адурыцца *з. да затлумення, іншаск., нездав.;* апрэжца, ажарабіцца *з. да немагчымасці спажыць, іншаск., груб.*

Усі засыпыліся арехымі, такей быў урыжáй на іх. Тыкая удáшныя зырадзіла бульба — пряма асыпыцца. Ад гуркоў сёліта було агресца. Столька летыся було арехыў — ні адгресца. Во ўжо год на моркву, ува ўсіх ні атыбрáцца. Ты ўжо, знаць, аббяресься ач чыснакý, дзьве гряды пысадзіў. Вы, верна, азеліціся ат ягыд, кажный дзень зь лесу ні вылáзіця. Азязюлісься знаць ат репы, паўпогріба бýдзіць. Адуріліся сёліта ад быракоў, пряма дзівáцца зь імі некуды. У вас столька пымідорыў — апрежца, куды вы іх дзівáць бýдзіця. Ажаребісься ты ад грібоў етых, столька хвытáўшы і насіўшы.

**125. Затапіцца**

*утапіцца, патонуць у вадкім (са смяртэльным зыходам)* — заліцца *у., уст.;* утапіцца *у., кніжн., абмеж.;* затонуць (затанýць) *у., апусціўшыся глыбока*; захліпнýцца *у., набраўшы вады ў лёгкія;* захлынýцца *у., дыхнуўшы ў вадзе, груб.;* утанýць *у., руск., рэдкаўж.*

Іна Ігнáтыва сáжылка, што Ігнат рылыўській у ёй зытапіўся. У бочку гылавою зваліўся і заліўся. Ну, ўжо толька ты мне утапіся, дáм тады бáню дык дам. Лезь, лезь, ні затонуў дык затоніш, там і дна ня відна. Вазьмі выцігні за шкырку—зытанець. Ікая там выда—кынáўка, пы калена німа, а неік зыхліпнýўся. Пад лёд гылавою пупáў і зыхлынýўся. К сіню морю пытхадзіла і крічала: утанý; сіня мора атвічаіць:— А любоў твыя каму? Цягні, ні глядзі, утанець січас.

### 126. Затýркаць

*затузаць, давесці да бязвольнай пакорлівасці* — затýкаць, зацюкаць, зацюпаць *з. няспыннымі воклічамі і дробнымі прыдзіркамі;* задзяўбáць, задзёўбць, задзёўбаць, заклявáць *з. бесперапыннымі назойлівымі прыдзіркамі, іншаск.;* заганяць *з. здзеклівым і няспынным пасыланнем*; затравіць, забіць *з. канчаткова*; забузáніць, збузáніць, забіць за бузáн *з. здзекамі і прыніжэннем чалавечай годнасці.*

Затýркылі хлыпцá і затýркылі і кінулі ўсе зы пакідзішча. Не, Аксюта тыкáя, што яе дужа ні затýкыюць. Глядзі, зацюкыюць тама дзяўчонку саўсім. Ну, ты гірой, каб цябе ды зацюпылі. Асташонка ім зудзюўбáць ні ўдасца, ета ні Гырáська. Ні хваліся дужа, ні хваліся, і цябе могуць раз-два задзёўбць. Задзёўбылі яго і зыгыняли, усігда сьмяюцца і рубáшкі дайжа ні ататрýць, так і ходзіць у нямытым. У такую сям'ю пупаў, што зуклююць і прамытыя вады ні дадуць. Ён там ні зяць, а пáрыбык, зыгыняли саўсім. Не ўжо, як ба ні було, а я ні цярпеў ба, яны ж зытравілі саўсім. Хто ж станіць зь імі жыць, калі заб'юць чылавека і прамытыя вады ні дадуць. Зубузáнілі чылавека, яму ўжо дзівáцца ат іх некуды. Пупадзіся ты — і цябе збузáнюць. Там сім'я тыкая: хто ні пупадзецца, любога зу бузáн заб'юць.

### 127. Захацéцца

*захацецца, пачаць хацецца*—заманýцца, закарцецца, закарцець *з. нецярпліва*; загарэцца, узгарэцца *з. нечакана і моцна, іншаск.;* ламанýцца, ламанýць *з. вельмі моцна, неадабр.*; зарýпіць *з. турботна*; задрэнчыць, задрэнчыцца *з. моцна і з капрызамі, груб.*; прыспічыць *з. неадкладна, неадабр.;* прыперць *з. надзвычай, іншаск., груб.;* зачасáц-

ца, заскрэсца, засвярбецца, заму́ліцца, закалоцца *з. навязліва, надакучліва, іншаск., іран.*; зуб загарэўся (разгарэўся, узгарэўся) *з. неадольна, іран.*

Ці чуў ты еткыя дзіва — і яму зыхацелыся жаніцца, шэсцьдзісят гадоў меўшы. Віджу ўжо, віджу: зыману́лыся ну гулю́шку. Так яму зыкарцелыся на тую свадзьбу — пряма ні зна́іць айдзе дзецца: кра́ля ж яго будзіць там. Узноў табе зыкарцела ў тэй горыд, верна, устрецінца дыгываріўся с каторыю. Куды табе зыгарелыся сяньня кытану́ць? Ей як узгаріцца — ня ўпросіш і ня ўмоліш, ні паслу́хыіць нізашто. Я цябе знаю: кылі лумануўлыся куды пайціць — ны вярёўкых ня ўдзержыш. Як жа яму лумані́ула паехыць у Воршу, ні атгывары́ць було. Што табе зару́піла за тэй Сож, ці тама бісь цябе ня бойдуцца. Задрэнчыла ім ны Засожжа, ня зьдзержыць. Задрэнчылыся табе ні здырма́, палу́чыш у мяне. Чаго табе прісьпічыла у тую Жавінку, мне дык нікуды ня хочыцца йціць, лёг ба на печы і ліжаў. Пріпёрла ім у Бірязу́йкі, як сь сябе ня вы́скычуць. Зачыса́ліся табе Шумяні́чы, ой, зачыса́ліся. Узноў зыскряблося ім у Астрейкывічы, каторый раз. Што, у Лырья́нывa другей раз зысьвярьбелыся? Заму́лілыся некуды дря́гнуць, места сабе ні находзіць. Яму ўжо як заколіцца, уні́му німа. Я ўжо віджу, што ў цябе ну буты́лычку зуб зыгареўся. Ну й рызгареўся ж у цябе зуб на тэя яблыкі. Зуб у цябе узгареўся ні ныпра́сна.

### 128. Збіцца

*збіцца, сабрацца ў натоўп ці ў цесны гурт* — ску́чыцца *з. у невялікі натоўп;* скашаліцца *з. у вельмі цесны гурт;* стоўпіцца (стаўпіцца) *з. у цесны натоўп;* стаўпясіцца, стаўмясіцца *з. на вельмі абмежаванай тэрыторыі або ў памяшканні, неадабр.*; сцясніцца *з. да цеснаты, часта вымушана.*

Дождж як пріўда́ріў з гра́дым, скот зьбіўся лі кустоў — ні пышавеліцца. Ты йшоў міма,— чаго там народ так ску́чыўся? Так ужо скышаліліся, што мыш, ка́жыцца, ні пралезіць. Чаго вы стоўпіліся, вы́жымык яго ня відзілі? Нада ім тама стаўпіцца — стыяць пыўдня́. Якея ўжо там скокі, стыўпясіліся, таўку́цца як рыба ў вядре. Людзей найшло многа, стыўмясіліся — ні пывярну́цца, ня вы́йціць зь естыя ка́шы. Сьцясьніліся ў хаці ніізьвесна чаго, пашлі б на вуліцу: і ціха, і цёпла.

## 129. Збіць

*збіць, парушыць умяшаннем ход і парадак дзеяння, думак* — спу́таць *з., заблытаўшы, іншаск.;* збунтава́ць, пабунтава́ць *з. нечакана*; перабунтава́ць *з. раптоўна*; перабіць *з. з прыкрай нечаканасцю;* збіць з толку (панталы́ку) *з., прывёўшы ў замяшанне.*

Зьбіў ты мяне сваім пымыга́ньнім, і забыў ужо, сколька нышчыта́ў. Каб ты мяне ня спу́тыў, ні нада б було піряшчы́тывыць на́нывa. Толька збунту́й, ухаджу́ на етым жа месьці. Ні пускай: ува́люцца — зразу пубунту́юць. Ах, як жа ты мне пірібунтува́ла пры такім некыльстві. Пыдажды́ сіку́ндычку, піряб'еш — тады пычына́й мне на́нывa. Зайшлі ня воўрімя, толька во с толку зьбілі і ўсё. Ай-яй-яй, як жа ты мяне зьбіў с пынталы́ку, ні прідумыю, зь якога боку ўзяцца.

## 130. Збы́цца

*ажыццявіцца, ператварыцца ў жыццё* — спра́ўдзіцца *а. у адпаведнасці з прадказаннем;* споўніцца *а. у адпаведнасці з прадказаннем або пажаданнем;* савяршы́цца *а., руск.;* звяршы́цца *а., руск., рэдкаўж.*

Папомніш маё слова, усё, што я кыза́ла, збу́дзіцца. Мыталы́га, мыталы́га — гыда́іш, а ці спра́ўдзілыся каму хуць раз. Ніхай ба хуць пылаві́на тваіх пыжыла́ньніў споўнілыся. Зыга́дывыць, канешня, можна, а толька можа сывяршы́цца, а можа не. Ну есьлі ўжо й твае за́мыслы зьвяршы́ліся, то пра Хомкіны і гываріць нечыга.

## 131. Здава́цца

*здавацца, узнікаць зданню ва ўяўленні* — роіцца *з. навязліва ў думках*; верзца, плесца *з. у непрыемных і неарганізаваных вобразах, нездав.;* каза́цца, пака́зывацца *з. невыразна*; мярэшчыцца *з. уяўна, выразна (пра здані, фантастычныя бачанні);* чу́дзіцца *з. нечакана і мала выразна.*

Ці табе ні зды́ва́лыся, што ты купля́іш іранду́, а ня тоя, што нада. Усю ноч нешта нейкыя роілыся. Вярзецца ікая-то чупуха́ і вярзецца, сам ні знаю чаго. Пліла́ся нейкыя лухта цалю́хтынькыю ноч, аж ня вы́спыўся. Мне кажыцца, я цябе нейдзі сустрюка́ў, ці ў Сапры́нывічых, ці

ў Рыхва́лыві. Чаго ета тут табе нешта будзіць пыка́зывыцца? Зь вечыра нешта як пычало мярешчыцца, аж кропна стала. Зра́зу нічога ні було, а тады стала чу́дзіцца, што нібы́ццым ці то нехта сту́кыіць, ці ходзіць пыд вакном.

### 132. Здаро́вый

*здаровы, з добрым здароўем* — крэпкій *з., неўспрыімлівы да хвароб;* вынослівый *з., фізічна стойкі;* зносу (веку) няма *з. у пажылых гадах;* як гвозд, як камушок, як камялёк *з. (пра дзіця)*; як клубок *з., рухавы (пра дзіця); як* ка́мень *з. вельмі, моцны.*

Ета ж Максім гады чатырі як балеў, а большы ў яго нічога ні атрыга́іцца, ён здаровый. Проста хто-нібудзь збалдзіў, што ляжы́ць, я ж яго ўстреціў учора—крепкій, нічога ня хворый. Выносьлівыя хлопцы, ім ні холыд, ні дождж ніпачом. Сколька пыработыў, а зносу німа, пра́ўда, еў усігда хырашо, чаго зря, бува́ла, і к роту ні пыднясець. Яму веку німа, сколька гадоў, а хуць ба адна сівыя выласі́на і зубы як часнок. Догліду за ім дужа німа, а ён як гвозд. Зь віду нізаві́дный, а так мульчуга́н як кумушок і спра́ўный. У яе ўсе дзеці як кымялькі. Вун Коліна носіцца, дзевычка як клубок. Ён і тріццыць гадоў ныза́д быў здаровый і січас як ка́мінь, ні разу ні ліжа́ў.

### 133. Здзе́кывацца

*здзеквацца, адносіцца здзекліва* — здзяка́цца *з. кпліва;* іздзява́цца *з. бессардэчна, руск.;* уродываць, уродні́чаць *з. самаўпраўна і пачварна;* надража́цца *з. кпліва і развязна;* наруга́цца, нару́гывацца *з. самаўладна;* вірыдува́ць *з. з самаўладным шаленствам;* паязджа́ць *з. з адчуваннем безадказнасці і перавагі;* му́чыць *з. балюча і неадвязна*; не дава́ць прамы́тае вады́ *з. у адносінах матэрыяльных патрэб.*

Зьдзекывыўся і дазьдзекывыўся, пулучы́ў сваё: вы́гнула. Ні зьдзіка́йся, бальшу́н, ныд малю́ткыю сыбра́ў розуму сьміяцца. Ізьдзіва́ліся над ёю, як толька хацелі, а йна нікому ні слова ні паўслова. Табе хто ў рукі ні пупадзецца, ныт кажным будзіш уродывыць. Умесьці сена прыдыва́лі, сьпеліся і ўроднічылі ныд дзяреўнію, пакуль абоім ні нукруцілі хвост. Нат кім ты ныдрыжа́ісь-

ся, ты ж яго падмётка ня стоіш. Вы ж над родныю маткыю нуругаіціся, вады ёй на печ ні пыдасьцё. Нарýгыюцца над родныю цёткыю, а іна ж столька ім пымыга́ла. Былі, гадзю́кі, вірідува́лі, пакуля ні пупа́лі ў рукі к пырціза́ным. Пыіжджа́ць пу другіх любіш, а табе слова ні гывэрі, с кулука́мі носісься. Ікая там жы́зінь, кылі яго пряма му́чуць. Што ж ты ду́мыіш, што бацьку прамы́тыя вады́ ні даеш.

### 134. Здружы́цца

*пасябраваць, стаць сябрамі* — падружы́цца *п. моцна;* сайціцца *п. на аснове адзінства поглядаў, ацэнак, іншаск.;* зра́дзіцца, спецца *п. на аснове асуджальных дзеянняў, неадабр.;* знюхацца, зня́хацца *п. на аснове асуджальных намераў, дзеянняў або ўзаемнага распуснага жадання, асудж.*; звесць дружбу *п. моцна і надоўга.*

Здружы́ліся і ніхай дру́жуць, што ім міша́ць. Пудружы́ліся во, як пы вічарінкых сталі ра́зым бегыць. Так ужо сыйшлíся — ка́жыцца, дня адзін біз другога ні прыжыву́ць. Пыта́іш ты на чым — на бульбі ны калхозный зра́дзіліся. Ім сьпецца нядоўга, злодзіі — адзін другога ні пірявесюць. Так ужо зьню́хыліся з брыгадзі́рым, што большы некуды,—усё гарелычка дзелыіць. Чорт чорта пызна́ў і ў госьці пызва́ў, так і яны зьня́хыліся. Лявона сь Сямёным вадою ні разьліць, куды адзін, туды і другей,— так зьвялі дружбу.

### 135. З'есць

*паесці, ужыць чаго-н. з ежы* — перакусíць *п. хутка і крыху;* перахваціць *п. на хаду;* паéсць *п. крыху, кніжн., рэдкаўж.*; паку́шаць *п. на спробу, руск., іран.*; паша́мацць, падша́мацць *п. добра, ціха;* запра́віцца, падзапра́віцца *п. грунтоўна, гумар.;* пажра́ць, падажра́ць *п. з прагай, груб.;* замары́ць чарвяка́ *п. крышку.*

Нада було б трошку зьесьць чаго, я дык ужо ла́дна пратрёсься. Есьць я ні хачу, ні прідлыга́й дайжа, мы ў сталовый пірікусілі. Не, дайжа ні садзіліся, так піріхвацілі троху стоючы. Дывай-ка, знаць, мы пыядзі́м, ужо ж абеды на дваре, дый ладныя. Паку́шыў ні паку́шыў, а зы сталом пысядзеў. Пыглядзі-ка там чаго пыша́мыць троху, нешта ўжо духі пыдвяло. Сеў за куст, пычша́мыў,

торбу зывізáў, напіўся вады і пашоў. Січас мы зыпрáвімся, во кусок сала найшоў, а хлеб і мылако вун ны стале. Дывай пыдзыпрáвімся і пойдзім, чаго йта мы будзім галодныя. Ны стале усяго вун стаіць, можна пыжрáць, калі ні вымудрáцца. Нада пыдыжрáць ба троху, а тады ўжо ехыць. Вазьмі блін, хуць чырьвікá заморіш, пакуля бульба пыдвáріцца.

## 136. Злавíць

*злавіць, схапіць рухомае* — паймáць, спаймáць *з., руск.;* сцáпаць, цáпнуць *з. імгненным рухам;* царыпнуць *з. імгненным рухам, жарт.;* схваціць *з. хуткім рухам;* схапіць *з. хуткім рухам, рэдкаўж.;* згрыбціць, згрыбчыць *з., добра захапіўшы ўсяго адразу, жарт.,* папáсць *з. нечакана, іншаск.*

Ета ж нада удача: пашоў і голымі рукамі зайца пут кустом злавіў, верна, спаў тэй. Калі ўжо толька пыймаю ў саду, будзіш сядзець у крапіві. Ніхай ты сяньня ўцёк, я цябе другей раз спыймаю, ня выкруцісься ў мяне. Ну, калі ўжо сцáпыю, будзіш харош. Пыдажджы, січас цáпну, другей раз ня выкруцісься. Як жа ты яе царíпнуў, іна ж нікому-нікому ня ловіцца. Ляцеў, прáма зямлі ня чуў пыц сабою, а я яго цап — і схваціў. Ну да, гаворіш, каб я ды ні схапіў цябе. Згрíбціў яго, узяў зы каўнерь і дзяржыць пiріц сабою. Нырвáліся лісьнікі, згрíбчылі і зьнялі хамут. Пупáла кошка неік птушку, здаровыю-здаровыю, я яе выгынáць с хаты, а йна с птушкаю пат печ.

## 137. Зламáць

*адолець, перамагчы фізічна (пра хваробу)* — зламіць, ламанýць *а. адразу, крута*; скруціць *а. да цяжкага становішча*; паклáсць, палажыць *а. да цяжкага становішча і надоўга*; скасíць, скрышыць *а. да небяспечнага становішча.*

Еж хырашо, ды ныдзівáйся цёпла, ды бірягíся, дык нічога ні злумáіць. Ці ета можна було падýмыць, каб Мыксімёнка што й калі зламíла. Высілá зразу неік луманýла, і сколька куды ня езьдзіў, нічога ні пымагло. З раньня хадзіў, нічога було, а к вечыру як скруціла, як крíкнуў, дык і крíкнуў, дык і крíкнуў і ляжыць цяперіцька пластом — ні пыднімáіцца. Пыклáла і мяне, ні знаю,

калі выкырыбкыюся. У мяне рымацізма, летым нічога, а ўвосінь як паложыць — кычаюся усю зіму. Дайжа і ў гылаве ў мяне ні стыяла, што такога здыравўшчыга нейкыя нячыстыя сіла скосіць. Так скрышыла, што ныўрад ці выбіріцца.

### 138. Злягчаць

*спакладаць, ажыццявіць выдаленне семяннікоў*—скласць; выкласць, вылажыць, вылягчаць *с., уст.;* выхаласціць *с., рэдкаўж.;* скастрыраваць, кастрыраваць *с., неалаг.*

Цігаўся нейкій шлэпырь учора пы дзяреўні, зьліхчаў пырасёнычка. Нада будзіць як гукнуць віцінара, ніхай складзець быранкоў. Хвідацёнык, кызалі, раз выклыў свайго сыбаку. Удашна вылыжыў бычка, ні хвыраў. Хадзіў кынывал, а я прагледзіў, нада було выліхчыць быринá. Выхылысьцілі жырібка, ды, знаць, ня дужа лоўка, нешта гылаву апусьціўшы стаіць. Жаребчыкыў скастрірывылі, коні-коні гады за трі возьмуцца. Кастрірывыў учора пырысятык, спыкайней цяперь зь імі будзіць.

### 139. Award

*змагчы, быць у стане зрабіць* — уздолець, судолець, здолець *з. па фізічнай сіле*; сумець, прымець *з. па фізічнай сіле і здольнасцях;* ухітрыцца, умудрыцца *з. лоўкасцю, хітрасцю.*

Пывярніся, кылі зможыш ну другей бок, я пасьцель ыпраўлю. Ныўрад ужо, ці я уздолію к табе заплесца. Ён яшчэ судолііць у Шамыва зьлётыць. Каб я здоліў, ні мінутку сядзець ні стаў ба, січас паехыў ба. Я ішчэ сумею скасіць ня меншы зы цябе. Каб прімеў, я б яму даў, жалка, што ні злавіў. Ухітріўся ж неік адзін пыцяг усьцягнуць. Яны ўмудряцца і ў хату залезьць.

### 140. Знайціць

*знайсці, выявіць у выніку пошукаў* — найціць; атыйскаць *з. згубленае або ўскосна ці папярэдне знаёмае;* разыйскаць *з., дзе б ні было*; адшукаць *з. згубленае*; абнаружыць *з. нечакана ў выніку пошукаў*; папасць *з. выпадкова, іншаск.;* натрапіць, налучыць *з. выпадкова і нечакана.*

Знайшоў нідаўна вязёнкі, дужа далёка былі — на шулі ліжалі. Шукаю, шукаю кырначык і нійдзе ні найду.

Ны гаре стаю, стаю пад ліпкыю, шчытáіш гордыю — найдзі є улыбкыю. Тупічку атыйскáў пыц саломыю. Нада б рызыйскáць мáльцыў, ніхай ба пад'елі, галодныя ж. Пыгадзі, ні гырячыся, ачшукáю, дык сам прінясу. Зы капою ат ветру сталі, там іх і абнарýжыў. Можа айдзе пупадзеш зуброýку, вырьві і прінясі мне кырянёк. Калі нытрáпіш кысьцяніц, вырьві цыліком кýсьцікыў сколька. Думыла ўжо нічога ні найду, — не, налýчыла кучу апенык.

## 141. Зняць

*зняць, вызваліць ад займаемай пасады* — скінуць *з. грамадою;* асвабадзіць *з. (звыч. па ўласнаму жаданню);* аслабадзіць, аслабаніць *з. (звыч. па ўласнаму жаданню), рэдкаўж.;* зволіць, звольніць *з. з-за неадпаведнасці, малаўж.;* змясціць *з. з паніжэннем;* змяніць *з. з адначасовай заменай;* скапнýць, скавярнýць *з. у выніку падкопаў, іншаск.;* спароць *з. у выніку працяглых намаганняў, іншаск.;* прагнáць *з. з шумам і без доўгіх размоў, іншаск.;* сагнáць *з. з шумам, прымусіўшы самога працаўніка пакінуць пасаду, іншаск.*

Відна, зьнімуць нашыга стыршынý: рызбáлывыўся, пьець, а хызяйства ні глядзіць. Пірістáў усіх пынімáць, дык яго сыбрáліся і ськінулі. Цяперь дужа ня чыкыюцца: ня хочыш работыць—асвыбыдзяць. Сіляткоў восім штук пугнýў некуды, а тады пычáў прасіцца, што ні гады ш шыгáлым бегыць,— дык аслыбадзілі. Буду прасіцца, каб аслыбанілі, ніхай хто мыладзейшый прáвіць. Зволілі Пынаса, вазіліся, вазіліся,— ня ўмеіць ён нічога дзелыць. Відна, звольнюць нáшыга гіроя,— што ён, толька піць умеіць. Нідáўна зьмясьцілі, цяперь ён рідавый. Чыкрініцца с табою ні стáнуць, зьменюць і ўсё. Пытпáівыў сваю шайку-лейку, усё хацеў скапнýць брігадзіра. Дзіржаўся, дзіржаўся, доўга, а тыкі скывірнýлі. Доўга пыткáпывыліся і спаролі нідаўна. Некуды ўжо було дзіржáць большы, дык прыгнáлі. Нябось, дыцáрствывыўся, сыгнáлі,— дуреў жа большы некуды.

## 142. Зрэзаць

*спіліць, паваліць падпілаваўшы (пра дрэва)* — спіліць, спілавáць *с., рэдкаўж.;* завáліць, звáліць *с. таварнае*

*дрэва;* паваліць *с. таварнае дрэва, кніжн.;* спусціць *с. таварнае дрэва высокай якасці і з уменнем, іншаск.;* паклáсць, палажы́ць *с. шмат, зайчасна, без патрэбы, іншаск.*; спіхнýць *с. лёгка, проста, іншаск.*

Зрезылі сасну ны самым крутом, ні равы́ ні шчарбы́ іх ні пужáюць. Уноччы сосны сьпілю́ць, зыбяруць камлю́шкі, а днём, як ні ў чым ні бувáла, пы макýшкі едуць. Спілувáў вербу, рыгызáтыя, рыгызáтыя была. Зывалілі ігрушу, саўсім сохнуць пычылá, чуць ды́хыла. Дзела було пы вясьне пы раньній, у тэй дзень, як звалілі клён лі калодзіжа. Айдзе я табе пымагý пываліць еткыю вербішчу, я хадзіць ня ўздолію. Нехта спусьціў трі сасны, дык я посьлі ныбраў, прівёз пыльля́. Столька бярёз пыклалі, ім ба яшчэ росьць ды росьць. Сапры́ныўскій лес пылажы́лі зы вайну у пень. Самі здаровыя, піла як агонь, сьпіхнýць пы сасьне і пывязьлі.

## 143. Ігрáць

*іграць, карыстацца музычным інструментам па прызначэнню* — рэ́заць *і. ахвотна, умела, гучна;* піліць *і. старанна і па-майстэрску;* ная́рываць *і. па-майстэрску, гумар.;* наігрываць *і. ціха;* пілíкаць *і. з невялікім уменнем;* тылілíкаць *і. бязладна*; скры́паць, ры́паць, рыпéць *і. няўмела і паціху, іншаск.;* скры́гаць, ры́гаць *і. няўмела і гучна, нездав.;* тры́нкаць, дры́нкаць, дрынчэ́ць *і. няўмела (на струнным інструменце), неадабр.*

Я на Коліну гармошку пылажý сваю сірень, кабы Коліна гармошычка ігрáла вісялей. Режыць да поту, як Санька каробчынскій. Чуў, як ты у сáмыю поўныч ішоў пы дзяреўні і пілíў «Стрыдáнія». Як узя́ўся ныя́рівыць, дык усе і раты́ пырызіўля́лі. Што ты нешта дужа скýшна стаў наігрывыць. Троху пілíкыіць і ладна, ці вам выпісывыць гырманістыў тых з Масквы. Ай, ікая там гульня, нейкій няўмека тылілíкыў. Прівядзіця Шыцінкá, ігрáць ён ня ўмеіць, скріпыць бýдзіць. Ріпыць на рýскый я ўжо наўчыўся, буду пыўбыя́н купляць. Ішчэ й ріпець дужа ня ўмеіць. Скры́гыіць, аж гармоня чуць ні рызарьвецца. Іграць ня ўмеіць, ры́гыць трошку прілумáўся. Ні було там ніякія мýзыкі, тры́нкыў нехта. Хвáціць табе дры́нкыць, аж у вушах віряшчы́ць. Якей зь яго музукáнт, ні йграіць, а дрынчы́ць.

## 144. Іму́шчаства

*маёмасць, уласнасць гаспадара ці калектыву* — маёмасць *м., кніжн.;* дабро *м. малакаштоўная, іран.;* бага́тства *м. значная, іншаск;* барахло́, бархо́лле *м., якая не мае каштоўнасці, пагардл.;* ве́шчы *м. асабістага карыстання;* мана́ткі *м. асабістага карыстання, зневаж.*

Рыспрыда́ў усё іму́шчыства, скора паедзіць. Ну, відзіш, ікая ў мяне маёмысць, ці быга́т я? Век пражы́ў, дыбра ні нажы́ў, дзеці ніхай самі пры сябе клапоцюцца. Пыка́зывый, пака́зывый сваё быга́ства, хвалі́сь. Якоя бырахло ні було — рыспырядзі́лыся: усё пыд мяцёлку пугну́ла. Прівёз учора усё сваё бырахолья — так, вазы два. Сы́бра́лыся троху вяшчэй, ны адну машыну, пыжалуй, ня ўзьлезуць. Ка́жыцца, нічога дужа ні було, а як сталі укла́дывыцца, дык мына́ткыў ныбра́лыся.

## 145. Ірва́цца

*драцца, зношвацца да стану непрыгоднасці* — рва́цца; драцца *д. уцэла;* шкумата́цца, шкума́ціцца *д. з-за неахайнасці;* шкума́рдзіцца *д. уцэла з-за неахайнасці;* сіціцца *д. праціраючыся;* прарэ́шыцца *д. па рубцах;* сы́пацца *д. шпарка, развальваючыся па нітках, іншаск.;* гарэ́ць, патрашы́цца *д. празмерна шпарка, іншаск.*

Глядзі́, хлопец, усё ны табе ірьвецца, як гарі́ць, я дужа ні нуспруўля́юся. Што ны табе ўсё ста́ла рва́цца, аж ні дзяржы́цца нічога? Па гру́дзі вобуў дужа-дужа дзярецца. Чаму ж тэя штанёнкі ня будуць шкумута́цца, калі зь дзеріў ні зла́зіць. Што ты хочыш, каб ні шкума́цілыся на іх, кылі пы пря́слых, пы плітня́х ні зла́зюць. Люба́я адзежына шкума́рдзіцца зы паўмесіца, ім хуць жалезныя шый. Нейкыя някрепкыя мацерія, трошку рубашку пынасі́ў і ны плічáх ужо сіціцца. Локці сталі прарешыцца, зашый, пакуля нібальшэя дзі́річкі. Ны ма́лых і адзежа і вобуў пряма сы́піцца. Ны вас усё ня рьвецца, а пряма гарі́ць. Якей пінжачок ні пашы́й, пряма пытрашы́цца на ім.

## 146. Істры́ць

*вастрыць, рабіць вострым* — вайстры́ць, вастры́ць *в., рэдкаўж.;* тачы́ць *в. вельмі затупленае;* зата́чываць *в. новае;* зава́стрываць (заво́стрываць) *в. новае, рэдкаўж.;* на-

вадзіць *в. старанна;* давадзіць *в. надзвычай старанна.*

Нада йстріць тапор, стаў як па́лка, нічога ні бярець. Бярі склыда́ный ножык, я яго вайстріў, а бальшэй ня істрін. Ра́зьві ты сам ня відзіш, што я стамеску вастрю. Пілу тачыў і парезыў паліц, ды ла́дна рызваліў. Пычаў зыта́чывыць стамеску, а ні бярець ні патпілык, ні ра́шпіль,— во суха́я. Ну што ты ўжо і ножыка ня ўмеіш зыва́стрівыць. Завострівыў тапор і ны жа́ла рызваліў бальшэй паліц. Вун ён ны дваре тапор наводзіць. Скоблю дывадзіў, ла́дна давёў: ладонь шырхану́ў, цяперь носіцца.

## 147. Ка́жацца

*напэўна, магчыма, без поўнай верагоднасці* — верна, наверна *н. са значнай верагоднасцю;* уродзі, наўродзі *н. са значным сумненнем у верагоднасці;* знаць *н. з няўпэўненасцю ў верагоднасці;* здаецца *н. з няўпэўненасцю ва ўсведамленні верагоднасці;* відна *н. пры некаторых падставах для верагоднасці;* ду́маю *н. на падставе асабістых заключэнняў аб верагоднасці;* ду́маецца *н. на падставе не зусім канчатковых асабістых заключэнняў аб верагоднасці;* пахо́жа *н. на падставе некаторых прыкмет аб верагоднасці;* пажа́луй *н. з некаторай упэўненасцю ў верагоднасці;* няйна́чы *н. з досыць бясспрэчнымі падставамі ў верагоднасці;* нібы́ццам (ба), нібы́дта (бы), бы́ццам (ба), бы́дта (бы) *н. з вельмі вялікімі сумненнямі адносна падстаў верагоднасці;* як слова, як бы́ццам (ба), як бы́дта (бы) *н. з сумненнем у наяўнасці падставы для перакапання ў верагоднасці;* глядзі што *н. са значнай упэўненасцю ў верагоднасці;* скарэй усяго (за ўсё) *н. пры перавазе падстаў у адносінах верагоднасці;* можна паду́маць *н. з няўпэўненасцю ў заключэнні адносна верагоднасці;* усёдно (усёадно) як, усёро́ўна (усёраўно́, усёраўна) як *н. з некаторай упэўненасцю ў верагоднасці на падставе тоеснасці;* хоць што дык *н. з поўнай асабістай перакананасцю ў верагоднасці.*

Я, кажыцца, ні пайду сяньня на вечыр, нешта ахоты німа. Верна, ўвесь горыд здріганўўся сяньня ў я́гыды: і йдуць, і йдуць, і йдуць біс кынца́. Цябе, наверна, людзі будуць жаніць, сам ты ўжо ня жэніську. Уродзі, не п чым ба ім дужа шыпта́цца, а глядзі ты, дуду́кыюць с пыўдня́. Ты ні знаіш, тваё ні зьбіра́юцца сяньня на сена? — Наў-

родзі, паедуць. Ты, карова, знаць, і гылавы ня хочыш сагнуць ны мікчугу́, пыдыва́й табе клівярок. Вы, здаецца, ўчора ні хадзілі ны Піря́дніна,— зря: ладныя, кызалі, была вічарінка: і раскошна, і хлопцыў многа. Ён цябе, ідна, саўсім пыніма́ць не хочыць: ты скызаў, дык і вухым ні павёў. Нічога, думыю, ні скажыш, што біз рызрішэнія узяў тваё мяшкі. Ды скрысеньня, ду́мыіцца, ні пасьпеіш ужо ні накры́ць, ні дайжа вароты навесіць. Ты, пахожа, яшчэ і касы ня думыў кліпа́ць. Заўтря, пыжа́луй, нікуды ня вы́біріська, дарогі ня будзіць: мяцець здорыва. Нійна́чы, нехта ў гуркі злазіў: ціціва́ пацёрта. Рызгыва́рівыў зь ім, нібы́ццым, сыгла́сін ехыць. Нехта мількану́ўся, нібы́ццам ба, твой Міха́лка. Пагода нібы́тта ныла́дзіцца. Нібы́тта бы, ўжо заўтря збіра́юцца ў дарогу. Глянь-ка, хто тама, бы́ццым, конь якей-то. Бы́ццым ба хто-то быў, замок трогыный. Нехта зыхадзі́ў, ды я дужа ні пызна́ў, бы́тта, Пынасіха. Бы́тты бы пры цябе там нешта гывары́лі, ды я ні паслу́хыла: некылі було. Як слова, пашоў Шурка, толька я хырашо ні рызьбяру́. Заўтря, як бы́ццым, госьці зьбіра́ліся быць. Як бы́ццам ба заўтря сыбіра́ліся прукуріць баню. Ну, як бы́тта скора паедзім ат'етуль саўсім. Зыхадзі́ла к табе як бы́тта бы Сямёніха. Глядзі што ляжыць ужо зіма. Скарей усяго, нікуды я ні пайду. Іван скарей за ўсё мог ета зьдзелыць. Ты, можна паду́мыць, важный чын зыніма́іш. Усе́дно як Міхалёнык пашоў. Нешта мількануліся, усёадно́ як карова чыя. Глянь-ка, там усёро́ўна як Сьціпаныў меншый. Нейдзі гаріць, усёраўно́ як лі Вяхры. У ногі аддаець, усе́рыўна як там мурашкі бегыюць. Зь неськім стыяла, хуць што дык с Тымашовым.

## 148. Калі́

*калі, злучнік залежных адносін абумоўленасці адной падзеі другой* — е́слі, раз; е́жалі *к., руск.;* удруг *к., з нечаканасцю;* случа́йна, случы́цца, тра́піцца, пры́дзецца *к., з выпадковасцю;* быва́ець *к., з выпадковай верагоднасцю;* ано́гды (ногды) *к., з выпадковай верагоднасцю, рэдкаўж.;* тру́дна *к., з выпадковай верагоднасцю, адзінк.*

Калі я што-небудзь абішча́ю зьдзелыць, абіза́цільна зьдзелыю. Пахом быў такей: есьлі ска́жыць, то вы́пыўніць. Раз аўтобус прашоў туды, должын жа іціць ныза́д. Ежылі можна будзіць, я пыдбягу́ абіза́цільна. Удру́г

ста́ніць туча ныхадзі́ць, зачы́ніш ю́шку. Случа́йна я куды атвярну́ся, аддасі́ бязьмен суседкі, ці адной, ці другой. Случы́цца за́йдзіць хто зь Мі́дзькыу́шчыны, дык ты ж устрець як людзей, хвастом ні накры́йся. Тра́піцца пулушу́бык налу́чыш падхыдзя́шчый, зра́зу бярі, зіму ж табе не ў чым хадзіць. Прі́дзіцца сьцямнеіць, а мы ні пасьпеім вярну́цца, пыпрасі́ Сьціпані́ду, ніхай карову цырканець. Бува́іць я зыдзяржу́ся, пакорміш пырыся́т, ім у чугунку гатова, толькі мылыка лінуць зь бітыга гырла́чыка. Аногды за́йдзіць Хрісьціна бізь мяне, аддасі ёй вузялок, іна зна́іць. Ногды ні пасьпеім вярну́цца, абедыйця біз нас. Сярьгей трудна папросіць рыспа́шнік, аддасі, ніхай возьміць.

## 149. Кампа́нія

*кампанія, некалькі чалавек, якія аб'яднана праводзяць час* — ша́йка, ба́нда *к. злачынцаў, а таксама людзей з ганебнымі паводзінамі;* ша́ція *к. хуліганаў, асудж.;* кубло *к. па-сваяцку блізкіх злачынцаў, асудж.*; сарві́лаўшчына, ша́йка-ле́йка, хе́ўра, сабато́рыя *к. падазроных, несумленных асоб, асудж.;* талака́ *к. вялікая, іншаск., іран.*

Айдзе ж твыя кымпа́нія, гука́й усіх, ніхай пыд'яду́ць. Цэлыю ша́йкыю ла́зілі, узьдзіра́лі крышы, і злаві́лі іх усіх зразу. Ціга́іцца банда с кынца ў канец, пріглідаюцца, каб у яблыкі залезьць к каму. Сыбра́лыся ша́ція, ува́люцца к некыму у гарод, вы́труць ды ка́ліва. Ла́дныя кубло іх там було, кра́лі ўмесьці. Ходзіць сарві́лыўшчына, глядзі́, укоцюцца ў гарод, сь ціцівою вы́нісуць. Улез у шайку-лейку, а цяперь і сам ні рад, ні знаіць, як вы́брыцца. Зь іхнію хеўрыю толька зьвяжы́ся, ні рызьвя́жысься. Пупа́ў у нейкыю сыбаторію і скруці́ўся. Куды вы такою тылакою пыця́гніціся?

## 150. Кане́шна

*безумоўна, без ніякіх сумненняў адносна верагоднасці* — кане́шня; безуслоўна *б., з пераканальнасцю ў верагоднасці;* ізве́сна, ізве́снае дзе́ла *б., з агульнай упэўненасцю ў верагоднасці;* паня́тна *б., з агульнай зразумеласцю верагоднасці;* пра́ўда *б. без сумненняў*; дзяйстві́цельна, апрэдзялённа *б., з бясспрэчнай упэўненасцю, руск.;* разуме́еецца *б., з агульнай зразумеласцю верагоднасці, руск.;*

наверняка́ *б., з упэўненасцю ў верагоднасці, руск.;* пе́ўна *б., на падставе канкрэтных заключэнняў ва ўпэўненасці, уст., адзінк.;* у са́мам дзе́ле *б., з цвёрдай падставай для ўпэўненасці;* само сабою (разумеецца) *б., з бясспрэчнай падставай для ўпэўненасці, руск.;* ду́маць нада́ *б., з магчымасцю наяўнасці разумовых заключэнняў аб упэўненасці;* як піць даць *б., з відавочнай упэўненасцю.*

Канешна, зьдзелыю, раз скыза́ў, я слоў на веціp ні кіда́ю. Канешня, папу яешня, а дзяк ба зьеў, ды далёка сеў. Канхвет я табе, бізуслоўна, куплю́, што зы рызгаворы. Калі Са́ўка пыдрядзі́ўся, то ён, ізьвесна, пыдвядзець. Ізьвесныя дзела, аткініцца птушка, ежылі гняздо троніш. Пыня́тна, пад'еду, толька можа ны мінутку спазьню́ся. Праўда, ён зьдзелыіць, і ня плоха, толька находзісься. Дзійствіцільна, ён жа ня можыць пріехыць зы такоя кароткыя ўремя. Дождж, апрідзілённа, зьбярецца, нада травіцу згресьць і прікры́ць. Рузумеіцца, куплю, ці мне зыпрясьціш, ці што. Нывірніка́ ета Клім быў, нашто б мне пыдма́нівыць? Гаўрі́ла ні пыдвядзець, пеўна прі́дзіць, ён цьвёрдый у слові. У са́мым дзелі, тут нехта хадзі́ў уноччы, во й сьляды ві́дны. Само сабою, я ў стыране ні ста́нуся. Само сабою рузумеіцца бісь цябе мы за стол ні ся́дзім, толька ні пазьні́ся. Зьмітрок, ду́мыць нада, ня верніцца, ета б Лявон — тэй ба прікаці́ў жыва. Адзін ні аста́ніцца, як піць даць прікоціць усьлед, а хочыш раншы вас будзіць у дваре.

## 151. Капа́ць

*капаць, займацца капаннем зямлі* — рыць *к. углыб;* калупа́ць *к. злёгку, слаба, іншаск.;* кавяра́ць, кавара́ць *к. неахвотна, нядбайна, іншаск., неадабр.*

Ны Пыдгародзьдзі ка́жный хызя́ін кыпаў сабе са́жылку. Ры́лі я́мкі пац сохі, убіліся ў пень: зімля дужа цьвёрдыя. Посьлі вайны лупа́ткымі сколька зямлі кулу́па́лі. Пытачы́ лупа́тку, ато будзіш дзень такою кывіря́ць. Кывыря́ў троху адзін да беда, прісты́ў толька.

## 152. Капры́з

*прыхамаць, нечаканае дзівацкае жаданне* — вы́мудры, вымудра́нне *п. крайне неабгрунтаваная і надуманая;* вы́думкі, выдумля́нне *п. надуманая;* вы́жымкі, выжыма́нне

*п. з надуманым крыўляннем;* выжымкі *п. з надуманым крыўляннем, малаўж.;* ламанне, выламыванне, выламліванне *п. з крыўляннем і задаваннем;* выбрыкі, выбрыкаванне, конікі *п. з нечаканымі выкрутасамі;* гіморы, гіморнічанне *п. з непаслушэнствам;* натуранне, натурлівасць *п. з упартасцю;* крыўлянне *п. з грымасамі;* карожанне *п. з куражаннем.*

Ныдаелі твае капрызы, як горькыя редзька. Унімíся з вымудрымі, яны дужа-дужа нікому ні інцíресны. Пірістáнь з вымудрянньнім, мне табою любувáцца некылі. Узноў пычынáюцца выдумкі — таго ні хачу, ета пыдай. Нып табою сьмяюцца, а табе кажыцца, што тваё выдумляньня дужа хырашо. Еж бяз выжымык, а не — дык міску сíчас зыбярý. Ны тваё выжымáньня толька люба глянуць. Столька таго чылавека, а выжымык — ны пылавіну дзяреўні хвáціць і яшчэ астанецца. Столька лумáньня — нібыццым яе нехта упрáшывыць будзіць: ідзі, Гáнньічка, ны работу. Калі ня кініш вылáмывыньня, сíчас ложкі па лбу схвáціш і палезіш з-зы стыла зыплáкыўшы. Буду я глядзець ны тваё вылáмлівыньня дый вазíцца як з бальною скýлыю. Таго ні хачу, етыга ні пыднасí,— сíчас у мяне захочыш і таго, і другога, і выбрыкі айдзе дзенуцца. Пулучыў зы выбрыкывыньня ремня і сьціх. Твае конікі сíчас-сíчас унíмуцца. Каб тваіх гіморыў меншы, дужа б ладна було. А бізь гіморнічыньня ты ня можыш абыйцíцца? Нечыга натýріньня пыкáзывыць: я табе дзела гываpю і плахому ня ўчу. Натýрлівысьці на цэлый вечыр: усё ні па ёй, усё ні так. Ты мне будзіш кріўляньня сваё выстыўляць, а я — любувáцца: ай, красíва. Ну й апастыліла іхнія карёжыньня.

## 153. Касíцца

*касавурыцца, скоса паглядаць, звычайна са злосцю* — касавýрыцца *к., жарт.;* хмыліцца *к. (пра каня)*; крывíцца *к. заўсёды, крыху, іншаск., гумар.*

Ну й нячыстыя ж сядзіць у карові, толька здáліку прайдзí, пычынáіць касíцца. Ні кысавýрься, Зорька, ні кысавýрься, прінісла хлеба і солькыю пасыпыла. Ідзі сьмела, мала што хмыліцца, ён і ня б’ецца і ні кусаіцца. Чаго ж ты, рябыя, крíвісься, ты ж у мяне і дагледжына і сыта.

### 154. Кіда́ць

*кідаць, выпускаць з сілаю з рукі* — кідаць *к., малаўж.;* маха́ць *к. уверх ці ўдалечыню;* пуска́ць, запуска́ць *к. рыўком, з сілаю, іншаск.;* пуля́ць, шпуля́ць, шпурля́ць *к. рэзкім рыўком;* шыба́ць *к. моцна, без разбору, неадабр., уст.*; смыля́ць *к. вельмі моцна, неразважліва, неадабр.*; швыра́ць, швірга́ць *к. са злосцю, нядбайна, неадабр.*

Ты мне снапы кіда́й, а я буду лавіць. Толька ні пірістá́нь кідыць ка́мнімі ў гарод, дам баню. Мыха́іць і мыха́іць, а яму яшчэ й слова ні скажы, во матка дык матка. Ба́лывыліся на вы́гыні, пуска́лі камлы́жкымі адзін у аднаго. Зупуска́й у яго сьнежкымі! Пуляюць ка́мнімі адзін у аднаго, глядзі, што гылаву рызмазкочуць ці вока вы́сыдзюць. Што ты шпуля́іш, ня хочыш браць — пылажы́ акура́тнінька. А што ім, шпурля́юць паленьня. Ня кінуць шыба́ць — вокны раз-два вы́сыдзюць. Ні смыляй па́лкымі, ці доўга да слу́чыя акалечыць каго. Ну й чылавек, новыга нічога ні ўзапреш ны яго, усё ні па ём, усё швыря́іць. Ты мне ні швірьга́й, а што далі, то й бяры.

### 155. Кіпе́ць

*кіпець, даходзіць да кіпення* — бурбуле́ць, бурле́ць, бурліць *к. моцна і бурна*; хлехата́ць *к. вельмі бурна і гучна;* кіпе́ць (біць) у ключ, біць ключом *к., фантаніруючы, як крыніца.*

Пыста́віла крупеню і забы́ла, іна сабе кіпіць і кіпіць і вы́кіпіла чуць ні ўся. Цягні чугун: ён ужо бурбуліць. Даўно стала бурлець, дыстыва́й, нічога ні аста́ніцца. Глядзі: будзіць бурліць, бурліць і сплувець ці саўсім вы́скычыць. Нашто табе, каб хліхытала, зыкіпела троху— і дыстыва́й. Хырашо як у каго газ — пыста́віў і зы мінутў выда у ключ кіпіць. Цягні ўжо, хва́ціць: б'ець у ключ. Дыстыва́й, ужо с пуўчыса́ б'ець ключом.

### 156. Конь

*конь, гаспадарчая жывёла для перавозкі цяжару і верхавой язды* — лошадзь *к., руск., іран.;* рыса́к, стаеннік *к. добры, сыты, жвавы;* луба́к, лубі́на *к. зацяганы, худы;* каня́ка *к. слабы;* кля́ча *к. надзвычай худы;* шаўлюга

*к. слабы і нізкарослы;* ваўкарэ́з, ваўкарэ́зіна *к. з норавам, адм.*

На коніх ужо ма́ла што й дзелыюць, усё машыны і машыны. Зыпрігáй-ка сваю лошыдзь, пыдвязеш нас. Вы́вілі рісакоў пугуля́ць. Тпру, стаеньнік, зьдзержу табе німа. Зладі там якога лубука́, тут усяго ношычкі дзьве бу́дзіць, пріця́гніць. Тыкая убойныя лубі́на: ні пу́гыю ні падго́ніш, ні хвырасьці́ны ня слу́хыіць. Зладі кыня́ку, абы калёсы цягнуў, ці мне горы пірівазі́ць. Ці табе коні ў тубуне ні було, што пасьле́днію кля́чу запрёг. У етыя шаўлюгі сілы толька ны быраны́, плуга і ні пыця́гніць. Ідзі ды глядзі вуўкареза таго: сі́час за́дым і сьвіста́ць. Ня конь, а вуўкарезіна нейкыя, ні ты яго ні зыпрягеш, ні патпоріш нічым.

## 157. Крапану́ць

*цісканyць, раптоўна пачацца (пра мароз)* — узя́цца *ц., павялічваючыся і ўсталёўваючыся, іншаск.;* прыцíснуць, прыжа́ць *ц. моцна, іншаск.;* прыўда́рыць, жаману́ць, даўляну́ць, цісканýць *ц. вельмі моцна, іншаск.;* пекану́ць, жарану́ць *ц. вельмі моцна і адразу, іншаск.;* уда́рыць, ламану́ць *ц. празмерна моцна, люта, іншаск.;* вы́скачыць *ц. раптоўна (пра невялікі мароз), іншаск.*

Сёліта неік няду́мна зразу як кріпану́лі марозы! Мароз узя́ўся ны мылыдзічку́, доўга бу́дзіць ціснуць. Кыла Новыга года ла́дныя марозы пріціснулі. Пріжмець яшчэ мароз, папомніш маё слова. Пашоччы ды пушука́ўшы ку́піш, само ў хату ня прі́дзіць, а як мароз пріўда́ріць, гады позна бу́дзіць ду́мыць. Ат мароза ўсяго жджы, ён і пыд вясну жыманець, аж дзіві́цца бу́дзіш. Крепка дыўляну́ў, хуць і на сходзі. Марозы ціскану́лі, самый раз у ва́лінкых выбіра́цца. Як піканець мароз, тады й пра шубу ўспомніш, ды позна будзіць. Ух жыряну́ў мароз, голыя рукі дайжа ні пыка́зывый, хуць двоя вязёнык ныдзіва́й. Було цёпла, цёпла, а тады посьлі воцьціпілі як уда́ріў мароз, я́блынкі і памёрзьлі. Марозы луману́лі нямерныя, сады могуць ня вы́дзіржыць. Марозыў крепкіх дужа ні було, так троху, бувала, вы́скычыць і скора атпу́сьціць.

## 158. Крыку́н

*крыкун, шумлівы і заўзяты спрачальнік* — гарлапа́н, гарладзёр *к. нахабны і пусты, адм.;* гарла́н *к. нахабны, адм.,*

*рэдкаўж.;* горла *к. неадольны, іншаск., адм.;* крыкса *к. слязлівы, неадабр.*

Крікун ты нічога, толька каб быў такей работнік на рукі, як на горла. Ірьвецца гырлыпан, яго ніхто ні пірікрічыць. Зы сваё гырладзёр, каб за вобшчыя так балеў. А чаго тэй гырлан рызыйшоўся, чым яго пакріўдзілі ўзноў? Ну й горла, зь ім дзісяціра ні справюцца, сваё дыкажыць. Пычаў крікса свае песьні, рысьпішчэўся.

## 159. Крэпкій

*моцны, фізічна здаровы і развіты* — здаровый *м. вельмі*; сільный *м., хударлявы;* дзябёлый *м., пруткі;* як гром, як бура *м., вялікі*; як звер *м., вельмі вялікі, сыты*; хоць у плуг запрагай *м., ленаваты, гумар.*

Ужо восімдзісят гадоў, а крепкій, крепкій і пасьці уставішна ідзець ны работу. Чаму ні работыць, такей здаровый, хуць у плуг зыпрігай. Ня думый, што ты адзін сільный, с табою многія справюцца. Дзябёлыя дзеўка і шасткыя ж у рабоці. У семдзісят гадоў быў яшчэ як гром. Устрэціў учора яго мыладую: як буря. Як зьверь, айдзе яму сілу тую дзівацць. Што ім, дзень прі дні гульма гуляюць, абоя хуць у плуг зыпрігай.

## 160. Курыць

*курыць, займацца курэннем* — дыміць *к. няспешна, для занятку, прыкметна дымячы, іншаск.;* смактаць *к. многа, прагна, іншаск., адм.;* цягаць *к. няўмела, іншаск.;* цягнуць *к. зацята, іншаск.;* зацягывацца *к. глыбокімі зацяжкамі, іран.;* смаліць *к. моцна, іншаск., неадабр.;* піпчыць *к. няўмела (звыч. пра малых).*

Хто ў мылалестві куріць, дужа ніздарова. Якей зь яго курец, так, дыміць троху. І смокчыць, і смокчыць пыпіросу зы пыпіросыю, з зубоў ні выпускаіць. Цігаюць вун зу гумном, дыцігаюцца, што пытпалюць якую пастройчыну. Адзь зямлі ні атрос, а ўжо й ён цягніць. Глянь-ка, зыцягыіцца як бальшэй, ажно сьлёзы нукруціліся. Ідуць па вуліцы, рукі ў брюкі і смалюць куплёныя пыпіросы. Калі ж ты ў мяне нувучыўся так піпчыць? — пручуханку палучыш.

**161. Лад**

*згода, адсутнасць рознагалоссяў* — мір *з. пасля рознагалоссяў;* спакой, пакой *з. з узаемаразуменнем;* спакойствія *з. з узаемаразуменнем, руск.;* саглáсія *з. з дружалюбнымі адносінамі;* цішынá *з. з адсутнасцю непаразуменняў, іншаск.*

Калі ў сям'е лад, тады ўсё хырашо. Чаго вам міру німа, грызіцёся дзень і ноч. Наверна ўжо нуступіў спакой, ато доўга ладу ні було. Нешта даўно ўжо ў вас пакой, верна, скора ўзноў пысвáріціся. Ну калі спакойствія, ніхай жывýць, раншы яны нешта доўга ні мірíліся. Усю жызьню прыжылí ў сыгласіі, слова ныпірякор адзін другому ні скызáлі. Ужо гады два ў іх цішына, кылытня́ кончылыся.

**162. Ламáць**

*ламаць, раздзяляць груба на кавалкі* — трысцíць *л. з трэскам, без разбору;* крышы́ць *л. на дробныя кавалкі;* крушы́ць *л. падрад, без разбору.*

Ну й дроў жа ты прівёз, ні нада тапор, лумáй і пряма ў печ. Пáлычкі неік аткінуў, зайшоў у каноплі і трысьціць іх, толька хроп-хроп-хроп. Лумáіць, крошыць усё пыдря́д і слова яму ні скажы. Што йта за буря тыкая, крýшыць вербы пыдря́д.

**163. Лапáтка**

*рыдлёўка, прылада для капання зямлі* — кірка, жалязня́к, зялязня́к *р., уст., рэдкаўж.;* лапáта *р., іншаск., абмеж.*

Такою лупáткыю ні зямлю кыпáць, а яе толька вы́крысіць ды вы́брысіць. Пытачы́-ка різáк і кірку, пойдзім на торх. Зутупíўся жылізьня́к і зрезыўся, нада другей купляць. Ап камінь як удáріў, кусок зілізьнікá й ацскачы́ў. Ходзіць з лупáтыю як ніпрікáінный, грядкі б луччы áббіў, каб дзіржáліся.

**164. Лежч**

*легчы, апусціцца ўсім целам на пэўнае месца* — прылéжч *л. ненадоўга або хаваючыся*; улéжца *л. зручна і надоўга;* разлéжца *л. раскінуўшыся;* раскíнуцца, развалíцца *л. раскінуўшыся, іншаск.;* расцягнýцца *л. вольна, іншаск.,*

*неадабр.;* вы́цягнуцца, вы́прастацца *л., вольна раскі́нуўшыся, іншаск., гумар.;* заваліцца *л. абы-як, іншаск.;* залёжч *л. надоўга або за укрыццём;* забуры́цца *л. нядбайна або надоўга, іншаск.;* перакі́нуцца *л. ненадоўга, іншаск.*; бра́кнуцца, бра́кнуць *л. як упасці, іншаск., жарт.;* шмя́кнуцца, шмя́кнуць *л. умомант, іншаск., жарт.;* бры́кнуцца, бры́кнуць *л. адразу, жарт.;* здзе́лаць коць *л. хутка (да дзіцяці), жарт.*

Ляж трошку дый пыляжы́, ішчэ касцы́ ня йшлі. Прілёг і зыдрімáў, ні пачуў, як скот прыгнáлі. Улёгся, што, відна, ня ду́мыіць скора пыднімáцца. Што ты разьлёгся на ўвесь сяньні́к, падзьві́нься, нада мáлым айдзе лежч. Пад вербымі раськінуліся і вылежывыюцца. Рызваліўся як пан і пыднімáцца ні зьбірáіцца. Ну, вы, рысьцягну́ліся, пырá за косы брацца. Што ты вы́цігнуўся і нічога ня ду́мыіш, нада ўжо брацьбыраду́ ў зубы, як бульбы злáзіць. Вы́прыстыўся вун ны саке, кычáіцца, што яму атходзіць. Пашлі ў гумно, зываліліся, іх с пушкыю ні пыдні́міш. Залёг на цэлыя суткі, ня меншы. Зубуріўся пыд я́блынкыю і ў хату ня ўпоўз. Дужа далёка твой Якыў, у пуні вун ны саломі пірякінуўся ны мінутку. Бря́кнуліся пыд бярёзкымі, ні пашлі ў хату. Пад'еў і бря́кнуў ны сяньнік. Паткінь якую тряпіну і шмя́кніся. Па мне айдзе шмя́кнуў, там і заснýў. Дывáй во бры́кнімся ны траву, пакуля усі падойдуць. Толька брыкнуў — і сьпіць. Што, мой мáлінькій, зьдзелыім коць?

## 165. Лезць

*лезці, узнімацца крута ўверх, чапляючыся* — скрэсца, ускрабáцца *л. з вялікімі намаганнямі, іншаск.;* скрáбацца, царáпацца *л. з вялікімі намаганнямі, без сіл (пра слабога, хворага), іншаск.;* карáбкацца *л. павольна, з цяжкасцямі;* дрáцца, дрáпацца *л. з напружаннем і энергіяй, іншаск.;* поўзць *л. павольна, без патрэбы, іншаск., неадабр.;* узбірáцца *л. вельмі высока.*

Вакно аччы́ніна, лезь і што хочыш бярі, і нада ж так кідыць на ўвесь дзень. Ні скрябíся на клён, апшасьнесься і звáлісься. Лесьвіца злумáлыся, цяперь ускрібáйся як хочыш. Чаго табе скрáбыцца на тую бярёзку. Цырáпыйся вун пу вуглу, а там зы паплеціну схвáцісься і ўзьлезіш. Кырáбкыўся-кырáбкыўся, а тады сырвáўся. Дзярецца ны саху, а йна глáдкыя як сьцякло. Дрáпыўся ны сасну зы

вырынятымі, зваліўся і рызмызкытаў гылаву, у бальніцу зывязьлі. Ахотычка ж табе поўзьць на тую ліпу, і каб було чаго. На етый ясінь узьбірацца нада сіла.

### 166. Ліцó

*твар (аблічча ў чалавека)* — мурлó, сýрла (сурлó) *т. тоўсты, адм.;* мýрзы *т. брудны, іран.;* рýмзы *т. плаксівы, іншаск., неадабр.;* рáжка *т. вельмі тоўсты, іран,;* мóрда *т. непрыемны, груб.;* хáра *т. вельмі непрыемны, груб.;* рыла, рýхала, грызла *т. вялікі і доўгі, груб.;* фізіянóмія *т., руск., іран.*

Мне тваё ліцо дужа знакомыя, хуць што, дык мы нейдзі ўстрічáліся. Што там у яго було зы паство, мурло наеў за лета, а скот галодный стыяў ны пáрініні, а тая пáрініна як бýбін голыя. Ух, сýрла якоя нугудуваў. Такое сурло, што аж блішчыць ад жыру. Ні пыцстыўляй мýрзы пацьсерп, бяз носа астánісься. Абмый рюмзы, грязь полысымі цякець. Разьеў ряжку, нічога ня дзелуючы. Ня сунь сваю морду, куды ня просюць. Ікая хáря ныхáльныя, ніпрáўду гаворіць і дайжа хуць ба што яму. Убярі сваё рыла ат'етуля! Дзьвіну ў рюхыла, тады атлезіш і места сваё найдзіш. Ня лезь сы сваім грызлым куды ня просюць. Ні пыцстыўляйся, твыя фізіяномія усім даўно дужа, дужа знакома.

### 167. Ліць

*ліць, вымушаць цячы (пра вадкасць)* — бухтóрыць *л. шмат і без патрэбы, неадабр.;* цыркаць *л. малымі дозамі, іншаск.;* цыркацца *л. малымі дозамі доўга, неадабр.;* цадзíць *л. малымі дозамі, павольна, неадабр.;* цурбэ́ніць *л. вялікім струменем, неадабр.;* шýхаць *л. адразу многа.*

Лі скарей у чугýн, вядро цякýчыя. Нашто ты бухторіш у сьвіньніно цеста халодныю вадý? Ня цыркый пы кáплі, а лі зразу сколька нада. Што ты цыркыісься ложкыю, вазьмі тряпкымі гаршчок дый нагні. Ні цадзí пы кáплі, ліні зрáзу зь відрá. Нашто мне цурбэніць яшчэ, я й зь естым ні спрáўлюся. Куды ты шýхыіш зь відрá, тама ж мукá стаіць у пáчыкых.

### 168. Лýччы

*лепш, з большай ступенню дадатнасці* — чышчы, лаўчэй *л. з большым майстэрствам;* латвей *л. з большым прыволлем;* вярней *л. з большай упэўненасцю ў правіль-*

*насці*; палу́ччы, пачы́шчы *л. з большай адметнасцю, рэдкаўж.*

У Тані поччырк лу́ччы, чым у каго. І зьдзелыіць чы́шчы любога, і калі ся́дзіць піць — зь любым спра́віцца. Па-мойму, табе лаўчэй ба саўсім тама ні пыка́зывыцца. Латвей ба, я думыю, табе було зьбегыць ны Засожжа атвечыра. А па-мойму, вярней выбіра́цца разым с сонцым. Такей пірябіра, што палу́ччы ішчы і ні на́йдзіш. Андрей ма́хырь пачы́шчы бра́та бу́дзіць.

### 169. Ляжа́ць

*ляжаць, знаходзіцца ў ляжачым становішчы* — кача́цца *л. доўга (не маючы занятку або пры хваробе);* валя́цца *л. доўга, без справы*; выланга́цца, вылёжывацца *л. вельмі доўга, без справы, асудж.;* ляжа́ць кры́цаю *л. упорна (пра лянівага).*

Ляжы́ць і ня хочыць пыдніма́цца, а скажы́ слова, што зьдзелыць,— ніхарош, во так і жыву. Ні кыча́йся, вун маты́чка пуд вуглом, а пы бырыка́х ны грядзе трыва́, ідзі ды рукі прікладзі. Я ўжо трецьцію нядзелю выля́юся, як пыхаджу́, пышывялю́ся — ударенія даець у гылаву. Вылынга́іцца і вылынга́іцца дзень прі дні, хуць ба паліц ап паліц уда́ріў. Некылі дужа вылежывыцца, нада зьбіра́цца к тубуну́. Ніхай ба бяремца хвырастку́ насек,— не, ляжы́ць кріцыю.

### 170. Магазі́н

*магазін, спецыяльнае гандлёвае памяшканне* — мага́зін *м., рэдкаўж.;* ла́ўка *м.;* кра́ма *м., уст.;* магазе́я *м., рэдкаўж., гумар.*

Чаго я табе буду цу́ргыць такея грошы, я ў мыгазі́ні куплю́ удвыя дзішавей. З мыга́зіна хлеб смашней, чым свой. У Бальшой Лешчынкі лаўку былі аткры́лі, толька іна ці таргу́іць цяперь. У нашый дзяреўні крама была гады трі, тады як у калхозы пісаліся, а посьлі нешта пірівялі́ ў Ры́лыўшчыну. У мыгазеі ўсё хочыш купляць, у мыгазеі, глядзі́ грошы ці хва́ціць.

### 171. Маро́з

*мароз, тэмпература паветра ніжэй нуля* — крапу́н *м. моцны;* пяку́н *м. вельмі моцны;* маразюга́н *м. празмерна моцны.*

Пытхваціўся мароз ніжда́нна-ніга́дынна. Усю зіму кріпуны́ стыя́ць і стыя́ць, во халодныя зіма, знаць, ні було такея ні ра́зу. Кыла Новыга года такея пікуны́ ўда́рілі, што ня вы́трывыць. Як цісканўў мурузюга́н, я́блынкі пыдря́д памёрзьлі.

## 172. Мару́дзіць

*марудзіць, не спяшацца дзейнічаць* — ме́дліць; мядлі́ць *м., рэдкаўж.;* цягну́ць *м., дзейнічаючы павольна;* валаводзіць *м., дзейнічаючы неапраўдана доўга;* каніце́ліць, каніце́ліцца *м., дзейнічаючы павольна і немэтанакіравана*; капа́цца, капашы́цца *м., дзейнічаючы вельмі павольна;* мя́цца *м. па нерашучасці, іншаск.;* валы́ніць, валакі́ціць, валанты́рыць *м., не пачынаючы дзейнічаць;* прахлажда́цца *м. па нядбайнасці;* цягнуць ката (сабаку) за хвост *м., дзейнічаючы павольна, наўмысна.*

Я там доўга ні мару́дзіла, туды-сюды забегла і скарей двору. Медліць дужа ні нада, троху укладзі́ся дый бягі. Ста́ніш мядлі́ць — цябе ніякій чорт ждаць ня будзіць, зыначу́іш адзін. Узяўся дзелыць, дык ні цягні. Вылаводзіць і вылаводзіць трецьцій дзень, а там за дзесіць мінут можна зьдзелыць. Кыніцель кыніцелюць ніізьвесна нашто. Ні кыніцелься, работы вун ніпыча́тый край. Ні хыця бу́дзіш кыпа́цца, калі з вамі дзень праду́рісься. Там можна зы час быразёнку сыгна́ць, а ты чуць ня дзень кыпашы́ўся. Зайшоў, мнецца, мнецца, ніяк ні скажыць зразу, чаго прішоў. Як нарошня валы́нюць, каб хацелі, дык ба зразу ныпіса́лі. Сколька яны мяне вылакі́цілі, каб хто знаў. Верна цэлый месіц вылант́ырілі, пакуля бумажку пытпіса́лі, іна ўжо мне ні нада стала. Прыхлыжда́ўся б толька і большы нічога, за́ дзінь капёшкі ні ныгрябець. Во так усігда́: цягнуць і цягнуць кыта за хвост. Сыбяру́цца, узя́цца нізашто ня хочуць, сыбаку за хвост ця́гнуць.

## 173. Ма́сцер

*майстар, добры спецыяліст у сваёй справе* — спецыяліст *м. з прафесіянальнай падрыхтоўкай;* спец *м. з уменнем прафесіянала;* уме́лец *м. з вялікім уменнем;* уме́ка *м. слабы, пагардл.;* прафе́сар *м. высокага класа, жарт.;* на ўсе рукі ма́сцер *м. у многіх галінах.*

Харошый мáсьцір, за што ня возьміцца — зьдзелыіць. Па плотніству лýччыга сьпіцыяліста ні нáйдзіш. Усе хлопцы спяцы, ад бацькі наўчыліся, тэй, бувала, што ня возьміць — зьдзелыіць. Такую работу нада ў рукі умельцу. Айдзе ж яшчэ можна узяць такога умеку. Ты прафесыр нічога: зьдзелыць з лоткі віріцяно. Лабýз быў марýда, зато на ўсе рукі мáсьцір.

## 174. Маўчáць

*маўчаць, нічога не гаварыць* — памáўківаць *м. асцерагаючыся;* іграць (гуляць) у маўчáнку *м., ухіляючыся ад размоў;* дзяржáць язык за зубáмі (на прывязі) *м., не выдаючы таямніцы;* не раскрывáць рота *м. упарта;* набрáць вады ў рот *м. вельмі ўпарта (пра ціхага або вінаватага).*

Увесь вечыр муўчáў, дáйжа слова ні прыраніў. Умеіць пымáўківыць, айдзе зря і чаго зря ні тріпанець. Што, з родным брáтым у муўчáнку ігрáіш? Ні гуляй у мыўчáнку, што дýмыіш, то й скажы. За што ўжо хырыша, ета ўмеіць дзіржáць язык зу зубамі. Ні завýць, дык і дзяржы язык на прівізі. Што б ні гыварілі, Іван рота ні рыскрываіць, ня любіць лезьць зь ізыком. Усі журтувáлі, сьміяліся, а Васіль пряма вады ў рот ныбраў.

## 175. Мéдленна

*павольна, ледзь дзейнічаючы* — ціха *п. вельмі;* нетарапліва *п., руск.;* марýдна *п. з-за значных ускладненняў у дзеяннях;* лянíва *п. з-за гультайства, неадабр.;* развáжна *п. з развагай*; вáгам *п., размерана;* памáлу, паціху, спакваля *п. без спешкі;* не спяшá *п. пры неабходнасці іншых дзеянняў;* як чарапáха *п. надзвычай;* як мокрае гарыць *п. вельмі (пры выкананні задання), неадабр.;* нага за (цераз) нагу *п. вельмі (пра хаду), адм.;* цераз час па чáйнай ложкі *п. вельмі (рабіць што-н.), неадабр.;* як не сваімі рукáмі *п. вельмі (пры выкананні работы), неадабр.;* як не сваімі нагамі *п. вельмі (у час хады), неадабр.;* як не сваімі зубамі (ротам) *п. вельмі (у час яды), неадабр.*

Шофір ня дужа прыкцікоўный, дык мéдлінна, медлінна едзіць. Ні сьпяшы, ціха дойдзім, чаго табе бежч. Квасолю лускáць рукамі дужа марýдна, яе лучча прáньнікым пабіць і сыбрáць. Лянíва ішоў, ён ні разгоніцца. Гаворіць рызвáжна, зразу падýмыіць, а тады слова скá-

жыць. Зорьку ці бі, ці пыдгыняй, нічога ня дзействуіць, усё ва́гым і ва́гым. Чаго ты дужа бяду́іш, дайду́ пыма́лу. Спуска́й ба́льку паці́ху, глядзі́, глядзі́, каб ні паехыла. Куды б ня йшоў, усігда́ спыквыля́. Мне к сроку ні на́да і ні сьпіша́ дайду. Куды ні пашлі́, айдзе ня пойдзіць, што ня возьміцца дзелыць, усю́дых як чыріпа́ха. Ясі ты як мокрыя гарі́ць. Плёўся у тэй бок ныга за нагу. Ныга ціріз нагу клы́пыіць некуды. Пыдыва́й быйстрей, што ты кідыіш ціріш час пы ча́йный ложкі. Што ты грябеш як ні сваімі рукамі. Учора мы відзілі: ішоў як ні сваімі ныга́мі. Чаго ты ясі як ні сваімі зубамі. Есьць як ні сваім ротым, можна ж трошку і скарей.

### 176. Мо́крый

*мокры, насычаны вільгаццю* — вы́макшый *м. поўнасцю;* спо́ены́й *м. наскрозь;* як з вады (вы́цягнутый), хоць вы́круць, як гу́шча *м. надзвычай.*

Разьвесь мокрыя бяльлё ны віцярку́, за міг праветрі́цца. Прібег увесь чы́сьцінька вы́мыкшый, ну што ты хочыш, пад еткій лі́вінь пупа́сьць. Ірьмя́к такей ужо споіный, што ні дусушы́цца. Уся адзежа як з вады. Пірівярну́ў сена — яно спадні́зу як з вады выцігнута. Прішоў, разьдзеўся,— уся адзежа хуць вы́круць. Сыпагі тэя і ны сыпагі ні паходжы, як гу́шча.

### 177. Му́чыцца

*мучыцца, цярпець мукі* — страда́ць *м. ад болю ці душэўных пакут;* мардава́цца *м. ад вялікіх і працяглых фізічных намаганняў;* смегава́цца *м. з-за абмежаванасці ў прадуктах харчавання;* цярпе́ць, перанасі́ць *м. вельмі, іншаск.;* ка́рстваваць *м. празмерна і працягла;* трудзі́цца *м. вельмі ад фізічнага болю.*

Пышла́ чы́сьціцца — ніўда́ла, му́чылыся, му́чылыся і пышла́ на тэй сьвет. Доўга стрыда́ла, пакуль рука зыжыла́ троху. Усё мурдува́ліся, а толку ніякыга. Самі ўжо як-нібу́дзь, а дзеці дужа сьмігува́ліся біз мылыка́. Я ўжо нескылька гадоў дужа цярплю́, нешта пад гру́дзі як патколіцца, як схва́ціць — спа́су німа́. Ні знаю, сколька мне яшчэ пірінасі́ць, лячу́ся, а лу́ччыньня німа. Можа я адна́ толька знаю, як ён ка́рствывыў пасьледнія гады. Як жа ён трудзі́ўся зь етыю сваёю ра́ныю, ніхто толька ня відзіў.

## 178. Мяце́ль

*мяцеліца, снежная бура* — мяце́ля, мяце́ліца; бура́н *м. вялікая, малаўж.*; пурга́ *м. вельмі моцная*; пу́льга́ *м. надзвычай моцная;* уюга *м. з моцным ветрам;* завіру́ха *м. з моцным, віхурыстым ветрам, малаўж.;* заве́я *м. з вялікім снегападам;* ве́я *м. з вялікім снегападам, рэдкаўж.;* ку́даса *м. з моцным ветрам і снегападам, малаўж.;* ду́йка *м. з пранізлівым ветрам, рэдкаўж.*

Тыка́я мяцель усхваці́лыся, сьвету белыга ня ві́дна. Хуць ба ж трошычку мяцеля ўніла́ся, ніку́ды ня вы́лізьць. Каторый дзень мяцеліца ні ўніма́іцца, пряма спасу німа. Пыдня́ўся бура́н, занёс усё, калі цяперь тэя дарогі рызатру́уць. Ні мяцеля, а пряма пурга́, і прець, і нясець, неба зь зямлёю зьміша́лыся. І нясець, і лепіць, во ўжо ўзьніла́ся пу́льга дык узьніла́ся. Куды ж вупруўля́цца такою пульгою, ад двыра ні атойдзіш—з дарогі саб'есься. Уюга і сьнегым лепіць і пряма з ног валіць. Кру́ціць зывіру́ха с усіх бакоў, вышы кры́шы сугроб пірід варотымі. Посьлі завеі ня дужа скора дарогі праложуць. Помніш, вея была, а ты сыбіра́ўся кытану́ць у Сапры́нывічы. Куды табе ў ку́дысу перцца, пысядзі́ ў ха́ці. Ну, кажыцца, дуйка ўжо сьціхла, ны мароз бярецца.

## 179. Набра́цца

*набрацца, набыць ці нарыхтаваць у дастатковай колькасці* — нагато́віцца, нагатава́цца *н. гатовага;* назапа́сіцца *н. у запас;* наме́цца *н. у межах уласных сіл;* наста́чыцца *н. у межах магчымасцей, неадабр.*

Айдзе я табе ныбяру́ся ны ка́жный вечыр новыю рубашку купля́ць. Пастой, пыгадзі́ трошку, я адна работыўшы ныгатоўлюся цябе ныдзіва́ць і прібіра́ць, а ты гу́льма гуляць будзіш. Ны таку́ю ара́ву нугутува́цца сілу-сілу нада ймець. Не, ні мае ўжо сілы адной нызыпа́сіцца ны вас усіх. Не ўжо, мае дзеткі, пыдрасьлі́ і йдзі́ця на свой хлеб, я вас пудгудува́ла і цяперь карміць ні намеюся. Табе ні ныста́чысься спруўля́ць адзежы, усё як гаріць ны табе.

## 180. Набы́ць

*набыць, атрымаць у валоданне ў выніку асабістых захадаў* — прыдба́ць *н. умелымі працоўнымі намаганнямі;* разжы́цца *н. выпрасіўшы;* расстара́цца *н. руплівасцю і*

*клопатамі;* нажы́ць *н. жывучы;* раздабы́ць *н. з цяжкасцю;* узбіцца *н. з вялікімі ўласнымі працоўнымі намаганнямі;* прыстара́цца *н. нязначнае з некаторымі клопатамі;* даста́ць *н. абходнымі або невядомымі шляхамі;* дабы́ць *н. невядомымі шляхамі;* спра́віць *н. клопатамі (адзенне, прылады);* заве́сць *н. для задавальнення, гумар., н. для развядзення (пра жывёлу);* прыабрэ́сць *н. лёгка, руск.*

Набы́ў кыравёнку, біз мылыка́ дренна. Ку́ртку як прідба́ла, дык і ні ськіда́ю. Зьбегый к Хлімону, можа ў яго рыжжывесься ны якую накідку. Трошку ні хваціла грошы, рысстыра́лыся там жа ны быза́рі ў сваіх. Чаго ні ныжылі, а дзяцей ныжылі. Рыздабу́дзь-ка ты мне к пра́зьніку віна харошыга, каб ня крепкыя і салодкыя. Посьлі вайны мы і ны карову доўга узьбіцца ні маглі. Во каб мне прістыра́цца такей тулу́пчык. Дыста́ла я сабе хустку кышымірывыю. Зайдзі к аднаму́, у другога спрасі, айдзе-небудзь дабу́дзіш. Спра́віў сабе і касьцюм с-пыд іголычкі, і пальто быга́тыя. Зывялі сабе авец: і воўна будзіць, і кусок быра́ніны увосінь ні звыля́іцца. Пріабрёў сабе путну́ю адзёжыну, пірістаў хадзіць ста́ріц ста́рцым.

## 181. Наваліцца

*наваліцца, пачаць уздзейнічаць усімі сіламі* — узваліцца *н. гуртам, грамадой;* напусціцца *н. рэзка;* накінуцца *н. рэзка і нечакана;* напа́сць, назы́нуць *н. рэзка і груба;* насе́сць, уссе́сць *н. неадступна.*

Як ныва́ліліся разым, нябось, прікусіў язык, ато ўхадору ні було. Чаго вы ўжо так усе ўзваліліся, а можа ён ні вінува́т. Як нупусьцілыся, як пыгна́ла, як пынісла́, як путуріла,— ня мне кыза́ць, ні табе слу́хыць. Накінуліся гуртым, дыкыза́лі ўсё, бу́дзіць помніць. Яны як ныпаду́ць, ня скора ацсту́пюцца. Назы́нулі ны брігадзіра ўсе ку́чыю, тады пірямерыў і зыпіса́ў як нада. Раз населі, два населі, слухыў я, слухыў, а тады пысла́ў іх к чорту і пашоў. Калі вы і усься́дзіця, дужа ён спужа́іцца ці паслу́хыіць, па ім ня бу́дзіця пыжджа́ць.

## 182. Наве́даць

*праведаць, зайсці пабачыцца* — атведаць *п. спецыяльна;* атве́дацца *п. спецыяльна, з дав., рэдка з родн., малаўж.;* даве́дацца *п. спецыяльна (родзічаў);* навясціць *н. спецы-*

*яльна, неалаг.*; навясціцца *н. спецыяльна, неалаг.*; *малаўж.*; праве́даць *п., не асабліва затрымліваючыся*; схадзіць у атведкі *п., сабраўшыся ў адпаведнасці з традыцыяй (хворага, парадзіху)*; паказаць вочы *п. дзеля прыстойнасці, неадабр.*

У скрысеньня сыбра́лыся і наведыла усю сваю радню́. Пыдажджы́, пыдажджы́, атведыю калі і цябе. Нада було б к сваім атведыцца, ды ўсё ўремя ня вы́біру. Схаджу́-ка я, сястру́ даведыюся. Во спасі́бычка табе, што ты ні забы́ла мяне, нывясьці́ла. Даўно зьбіра́лыся, можа як на бу́душчый нядзелі нывяшчу́ся. Ці ні зьбіра́ісься ты днямі сваіх у Падлу́жжы праведыць? У Праскоўіныя нявесткі сын, нада схадзіць у атведкі. Ты ўжо хуць ба вочы калі дзеля людзей пыкыза́ў.

### 183. Нагавары́ць

*нагаварыць, сказаць шмат рознай няпраўды* — напле́сць *н. глупстваў*; накляпа́ць *н. хлусні*; напе́ць *н. хлусні з хітрасцю, іншаск.*; наю́дзіць *н. хлусні з мэтай падвесці*; натрапа́ць, набаўта́ць, набалмата́ць, набалбата́ць *н. лішняга;* нагарадзі́ць *н. бязглуздзіцы;* намалоць *н. пустога;* набушма́ціць *н. хлусні, хвалячыся.*

Нгывары́лі, ныплялі́, што ён і такей, і сякей, і разьеткій. Прішла, ныпліла́, ныпліла́ уся́кія лухты́ ніпыцьсіва́ныя і пышла да́льшы. Ні была ж ба іна Шаўронкыю, каб ны чылавека ні ныкліпа́ць. Бува́іць, праўду скажуць, а буваіць, ныпяю́ць ра́зныя лухты́. Наю́дзілі, што іна і рыстыка́я, і рысьсіка́я, і піряеткыя, ня дзеўка ўжо, а нізьвесна хто. Вот у цябе прівы́чка, каб абіза́цільна нытріпа́ць, чаго й ні було. Чаго ты ўзноў тут нубуўта́ла? Ныбалмочыць ну любога, а тады: я ні кыза́ла і ні знаю. Лю́біць ныбылбыта́ць ны другога етый сьвецкій. Другей раз такоя ныгародзюць, што ду́мыў ба — ні пріду́мыў у жысьць. Ён нешта ра́ншы чуў, а тут яшчэ нымалолі,— прішоў аж кіпіць. Нехта нубушма́ціў, аткуль ба ж тэй знаў, сь кім я стыяла.

### 184. Нагання́й

*наганяй, строгае ўнушэнне* — прабо́рка, прабіра́нне *н. з працяглым ушчуваннем;* узбу́чка, нахлабу́чка *н. са злосцю;* галавамо́йка *н. з працяглым ушчуваннем, неалаг.;*

прачуха́нка *н. з лаянкай;* чос, тропка, ба́ня *н. з асаблівай злосцю і лаянкай.*

Да́лі яму ла́дный ныгыня́й, толька круці́ўся і красьнеў як рак. Ні хацеў паслу́хыць — будзіць табе сяньня праборка. Тваё прыбіра́ньня ім дайжа і ні брыдзі́ць. Што, была ўзбу́чка, ці я ні кызаў табе, што палу́чыш. Дай, дай яму ныхлабу́чку, каб другей раз знаў, што ні на́да так дзелыць. Удзьвюх яны устроілі Сьціпану гылывамойку ла́дныю. Ня бойсь, ні спужа́ўся твае пручуха́нкі, адбег і крічы́ць: «Дзелыў і дзелыць буду!» Дыва́лі яму ла́дна чосу, ці дос, ці яшчэ, ці яшчэ, ці дос. Дужа ён баіцца твае трёпкі. Ня хочыць і вухым весьць ны вашу баню.

## 185. Надае́длівый

*надакучлівы, такі, які надакучае*—надая́длівый; надая́длый *н. вельмі;* даку́шный, даку́шлівый *н. пастаянна;* дакары́цельный *н. педантычна;* назо́йлівый *н. пастаяннай навязлівасцю;* навя́злівый, навя́зчывый *н. навязлівасцю;* хале́рный, хале́рашный *н. вычвараннем, іншаск.*

Толька ныжра́ўся ат пуза і ўзноў скліміць, ныдаедлівый ма́ліц. Піріста́ньця быць еткімі ныдыя́длівымі. Усігда ты была ныдыя́длыя. Раншы ты ня быў даку́шным. Такей даку́шлівый, мурзапон, с кружэлкымі нейкімі вун носіцца. Ста́рый дыкарі́цільный: то яму ні так, ета ня етык, будзіць бурчэць, і бурчэць. Кылі бу́дзіш еткій назойлівый, нічога ні куплю. Дужа нывя́зьлівыя, усігда б ёй ныдыіда́ць. Такей нывя́жчывый сы сваім ка́нькыньнім. Абоя халерныя, адзін другога стоюць. Ну й халерышный жа ты чылавек, усёдно як дзіцёнык.

## 186. Надзе́цца

*адзецца, адзець на сябе вопратку* — адзе́цца *а., кніжн., малаўж.;* напрану́цца *а. у верхняе;* накамса́цца *а. у вельмі многае, іран.;* прыпарадзі́цца, сурадзі́цца *а. па-святочнаму не ў пору;* начапуры́цца, прычапуры́цца *а. па-святочнаму без патрэбы, іншаск., гумар.;* прыбра́цца, нарадзі́цца *а. па-святочнаму;* абрадзі́цца *а. па-святочнаму, іран.;* прынарадзі́цца, паднарадзі́цца *а. па-святочнаму нечакана, гумар.;* начыка́ніцца, прычыка́ніцца *а. ярка, гумар.;* разадзе́цца *а. багата;* прыфранці́цца *а. франтам, гумар.;* вы́радзіцца *а. крыкліва, неадабр.*

Ня йдзі голый, надзеньси, ато ўзноў пычанеш пірьхáць, як у бочку. Нада було б адзецца: хулуднувáта. Нупрянýліся і некуды шмыгнýлі ўдваіх маўчком. Ныкымсáўся, што ны чылавека ні паходж, летым баіцца зьмерзнуць. Куды ж ты пріпырядзіўся ў будзённый дзень? Пасьпеіш сурядзіцца, бягі-ка пырысáт адгані ат бульбы. Нучупуріўся, чуб нымáсьціў і ў зеркыла рызглідáіцца, што дужа харош. Ну й прічупуріліся ж вы, наверна, прібігáць сяньня вашы с Каўшова. Прібрáліся і кытанýлі пы Зяціцкый дарогі. Нырядзіўся і, нікому нічога ні скызáўшы, дунуў. Сколька ж табе ўремя нада абрядзіцца? Прінырядзіўся посьлі палýчкі. Ці ты ні пасьпела пыднырядзіцца? Нычыкáніўся як ны свадзьбу якую. Ну й прічыкáніўся — касьцюм новый, гальштук сь цьвітамі і бацінкі нячышчыныя. Мáрына дычка рызадзелыся ны свадзьбу, што куды там — шаўкі ды бáрхыты. Што ты пріфранціўся пы пылíшчы цягнýцца, усё бýдзіць ат пылі ні пызнáць. Вырідзіліся вы, што толька ны абізьян паходжы.

### 187. Надзéяцца

*спадзявацца, мець надзею* — рассчытываць *с., лічачы магчымым, ажыццявімым;* упавáць *с. з цвёрдай верай без дастатковых падстаў, рэдкаўж.*

Ны каго ты надзеісься,— Лісавета можыць падвесьць у любэй мамент. Ня бойся, ны тваю помышч я ні рашшчытывыю. Што я буду ны каго упывáць, трошку ішчэ сыма ногі цігáю.

### 188. Надзявáць

*адзяваць адзенне* — напрáтываць *а. вопратку;* нацягываць *а. з цяжкасцю (цеснае, мокрае)*; адзявáць *а., кніжн., рэдкаўж.*; камсáць, камсíць *а. вельмі многа, неадабр.*

Ныдзівáй-ка новыю куртку, я пыгляджý, ікывá ты ў ёй. Ныпрáтывый тулýп, ні пыжалеіш, глянь, што зы хыладзіна бярецца. Нешта ціснувáтый пулучыўся пулушýбык, во чуць ныцягывыю. Пыдажджы мінýтку, рубáшку ўжо адзівáю. Усё, што ні пупадзець, кымсаіць ны сябе. Сколька б іна камсíла ны сябе, пряма бязь меры.

### 189. Назна́чыць

*прызначыць на пасаду* — паста́віць *п. калектыўна;* прызна́чыць *п. вышэйстаячай інстанцыяй, кніжн., рэдкаўж.;* апрэдзяліць *п. вышэйстаячай інстанцыяй, руск., рэдкаўж.*

Цяперь у нас ду́жа ла́дныга хлопца нызна́чылі брігадзі́рым — толька с а́рміі, ня п'ець, хызя́йствінный. Ці помніш ты, як мы на сходзі Ільлю стыршыною пыста́вілі, а ён ныза́ўтріга дывай атпіра́цца: ня буду — і ўсё. Мой меншый пулуча́іць няплоха — сотні дзьве, ато й большы, яго ныча́льнікым зьмены прізна́чылі. Былі ўремінна апрідзялі́лі, а тады аста́ўся і аста́ўся, цяперь у дзела увайшоў і няплоха вядзець хызя́йства.

### 190. Незя́бнуцца

*назябнуцца, моцна азябнуць, доўга знаходзячыся на холадзе* — наме́рзнуцца (намёрзнуцца) *н. на марозе;* насты́цца *н. на ветры;* надрыжэцца, надры́гнуцца *н. да дрыжыкаў;* наскле́цца, назы́знуцца *н., лёгка адзеўшыся;* нака́ле́цца, надубе́цца, надубяне́цца *н. да страты рухомасці;* накатле́цца, наледзяне́цца *н. празмерна.*

Зіма зылігла́, цяпер ныз́я́бнісься бясь цёплыя адзежыны. Намерзьніціся, пызыхалодзіціся, тады мне з вамі вазі́сь. Зря цяплей ні ныдзіва́ўся: дужа намёрзься. Дос табе дурату́ твары́ць голыму ехыць, насты́нісься — пыжалеіш, што ні надзеўся. Хваці́ла нам, ныдрыжэліся, што большы некуды. Ён жа вы́прывіўся саўсім голый, надры́гніцца там як чорт. Едзь, едзь у пінжачы́шку, насклеісься, зьляжыш — уха́джывыць ня буду. Ну што, назызьліся, а ці я вам ні гывары́ла ныдзіва́цца па-людзку. Ныкалеўся, дык вун стаў жоўтый як жоўтый цьвет. Нудубеісься — тады пыска́чыш, будзіш знаць, як ныдзіва́цца. Нудубянеліся ўсе, тыкая хыладзі́на. Так ужо ныкатлеліся, як там яны ні зыкысьцянелі. Шу́хнулі ў ряку с сынямі, хырышо — на мелкым, і то ныліздзянеліся, чуць саўсім ні пызылідзянелі.

### 191. Найці́ць

*найсці, сабрацца паступова ў вялікай колькасці ў памяшканні* — набі́цца *н. да цесноты;* набра́цца *н. паволі, іншаск., абмеж.;* набу́хацца, набу́рхацца *н. надзвычай многа;* нахлы́нуць *н. адначасова многа.*

Найшло ў хату, як сялёдык у бочкі, там ня то што скыкáць — рукі прасýнуць некуды. Зразу ні було пасьці нікога, а патроху, патроху і набілыся. Ныбрáлыся пынямногу, аж цесна стала. Чаго вы набýхыліся у сенцы, вун жа хата свабодна. Набýрхылыся столька, што як яны толька ні пызадýшуць адзін аднаго. Аткуль іх столька нахлы́нула зы мінуту.

### 192. Наклáсць

*накласці, змясціць грудам* — налажы́ць; накрáтаць, нагрáкаць *н. вельмі многа і ўмела;* нагуртавáць, набýхаць *н. вельмі многа абы-як, неадабр.;* наваліць *н. вельмі многа без патрэбы і парадку, неадабр.;* напéрць *н. празмерна многа, неадабр.*

Пакуль воз ныклáў, сена троху атыйшло. Пагода дней нескылька была, пасьпелі пáру стагоў ылажы́ць. Воз ты ныкрятыў, а рукі твае ікавы́. Ныгрякылі вузюгáны, коні выцягыюцца. Нугуртувáлі чорт знаіць сколька, яно й разьехылыся, піріклыдáй цяперя. Бульбоўнік доўга сьпяліў, тады скасіў, набýхыў на жэрдзя, тарчы́ць ва ўсе бакі. Усігдá як ныáліць, аж глядзец брыдка, ня воз, а рыгізá. Нада ж столька наперць, ні дывязець, пыглядзіш, ні дывязець.

### 193. Намачы́ць

*намачыць, зрабіць мокрым* — змачы́ць, вы́мачыць, спаіць *н. вельмі;* перамачы́ць *н. шмат;* абмачы́ць *н. частку, кніжн.;* абрасіць, абрасяніць *н. у расе;* замачы́ць *н. асцерагаючыся.*

Кáжыцца, хацеў піць, губамі шывяліў, а пыдыйшоў к цэбру, і морды ня хочыць нымачы́ць. Каб знаў, ні ныдзівáў ба новыга пінжыкá, змачы́ў хуць вы́круць. Плоха яе дзела, плоха, плашэй быць ня можыць: вы́мычыў дождж сянíну і прíбрáць ня ўздоліла. Спаіў ірьмяк, што места сухога німа. Харошый прашоў дождж, спаіў зямлю уволю. Дужа ні прíбірáйся, пагода нінадзейная, толька пірямочыш. Трошку ні пасьпеў дабежч пат крышу, абмачы́ў дождж. Прішоў, абрасіў штаны́ пы сáмыя калені. Надзеў новыя тýхлі, абрысяніў, цяпер скыржанелі, аж глядзець ненышта. Лі акуратна, мяшкоў ні зымачы́, айдзе іх тады сушы́ць будзіш.

## 194. Наперако́р

*насуперак, у супрацьлегласць таму, што трэба, або чакалася, або павінна быць* — напе́рак (напяро́к), насу́праць (насупро́ць), упе́рак (упяро́к), папяро́к (по́перак) *н., неадабр.;* на здзек, наро́шня (на́рашня) *н. з намерам зрабіць непрыемнае;* наро́шна (нара́шна) *н. з намерам зрабіць непрыемнае, рэдкаўж.;* нарачы́та *н. з намерам зрабіць непрыемнае, малаўж.*

Ты яму гываpі́ адно, а ён ныпірякор бу́дзіць дзелыць другоя. Я ім за цэлый год наперік словічка ні скыза́ла. Гыварю ж яму: зьдзелыіш са́дзінь, не, ныпярёк сваё тваріць. Ня любіць, каб яму насу́прыць што кызалі. Нічога ёй нусупроць ні скызала, а як пынісла́, што на́ рыт лезіць. Ла́дныя путні́на, уперік слова ні кажы: і сякець і па́ліць. Гывapі яму адно — ён будзіць упярёк дзелыць. Ладна, большы я нічога пыпярёк ні скажу, дзелый, як знаіш. Я ўжо, ка́жыцца, попірік ні стынавіўся табе ні разу. Ня ўпросіш і ня ўмоліш, назло зьдзелыіць па-свойму. Ты яму кажы голіна, а ён на зьдзек цьвярдзіць стры́жына. Яго прасі́лі ўспакойся, успакойся, а ён схваціў палку і нарошня пы вакну, тады скруці́лі вярёўкымі. Ні знаіш ты етых га́ўрікыў, на́рышня што-небудзь пацстроюць, а тэй сь сябе выходзіць. А ні выду́мывый ты, хто там на́рошна сьлядзі́ць ста́ніць. Нехта на́рышна ныпісаў, каб пысьмія́цца толька, а ты паверіў зразу ж. Базыль ныpачы́та утворіць такоя, што ў век ба ні даду́мыўся.

## 195. Напра́сна

*дарэмна, без карысці, марна* — по́пусту, упусту́ю, зра, да́рам, дарма́ *д. зусім;* беспале́зна, безразульта́тна *д. без вынікаў;* ні за пані́ох(нюх) табакі, ні за што ні пра што, толька шчоту, толька што *д. без усялякай карысці;* жа́льця божа *д. са шкадаваннем.*

Ныпра́сна ты ёй рыскыза́ла, усім растрепліць. Попусту сьціга́ўся ў горыд, нічога ні купіў. Нада ж так упусту́ю уремя ўбіць, быразёнку б бульбы прайшоў. Зьезьдзілі зря, цілят і ў памі́ні ні було. Пабеглі — і да́рым: гырманіст у дровы паехыў. Дырма́ ріпярці́ліся: дождж пыча́ўся. Стыря́ўся, стыря́ўся і ўсё біспалезна, усё хі́ньню пашло. Бізрізульта́тна яму гывapі́ць — ня слу́хыіць нікога і нічога. Згыня́ла яго ні за нюх тыбакі, ніхай ба

луччы с касою схадзіў у кусты. Зьезьдзіў ні зы панюх тыбакі, нічога ні прівёз. Абла́іла чылавека ні за што ні пра што. Толька шчоту, што пабыў, а што я там уві́дзіў? — нічога. Толька што схадзілі, мы там нічога ня відзілі. Жалься божа, што сьціга́ліся, толька ногі зьбілі.

## 196. Наро́шня

*знарок, з пэўнымі намерамі* — на́рошня, наро́шна (на́рашна) *з., рэдкаўж.*; спецыя́льна *з. прадугледжана;* умы́шленна, наме́рана *з. свядома;* сазна́цельна *з. прадумана;* назло́ *з., каб зрабіць непрыемна.*

Сціпан ні такей чылавек, нарошня ён дзелыць ні ста́ніць. Вот ві́дна ж зразу, што нехта на́рышня ўзяў і пытыпта́ў. Айдзе там няўмы́сьля,— нарошна швірьгнуў. Усё на́рышна тваріць. Я сьпіцыя́льна па́зылкі трясу ны гряды,— тады зыпа́хывыюцца. Няўжэлі табе дыка́зывыць нада, што зьдзелына умы́шлінна. Косьцікывы сыны наме́ріна любую пу́лю атальлюць. Бірючоныk сызна́цільна утворіць, што хочыш. Няўжэлі ты ныпра́ўду ду́мыіш, што людзі толька і зымышля́юць зьдзелыць табе назло.

## 197. Насмяя́цца

*насмяяцца, здаволіцца смехам* — нахахата́цца *н. моцна;* нарагата́цца *н. гучна;* наржа́цца *н. вельмі гучна, іншаск., асудж.;* нахлехата́цца *н. гучна, груб.;* бакі́ (жывот, жывоцікі) парва́ць *н. да знямогі.*

Во ўжо нысьміяліся, чаго там толька ні вытвыря́лі. Схадзі і ты пылядзі́ — ныхахочыcься. Кажный дзень у іх тыкая камедзія, хто ня йдзець — ныряго́чыцца. Ну, ці ныржа́ўся, можа ўжо хва́ціць. Ныхліхыта́ліся, пыра пірі́ста́ць. Схадзі пыглядзі́, бакі парьвеш. Пря́ма жывот пырва́ў, як пычалі́ ўсё ўся́кыя выдзелывыць. Як сталі прі́стыўля́цца, жывоцікі пырва́ць було.

## 198. Натапі́ць

*напаліць, нагрэць паленнем* — прагрэць *н. даўно астылае;* нагрэць *н. да адчування цеплыні;* напалі́ць *н. да адчування гарачыні, кніжн.;* накалі́ць *н. да адчування пякучай гарачыні;* нака́хліць *н. да адчування пякучай гара-*

*чыні, неадабр.;* раска́хліць *н. да пачырванення (звыч. пра печку), неадабр.;* нажа́рыць *н. моцна без патрэбы, асудж.;* даць жа́ру *н. без патрэбы або дрэнна, няўмела, іран.*

Ты ўсігда́ як натопіш, хуць у баню ні пыка́зыйся. Прагрела за́днію хату: госьці абішча́лі быць. Зыспа́лі сяньня, толька к абеду нагрела троху. Крепка нылалі́лі, ні замерзьніця. Во ета ныкалі́ў, тут ня то што ны палок лезьць, а й ны масту́ ня ўседзіш. Так ужо сяньня пірямёрз, так пірямёрз, што ўсі костычкі пірясты́лі, ныка́хлю баню, піріжа́рюся. Рыска́хліў гру́бку, аж кра́сна. Дзіржа́вы у тых дрябі́ных, канешна, ні було, ну алі ж у печ іх зразу уперць — толька ныжа́ріць бяс толку хату. Я знаю, ты як дасі́ жа́ру — будзіць хыладзі́на, хуць ваўкоў гыняй.

## 199. Наўра́д

*наўрад, няма ўпэўненасці, што можа быць* — наўда́ку *н., уст.;* ура́д *н., руск.;* не пахожа *н., амаль без упэўненасці.*

Пысядзі́ця вы лу́ччы ў хаці, ныўря́д каб у такую зыві́руху пыцягну́ўся хто на тэя скокі. Ныўда́ку, ці ўві́дзіш ты Сярьгея, там жа ты́січы сыбяру́цца. Уря́д, каб Ганна туды пышла, іна сябе дзіржа́ць у ря́мкых умеіць. Ні пахожа, каб Антон зьбіраўся у сва́ты, ён толька лыпатну́ць можыць.

## 200. Наўчы́цца

*навучыцца, набыць навыкі, уменне* — навучы́цца *н., кніжн., малаўж.;* прыўчы́цца *н. па неабходнасці;* прывучы́цца *н. па неабходнасці, малаўж.;* прылама́цца *н. крыху;* паня́цца *н. хутка, н. недазволенаму;* звучы́цца *н. дрэннаму, недазволенаму, неадабр.;* насаба́чыцца *н. дрэннаму, пахабнаму;* набіць руку́ *н., набыўшы навыкі.*

Наўчы́цца — ні на́ўчыцца, а ніхай пылядзі́ць, як другея дзелыюць. Захочыць есьць, дык наву́чыцца і ложку дзіржа́ць, і ўсё. Пріўчы́ўся ма́лый ужо бяс соскі спаць. Пыдажджы́, ня ўсё зразу, прівучыцца і лажы́цца воўрімя, і ўстыва́ць. Доўга саўсім не ўмеў, цяперя трошку прілума́ўся рі́пыць ны гармоні. Ні бяду́й: пыглядзі́ць, асвоіцца і пойміцца. Зма́лку кылі звучыцца ду дурнога, тру́дна

тады пірявýчывыць. Нысыбáчыўся мазкі зылівáць, умеіць, чаго там гываріць. Набіў рукý, ужо ні плахея боты можыць пашыць.

### 201. Наўчыць

*падвучыць, як зрабіць* — навучыць *н., кніжн., малаўж.;* напуціць *н., падрабязна растлумачыўшы;* падучыць, падвучыць *н. на дрэнныя ўчынкі;* падгаварыць, падбіць *н. на асуджальныя ўчынкі*; падбухтóрыць *н. лёгка на асуджальныя ўчынкі;* навухрыць, падвухрыць *н. энергічна;* настрапаліць, падстрапаліць *н. з правакацыйнымі мэтамі;* падсыкнýць *н. лёгка з правакацыйнымі мэтамі;* падсатаніць *н. здзекліва;* пад'юдзіць *н. на здрадлівы ўчынак;* пад'ялдыкнуць *н. правакацыйнай заўвагай;* паджыгнýць *н., надаўшы энергічнасці.*

Цябе чаму нáўчуць, тоя ты й дзелыіш. Харошыму ні так скора наўчыць, а дурному навýчыш раз-два. Сам ба ні пірідыражыў і прыдáў, яго так нупуцілі. Пудучы, пудучы, ён і ныпрáўду паверіць. Пудвучылі мáлыга ў сад лезьць, а самі сьмяюцца. Куды яны цябе пыдгываріліʔ Ён такей: можна падбіць і ны харошыя, і ны плахоя. Ета ты яго пудбухторіў, бісь цябе некыму було. Ат іх толька жджы: нувухрáць такому, што й ні захочыш. Пудвухрі, ато ён сам ні знаіць. Нехта ныстрыпаліў выступіць. Ён і так цáца лáдныя, а ты яшчэ большы пыцстрыпаліў. Пыцсыкнýлі яго, дык прібег аж кіпіць, чуць ня біцца кідыіцца. Пыцсытынáць нарошня, а тады сьмяюцца, як ты сь сябе выходзіш. Пад'юдзь яго, пад'юдзь, ён як бісь цябе нічога ні знаіць і ня віdзіць. Так і глядзіць, каб каго пыд'ялдыкнуць, ну й натýра ж у чылавека. Хацелі пыджжыгнýць, ды ні ўдалося, ато яны ну дуратý і прівыклі. Так во усігдá — каго паджжыгніць, а сам збоку сьмяецца.

### 202. Неажыданна

*нечакана, непрадбачна* — няждáнна, нягáдана, няждáнна-нягáдана, нядýмка *н. зусім;* непрадвідзенна *н. зусім, руск.;* рáзам *н. зусім, раптоўна;* арáптам *н. зусім, раптоўна, адзінк.;* удрýг *н. зусім, раптоўна, руск.;* ні адтýль(я) ні адсюль(я), адкýль(я) ні вазьмісь, як снег на галаву *н., вельмі раптоўна.*

Ніажы́дынна неік усё пулучы́лыся, я дык і ні знаю, што вам скыза́ць. Купіў я ету кыравёнку саўсім ніжда́нна. Мае пріехылі неік ніга́дына. Ніжда́нна-ніга́дына такея госьці ў хату,— айдзе ж вас пысадзі́ць. Я ўжо і лігла́ і сьвет путушы́ла, а яны нядумна гур у хату. Што ж ты цяперь гаворіш ніпрідві́дзінна, нада ж було ра́ншы мызка́мі шывялі́ць. Паехыў у за́рыбыткі, ра́зым зыіўля́іцца ныза́д голый,— заробіў! — прапі́ўся да ніткі. Кошка сядзела, сядзела, а тады апсом як кініцца ара́птым ны ціплёнка. Палез, кажыцца ўсё ладна, а тады удруг як зыгрі-міць зьверьху — лесьвіца злума́лыся. Ні атту́ль ні аць-сю́ль нясець пышта́рька ізьвяшчэньня—грошы пулучы́ць: дычка пріслáла. Дождж етый лінуў ні аттуля ні ацьсюля, толька рабоці пымішаў. Я цябе саўсім ні жда́ла сяньня, а ты аткуль ні вазьмі́сь едзіш. Сяджу, пірякусыю, а заіц аткуля ні вазьмі́сь жыг лі мяне. Госьці ка мне як сьнег ны гылаву́ грім цэлыю ку́чыю.

**203. Неакура́тный**

*неакуратны, нядбайны ў адносінах да сваіх рэчаў, да сябе* — неаха́йный, няра́шлівый, неапра́тный *н. вельмі ў адзенні;* нязгра́йный, нехуца́вый *н. ва ўсім;* нерадзі́вый *н. з-за бестурботнасці, рэдкаўж.;* нечыстапло́тный *н. у доглядзе за сабой.*

Акура́тным можна быць і насёмшы, і вадзёмшы, а ты дужа ніакура́тный. Пінжа́к-то вялік, а ў пріда́чу ты сам ніаха́йный, во адно к другому і пулуча́іцца. Хуць ба ты трошку быў акура́тній, ато такей ніря́шлівый. Такога ніапря́тныга чылавека первый раз устріча́ю. Іка́я ма́тка, тыка́я і дычка́, абея нізгра́йныя. Што ты мне гаворіш, ці я сам ні знаю, якея яны ніхуца́выя. І ма́тка была нірадзі́выя, і дычка спыднічэнку ляніцца пірісьцірну́ць. Во, твой і дзед такей жа нічыстаплотный быў, бувала ні ў баню памы́цца ня вы́прывіш, ні пірядзецца ні дату́ркыісься.

**204. Не́йдзе**

*дзесьці, у нейкім дакладна невядомым месцы*—айдзе́-то, айдзе-не́будзь (айдзе-ніб́удзь); айдзе-лі́ба, айдзе́ *д., малаўж.;* проця ліха на ўзгорачку *д., жарт.*

Я цябе не́йдзі ві́дзіў, толька ня ўспомню айдзе. Зразу аднаго айдзе-то зыкандры́чылі, а тады і другога ухайдошылі. Другей раз айдзе-небудзь пупадзём, мы цябе

пу́сьцім, будзіш пу́шчын. Айдзе-ніб́удзь і я куплю, цэл буду. Во вясною айдзе-ліба зна́йдзіш гріб, дык нікчомный. Ду́мыю, цубу́лі айдзе пупаду́, етыга дыбра усюдых бу́дзіць. Ці ты ні знаіш, айдзе яго іскаць,— проця ліха на ўзгорычку, сядзі́ць і цябе жджэць.

### 205. Несць

*несці, перамяшчаць у руках або на сабе* — перць *н. вельмі многа, неадабр.;* цягну́ць *н. цяжкае, іншаск.;* валоч *н. вельмі цяжкае, іншаск.;* тара́ніць, тара́чыць, тараба́ніць *н. лёгка, бадзёра, жарт.;* ташчы́ць *н., руск., рэдкайж.*

Ношку нывіза́ў, цяжолыю, чуць-чуць нёс. Ахота табе ныбіра́ць столька, ты ж чуць преш. Нешта цягну́ў ны плічáх, ды я ў пріцімкых ні рызыбра́ў што. Валок у мяшку зы плічáмі нешта цяжолыя, відна, соль. Тыра́нь веникі ў баню, і мы січас ідзём. Куды ты тыра́чыш пырасёнка? Тырыба́нь вёдры дзядзьку, ды скарей. Ташчу, гаворіць, пыдарык цёшчы, і праўда, кашолка поўніпькыя і ў сеткі нешта.

### 206. Не́хта

*хтосьці, невядома хто* — хто-не́будзь (хто-ніб́удзь), хто-то; хто-ліба *х. малайж.;* не́хтачка, ці кот ці воўк *х., жарт.*

Нехта мытану́ўся лі выкна́, ні разгледзіў хто. Ні клыпаці́, хто-небудзь і табе на́йдзіцца, у дзеўкых вікува́ць ня бу́дзіш. Ідзі, хто-ніб́удзь пацскочыць і паможыць, а можа я сам пыдбягу́. Хто-то аптрёс яблынку і ў пріда́чу сук злума́ў. Хто-ліба там быў, іначы б іна ні кріча́ла. Ага, нехтычка пыдаріў табе ка́ртычку. Ну, хто ж там мог быць, ці кот ці воўк.

### 207. Нізашто́

*нізашто, ні ў якім выпадку, ні пры якіх умовах* — ніза́шта *н., малайж.;* ніза́штачка, ані (ні) блі́зка, ні за я́кія (якéя) грошы *н., з перакапальнасцю;* ні ў жысць *н., неадабр.;* ні ў зуб нагою *н., жарт.;* айдзе там *н., без часц. не.*

Калі ўжо што скыза́ў, бу́дзіць цьвёрда стыяць, нізашто ні ацсту́піць. Ні захочыць — ніза́шта ня возьміцца дзелыць, хуць ты яму кол ны гылаве цяшы́. Ці ты яму

гыварі́, ці ні гыварі́, ніза́штычка ня слу́хыіць. Пыдыйшоў, гыварю яму, пойдзім разым, айдзе там, ані блізка. Пыднісла́ сечкі і абміша́ла ж ла́дна,— толька чмы́хнула, ні блі́зка ні ўзіла́. Ні зы я́кія грошы ні ўгаворіш яго пайціць,— баюся і ўсё тут. Я сам чуць купіў, ні зы які́я грошы ні ддам. Такую работу я ні зы якея грошы ні вазьму́ся дзелыць. Ніхай толька пыка́жыцца, што ні так — увапрецца, надмецца і ні ў жысць ня пойдзіць. Ого, каб твой паслу́хыўся, ні ў зуб нагою ня хочыць брацца. Айдзе там Гыраська возьміцца зы касу́, гульта́й з гультаёў.

## 208. Нізкій

*нізкі, невысокага росту* — невісо́кій; ма́лый, небальшэ́й *н. у параўнанні з іншымі;* небальшы́й *н. у параўнанні з іншымі, малаўж.;* небальшо́й *н. у параўнанні з іншымі, руск., рэдкаўж.;* няро́слый *н. у гадах;* недаро́слый *н. вельмі, зневаж.;* курду́пый *н. вельмі, іран.;* каро́ткій *н. вельмі, іншаск., жарт.;* прыні́зістый, прыся́дзістый, ўся́дзістый *н., тоўсты і каранасты;* аршын з шапкаю *н. зусім, жарт.*

Ішла нешта летым па вуліцы сы сваі́м лінінгра́ццым,— так сабе, ны ліцо нічога, толька нізкій. Мой мілёнык нівісокій, нівісок, зато красі́ў. На рост яны ўсе ма́лыя, толька ўжо ў ла́дных гыда́х, пат тріццыць даўно пыдбіра́іцца. Абея ростым нібальшэя, ну красі́выя, аткуль што ў іх бра́лыся. Да не, яе хлопіц саўсім нібальшы́й. Ныабарот, Іван быў нібальшой, а Сашка вісачэзный як жэрдзь. Пя́ціра братоў і ўсё як адзі́н нейкія нярослыя. Ніхай сабе нідарослый, у рабоці чорт зь ім ні спра́віцца. Урадзі́ўся нейкім курду́пым, іна стыдзі́цца ра́зым на людзі вы́йціць. Ні пайду я с тым кароткім, ці мне сьвет клі́ным сыйшоўся. Прінізістый, ну здаровый, і аткуль у ім столька сілы. Такей прíся́дзістый, як удоўж так і ўперік. Ві́дзіла, уся́дзістый, а столька зыда́ч, што ні пуцступі́ся. Шчэпыць таго чылавека, саўсім нібальшога роста, аршын ш шапкыю, а возьміцца што дзелыць — дык двына́ццыць у ім сядзіць, усё гарі́ць у руках.

## 209. Нійдзé

*нідзе, ні ў якім месцы* — ні там ні тут (ні тама ні тута); ні та́мацька ні ту́тацька (ні та́мацькі ні ту́тацькі) *н., уст.;* ні ў рава́х ні ў шчарба́х, ні ў мíры ні ў Сібіры *н. абсалютна.*

Хадзіў пуўдня́ і нійдзе ня відзіў цубу́лі, а кызалі, пляцёнкі трі було. Ён такей чылавек, яго ні там ні тут ні зыхва́ціш. Ня можыць спакойна пабы́ць ні тама ні тута. Места вам німа ні та́мыцька ні ту́тыцька. Во ты гаворіш, устріча́ла, а ня відзіў ні та́мыцькі ні ту́тыцькі. Адкуль тэя грібы, мароз, німа іх ужо ні ў рыва́х ні ў шчырба́х. Такога чылавека табе ні найцíць большы ні ў мірі ні ў Сібірі.

**210. Ніку́ды**

*нікуды, ні для чаго* — ненаво́шта, ні туды ні сюды; ні ў ко́ла ні ў мя́ла, ні ў бі́ла ні ў мя́ла *н., іран.;* ні ў равы́ ні ў шчарбы́ *н., рэдкаўж.;* ні к чорту *н., нездав.*

Купіў ніку́ды ня годныя яблыкі: пылаві́на кі́слыя, пылаві́на гнілэя. Урадзі́лыся халерія ніспасобныя нінавошта. Што ты носісься сы сваім тряп'ём, яно ўжо ня годна ні туды ні сюды. Етый ма́сьцір ні ў кола ні ў мя́ла, толька спорціць спасобін. Ні ны я́кыя дзела мяне ўжо ні зыбрыта́іш, ні ў біла ні ў мяла. Ты ўжо свой тулу́п ня су́ніш ні ў равы́ ні ў шчарбы́, толька шчот, што тулуп. Ні к чорту ня годна тваё кывірза́ньня, разьві ж так плятуць.

**211. Нява́жна**

*слаба, з недахопамі* — та́к сабе, сярэ́дня *с., але цярпі́ма;* сярэ́днёнька *с., з крайняй цярпімасцю;* цярпі́ма *с., з пераадоленымі цяжкасцямі;* не сказаць каб ду́жа *с., але досыць*; як прыхо́дзіцца *с. часамі.*

Ніва́жна прыда́ў, у тоя скрысеньня большы б узяў. Жывець та́к сабе — хвалі́цца дужа нечым, а кусок хлеба і нылря́тка ёсьць. Патроху усе зьнясьлі́ся, так, сяредня спра́вілі вячэрю. Мадзеіць адна, дужа сяредні́нька, што ж ты зьдзелыіш. Пыглядзела, так, жыву́ць троху, ішчэ цярпі́ма. Жыву ж во, ні скыза́ць каб дужа, ча́сым з ква́сым, парою з вадою. Жывём, як пріходзіцца, пірібіва́імся с хлеба ны ваду.

**212. Няда́ўна**

*нядаўна, нямнога часу таму назад* — толька (тока) што *н. зусім;* надо́ечы, днямі, на днях *н. у адносінах да дзён;* неўза́даўзе *н., адзінк.*; не так даўно *н. параўнальна*; без году нядзе́ля *н., жарт.*

Я Ахрямёнка саўсі́м ніда́ўна відзіў, нічога, здаровый быў. Во толька што с хаты вы́йшыў. Тока што лёг, ніхай мінутку засьнець. Пріходзіць ка мне надоічы Аксён і спра́шыіць кукуру́зы пасеіць, а ў мяне тэя кукуру́зы і ні зывадзілыся. Днямі хадзіў у Лырья́ныва рузузна́ць пры лісапілку. Ны днях у са́мыю распу́ціцу нычыга́ріўся і тады арду ўзьняў на ўсю акру́гу. Чула: ніўза́дыўзі пылажы́лі ў бальніцу. Былі мае ні так даўно, гусьцюва́лі. Во́, ду́жа даўно работыіць, бяз году нядзеля як устроіўся.

## 213. Няма́

*няма, не маецца ў наяўнасці, адсутнічае* — не чуць *н. слыху*; запалі—не трэсніць, хоць шаро́м пакаці́ *н. ні крышку;* днём з агнём не найціць *н. і звання.*

Айдзе ты ходзіш, што цябе ўсё німа і німа, хуць пысыла́й зы табою. Етык даўно пашоў, а ўсё ня чуць і ня чуць, хуць усьлед пысыла́й каго. У мяне тэя просы ўжо, верна пяць гадоў зыпалі — ня тресьніць. Найшоў, у каго спра́шывыць, у мяне тэя грячыхі хуць шаром пыкаці. Айдзе я табе тых нітык чыцьвярьговых вазьму́, у мяне іх днём с агнём ні найціць нійдзе.

## 214. Няскла́дный

*нязграбны, непрыгожы целаскладам* — няўклю́жый *н. пры рухах, малаўж.;* нехарму́зный *н. знешне;* некульця́пістый *н. знешне, жарт.;* нязгра́бный *н., кніжн.*

І нейкій ніскла́дный, і стаў дзелыць, дык рукі ні туды слу́жуць. Што йна і ныйшла́ ў ім, ён жа нейкій няўклю́жый, няўклю́жый. Саўсім ніхарму́зныя дзеўка, надзелыся як чу́чыла гарохывыя. Нікульця́пістый хлопіц, дайжа пыня́цiя ня йmeiць, як тэя вілкі у руках дзіржа́ць. Знаім, яны абея нізгра́бныя, ні адна, ні другая.

## 215. Няўжэлі

*няўжо, ці магчыма* — ра́зве, ну, ды ну *н., з вялікім здзіўленнем*; ужэлі *н., з вялікім здзіўленнем, руск., малаўж.;* ідзі ты *н., з вельмі вялікім здзіўленнем.*

Знаць, праўду плялі, што Кірей ажаніўся.— Няўжэлі! Я етыму ня верю. Сам я ня відзіў, толька чуў, што ціга́ліся ўдваі́х пу куста́х.— Разьві Тыцяна сабе такоя пазво-

ліць. Ну, а я ж нічога ня чуў і знаць ні знаю. Ды ну, ня можыць быць, каб ета праўда, уся б дзяреўня як у званы званіла. Ужэлі ета быў Пракоп, я дык нешта ня дужа верю. Қызáлі, што сяньня ў Ходысых бы́тта бы ўстрецілі Гыўрілёнка меншыга.— Ідзі ты, я ж чуў, ён нечыга ны Сыхалін паехыў.

## 216. Няўме́ка

*няўмека, няўмелы чалавек* — тоўла *н. непаваротлівы;* пы́пла *н. бесталковы;* гамзá, гэ́мзала *н. неакуратны;* рóіла *н. нязграбны;* гламаздá, грамаздá *н. у будаўніцтве;* нязгрáя *н. вельмі неакуратны;* пэ́цкаль *н., які ўсюды брудзяніць;* партáч *н., які ўсё псуе;* мя́ліца, мя́лля *н. бездапаможны.*

У каго ты такім няўмекыю урадзі́ўся. Ці тоўлі ў дзьвінáццыць нітоў пасьці́лкі вы́ткыць. Пы́пла і гною пы-чылавеччы ні растру́сіць. Пызваў гамзу́ ны сваю гылаву,— ня столька зьдзелыіць, сколька ўсьлед пірядзелывыць прі́дзіцца. У гэмзылы і рукі ня ў тэй бок слу́жуць. Қаб ты ня быў роілым, можа б і зьдзелыў што як нада, а так не, ня зьдзелыіш. Зразу пызнáіш, ці чылавек клаў капу, ці глымыздá глымазьдзіў. Грымыздá і кучы хворысьця ські́дыць ня ўмеіць. Якей жа ты нізгрáя, што й бульбы як нада ні пытаўкеш. Нейкій пэцкыль сукно тое крáсіў. Разьві б сыпіцыялі́ст так пашы́ў хаму́т,— пыртáч дзелыў. Разьві работа ў мя́ліцы бу́дзіць іціць, айдзе ты чуў і ві́дзіў. Якей зь яго работнік, мя́льля,— зы пáлку дроў узяўся, і тая з рук вáліцца.

## 217. Пабагацéць

*пабагацець, павялі́чыць прыбыткі* — разбагацéць *п. вельмі;* разжы́цца *п. паступова;* зажы́цца *п., набыўшы многа багацця ў запас;* вы́біцца (вы́йціць) у людзі *п., стаць упоравень з іншымі;* загнáць запáсы *п., набыўшы многа багацця ў запас, неадабр.;* абмы́ць (абчы́сціць) поршы (шолудзі) *п. і заганарыцца, гумар.;* падня́ць поршы (трахолле, шолудзі) *п. і адчуць сябе больш упэўнена, жарт.;* пачу́ць вош за каўнярóм *п. і адчуць сябе ўпэўнена, жарт.*

Якоя там дужа быгáства, ды й калі ж ба я пасьпела пыбыгацець, вот тоя-сёя купілі пы хызя́йству ды яшчэ

цілівізыр узялі. Рызбыгацеў дык ужо й знацца ня хочыш? У пасьледнія гады ражжыўся, чорт ні бярець. Матрўніны зыжыліся, зыпасыў надоўга хваціць. Сыны сталі пымыгаць, дык выбіўся ў людзі, а раншы жыў неік ні палюдзку. Хадзіў зумухрышкыю, ні було нічога, а цяперя выйшыў у людзі. Што яму, зыпасы зыгнаў, на ўвесь век хваціць. Рызадзелыся, уся ў шыўках, ці даўно абмыла поршы. Калі так будзіш стыряцца, ні разу ты ні апчысьціш поршы. Абмыў троху шолудзі, ходзіць гогылім. Сталі работыць, стыряцца, дык апчысьцілі шолудзі. І Максім троху пыдняў поршы, як стаў работыць. Зы пасьледнія ўремя пыдніла тряхольля і Гапка. То, бувала, чуць пы старцых ні хадзілі, а цяперіцька пыднялі шолудзі, рызадзеліся чышчы гырадзкіх. Што, і ты пачуў вош за кыўнярём, купляіш бутылычку белінькія.

## 218. Пабежч

*пабегчы, пачаць рухацца бягом*— катануць, дунуць, матануць, матнуць *п. імкліва*; махнуць *п. імкліва і лёгка, іншаск.*; шахнуць, шарахнуць, жахнуць *п. імкліва, напралом, іншаск.*; драпнуць, драпануць *п. вельмі імкліва, спалохаўшыся;* ламануць *п. імкліва, крышачы ўсё на шляху;* ляснуць, пляхнуць *п. стралой;* паляцець *п. імкліва і лёгка, іншаск.;* панесца па(і)мчацца *п. з імпэтам;* па(і)мчыцца *п. з імпэтам, рэдкаўж.*; лупнуць, лупянуць *п. шпарка, без дарогі, неадабр.;* бахнуць, тахнуць, трахнуць *п. цяжка, іншаск., іран.;* гоцнуць *п. шпарка, але цяжка, іншаск., іран.;* джмухнуць, джмыхнуць *п. і знікнуць імгненна;* дзогнуць, дзугнуць, дзягнуць *п. цяжка з гучным тупаннем, неадабр.;* брыкнуць *п. вельмі лёгка і імкліва;* шмыгнуць, шмыгануць *п. імкліва, тоячыся;* пусціцца, прыпусціць, прыўдарыць *п. з вялікай хуткасцю;* драгнуць, дрогнуць *п. неспадзявана і цяжка;* драйнуць *п. неспадзявана і цяжка, адзінк.;* вухнуць *п. з вухканнем (пра свіней);* зыкнуць *п. ад гізу (пра жывёлу), п. неспадзявана (пра людзей), іран.;* кінуцца вопрамеццю *п. неспадзявана вельмі шпарка.*

Пыбягім-ка мы зьбегыім у Аблогі, кызалі, бырывічкі пракінуліся. Кытанулі ціріс паріціну пряма ны Каробчынскій быльшак. Усігда голый дунець, а як пыпрастуджын, тады вазіся зь ім, лячы. Толька замеціць пась-

пеў, мытанýлі ціріз лажок. Матнеш во ціряс кýсьцікі, а там і дарожка блізка. Махнýлі, сонца толька-толька пыкáзывылыся. Шáхнула пы аўсý, прулумáла сьлед аж глядзець стрáшна. Кыла жыта шырáхнулі к Пірядніну, верна, у ягыды. Во жáхні крáім ільнíшча, а там увíдзіш кусьцікі, дык дзяржыся лявей. Як дрáпнулі адзін ад другога — заіц ціріз узгорык, а Якыў двору. Атпрёг, стаў: тпру, Серый, кышляць буду,—а хлапчына пýжкыю шчоўк, Серый як дрыпанець пы пáхыці. Нада ж було ёй вырвыцца і так лумануць ціріз гряды. Айдзе мне ўдзержыць еткыга пацьцёлка, крутнýлыся, вырвылыся і ляснула ў пастýх. Хадзíла ціха, спакойна, ну, думыю, апхадзілыся, йна гылаву зыдрáла і пляхнула ў клевір. На сена ёй ні нада іціць, пыляцела ны бызáр. Узноў пынясьлíся жырібяты ў атáву. Пытхвацíўся на зорькі, трошку пірікусíў і пымчáўся. Пыімчáліся вун у моркву. Глянуў, што ні пылысá, і памчыўся зы дзяреўню. Як гыкнулі удваіх, дык айдзе і хрáбрысьць дзелыся, пыімчыўся, толька пыл пыдняўся. Крепка дзяржы — лупнець, сьлед праломіць, усё патрець і памнець. Карова тыкая — глядзі ды глядзі, лупянець куды хочыш. Даўно ірвáліся піць, бáхнулі ў аборык. Увесь пастýх як тáхніць ціріз грячыху, ну, зьмішáў усё чыста. Трáхнула к чужому пустухý, яшчэ прапорюць каровы. Гоцнула ўсьцяж па полю, ці я зь ёю спрáўлюся. Джмýхнула пыд Равы, каб яе ваўкí тамыцька зьелі. Бірягí, вачэй ні спускáй: ходзіць, ходзіць ціха і джмыхніць—ня ўгледзіш. Вíдзіш—цэліцца ўжо, цэліцца, сíчас дзогніць. Узноў дзýгнулі ны Кылатовіна, седні ім ні разу ні бувáіць. Куды ж сяньня дзягніця, ці ні ў Малыю Лешчынку,— вам ба яшчэ узнаць дарогу ны Пыстырнáкі. Як брыкнулі, як пынясьлíся, айдзе мне іх було пірінять. Пышыптáліся пра нешта і шмыгнýлі. Нехта шмыганýў пы лашчынкі, ні знаю, хто там быў. Пусьціўся ўсьлед, толька пыл уецца. Дождж пріпусьціў і я пріпусьціў — уцёк, трошку нымачыў. Як пріўдáріць за ёю, як пріўдáріць і дыгнáў. Дрягніць пы балоту, яшчэ ў яму ўляцíць, цягнýць прідзіцца. Як рызыгнáлыся, як дрёгнула, ды ўжо вазьмí трясцы, многа ні прыбягíць. Вíдзіла — драйнуў у тэй бок, а куды — хто яго знаіць. Хадзіла ціха, а тады што ёй у гылаву стýкнула — вýхнула пы грідáх. Усім тубуном зыкнулі у кусты. Зыкнулі ны вічарíнку у Каробчына. Вопрыміцьцю кíнуліся, як галоў ні пузлумáлі.

## 219. Паблагадары́ць

*падзякаваць, выказаць удзячнасць* — адблагадары́ць *п., выразіць глыбокую ўдзячнасць;* аддзя́чыць, аддзе́нчыць *п., звыч. іран.;* падзя́каваць *п., кніжн., рэдкаўж., іран.*

Гыварёмшы многа ні ныясі́, пад'еж, а тады пыблыгыдаріш ужо. Вульля́на тыка́я: што ёй ні дай, усігда адблыгыдаріць. Адзьдзя́чыла зы маю дыбрату́, нечыга скыза́ць. Цябе я знаю, ты адзьдзенчыш: возьміш і хвастом накры́ісься. Ложку пылажы́ў, пыдзя́кывыў, як бальшэй, і палез з-зы стыла́.

## 220. Падаві́цца

*падавіцца, задыхнуцца праглынаючы* — папярхну́цца *п. да кашлю;* запярхну́цца *п. да немагчымасці дыхнуць;* затхну́цца *п. нечакана дробяззю, груб.;* заткну́цца *п. дробяззю, іншаск., неадабр.*; затырхну́цца *п., неадабр., рэдкаўж.;* захлыну́цца *п., іншаск., груб.*

Бульбі́ну схваціла, а тэй сьцёбнуў, іна й пыдаві́лыся, каб ны шча́сьця віціна́р ні нытра́піўся, аста́ліся б біз мылыка. Во яду́н, і мылаком пыпярьхну́ўся. Глядзі, зыпірьхнесься, ні пасьпеіш ты пад'есьць. Затхнецца ж жа́днысьці, так хвыта́іць. Хвыта́іць чуць ні заткнецца, спра́вісься, насы́цісься. Ну й жа́днысьць твыя, зытырьхну́цца гатоў. Глядзі, зыхлынесься, так хвыта́ючы, рітува́ць прі́дзіцца.

## 221. Падажда́ць

*пачакаць, затрымацца з выкананнем* — абажда́ць *п., малаўж.;* пагадзіць *п. з цярпеннем;* абнаравіць, абнаравіцца *п. для перасцярогі;* пацярпе́ць *п. з хаценнем, іншаск.;* панаравіць, панаравіцца *п. крыху;* паўрамяніць, паўрамяніцца *п. няпэўны час.*

Пыдажджы́ця трошку, зьбяру́цца ўсе ра́зым, тады пірякусім. Нада абыжда́ць стары́х, ніхырашо бязь іх садзіцца. Ніхай пагодзіць якую мінутку, цэл аста́ніцца. Табе нада абныравіць с са́лым: узноў болі усхва́цюцца. Есьць, аж нос гнецца, а яму лу́ччы б абныравіцца. Можна трошку й пыцярьпець, нічога ня зьдзелыіцца. Мала, што хочыцца, а ты пыныраві. Каб пыныраві́ўся ўчора,

сяньня б так ня мучыўся. Ты сабе як знаіш, а я пыўрімяню, ніхай сабе хочыцца. Ці ня луччы табе було б пыўріманіцца, а ні хвытаць чаго зря.

### 222. Падвесць

*падвесці, паставіць у цяжкае, непрыемнае становішча* — зрадзіць *п. вельмі;* падсадзіць *п. вельмі, іншаск.;* абнадзеіць, абнадзёжыць *п. надзвычай, іншаск.*; падкузьміць *п. з хітрасцю;* падвесць пад манастыр (намастыр, пад дурнога хату) *п. да сораму.*

Ты ж толька глядзі, глядзі ні пыдвядзі мяне, я біс палкі дроў астануся. І надзёжный чылавек, а так зрадзіў. Пыцсадзіў ты мяне сваім ізыком, я ж мірькуваў піріждаць нядзелю-другую. Як жа ты мяне абнадзеіў, каб ты ні пыдняхверівыўся, я б сам зьбегыў і купіў. Глядзі, ніназдзёжный чылавек саўсім, можыць раз-два абнадзёжыць. Путкузьміў дык путкузьміў, а яшчэ, кажыцца, трошку свой. Пыдвіла ты мяне пыд мынастырь, так пыдвіла, што і падвесць большы некуды. Знаю, хацеў ты мяне падвесьць пыд нымастырь, — ні ўдасца. Ня бойся, я цябе пуд дурнога хату ні пыдвяду, ты й сам падлезіш.

### 223. Падганяць

*падганяць, прымушаць рухацца хутчэй* — пароць, падпарываць *п. досыць энергічна;* шаваліць, шавяліць, пашавеліваць, падшавеліваць, весяліць, падвесяляць *п. час ад часу, іншаск.;* штырыць, штыраць, падштырываць *п. энергічна*; шпыраць *п. бесперапынна*; пырыць *п. бесперапынна, рэдкаўж.*

Што ты мяне пыдгыняіш, я сам знаю: нада сьпяшыць. Каб ні пароў, да цёмныга б ехылі. Пытпарівый, дужа-дужа некылі. Зразу ат горыда трошку шываліў, а тады рысьцягнуўся і заснуў. Шывялі, шывялі, ны хаду сьпіць. Каб пышавелівыў, скарей ба даехылі. Пычшавелівый, ато мы і к абедзьдзю ні пупадзём на тэй бызар. Нада вісяліць, ён ужо аддыхнуў і вады хырашо напіўся. Пыдвісіляй ці ні пыдвісіляй, ён дайжа вушамі ні вядзець. Цягнуцца я табе ні дам, буду штыріць. Штыряй — ні штыряй, а калі змагі німа, ні пыбягіць. Нада пачштырівыць, ато й к абеду ні дыбярёмся. Патроху шпыряла, так і даехыла. Пыріла я яе, пыріла, пугі німа, прут злумаўся,— ня хочыць слухыць нісколічка.

## 224. Паддзéць

*падкалоць, паставіць у няёмкае, смешнае становішча насмешкай, падпусціць колкасць* — падкалóць, укалóць *п. крыху;* падкалупіць, падкалупнýць *п. вострай і тонкай насмешкай;* укалупіць, укалупнýць *п. злёгку насмешкай;* закалупіць, закалупнýць *п., глыбока ўзрушыўшы;* падкусіць, укусіць, падкуснýць *п. з'едліва;* пад'éсць *п. з'едліва, нечакана, іншаск.;* пад'ялды́кнуць *п. напамінкам, абмеж.;* падкавырнýць *п. глыбока;* ускубнýць *п. крыху, без іроніі;* задзець (закалупіць) за жывое *п. вельмі глыбока.*

Лоўка ж ты падзьдзеў яго пырыся́тымі, у мамент сьціх, як вады ў рот ныбрáў. Нарошня яго пыткалоў, што ён дзелыць стáніць. Ні ўкалолі яе ніскольна тваё нымікáньні, як ня чула. Чым жа ты зьбірáісься узноў путкулупіць? Путкулупнýла яе, дык ні зулюбіла, зразу губы скрівіла. Нічым ты яе ні ўкалýпіш, дайжа курáмі летышнімі. Ніхай сабе, а трошку ўкулупнýла. Зукулупіла яго, як пымянýў пры бырáнчыка. Не, яго етым ні зукулупнеш, пымяні луччы пацьсьвінычка Гáньніныга. Ідзі, луччы сваю матку путкусі, іна ж усё ўсьлед крічáла: «Бесь перадáчы, бесь перадáчы іх!» Калі ты мяне хочыш укусіць, то ні ўдáсца, ня ўкýсіш. Нячы́стыя сіла ў ім сядзіць, путкуснýць умеіць. Што ты, родную цётку хочыш пад'есьць? Пыд'ялды́кнулі яго летышнім сеным, дык як пытхваціўся: я тады нічога дýхым ні знаў. Пыткывырнýла мяне, што я трі дні ў дваре пыбылá, а яе свае скольна ня ходзюць. Дужа ты яшчэ мáлінік, каб мяне ускубнýць. Што цябе так задзела зы жывоя? Відна, зукулупіла зы жывоя, што я рыскызáў пры атáву.

## 225. Пад'éсць

*пад'есці, наесціся ўволю* — наéсца; насы́ціцца *п., іран.;* нашáмацца, нашаматáцца *п. ціха, непрыкметна, іншаск.;* нахрýпацца *п. хрумсткага*; нахрапатáцца *п., хрумкаючы з трэскам (звыч. пра жывёлу);* назбірáцца *п. па дробязі, іншаск.;* накýшацца *п., руск., гумар.;* накамсáцца, накамсіцца *п., з'еўшы вельмі многа, іран.*; нагнéсца, налупіцца, насадзіцца, напýргацца, намяжджýліцца, намалаціцца, намалóцца, натóўчца, набýхацца *п., з'еўшы вельмі многа, асудж.;* нажрáцца, налóпацца, натрэ́скацца,

напе́рцца, набі́ць пу́за (бру́ха, трабу́х) *п., з'е́ўшы вельмі многа, груб.*

Пыдажджы́, пысядзі мінутку, пад'есць нада, тады пойдзім. Пакуль ні наесца, крічыць, аж рыспысьцірáіцца. Ніхай ужо насы́ціцца, іна́чы за́ ныс ні атвядзеш. Усе палезьлі, а ён аста́ўся адзін, нышá́мыўся і пашоў. Ладна нышымыта́ліся ў той хаці, пакуля мы вазі́ліся сь печчу. Што там табе ўскачы́ць ны я́блыну, зато нахру́пыісься яблык. Нахру́пыўся лугавога сена і іржэць: піць просіць. Насы́плю па ку́чы сахыру, ныхрапочуцца с хлебым і пабеглі. Кошка пылаві́ла ціпля́т, ныхрыпыта́лыся і ўцікла́. То аднаго схва́ціць, то другога, так і ныізьбіра́іцца зы ра́ньня. Ты ўжо ці ні наку́шылыся, можа б зы маты́чку ўзіла́ся. Нікымса́ўся ат пуза і ляжы́ць на сені, ідзі кылі хочыш, пыднімá́й. Ні бяду́й па ім, ён і гыварёмшы ныкамсіцца. Нагнёўся, як брюха ні рысься́дзіцца. Ніпірябі́рлівыя скаці́на, мікчугу́ пыдря́д налу́піцца як спы́хыцца. Насодзіцца чаго зря, толька ходзіць, ня спы́шыцца. Яму абы пыдывá́й, і з даробкі напу́ргыіцца. Прібярі́ свае крівілы, нымяжджу́ліўся і вы́цігнуўся. Як нымылаці́цца, дык у первую чарьгу́, а па́зылкі вы́нісьць лень. Нымалоўся пы за́візку, аж пыхці́ць. Нытыўкла́ся бульбы з мылаком, наверьх куляшу́ чугунок нывярну́ла, што ёй атходзіць. Набу́хыўся — чуць ідзець. Дзелыць ня хочуць, а ныжра́цца пыдай. Лесьвіцу ўпусьці́ў у погріб, палез, налопыўся, усё папу́ргыў, іка́я сьміта́нка стыя́ла і твыражок. Зма́лку такей: глядзі́ць толька аднаго — каб натрескыцца. Адна забота — наперцца і на печ. Яму ні біда, што кулеш загу́с, пуза наб'ець і ладна. Наб'ець брюха чым зря, нічога ні рызьбіра́іць, што зьесць. Набіў трябух як бырыба́н, толька пыгла́джыіць.

## 226. Падкаці́цца

*падкаціцца, хітраваннем схіліць у сваю карысць, выклікаць прыхільнасць* — падма́сліцца, прыма́сліцца *п. ліслівасцю;* падма́зацца, прыма́зацца *п. згаджальнасцю;* падла́дзіцца, прыла́дзіцца *п. прыстасавальнасцю;* падлé́зць, прылé́зць *п. настырнай ліслівасцю;* падпо́ўзць *п. празмернай ліслівасцю, іншаск., іран.;* пад'е́хаць *п. з лоўкасцю, іншаск.;* падлаўчы́цца *п., лоўка выкарыстаўшы абставіны.*

Ці йна табе вірстá, што думыіш к ёй пыткаціцца. Не, ні пыдмáсьлісься, ні ны таго нырвáўся. Свыякіня тыкая-то зныйшлáся, прімáсьліцца хочыць. Не, скалоцьвінымі ні пыдмáжысься, а зынясí, кылі ні жалеіш, аджжалей хунты трі кусок сала. Смыльлянка тая к каму хочыш прімáжыцца. Прузукувáтый хлопіц, мігым пыдлáдзіўся і дзела апцяпыў. Пакуль прілáдзіўся, дык прашыкыўся, і ўсё прілáджываньня бокым вылізла. Ні с тваім хрáкцірым к чылавеку падлезьць. Зыхацела прілезьць і саветніцы ні пыжалела у дзьвінáццыць нітоў. Ды каго ты уздýмыў патпоўзьць, ён цябе пáлкыю пагоніць. Каб як пад'ехыць к цесьцю, можа б даў прівізык, у яго дужа многа. Пыдлаўчыся, угыварі, нысякеш воз ряшэтніку, а можа і крючча прівязеш.

## 227. Падлíзываацца

*паддобрываацца, паводзіць сябе лісліва, паслужліва* — падлíзнічаць *п. надзвычай угодліва;* льсціць *п. лісліва, абмеж.;* лебязíць *п. вельмі лісліва, руск., іран.;* паддáбрываацца *п. з надзеяй;* забягáць *п. з разлікам на прыхільнасць, толькі з він., іран.;* забягáць пéрад (пярóд, напярóд, напéрад) *п. з разлікам на прыхільнасць, толькі з дав., іран.;* пяткі лізаць *п., трацячы ўласную годнасць, неадабр.;* рассыпáцца мáкам, (банным) лістом слацца *п. з выключнай лісліваасцю і абыходлівасцю, неадабр.;* глáдзіць па шэрсці *п. улагоджваючы, гумар.;* віляць (круціць, вярцець) хвастом *п. няшчыра, неадабр.,* хадзіць хадаром (ходырам) *п. з мітуслівасцю і паказной старанасцю.*

Ну й любіш жа ты к кáжныму падлíзывыцца. Увесь век свой падлíзьнічыў і падлíзьнічыў. Дужа ўжо льсьціла яму, дужа, а ён і ў тэй бок ні глядзíць. Ні лібязí етык, глядзець ажно праціўна. Пыддáбрівыйся — ні пыддáбрівыйся, а я тваіх мыхінáцый пыкрывáць ня буду. Зыбігáла яго, зыбігáла, і паўлітра стáвіла, і ўсё, а ён узяў і пыдáў ны мяне, што ны работу ні хаджý. Зыбігáй яму перід, зыбігáй, ня дужа выслужысься. Зыбігáіць Марку пярёд, каб ны свáдзьбу пызвáў. Ныпярёд яму зыбігáлі, улáшчыць хацелі. Дужа нешта зыбігáіш ты Пітракý наперід. Як толька новыга брігадзіра выбіруць, ён дос, кідáіць стáрыга, дывай новыму пяткі лізаць. Дужа рыссыпáіцца піряд ім макым — выгыду нейкыю чуіць. Пыстыя-

ла я збоку лі яе — лістом сьцеліцца піряд імі, ажно глядзець праціўна. Пряма ба́нным лістом сьцеліцца пірід зіцямі. Ка́жныга гла́дзіць па шэрсьці, проця слова нікому ні скажыць. Так ужо віля́іць Васіль пірід Максімым хвастом, а ён і ў тэй бок ні глядзіць. Я пірід табою круціць хвастом ня буду, праўду скажу. Верціць хвастом і пірід адным, і пірід другім, і піряд трецьцім. Чаго ты піряд імі так хыдаром ходзіш, ікая табе ў етым нужда́. Ныра́віцца, каб піряд імі хадзілі ходырым, ны за́днія лапкі стынавіліся.

### 228. Падра́д

*запар, адно за адным без прамежкаў* — беспераста́нку; беспераста́ння *з., малаўж.;* бесперары́ўна, непрары́ўна, ура́д *з., руск.;* уза́пар *з., уст.*

Што вы, мальцы, самі ду́мыіця: пятыю ноч пыдря́д у дваре ні нучува́ць. Што зь естым дажджом, бісьпірі-ста́нку льлець і льлець. Бісьпіріста́ньня сы́пліць і сы́пліць і ня дужа бальшэй, і зьмя́кніш, пакуля дыбягіш. Як пулучы́ла пісьмо, дык плакыла нядзелю бісьпіряры́ўна. Мяцець і мяцець ніпріры́ўна, усё ўсюдых зымяло, ні ступіць ні айдзе. Трі дні ўряд п'ець, прашнецца і ўзноў дывай. Помню, нешта вы́скычыла трі гады ўза́пыр ніўрыжа́йныя і сена вомыль, дык тру́дна було.

### 229. Падсо́хнуць

*падсохнуць, стаць у нейкай меры сухім* — прасо́хнуць *п. значна;* прача́ўрыць *п. павярхоўна;* праве́трыцца *п. крыху на ветры, іншаск.;* праве́трыць *п. крыху на ветры, іншаск., абмеж.*

Зімля ўжо ладна пацсохла, можна пыха́ць, разьві лі аборкыў сурува́та. Дарога прасохла, бягі, толька лужы апхадзі́. Вы́нісь ны віцярок павесь, зы мінуту прыча́ўріць. Пыд нізом, канешня, сена мокры́я, а зьверьху праветрілыся. Узгоркі трошку праветрілі, скора можна пыхаць ехыць.

### 230. Пазва́ць

*паклікаць, запрасіць з'явіцца* — прыгласі́ць *п. на ўрачыстасць;* зазва́ць, запрасі́ць *п. урачыста, гумар.;* гукну́ць *п. аднаразова, п. на ўрачыстасць будзённа, між іншым;*

паманіць *п. жывёлу, п. жартам, гумар.;* прыкінуць слова *п. дзеля ветлівасці на ўрачыстасць.*

Як пракінуцца бырывікі, я тады пызаву́ цябе к нам. Нашто ўжо тут як гыварну́лі: прігласіла, прігласіла, а ён мне нада як сыбаку пя́тыя ныга. Быга́тый вечыр, спра́вілі, усіх сваіх зызва́лі. Ці зыпрасі, ці не, мы ня прідзім: некыльства заела. Нада було б і Зыбрічыня́т гукну́ць. Пыманіла і просы горстычку кінула. Цябе пымані — дзесіць вёрст усьлед будзіш бежч. Прікінула слова, прі́дуць дык прі́дуць, а не — кла́ніцца ня будзіш.

## 231. Паздараве́ць

*паздаравець, акрыяць ад хваробы* — папра́віцца, вы́здаравець *п. пасля хваробы;* палу́ччыць, палёпшыць *п. пасля хваробы, але не канчаткова;* ачуня́ць *п. значна пасля цяжкай хваробы*; падня́цца *п. пасля цяжкай хваробы, іншаск.;* вы́лезць, вы́паўзць, вы́брацца, вы́карабкацца, вы́караскацца *п. пасля вельмі працяглай хваробы, іншаск.*; аду́жаць *п. крыху пасля цяжкай і працяглай хваробы;* акляя́ць, адкляя́ць *п. пасля цяжкай хваробы, жарт.;* вы́качацца, ачу́хацца, вы́чухацца *п. пасля вельмі цяжкай хваробы*; стаць (устаць, падняцца) на ногі *п. канчаткова.*

Я ўжо даўно пыздыравеў і большы ні разу ня чу́ствую, каб айдзе што балела. Усю зімычку прыкыча́ўся, а к вясьне пыпра́віўся. Айдзе зы вамі вы́здырывііш, калі вы пыліжа́ць спакойна мінуты ні дыіцё. І ў дваре ліжаў, і ў горыдзі,— ня йшло ны пыпра́ўку, а ў Мугулёў паехыў, тама палу́ччыў. Гыварілі, палепшыў, ён дужа цяжола ліжа́ў. Нічога, пройдзіць, трошку пыляжы́ш і ачуня́іш. Толька пыдня́ўся, другая халера нывалілыся, ногі схваціла, узноў ляжу. Нялёхка було вы́лізьць, пыліжа́ў месіцы ш чаты́рі. Залетыся я цяжола ліжаў, чуць-чуць вы́пыўз. Ліжаў доўга пластом, ні пыднімаўся, а вы́брыўся — узноў лі двыра ту́пыіць. Ты жыву́чый, вы́кырыбкыісься і на етый раз. Вы́кырыскыўся, пашоў, сяньня ўжо скот пасець, цяперя, брат, дыктары́ ўмеюць лячыць. Акліяла троху, пы хаці ходзіць, кыла печы пыстаіць. Пыляжыш і аткліяіш, тваё гады яшчэ мыладэя. Дужа ліжаў, думылі, ужо ня вы́кычыіцца. Прі такой балезьні ня скора ачухыісься. Здаровыя хлопцы, вы́чухыліся, ну пы нядзелі пыліжа́лі. Што ж ты ду́мыіш, ціх ня шутка дзела, па сорык

аднаму была цімпіратýра, алі пыжвялеў. Стаў на ногі, ужо і ходзіць, і сьмяецца. Хваціла яму, атлежыў, пакуля устаў на ногі. Чуць-чуць пыдняўся на ногі, што ж ты хочыш, скразноя успаленія.

### 232. Пазы́чыць

*пазычыць, узяць у доўг, у пазыку* — адалжы́ць *п., неалаг.;* захваці́ць, перахваці́ць *п. на кароткі час, іншаск.;* заня́ць *п., малаўж.;* узя́ць *п. у блізкіх, родных, іншаск.*

Пазы́ч мне дзісятку ды зáўтріга. Кылі ні хвáціць, адолжым у каго-небудзь, там бýдуць свае ны бызáрі. Такей мыцірія́л, а тут грошы німа, дык я зыхваціла ў Матрýны дый купіла. Не, ні хвáціць, прі́дзіцца піріхваціць у каго-ліба. Во ўжо нідыгáдлівый, ты ж ба зыня́ў у каго ны нядзелю. Пыдажджы́-ка, я зьбегыю к Максі́мывым, вазьму сь пяцёрку.

### 233. Пайці́ць

*пайсці, пачаць часта падаць (пра дождж)* — лінýць *п. нечакана;* хлы́нуць, хля́нуць *п. нечакана з сілай;* паліць, паліцца *п. вельмі моцна;* сыпанýць, сыпнýць *п. нечакана на кароткі час;* прыпусці́ць, прыўдáрыць *п. узмацніўшыся.*

С сáмыга раньня кулáжыцца і кулáжыцца, верна, пойдзіць дождж, нада быў ба. Лáдный лінýў, дайжа ні падýмыў ба, што с такея тучкі пайці́ць можыць. Прібірáйця скарей снапы пат крышу, хлы́ніць, дык змочыць наскрозь, сушы́ся тады нáныва. Глядзі, зь естыя тучы хля́ніць бальшэнный дождж, можыць і з грáдым. Сам рызаріўся, куды класьць, дождж паліў, кругом цякець. Бальшэй паліўся і ня скора пірістáніць, аблажы́ла кругом. Як сыпанець, а нам дзівáцца некуды, дык мы пыт калёсы як лісіца пыд быранý. Былачы́нка ныцягнýла, і здорыва сыпнýў. Толька пыдвярнýлі сена, дождж як прі́пусьціў, усё пірімя́кла. Як пріўдáріў, дык мы скарей зырывáцца у копы.

### 234. Паказáць

*паказаць, даць магчымасць убачыць* — вы́ставіць *п. для шырокага агляду;* вы́сунуць *п. на кароткі час;* вы́тарнуць, вы́таркнуць *п. хаваючыся;* вы́пяціць *п. падкрэслена, неадабр.*

Ты пыкажы́ ўсім, мо́жа хто на́йдзіцца, ку́піць. Дужа яно каму аньціресна, што ты вы́стывіла свае ўборы. Вы́суніць і схува́іць, вы́суніць і схува́іць, толька дра́жніцца. Нічога асобінныга ні було, сыпагі хромывыя толька нехта вы́тырнуў. Нейкыя дзірявенскыя вы́тыркнула грібы су́шыныя, зразу рысхвыта́лі. Во вы́піціў, нехта дужа ўгліда́цца ста́ніць у твае ныря́ды.

## 235. Пакла́дзістый

*пablaжлівы, падатлівы на просьбы і ўгаворы* — памяркоўный *п. пры доказах;* усту́пчывый *п. пры настойлівасці;* згаво́рлівый, згаво́рчыстый *п. на кампрамісы;* пада́тлівый *п., згодны на ўступкі;* набо́жный (на́бажный), набо́жлівый *п. па дабраце, добрай натуры, гумар.*

Каб мне такей пыкла́дзістый чылавек пупа́ўся, я б зь ім раз-два дыгывары́лысь. Стулкува́цца зь ёю ўсігда можна, іна пымярькоўныя. Нада каб і адзін быў усту́пчывый і другей, тады і жызьня пойдзіць. Я знаю, ты згаворлівыя, як твыя цётычка. Ня дужа згаворчыстый, як увапрецца ў што — ні ўлума́ць. Аўлас быў пыда́тлівый, а Аўлысіня́ты ужо саўсім ні такея. С Аўгеім усігда можна дутулкува́цца, ён мушчына набожный. Нада ж тыкая набожныя, уступіла. Набыжныя цёлычка, слу́хыіцца. Ні абіжайся, с тваёю можна жыць, іна набожлівыя, пажы́ў ба ты з маёю. Набожлівыя карова, пыдгыня́ю і йдзець, ні ўпіра́іцца.

## 236. Палуча́цца

*атрымлівацца, выхадзіць удачным* — выхадзі́ць; удава́цца, задава́цца *а. выпадкова;* клёіцца *а. з большага.*

Ня будзіць пулуча́цца — яшчэ раз спрасі́, а абы-як ня дзелый. Ніхай первый раз тапор узяў, а ўжо нешта выходзіць, цешыць пряма пу шнуру́. За што я ні браўся, усё ў мяне удыва́лыся як нада. Бліны ў цябе можа і зыда́юцца, а хлеб сьпеч ты ныўда́ку ці ўмеіш. Што ў цябе клеіцца, ці з лоткі віріцяно зьдзелыіш?

## 237. Палучы́цца

*атрымацца, выйсці удачным* — вы́йціць, уда́цца, задацца *а. выпадкова;* вы́паліць *а. нечакана;* вы́гарэць *а. нечакана, абмеж.*

У цябе ні выходзіць, а ў мяне палу́чыцца. Прішчыпля́ў па́ру я́блынык і нічога ны вы́йшла, ні пріняліся. Удаўся ў мяне хлеб,— пы́шный, мя́ккій. Сын у бацьку зыда́ўся ма́сьцір: за што ня возьміцца — зьдзелыіць. Думыў нічога ўжо ня будзіць,— не, вы́пыліла. У цябе с хызя́йствым ладна вы́гыріла: усё зразу набы́ў.

## 238. Палюбі́ць

*закахацца, адчуць любоўную прыхільнасць* — улюбі́цца *з. моцна;* укляпа́цца *з. моцна, жарт.*; урэ́зацца, уцю́рыцца *п. палка;* улюбі́цца па ву́шы *п. вельмі моцна, жарт.*

Пулюбіла, пулюбіла сокыла высокыга. Улюбіўся ў нейкыю зысыжа́нскыю, жаніцца—і ўсё тут. У адну ўкліпа́ліся, сапернікымі сталі. Урезыўся ж у Хадосычкіну дачку́, кажын дзень бегыіць. Ну што, і ты ўцю́ріўся, можа, у сва́ты паедзім. Улюбілыся па вушы, гаворіць, ні магу́ бізь яго жыць.

## 239. Палягчэ́ць

*палягчэць, стаць слабейшым (пра боль, хваробу)* — пале́гчаць, палягча́ць *п., малаўж.;* атле́жч, атайці́ць *п. пасля прыступу болі, хваробы*; адпусці́ць, атлігну́ць *п. часткова.*

К раньню трошычку, трошычку пыляхчэла, а ўсю ноч нільзя було цярьпець. Прікладзі-ка ты грелку, можа, пале́хчыіць. Сьпірту на зуб пыкла́ў, дык пыліхча́ла, як зынямела. Во́ ка́піль хваці́ла, дык атлягло, ато саўсім зыріза́ла. Калі ня тойдзіць, я ж саўсім ня вы́трывыю, дых зыхва́тыіць. Каб ні тпусьці́ла, ні знаю, што б дзелыў, хуць гва́лту крічы. Трошычку, трошычку к раньню атлігну́ла, дык я толька выча́мі зьвіла́ ны адну мінутычку.

## 240. Памо́жч

*дапамагчы, аказаць падтрымку* — пасо́біць *д. крыху;* пасабі́ць *д. крыху, малаўж.*; падсо́біць, падмо́жч *д. нязначна;* падсабі́ць *д. нязначна, малаўж.;* паддзе́ржаць (паддзяржа́ць) *д. садзеяннем;* дапамо́жч *д., кніжн., рэдкаўж.;* падкла́сць (падлажы́ць) рукі *д. у цяжкім ці безвыходным становішчы (часта пры адмоўі не).*

Пымагі-ка пыткаціць бярно, адзін ніяк ні сыўлыдáю. Пасобіў ба, ды ў сымаго сьпіна баліць, хваціла ўчора. Што я табе пысаблю, калі ён ня сьпіць, ня есьць, хуць здохні. Пакуль я тама пацсобіла, дзеці ўсё пірібрáлі і корычкі ня кінулі. Пыдмаглí вы, што пыстыя́лі, вычамі пысьвяцілі. Пыцсабі на плечы пыдня́ць, тады я ўнясу. Хырашо, свае былі — падзьдзержылі, ато б ні знаю, што було. Нада пыдзьдзіржáць, у яго ні трясцы ні стáлыся, а ён, як було, пымыгáў, ні жалеў. Ну, чым жа ты там дыпамог, якую пользу даў. Ці я рукі пыткладу́, ці што, у мяне паможч нечым. Раз сьмерць прішла, рук ні падложыш.

## 241. Памы́цца

*памыцца, памыць сябе, сваё цела* — вы́мыцца *п. да поўнай чысціні;* абмы́цца *п. павярхоўна;* паласну́цца, спаласну́цца *п. спяшаючыся.*

Пойдзім-ка памы́імся посьлі скырадзьбы́, там пылішча была ні прыдыхну́ць. Ш чаго б грібы такея чы́сьцінькія, як вы́мыліся? — с таго, што восінь. Абмы́йся, пылу кругом поўна, а зу вушáмі пряма горы. Пыласну́ўся троху, мыла змыў ды ныдзівáцца. Спыласьнíся, кругом грязныя пацёкі пашлí.

## 242. Памы́ць

*памыць, зрабіць чыстым у выніку мыцця (пра бялізну)* — вы́мыць *п. старанна бруднае;* вы́сціраць *п. старанна бруднае, неалаг.*; адцéрць *п. за кароткі час, неалаг.;* пасцірáць *п., неалаг.;* пасцірну́ць, перасцірну́ць *п. спяшаючыся, неалаг.;* сцірну́ць *п. спяшаючыся, неалаг., рэдкаўж.*

Памы́ла трошку мáлым у тáзіку, бегылі ж чорныя, чорныя, толька вочы блішчэлі. Хряп-хряп-хряп — і ляжы́ць у грязí, во ты й вы́мыла яму ўсё чы́сьцінька. Усё вы́сьцірыла, толька рáнка аткры́лыся, нада заліць бярёзкыю, во ўжо іна пальзíцільныя. Сыбрáла ўчора ўсё і аццёрла, нада толька мост вы́мыць. Пысьцірáць пысьцірáла, а вы́сушыць ні пасьпела. А пысьцірну́ла трошку дый на веціp. Пыдажджы́, пірісьцірну́, а тады пыбягім. Сьцірні, сьцірні дый разьвешывый, ні вылаводзься.

### 243. Панара́віцца

*спадабацца, зрабіць прыемнае ўражанне* — панра́віцца; спазры́цца *с., гумар.*; прыглянýцца *с. на першы погляд;* упадаба́цца *с., рэдкаўж.;* спадаба́цца *с. ва ўсіх адносінах, кніжн., рэдкаўж.*; прыціцца па душэ *с. вельмі.*

Ці пынырáвілыся табе ета дзяўчонка, па-мойму, красівыя. Калі пынрáвіцца, я вас пызнакомлю. Спазрілыся нейкыя ў Бірязýйкых: як вечыр, так і кытанýў туды. Ці пріглянýлыся ж табе ікая ны вічарінкі? Я ўжо ні знаю, хто табе упыдыбáіцца. Ці спыдабáліся бірязýйкыўскія дзеўкі? Ня дужа мудря́шчыя і дзеўка, а вот прішля́ся ж пу душэ, узяў.

### 244. Панімáць

*разумець, усведамляць сэнс* — сабражáць, разбірáцца, смы́сліць *р. добра;* сазнавáць *р. з усёй адказнасцю;* кумéкаць *р. правільна, гумар.;* ця́міць *р. хутка;* пéтрыць *р. крыху, груб.*

Ні глядзі, што гырадзкей, у хызя́йстві хырашо пынімáіць. Во быў Зьмітрок, тэй у машы́ных хырашо сыбрыжáў. Бышкавітый чылавек, у жы́зьні дужа рызьбірáіцца. Якей зь яго хызя́ін, ён жа нічога лі зямлі ня смы́сліць. Сызнывáць ты, канешна, сызнаеш, толька дзелыць ня хочыш. Ні глядзі, што зь віду нізавідный, ва ўсім кумекыіць. Ці цяміш ты хуць што-нібýдзь, што табе гаворюць. Што ні рысталкýй, нічога ня петріць.

### 245. Паня́тна

*зразумела, даходліва да ўсведамлення* — талкóва, тóлкам *з. да глыбіні;* я́сна *з. да выразнасці;* уразуміцельна *з. крыху, руск., малаўж.*

Ты ж рустулмáч пыня́тна чылавеку, што ж ты рукою торкнуў: туды ідзі. Ніхай сабе дужа вучоный, гаворіць усігда талкова, і дзіцёнык рызьбярецца. Есьлі толкым рыскызаў, то нáйдзіць, ета ж ні ў Маскве шукаць. Па-мойму табе ясна рызьясьнілі і як іціць, і айдзе пывярнýць. Айдзе яму скызаць урузуміцільна, кылі ў яго язык ні варочыіцца.

## 246. Паня́ць

*зразумець, усвядоміць сэнс* — сабразі́ць, разабра́цца *з. добра;* раскусіць *з. таямнічы сэнс, іншаск.;* раздзяўба́ць, раздзяўба́цца *з. у выніку падрабязнага разбору, іншаск., гумар.;* асазна́ць *з. з усёй адказнасцю;* раскуме́каць, скуме́каць *з. правільна, гумар.;* змікіціць *з. хутка і нечакана, жарт.;* сця́міць *з. хутка;* даўміцца, даду́мацца *з. у выніку роздумаў;* схвацíць *з. адразу, іншаск.;* улавіць *з. інтуітыўна, іншаск.;* пасцігнуць *з. інтуітыўна, рэдкаўж.;* дайціць да толку *з. праз пэўны час, з цяжкасцю.*

Што ты прычыта́ў, я пыняў усё чы́сьцінька. Ён зразу сыбразі́ў, што тут нешта ні так. Ніяк ні магу рызыбра́цца, куды мы пріехылі. Ого, цябе рускусіць нада дужа быльша́я прімýдрысьць. Што ён тама вёрз, ці рузьдзюўба́ў? Пыдажджы́ і мы рузьдзюўба́імся, толька агледзімся. Цяперя я сам асызна́ў, як тут нада було атвіча́ць. Во тыкі рускумекыў, што ды чаго. Ці скумекыў, што нада гывирíць. Пыня́тлівый хлопіц, зразу зьмікіціў: тут нешта ня тоя. Сьця́міў, што ні тая дарога, нада нызад варочыцца. Калі ні даўмíсься, у мяне спросіш, рысталкýю ужо табе. Даду́мыйся сам, зразу ўсё ясна ста́ніць. Што яму ні прычыта́й, мíгым ны ходу схва́ціць. Я ўлаві́ў, што ты хацеў скыза́ць. Ніхай сабе, скора і сам пасьцігніць, як нада жыць. Во́ калі я толька дайшоў да толку, што яму нада було ат нас.

## 247. Паразумне́ць

*паразумнець, стаць больш разважлівым і сур’ёзным* — павумне́ць *п., малаўж.;* абразу́міцца *п. у адносінах да нечага, асобнага;* аду́мацца, апо́мніцца *п. пасля разважанняў;* асцепяніцца *п. да ступені абдуманасці сваіх учынкаў;* ачалаве́чыцца *п. пасталеўшы, жарт.;* удзядзе́ць *п. да сур’ёзнасці, гумар.;* узяцца за розум (вум) *п. па ўласнай волі;* узяць бараду́ ў зубы *п. сур’ёзна, гумар.*

Нябось, пыдрысла́, дык пурузумнела. К ста́рысьці пувумнеў, ато ўсё, бувала, шу́гылым жыў. Калі йта ты абрузумíсься, хуць троху станіш ны чылавека паходж. Пыдажджы́, можа сам абразу́міцца. Аду́мыйся, што ты дзелыіш, сь цябе ж людзі будуць сьміяцца. Пыля́дзіш, апомнісься, ды позна будзіць. У мылады́х гыда́х троху пудура́чыўся, а тады асьціпяні́ўся. Кыза́лі, ты ўжо ачылаве-

чыўся, піць кінуў. Удзядзеў, яго большы ні паддýріш. Зразу усяго ў іх було, а тады абоя ўзя́ліся за розум і жы́зьня пышла́. Вазьміся, ма́ліц, за вум, яй-богу, вазьміся, кінь адурюва́ньня з гарелкыю. Ніхай пудуреіць, калінебудзь возьміц быраду ў зубы.

## 248. Парва́цца

*падрацца, зрабіцца дзіравым* — падра́цца *п. у выніку пашкоджанняў;* разлупіцца *п. ушчэнт;* ло́пнуць *п. нечакана;* прасіціцца *п. ад праціранння;* распрарэ́шыцца *п. па рубцу;* распо́ўзца, разлёзца *п. з-за нядобраякаснасці, іншаск.*; пасы́пацца *п. раптоўна з-за нядобраякаснасці, іншаск.;* пашкумата́цца, пашкума́рдзіцца *п. з-за нядбайнасці.*

Зашы́й луччы січас, ато большы пар́вецца. Пыдра́лыся руба́шка ат кыўніря́, ла́піць пріідзіцца. Глядзі, пінжачок зычапіўся, смырганеш і разлу́піцца. Зьдзеў, глянуў — дзірька, ні знаю, калі лопнула. Прасіцілыся руба́шка ат кыўніря́ да нізу, ціріз увесь падол. Нейкійніва́жный мыцірія́л, сколька там пынасіў — і рыспрарешылыся. Распоўзься адзін рукаў і другей, ніткі белыя тырча́ць. Разьлезлыся ўсё ны табе. За месіц пасы́пылыся сарочка, як і ні купля́ў новыю. Усё ны табе пушкумыта́лыся, плашы́ мне ка́жын месіц ныдзіва́ць цябе. Два разы́ надзеў і пушкума́рдзілыся усё ны табе.

## 249. Парэ́заць

*парэзаць, параніць вострым* — разрэ́заць *п. моцна;* разану́ць *п. нечакана;* ша́хнуць, шара́хнуць *п. нечакана і значна;* разваліць, раскаціць *п. глыбока і значна;* шархану́ць *п. нечакана, але неглыбока;* паласну́ць *п. нечакана і глыбока;* чы́кнуць, чыры́кнуць *п. крыху, гумар.;* чыркану́ць *п. зусім нязначна, іншаск.*

Паре́зыў пальцы, пыда́й ёду заліць. Лупа́ціў касу і ладоньню пы жа́лу — разрезыў усю. Астарожын будзь: різанеш яшчэ пы наге. Як ша́хнуў пілою пу руке, кроў зыліла́. Здорыва сярпом шыра́хнула пы плячу. Істріў нож і рызваліў руку ды касьці. Рыскаціла дык рыскаціла, калі йна цяперь зыжывець, во цацку сабе дыста́ла.Ні скызаць каб дужа, а троху шырхану́ў па костычкых. Пыласну́ў

ладонь, цяперя нашу́ся як с ку́клыю. Ну што, чы́кнуў па́ліц? Чыры́кнуў пы наге, і кроў пыцікла́. Чыркану́ла, глубока ні парезыла, ну зывіза́ць нада.

## 250. Пасла́ць

*паслаць, накіраваць з даручэннем* — вы́правіць *п. з турботамі;* напра́віць *п. спецыяльна;* адпра́віць *п. па абавязку ці неабходнасці;* нанарадзі́ць *п. урачыста, іран.;* камандзірава́ць *п. спецыяльна, неалаг., рэдкаўж.*

Можа, заўтря пашлеш мальца к Матру́ні, ніхай зынясець ку́ртычку. Чуць вы́прывіла — упёрся ні пайду, і ўсё. Што ты ныпра́віш, ноч ны дваре, заўтря ра́нінька ніхай бягі́ць. Пакуля цябе атпра́віш, сам ба дзесіць разоў схадзіў. Яго ныпырядзі́ла ў горыд: ідзі людзей пыглядзі́, а сыма́ прітушы́ла ма́лыга, дык міліцыя пывізла́. Некуды кымындзірува́лі нашыга стыршыну́, ці ня ў Мінск.

## 251. Пастро́іцца

*пабудавацца, абзавесціся пабудовай* — паста́віцца *п. пamайстэрску;* узве́сца *п. раскошна;* адстро́іцца *п. раскошна, іншаск.;* вы́страіцца *п. грунтоўна;* прыпя́цца *п. нязграбна, часова.*

Пастроіліся мы быйстра, сын ш Чэрікыва лесу паткінуў, штында́ры сваe былі́. У тріццыць дзівятым я крепка пыста́віўся, неміц пусьці́ў усё ды́мым. Што ім атходзіць, узьвялі́ся — харомы на ўсю акру́гу. І ў саміх пастройка як звон, і сын як жані́ўся, скора ацстроіўся: месіцы зы два у хату ўлез. Максім вы́стрыіўся — підзьдзісят гадоў будзіць стыяць: усё дагледжына, пріпу́чына. Пріпя́ўся збольшыга, каб хуць скаці́на ні стыя́ла пач чы́стым небым.

## 252. Пастро́іць

*пабудаваць, узвесці пабудову* — паста́віць *п. па-майстэрску;* падня́ць *п., маючы сродкі, іншаск.;* здзе́лаць *п. наогул;* узве́сць *п. гмах, іран.;* адстро́іць *п. гмах, іншаск.;* вы́страіць *п. грунтоўна, з добрага, матэрыялу;* адгро́хаць *п. вялікі, багаты будынак*; скі́да́ць, сцяга́ць, сцягну́ць *п. абы-як, іншаск.*; скласць *п. нязначнае, проста, іншаск.;*

адгáкаць *п. надзвычайна, іран.;* зграмаздзíць, зграмаздáць *п. нязграбна;* прыпя́ць *п. нязграбна, часова.*

Лáдный домік пастроілі, чатырі комныты, кылідорчык ую́тный. Пыстáвіў хату ны самым ўзгорычку. Усё гыварíлі бедзін, а вíдзіш якую хáцішчу пыдня́ў. Зь естыга лесу я сабе пяцісьценку зьдзелыю. Дом сабе ўзьвёў, пылавíну бярьвеньня пустругáў, а с пылавíны толька кару саскрёб абы-я́к. Ацстроілі быгатыю хату, аршын ны высімнáццыць рызьвялí. Вы́стрыіў дужа красíвыю хату, аж сьвецíцца. Адгрохыў харомы, і дзіцям хваціць, і ўнукым астáніцца. Ськíдыю бáнчыну, скарей калі пыласнýцца будзіць. Улезьць я ні знаю, калі ўлезу у хату, толька сьцены ськідáў. Як сьцігáў — ні сьцігáў, а ні пу чужых вуглáх вылачы́цца. Калі ты пуню хуць троху сьця́гніш? Хуць ба як скласьць к восіні, каб карова ні стыяла пуд вуглом. Адгáкылі сабе сьвятлíцу, ёсьць на што любувáцца. Так згрымазьдзіў, што воўцы ў дзіркі пывыскáкывыюць. Лес увесь задорлівый ці тынінá, троху пуню згрымыздáў. Хуць такоя пріпя́ў, і то ні пыд аткры́тым небым.

## 253. Пасцí

*амаль, без нейкай дробязнай часткі* — пасцí што, чуць не, толька што не, без пяці мінут, без мáлага; пачытáй, пачытáй што *а., уст.*

Там жа було пасьцí ны два вазы, як жа ты ўсклаў, ды яшчэ адзін. Пасьцí што ўсе яблыкі пыдыбрáў, бітых нескылька астáлыся. Чуць ужо ні далез, зы пасьледнію паплецíну ўзяўся, іна тресь, і я брязь. Спáла цына і ны цілят і ны пырысят атвалíлыся, к вечыру толька што ні дырмá аддывáлі. Сын пасьледнія акзáміны здаець, ён ужо бісь пяці мінут ныстáўнік. Як етый вы́пыўзінь пріва-локся, було біз мáлыга трі часы. Пычытáй усе сыбрáліся, можна пычынáць. Цяперя мы пычытáй што пріехылі, вун за повырыткыю дзяреўня.

## 254. Патрапáць

*растрэсці, разнесці воз з гары (пра каня)* — пабíць *р. моцна;* растрапáць, разнéсць *р. ушчэнт.*

Зыпрігáй такога, каб ні пытріпáў. Булáныму калі з гары каток ні пыдвя́жыш, паб'ець у мэтлухі. Глядзíця, з

мыладымі конімі бýдзьця ны-чыку, растреплюць — бýдзіця сыбірáць айдзе дугу, айдзе каток. Було бяды: пынісля́ жарёбка і рызьнісля́ ўсё і саміх чуць ні пызыбівáла, і сыма як ні зыдавілыся.

### 255. Пахаранíць

*пахаваць, закапаць у зямлю нябожчыка* — схаранíць *п. урачыста;* схавáць *п. паважна;* закапáць, зарыць *п. сціпла, іншаск.;* прыдáць зямле *п. з вялікім жалем, рэдкаўж.*

Пыхыранілі ны днях стáрыю, што ж, пыд дзівяноста прыжылá. Еткыга хлопца схыранíць, як толька ў маткі серца ні рызарьвецца. Стырікá схувáлі, а ўсьлед за ім і старуха пышла на тэй сьвет. Доўга ліжаў пластом, ні пыднімаўся, а ўчора зыкыпáлі. Зары́лі, ніхай ляжыць, нугурювáўся і біз рукі, і біз нагі. Аджжы́ў сваё Пынас, учора прідáлі зямле.

### 256. Пахóжый

*падобны, знешне адпаведны другому* — паходжый *п., малаўж.;* вы́літый, вы́капаный, чы́стый, увесь, увесь чы́ста, як дзве каплі вады, жывэй (жывый) партрэт *п. вельмі;* із аднаго цеста, адной мáсці, намалёваный (намалявáный), вы́пісаный, і крошачкі (рохтачкі) падабраць *п. вельмі, гумар.*

Твой сын на дзеда ня дужа пахожый. Родныя браты, а адзін ны днаго ні паходжы нісколька, як ні днае маткі. Ваша дзяўчонка вы́літыя мама. Ну ты ўжо ні гываpi, дзіцёнык — вы́кыпыный бацька, ні ткáжысься. Чы́стый дзед, як хто нумулювáў. Пыглядзі ты ны яго, зь ліца увесь бáцька. Увесь чыста мáтка, дайжа паходка яе. Сашка з Мархвыю як дзьве каплі вады, ні атлі́чыш адну ад другея. Таня жывэй партрет Верка, і кулдыя́чыць, як тая. Сын жывы́й партрет бацька, дайжа ныгамі так кріўля́іць. Хлопцы із аднаго цеста, зразу ві́дна, і паходка адна, і ўхвáтка як у аднаго. Усе троя адной мáсьці, кажный пызнáіць, што Сярьгеіва прірода. Твой меншый — нымалёвыный бацька. Тут ужо матка нумулювáныя. Што ўжо гываріць, кажный пызнáіць: вы́пісыный бацька. Увесь баба, і крошычкі пыдыбрáў. Дужа пахожа ны мáтку, і рохтычкі пыдыбрáла.

## 257. Пахудзе́ць

*пахудзець, зрабіцца худым* — схудзе́ць, схудне́ць, *п. раптоўна;* з'е́хаць *п., іншаск., адм.;* асу́нуцца *п. хваравіта;* зліня́ць *п., скінуць паўнату, іран.;* перапа́сць, спасць *п. значна;* ссохнуць, вы́сахнуць, аташча́ць, сташча́ць *п. вельмі;* сча́хнуць *п. паступова, вельмі*; стусмець *п. ад гора, перажыванняў;* сча́тніць, вы́чатніць *п. вельмі ад працяглай хваробы;* вы́чаўрыць, вы́петрыць *п. празмерна;* дайці́ць *п. празмерна, іншаск.;* дайці́ць да ру́чкі *п. празмерна;* спасць з цела *п. значна.*

Пухудзеў ты ла́дныга, прошлый раз паўнейшый быў. І нядоўга ліжала, а схудзела пыря́дышна. Схуднелі абоя, ета ні ў маткі родныя ім було, як сыр у масьлі кыча́ліся. Дужа зьехыў за етыя гады. Макрі́да асу́нулыся, а жывець жа у вы́гыдзі. Нада ж так асу́нуцца зы якога паўгода. Пыглядзі, як зьліня́ў за ета ўремя. Піріпа́ла, здорыва піріпа́ла, раншы куды жырней была. На цела яшчэ дзяржы́цца, а зь ліца дужа спаў. Столька атлежыць — ні хыця ссохніш. І ёсьць жа што і піць, і есьць, а вы́сых — адны вочы блішчаць. Нешта ты саўсім атышча́ў, ні ў маткі табе вылежывыцца. Хваці́ла ім, стышча́лі, кожа ды косьці аста́ліся. Чаго ты так шчах, ці цябе новыя жонка ня корміць, ці пры ста́рыю многа ду́мыіш. Стусьмела і стусьмела, і ыпра́ўкі ніякія німа. Саўсі́м шча́тніла, гаворіць, усярёдку нешта баліць і баліць. Устреціла яго, глянула — ажно спужа́лыся: нада так чылавеку вы́чытніць. Ды чаго хвароба дывіла́: вы́чыўріў— чуць ны ныгах дзяржы́цца. Пыглядзела, як Аўдоткіна нявестка вы́пітріла, — у такея сьвякровы кусок у рот ні палезіць. Такей худэй, так дайшоў, аж глядзець страшна. Дайшоў да ру́чкі, кожа ды косьці, ныўряд ці акліяіць. За етыя месіцы ён саўсім спаў сь цела, а быў жа сьлімень, сьлімень.

## 258. Пацяра́ць

*згубі́ць, страціць па няўважлівасці* — абрані́ць, вы́валіць *з. носячы;* стра́ціць *з. вельмі патрэбнае, уст., рэдкаўж.;* уцяра́ць *з. патрэбнае, руск.;* пасе́яць *з. неабходнае пад рукі, іншаск., асудж.;* згы́ркаць *з. па недаравальнай бяспечнасці, груб.*

Айдзе я мог пыціря́ць тапор, ні дады́мыюся. Абрані́ў ножык, а цяперь вазьмі трясцы, чым хлеба атрезыць.

Усігда ж быў акура́тный, уніма́цільный, а тут брусок нейдзі вы́выліў. Тыкая была лупа́тычка, два разы пывядзеш і кыса як агонь, а ў кусты палез і нейдзі стра́ціў. Такей ла́дный вы́різыў пупок і на табе — уціря́ў. Прічапіў сырыкаву́шкі шморкыю і нейдзі пасеіў. Што, дырза́ўся, згы́ркыў нажні́чкі, чым я пылатно разрежу.

### 259. Пачына́ць

*пачынаць, прыступаць да дзеяння* — начына́ць; зачына́ць *п., малаўж.;* бра́цца, прыступа́ць *п. грунтоўна*; зава́рываць *п. асуджальныя дзеянні;* падніма́ць, падыма́ць *п. сварку, іран.;* узніма́ць, усчына́ць, завадзі́ць, зацява́ць *п., з'яўляючыся ініцыятарам сваркі, іран.*

Ці ня зь левыя ты нагі сяньня ўста́ла, што нізашто пычына́іш грызьню́. Яві́лыся ўжо двору, чуіш, як нычына́іць. Ні зычына́й на ўсю дзяреўню галдзеньня, двору ідзі. Што бяресься чысьціць бацінкі, калі яны зьбегліся. Прісту́па́й-ка ты печ піряпечкі, скора ж пра́зьнікі. За нейкія крінджа́лы нада табе сварку зыва́рівыць. Нашто табе пыдніма́ць галдзёж, можна ж ціха пыгыварі́ць. Пыдыма́й нанparticipа крік, даўно сьці́хла. Ахота ж табе узьніма́ць вайну із-за нейкіх ломыных ві́лык. Ні ўшчына́й зь людзьмі́ быта́ліі, рызыйдзі́ціся пы-харошыму. А каб ні зывадзі́ць етых песін, — ці ты так ня можыш? Узноў сваее песьні зыціва́іць, ня можыць бязь іх вы́цірьпіць.

### 260. Перадзе́ць

*пераадзець, змяніць адзенне* — перамяні́ць, змяні́ць *п. з-за часовай непрыгоднасці;* перакі́нуць *п. часова, іншаск.;* перапрану́ць *п. вопратку.*

Пірядзень чы́стыю руба́шку, ні хадзі ў гря́зный. У нашый сям'е так заведзіна — прішоў з бані і пірямяні ні́жнію руба́шку. Пінжа́к мокрый увесь, зьмяні́, сухей надзень. Пірякі́нуў ба ста́рінькыю сарочку, успацеў увесь, як з вады. Зыскачы́ў піріпряну́ў пулушу́бык ны тулу́п і пабег.

### 261. Перакла́сць

*перакласці, перанесці і скласці ў іншым месцы* — пералажы́ць; пераваліць *п. цяжкімі часткамі многа;* перакі́нуць *п. невялікімі часткамі мала, іншаск.;* перакі́даць *п. кі-*

*даючы, іншаск.;* перакіда́ць *п. кідаючы, іншаск., малаўж.*; перагрузі́ць, перагуртава́ць *п. вельмі многа цяжкага.*

Піріклá́ў дровы пыт паветку, пыць сьцяною, праўда, луччы сохлі, ды дождж зысікá́ў. Нешта с аднаго боку зьехылі снапы́, дык я піріла́жыў капу. Піріва́ліў сена ат коміна к налобніку, каб ні зымікáла. Што там було класьць, пірякі́нуў зу пуўчысá. Пірякі́дыў к сьценкі, сколька там тае работы. Пы снапку, пы снапку і пірікідáіш. Ліжалі етыя курчы́гі пыд ныгамі, пакуля іх пірігрузі́ў з дарогі, выбіўся. Чаму ні зымаріцца, такую ку́чышчу пірігуртувáць.

## 262. Перамóжч

*перамагчы, саўладаць барукаючыся* — зможч *п. лёгка;* зборыць, пераборыць *п. роўнага па сіле*; здóлець, адóлець, судóлець, падóлець, перадóлець, аду́жаць, перадýжаць *п. са значнымі намаганнямі;* адалéць *п. са значнымі намаганнямі, малаўж.*; асі́лець, перасі́лець *п. з. цяжкасцю;* саўладáць *п. лоўкасцю;* сарвáць *п. з малымі сіламі, толькі з творн., іншаск.;* скруці́ць *п. поўнасцю, іншаск.;* пабядзі́ць *п. увогуле, руск.;* спрáвіцца, даць рáды *п. з вялікімі намаганнямі.*

Хочыш, я цябе яшчэ раз пірімагу́. Каго — каго, а цябе зможч я яшчэ судолію. Ніхай сабе мáлінькій, а цябе зборію. Айдзе ён піряборіць, калі ўзяцца ня ўмеіць. Схваціліся ў рогі чорный з рябым, дык рябый здоліў. Чуць адоліў, крепкій хлопіц. Ні глядзі, што стáрый, мыладога судоліў. Не, ніпрáўда ж ета, ня ты падоліў, а цябе. Схвáцюцца боріцца калі, і ніхай тэй пірядоліць, етый гатоў зубамі. Толька брацца ня хочыцца, а я цябе зразу аду́жыю. Што йта, што адзін раз піряду́жыў, ці помніш, сколька ліжаў пыд нізом. Івана адалець табе ўжо ні ўдáсца. Глядзі-ка ты, кажыцца, шкет, а асіліў такога бульшунá. Усёроўна пірясі́лю, я кряпчэй. Наду́мыўся, гаворіць, што са мною сыўлыдáіць, я ж у трі разы кряпчэй зы яго. Схвáцюцца боріцца, і ніхай толька ні сарьвець сь кім — кідыіць, хвытáіць што пупáла і лу́піць чым дзержа. Я цябе скручу́ у два шчоты, ат аднаго пáльца майго пыляціш. Айдзе ты пыбядзіш, у цябе сілы як у кымарá. Сколька ні цігáліся, ні спрáвіліся адзін з другім. Табе то я дам рады, у мяне ты і ні кáўкніш.

**263. Пераскачы́ць**

*пераскочыць, пераадолець перашкоду прыжком* — перапры́гнуць *п. лёгка;* перапы́рхнуць *п. вельмі лёгка, уст.;* перамахну́ць *п. з вялікай энергіяй і спрытам, іншаск.;* пераляце́ць *п. з лёгкасцю і спрытам, іншаск.*

Бычок ціріс прясла піріскачы́ў і толька быў у клевір. Што яму тваё гыраджэньня, мігым піряпры́гніць. Ужо ж і жы́рныя, і німылыда́я, а здаровыя — піряпы́рхніць што хочыш. Айдзе яго твае за́гырыдкі удзержуць, ён ціріс сьцяну пірімахнець. Тут метры два, піріляцеў — хуць ба кыпытом чыркану́ўся.

**264. Перастро́іць**

*пера́будаваць, абнавіць будоўлю* — пературэ́сць *п., замяніўшы гнілое, іншаск.;* пературусіць *п., значна замяніўшы гнілое, іншаск.;* перасы́паць *п., дадаўшы новае, іншаск.;* перабра́ць *п., дадаўшы многа новага, іншаск.;* перадзе́лаць *п., унёсшы змены.*

Я ны ста́рым месьці пірястроіў хату, хунда́мінт новый падвёў ды аса́ду пыміня́ў. Лес вазі́ў далёка, аж с-пад Чэрікыва, пірятрёс троху халу́піну, цяперь будзіць стыя́ць. Чуць-чуць сыбра́ліся ды пірітрусілі і хату, і прідзелык, а сенцы саўсім новыя пыста́вілі. Летыся пірясы́пыў сваю пастройку, нічога зьдзелыў: і штында́ры новыя пыста́віў, і хунда́мінт новый. Думыю налета пірібра́ць хату, у ёй мала чаго цэлыга аста́лыся. Піцісьценка ў мяне яшчэ крепкыя, а сенцы думыю пірядзелыць.

**265. Піхну́ць**

*штурхнуць, зрушыць з месца штуршком* — таўхну́ць, таўхану́ць, таўкну́ць, таўкану́ць *ш. злёгку;* штурхну́ць, штурхану́ць *ш. моцна, рэзка;* то́рнуць, то́рснуць *ш. вельмі моцна, груба;* швіргану́ць *ш. вельмі моцна, далёка ад сябе.*

Крепка піхну́ў, тэй чуць ны ныга́х устоіў. Ціхінька яго таўхну́лі, ён і пыляцеў носым у сьнег. Ён туўхану́ў ніча́інна, ні замеціў таго. Таўкну́ў яго ў бок, каб пуд рукамі ні круці́ўся. Тыўкану́лі, дык ён і з ног далоў. Я цябе другей раз штурьхну́, атвы́кніш шту́рьхыцца. Вазі́цца і ўгыва́рівыць ні стану, штурьхану́ і атляці́ш. Торну, тор-

ну, — дужа ты рысьхадзіўся сы сваім торкыньнім. Ладна яго торснулі, с усіх ног пыляцеў. Тырмаснýў зáгрудкі, а тады швірьганýў аць сябе пряма ў лýжу.

### 266. Піць

*піць, ужываць вадкае* — жмýрыць *п. з ахвотай, жарт.;* жлýкціць *п. многа, іран.;* хлы́скаць, лы́скаць, лы́каць *п. прагна, асудж.*; хлястáць *п. многа, вялікімі дозамі, асудж.;* ссаць, смактáць *п. памалу, паволі, іншаск., іран.;* цадзíць, цягнýць *п. вельмі павольна, іншаск., іран.;* дуды́ліць, дудóліць *п. вельмі доўга, іран.;* жраць *п. многа, прагна, іншаск., груб.*

Ня пі многа вады, с калодзіжа дужа халодныя, горла прастýдзіш. Сырадой жмýріць стыкáн зы стыкáным, тольква пыдлівáць спруўляйся. Салёныга, усяго ўсякыга ныхвытáіцца, тады толька жлýкціць ваду бісьпірістáнку. Ня хлы́скый такую халодныю, іна толька што с калодзіжа. Нечыга, відна, салёныга ныхвытáўся, што лы́скыіць пымінýтна, крýжкі з рук ні выпускáіць. Мылако ськíслыся ны сырыквáшу, дык лы́кыіць пря́ма з буты́лкі. Хлешчыць і хлешчыць крýжка за крýжкыю, ні адбярецца ат вады. Хвáціць ссаць, час ныт стыканом чаю сядзíш, вы́піў і пашоў. Некылі смыктáць, скарей дыпівáй ды бягí, вíдзіш, пряма грыдывая туча находзіць. Рыскапýсьціліся на цэлый дзень і цэдзюць квас пы каплі. Якоя ета піцьцё — ця́гніць скрозь зубы, а ты стой, жджы яго. Пыдажджы́, ні мішáй, ніхай ужо дуды́ліць. Дудоліць як мáлінькій,—ні здзікáйся, а кружку стаў. Жрець вадзíшчу нямерна, як у яго трябýх не лопніць.

### 267. Плáкаць

*плакаць, праліваць слёзы* — рýмзаць *п. нудна, неадабр.;* рэўць *п. гучна;* гусць, гудзéць *п. голасна і бесперапынна, іншаск.;* ры́гаць *п. з усхліпваннем, іншаск., неадабр.;* рыдáць *п. горка, сутаргава ўсхліпваючы, рэдкаўж.;* выць *п. уголас;* галасíць *п. гучна, з галашэннем;* кукавáць *п. горка, з прычытаннем*; кíснуць *п. доўга без прычыны, іншаск., неадабр.*; выця́гывацца, сцянáцца, сцягáцца *п. з роспачнымі рухамі, неадабр.;* залівáцца *п. вельмі горка;* захадзíцца *п. да канвульсій*; хны́каць *п. нехаця, нягучна, аднатонна*; хліпаць *п. стрымліваючыся*; хлю́паць *п., сморга-*

*ючы носам, іран.*; усхліпываць *п. нягучна, сутаргава*; пішчэ́ць *п. тонка, іншаск., неадабр.*; склімéць *п. сцішана, цягуча, неадабр.*; карóжыцца *п. з-за недамагання або капрызнічаючы (пра дзіця)*; кулáжыцца, кýксіцца *п. пры недамаганні (пра дзіця)*; нюніць *п. цягуча, надакучліва, рэдкаўж.*; нюні (рýмзы) распускáць *п. беспрычынна, неадабр.*; хлюпаць носам *п., шморгаючы носам, іран.*; пускáць слёзы *п., каб выклікаць спагаду, іран.*; развадзіць сырасць *п. беспрычынна, гумар., рэдкаўж.;* залівáцца (аблівáцца, умывáцца) слязáмі *п. доўга, вельмі горка*; даваць волю слязáм *п., каб выплакацца*; захадзіцца ад слёз *п. да канвульсій;* ровам рэўць *п. вельмі гучна.*

Ні плач, дзетка, ні плач: паеду ў горыд і прівязý табе і пыпря́ньнікыў і барáнькыў. Нечыга рюмзыць, кылі сам вінувáт. Калі ня хочыш пайціць пы-харошыму, дык бýдзіш реўць і бежч. Віджу, віджу гусьць табе сяньня дужа хочыцца. Сколька ён бýдзіць гудзець, нада зыстáвіць пірістáць. Рыгыіць цэлый вечыр, а чаго, каб хто спрасіў?— зы цáцку. Як жа, рыдáіць пы сваім, на дзьве нядзелі паехыў. Я яшчэ ні разу ня чýла, каб хто выў, як Тыцяна, ета праўда, Мархва яе узгудувáла. Гыласі ні гыласі, а з магілы ні падні́міш. Во ўжо кукувáлі дочкі, як Мырья́нку хыранілі. Ну, ня кісьні, ня кісьні, ні адна ты еткыя горькыя. Чаго ты выця́гыісься, як баба дурнáя, пірІжывеш пырасёнка, вун яшчэ цэлый двор сьвіньней. Сьцінáіцца, ажно сь сябе выходзіць ат плáку. І адзін сьцігáіцца і другей ні пыддаецца,— ныпірягонкі плáчуць. Вот зылівáіцца і зылівáіцца, кажыцца б, узілá мыхрáч ды мыхрачом. Ні зыхадзіся, сьлізáмі ж усёраўно нічога ні паможыш. Адна сядзіць, хны́кыіць, а другая дайжа ў рязон етыга ні бярець. Ні пусьціла з бáцькым у Каробчына, дык сядзіць, хліпыіць. Руспусьціўся, хлюпыіць, як яму вінувáт хто-небудзь. Нешта стыяла пуд вуглом, усхліпывыла. А ні пішчы́ ўжо, ні пішчы́, січас ныкармлю́, ныдыя́длый дзіцёнык, цігáіцца ўсьлед, зьнібіць і зьнібіць. Склімела і склімела ўсё, пряма серца ат'ела. Карёжыцца сяньня цэлый дзень, вы́гыню зь яго дýрікі. Кулáжыцца і кулáжыцца, відна, нешта нідылігáіць. Кýксіцца і есьць ні бярець, хвацілыся, дык гылыва гыря́чыя-гыря́чыя. Нюніў увесь вечыр, пакуль спаць ні атпрáвіў. Ні руспускáй нюні, ні руспускáй, а вазьмі і зьдзелый, што нада і скáзына. Перш ны ўсякій усьпяцень лезіць, а тады рюмзы руспускáіць. Слова яму скажы ні так, і пычáў хлюпыць носым.

У яе ўсігда адно: чуць што ні так—пускáіць сьлёзы. Хваціць ужо сы́рысць рызвадзíць і так мокра, дождж ішоў нідáўна. Пышлá замуж за бягáства і сьлізамі зылівáлыся ўвесь век. Ні мужык пупáўся, а горя: аблíваіцца сьлізамі і днём, і ўноччы. Ні завíдый яе жызьні: сьлізáмі умывáіцца каторый год. Ну што ты даеш волю сьлізáм, тут плáкым ні пасобіш. Такоя ў яе горя—заходзіцца аць сьлёз. Гурювáла, рёвым ріўлá і ні зналі, як можна паможч.

### 268. Плесць

*плесць, вязаць рэчы з дубцоў, палачак, вяровак шляхам пляцення* — кавярзáць *п. няўмела;* гламаздáць, грамаздáць *п. абы-як, груба.*

Дзед мой толька лы́кывыя лапці ўмеў плесьць, а бацька й вярёвышныя. Кывірзáіць карзíнку трецьцій дзень. Так ні плятýць, а глымыздáюць. Грымыздáў нешта, гываріў, кашолку хочыць зьдзелыць, прасіла панебніцу вы́брыць — ні ўзяўся і ні пашоў.

### 269. Пóрціць

*псаваць, прыводзіць у нягоднасць* — гáдзіць *п., брудзячы ці ламаючы;* глумíць *п. бессэнсоўна;* гамзíць, бузавáць *п. не зберагаючы (звыч. адзенне);* плюгáвіць *п. канчаткова*; пагáніць, партáчыць, паскýдзіць *п. здзекліва;* псавáць *п., кніжн., рэдкаўж.*

Ходзіць і порціць дзеріўцы, дык я яго прýтым с сада. Разьві яны ядуць, яны толька гáдзюць. Відзіш яго работу, толька глýміць. Глумяць,— во і ўсё іхнія дзела. Ні гамзí-ка ты ў грязь чы́стыя адзежыны. Нічога ні бірягець, што ні праў, бузýіць. Я б новыга тулупа ні плюгáвіў, ета вешч. Нашто табе пыгáніць чы́стыя вядро, налí ў якей чыряпок. За што ня возьміцца, усё пыртáчыць. Паскýдзіць усё чы́ста, а папробый-ка скызáць што — дрень бýдзіш. І адзежу псуець, і вобуў, нічагенічка ні бірягець.

### 270. Правініцца

*правініцца, стаць вінаватым* — правінавáціцца *п., малаўж.;* праштрáпіцца, праштрóпіцца, праштрáпіць, праштрóпіць *п. яўна, жарт.;* саграшы́ць *п. нядобра, іншаск., жарт.*

Нечым жа прывініўся: прішоў, раздзеўся, ціхінька лёг, дайжа есьць ні пыпрасіў. У Ма́ўры нядоўга прывінува́ціцца: ні на тую масьніцу ступіў — во й вінува́т. Прыштра́піўся Мікіта ў Пылагеі, крічы́ць нешта: кіну, ріну, сам і тапі́, і варі́. Што ты, сяньня ўзноў праштропіўся, — будзіць узбу́чка, ня вы́круцісься. Ты глядзі́: раз прыштра́піў — іна цябе угыманіць можыць. Калі ўжо ў Лявоніхі праштропіш, пышча́ды ня жджы. Што ён у цябе ўзноў сыгряшы́ў, узяў ча́рычку?

## 271. Право́рный

*праворны, хуткі і спрытны ў справе* — паваро́тлівый *п. з спрытнасцю*; скорый, бы́стрый, бы́йстрый *п. да нецярплівасці, іншаск.*; кру́ткій, вёрткій *п. з незвычайнай спрытнасцю і хуткасцю, іншаск.*; абаро́цістый *п. з асаблівым і паспяховым разлікам;* растаро́пный *п. з разлікам і развагай.*

Ны ўсякыю работу право́рный, і ні прасьпіць, і ні прыляжы́ць. Ну што ты хочыш, каб ён табе ў мышы́ныю дзі́рьку ўлез, ён і так пываротлівый. Скорый хлапчы́на, куды хочыш прімудріцца і ўзьбярецца. Бы́стрым нада быць вы ўся́кім дзелі. Ён у яе бы́йстрый, с-пыд зямлі дыста́ніць. Каб ты быў такей кру́ткій ды калхозныга, як ды свайго, табе б і слова ніхто не скыза́ў. Не́ ч чыга мне дужа вёрткім быць. Клім абароцістый хызя́ін, ён усігда́ ныпярёд глядзі́ць і зна́іць, што к чаму зьдзелыць. Што за хлопіц урадзі́ўся ў цябе, ён жа такей рыстаропный, што большы некуды.

## 272. Прагалада́цца

*прагаладацца, захацець есці* — вы́хартавацца *п. добра, іран;* прачха́цца, вы́чхацца *п. бегаючы, гуляючы (звыч. пра дзяцей)*; пратрэ́сца *п. у дарозе, іншаск., гумар.*

Троху прыгылыда́ўся, ні міша́ла б пірікусі́ць. Як вы́хыртыісься, зьясі і біз упросыў. Прычха́юцца — самі прі́дуць, дужа за імі бегыць буду. Ну, што, вы́чхыўся, можа, крупені наліць? Пыдажджы́, прытрясесься — скарінку папросіш, ета пакуль духі ні пыдвяло, дык ты хра́бір.

### 273. Прагле́дзець

*недагледзець, не заўважыць у рэчаіснасці* — прагля-дзе́ць *н., малаўж.;* недагле́дзець (недаглядзе́ць) *н. выпадкова;* прамарга́ць (прамо́ргаць) *н. упусціўшы;* празява́ць, праваро́ніць, прахло́паць *н. недаравальна груба;* праштро́піць *н. відавочнае, гумар.;* прапусціць, упусці́ць *н., не выкарыстаўшы магчымасцей.*

Глядзела-глядзела брігадзі́ра і прагледзіла, гаво-рюць, прашоў. Сачы́ ды сачы́, а за́ймісься чым — можыш раз-два прыглядзець. Беглі мульчуга́ны за конімі — і ні-дагледзіў, ато б скызаў, прівялі б. Зы табою ніхай ніды-глядзі́ш, можыш утварі́ць што хочыш. Прымырга́ў такоя вы́гыдныя дзела. Праморгыіш, а тады будзіш кусаць сябе за локці. Я табе біз ус́якыга ўсяго гыварю, што прызіва́іш і ня ўвідзіш, калі ён праскочыць. Хадзі́ла пы надворью і прывароніла іх, ні пагледзіла. Пакуль усё ета жоўтыя брезыла, гляджу, вазьмі тря́сцы, схваці́ў сыбака бальшэнный кусюга́н і толька быў,— прахлопыла, калі ён пыткра́ўся. Як жа я праштропіў машы́ну, мне ж як раз хлеба ўкусі́ць нада було пыцскачы́ць у Крічыў. Як жа я мог прупусьці́ць такоя дзела, аж сам дзіўлю́ся. Упусьцілі, як Пісырівы ехылі, ато б клу́мку усьќінулі і пыдвязьлі б — яны людзі харошыя, ні разу ні ў чым ні аткажуць.

### 274. Прадзнаменава́нія

*прыкмета, напамін аб з'яве* — приме́та *п., іншаск.;* пры-хаме́та *п., уст.;* прадве́сція *п. як папярэднік з'явы;* знак *п. як сімвалічны напамін;* зна́мя *п. як незвычайны сімвалічны напамін.*

Ці ма́ла лухты було на сьвеці, хто дура́чыцца, залом зывя́жыць—і шчыта́лі прізнымінува́ніім. Цяперь ты ўжо ні на́йдзіш такога, каб веріў пріметым, можа старуха іка́я адна ны акру́гу. Ніхай бу́дзіць два сонцы, мне што, ета твой дзед пріхаметым веріў. Чаго б тая сарока так шчыбіта́ла, ці ні прідвесьція ета якоя. Тучка ікая блі-шчэла, а йна божыцца, што ёй знак нейкій быў на небі. Яй-богу зна́мя якоя-то: стаўбы́, кра́сныя стаўбы́ па небу, а над імі неік сьветла.

**275. Прадлага́ць**

*прапаноўваць, рабіць прадметам выбару* — набіва́цца *п. настойліва;* суліць *п. мякка;* паднасіцца *п. нетактоўна, не ў час.*

Я ж табе прідлыга́ю і новыю шубу і па сходный цане, чаго ж ты нос верніш. Устрецію Прахора, як пычаў ныбіва́цца су́шынымі грібамі, ні твіза́цца. Сулілі пяцьсот зы карову, дык ні ддаў, хацеў большы узяць. Пыднасілыся нейкыя с цубу́лію з рыстка́мі, я ні зыхацела браць.

**276. Пра́знішный**

*святочны, прызначаны для святочных, выходных дзён* — свято́шный *с., уст.;* выхаднэ́й, выхадны́й *с., неалаг.;* чы́стый *с., абмеж.*

Спра́віў два касьцюмы, адзін пра́зьнішный будзіць, другей ны кажный дзень. Вы́трісі сьвятошную адзежу ды павесь, ніхай ня пы́ліцца. Ета выхаднэй пінжак, для работы вун у вуглу́ вісіць. Выхадны́я плацьці на вешылкых. Купілі шкап: чыстыю адзежыну якую павесіць.

**277. Пракарміць**

*пракарміць, прагадаваць пэўны час* — перакарміць *п. пры абмежаванасці сродкаў, іншаск.;* прадзяржа́ць (прадзе́ржаць) *п. пры вострай абмежаванасці сродкаў;* перадзяржа́ць (перадзе́ржаць) *п. зімовы перыяд.*

Калі дзьвюх пракорміш, кіда́й, вясною грошы будуць. Я думыю, што пірякормім: і сьвірепка, і ата́ва, троху резі дыба́вім. Во прыдзіржа́лі і з мылаком, ато ду́мылі збува́ць. Як вы прадзержылі столька скыта́, ета ж уха́джывыць за ім сколька ўремя нада. Сёліта, відна, абеіх ні пірідзяржы́м, цяжола. Адзін хвост пірядзержыць ты б ужо мог, тут твыя нірызваротлівысьць, мог такеясякея лубуды́ нызьбіра́ць.

**278. Пракла́сць**

*пракласці, зрабіць сцежку, дарогу* — пралажы́ць; пратары́ць, набіць *п. торны шлях;* расце́рць, праце́рць *п. шлях па снягу;* пратапта́ць *п. шлях (сцежку) пешай хадой;* праламаць, праламіць *п. уцэла, напрамік.*

Во бягі пряма пы балоту, там ужо сцёжычку прыклáлі. Прылажы́лі новую дарогу пу зугуменьню. Дарогу прытарілі, ну, яшчэ ні хуць бокым кацíся, алі ж ня тоя, што нагу вы́ніш, нагу ўсодзіш. Едзь сьмела, дарогу там набілі харошыю. Пыдажджы́, ні сьпяшы, тут ціріш часдва рызатру́ць дарогу. Так мяло ўчора, а сяньня троху працёрлі, можна йціць. Цяперь прытыптáлі сьцёжку цірізь ячмень ны быльшáк. Прулумáлі дарогу па жыту, відна, мыжáрымі езьдзілі. Еткій сьлед прыламíць ціріз усе пасевы!

## 279. Прáма

*напрасткі, па прамой* — напрамíк, напрамкí; праміко́м *н., малаўж.*; напрало́м *н., не зважаючы на перашкоды;* напрасткí *н., рэдкаўж.*

Нашто табе тая дарога круг дзелыць, бягі во пряма і вы́скычыш ны крáйнія хаты. Мне й ныпрямíк ні стрáшна, і дарогыю абыйціць магу. Пірябíра наша бегла ныпрямкí, нагу прыкалола, цяперь узрываíць,— сядзіць, трецьцію нядзелю кавэнчыцца. Пашоў приміком і неік зьбіўся з дарогі, стаў, гляджу — ета ж Сьвятоя возіра. Вáліць ныпралом па вы́ку, ці табе сьцёжкі німа, вун іна ря́дым. Бягі ныпрасткí, толька дзяржы́ся вун на тоя дзеріва.

## 280. Праны́рлівый

*пранырлівы, здольны вынайсці шляхі да маладаступнага* — праку́дзістый, праку́длівый *п. з дасціпнай выдумкай;* празукавáтый, праспалíтый, праспалíтный *п. з асаблівай кемлівасцю;* пралáзлівый *п. з асаблівай пралазнасцю, адзінк.;* дасу́жый *п. з асаблівай цікаўнасцю.*

Я яшчэ помню меншыга Астапчонка, праны́рлівый быў, куды хочыш, бувáла, даб'ецца. У чым чар тэй дзяржы́цца, вы́сых, вы́пітріў, а такей праку́дзістый. Большы такога праку́длівыга, знаць, ні нáйдзіш ні ў мірі ні ў Сібірі. Ты ўжо такей прузукувáтый, што ў нітычку пáвылкі ўлезіш. На што ўжо Аўдакім прыспалíтый, а й тэй ні тря́сцы ня вы́хыдзіў. Ня будзь ужо, ня будзь еткім прыспалíтным, як твой дзя́дзічка. Ніхай ба ты быў трошку меншы прылáзьлівым, ій-права луччы було б. Вун відзіў, Іванька дужа дасу́жый, дык яму нос пришчамілі.

## 281. Прапа́сць

*прапасці, страціцца поўнасцю* — ля́снуць *п. нечакана і неспадзявана*, ка́нуць *п. бясследна, малаўж.;* згі́нуць *п. канчаткова, малаўж.;* счэ́знуць *п. канчаткова, рэдкаўж.;* улыбну́цца *п. неспадзявана, іншаск., вульг.;* пайці́ць дымам (га́рру ) *п. у выніку бедства (звыч. пажару);* пайці́ць пра́хам (хінню) *п. марна;* про́падам прапа́сць *п. зусім, канчаткова, груб.;* прапа́сць ні за паню́х (нюх) таба́кі *п. бессэнсоўна;* як у ваду кануць, як карова языком зліза́ла *п. бясследна;* як скрозь зямлю праваліцца, як затану́ць, як пратану́ць, як затапі́цца, як залі́цца *п. бясследна часова, неадабр.;* як захлыну́цца, як задаві́цца, як задушы́цца *п. бясследна, груб.*

Бу́дзіш так бярежч, скла́дывыць, дык прыпадзець усё, хіньню пойдзіць. Пірід вайною абгледзіўся, стаў нічога жыць, а ў вайну усё ля́снула. Паехыў і ка́нуў, другую нядзелю ні слу́ху ні ду́ху. Сколька там чаго було, усё зьгі́нула. Було дыбра́, а вот неік шчэзла, і ні прі́ду́мыць як. Ну што, кыпа́ сена улыбну́лыся, с прікопкым ра́зым? Строіўся, строіўся і ўся пашло ды́мым. Пашло га́рьрю усё яе быга́ства. Ні зьбіра́й, ні скна́рься, што зьясі ці надзеніш, то тваё, а не — пойдзіць пра́хым. Троху быў нажы́ў, алі ўсё пашло хіньню. Прыпадзі іна́ пропыдым жы́зьня тыкая, каб я с табою век му́чыўся. Мог ба жыць, а во збыся́тнічыўся і прыпа́ў ні зы паню́х тыба́кі. Ні за нюх тыба́кі прыпа́ла усё, толька бутува́ўся, ні дня, ні ночы атхлы́ну ні було. Айдзе ён дзіва́ўся, як у ваду ка́нуў. Во тут жа ніда́ўна ліжа́ла пірібіра́нычка травы, а пытхаджу́, гля́нула — як карова ізыком зьлiза́ла. Трецьцій дзень як скрозь зямлю прываліўся. Пабег, гыварі́ў, ны адну мінутку ацскачу́ і як зытану́ў. Паехылі ўчора атвечыра і як прытану́лі. Пабег, скызаў січа́с ныза́д, а тут трі часы жджом, як зытапі́ўся. Сколька жджом, а яны як зылілі́ся. Тут уремя німа, гаріць, а яны як зыхлыну́ліся. Айдзе-то ціга́іцца, як зыдаві́ўся. Узноў звалокся, як зудушы́ўся, і так каторый дзень пыдря́д.

## 282. Прасі́ць

*прасіць, звяртацца з просьбай* — малі́ць, умаля́ць, выпра́шываць, выма́ліваць *п. пакорліва і прыніжана;* кля́нчыць *п. настойліва і неадступна;* ка́нькаць *п. надакучлі-*

*ва;* скулíць, скулéць, стагнáць *п. з ныццём, іншаск., неадабр.;* прóсам прасíць *п. настойліва пры безвыходным становішчы.*

Быў у мяне, прасіў, каб ны якіх пару дней падыйшоў к яму с тыпаром. Я ні вáшыга сілá, ні вáшыга сяленія, ні пы-вашыму пяю, прашý ізьвіненія. Малí ні малí, а як я скызаў, так і будзіць. Ны прамíлый бог умыля́ла яго так ня дзелыць, дык не, ні паслухыў. Я б ужо ні разу ні стаў етык выпрáшывыць. Ну што ты вымáлівыіш, ці табе бязь естых тряпык ні абыйціцца. Як стала кля́нчыць — дай, — а на! — толька атвяжы́ся ат мае гылавы. Каб ні кáнькыў, скарей ба пулучы́ў. Скулíла і скулíла, ну й аддáў, а што я мог здзелыць. А што я буду дзелыць, калі скулеў: дай. Прішоў і вун з раньня стогніць і стогніць: дай. Я цябе прóсым прашу: пымагí, нявы́крутка.

## 283. Прастудзíцца

*прастудзіцца, захварэць ад прастуды* — прасты́ць *п. моцна*; прысты́ць, прыхаладзíцца, прахаладзíцца *п. крыху;* застудзíцца, захаладзíцца *п. моцна і надоўга.*

Нада ж летым прустудзíцца так — другую нядзелю дайжа гылавы ні пыднімáіць. Каб ня зьлежч: дужа-дужа прасты́ў. Здорыва прісты́ў за тым лесым, успаленія можыць быць. Пріхыладзíўся, кажыцца, нямнога, а чýствыіцца, даець у хрясткí больлю. Айт, рыспáріный пабегыў, прыхыладзíўся, і зьлёг. Ня слýхыюць нікога, застýдзюцца, а тады квохыюць: матка, лячы́. Як зыхыладзíлыся тую зімý, дык і кычáіцца сярэдзіныю.

## 284. Прасты́ць

*прастыць, зрабіцца халодным* — асты́ць *п., кніжн.*; асты́нуць *п., рэдкаўж.;* ахладзíцца *п. у меру;* ахаладзíцца *п. у меру, кніжн.;* астудзíцца *п. за пэўны час.*

Чаго вы ні йдзіцё есьць, крупеня налíта і прасты́ла. Што ж ты возіш, уцю́г даўно астыў. Дýмыў, асты́нулі, хвáць рукою — і кожа зысмылела. Баню вы́тыпілі рана, пакуля туды ды сюды, дык іна і ахладзíлыся. Ніхай бутылкі пыстыя́ць яшчэ, нісколька ні ахыладзíліся. Ікáя там ідá, вáріва ня толька ні астудзíлыся, а хвацíць яго нільзя́.

## 285. Прашну́цца

*прачнуцца, абудзіцца ад сну* — прахваціцца *п. нечакана, раптоўна;* раздура́цца *п. ад цяжкага сну;* ускруціцца *п. не ў час, вельмі рана;* вочы ўскінуць *п. адразу, пры неглыбокім сне;* прадра́ць вочы, вочы (бельмы) пралупіць *п. адразу, груб.*

Як прашнесься, зразу ныдзіва́йся і бягі на поля, пыцсыбля́ць. Прыхваці́лыся, гляджу — саўсім ві́дна, ай-яйяй, як жа я мыгла так прыспа́ць. Руздура́ўся ў самыю поўныч і ні заснуў большы ні мінуткі. Чаго ты ўскруці́ўся ў такую рань? Путуўха́ла, ён вочы ўськінуў, пыглядзеў, я атыйшла — ён узноў сьпіць. Пыра б ужо вочы прыдра́ць, брю́зьніш часоў пітна́ццыць, а можа і ўсе два́ццыць. Чаго ты ляжыш, вочы прулупі́, ужо усе ны работу пашлі́. Прылупі́ў ба бельмы, ніяк ня вы́сьпіцца, ночы яму мала.

## 286. Прашча́цца

*развітвацца, абменьваючыся поціскам рук і словамі пажадання пры развітванні* — расстава́цца *р. з болем, жалем;* расстрава́цца *р. з цяжкасцю;* разлуча́цца *р. назаўсёды;* разві́тывацца *р., кніжн. рэдкаўж.*

Стыя́лі на вуліцы, прышча́ліся. Чаго ты пла́чыш, мы ж ні ныўсігда рысстаёмся. А думыіш, мне було лёхка рысстрíва́цца. Знаю, цяжола сы сваёю кроўую рузлуча́цца, мне самой прышча́ньніў хваці́ла. Будзім разьві́тывыцца, нада ехыць, к поізду можым ні пасьпець.

## 287. Прашчыта́цца

*праліча́цца, дапусціць промах у меркаваннях* — абшчыта́цца *п. нечакана;* абмахну́цца, прамахну́цца *п. недаравальна;* сплаша́ць, аплаша́ць *п. выпадкова;* сплашы́ць *п. выпадкова, рэдкаўж.;* даць ма́ху (прама́шку) *п. груба.*

Прышчыта́ліся троху, нада було раншы вы́іхыць, і ды дажджу́ спра́віліся б. Купіў пы яго наводу і апшчыта́ўся. Ён ні абмахнецца, ходзіць і ўсё дзюб-дзюб-дзюб — есьць. Чаго вам тут места німа, ціріз вас во прымахну́ўся быў. Хочыш ты, каб Клім сплыша́ў,— ніхай што, у бацькі ўсё збіра́іцца зыбра́ць. Аплыша́ў жа ты на етый раз, аплыша́ў, пры цябе б так і ні паду́мыў. Ні сплашы́ць,— хуць

лісіцу, ды ўськінуў ны сані. Што ні гыварі́, ня слу́хыіць хуць здохні, а дасьць маху ў чым-небудзь, тады бягі́ць ра́іцца. Пашлі коць, прыма́шкі ні дасі.

### 288. Про́пасць

*безвыходнасць, безнадзейная справа, становішча* — бязло́нне, про́лабка, гібель, пятля́; успяце́нь *б., асудж.*

Каб знаў, што тыкая пропысць ны маю гылаву, стыраною б абыйшоў. Сам улезіш і яго ўця́гніш зы сабою ў бяздоння. Сам сабе пролыбку вы́думыў, улез. Нашто табе гібіль таку́ю брацць ны сябе. Сам сабе пятлю прістроіў. Ніха́й нічога ніякыга ня бу́дзіць, ты сабе ўсёроўна усьпяцень на́йдзіш.

### 289. Прут

*дубец, тонкая гнуткая галінка без лісця* — хлузі́на, хмызі́на *д. параўнальна кароткі;* хлабазі́на *д. вельмі доўгі;* пруці́на *д. ёмкі.*

Атрежу прут, во тады паслу́хыіш мігым. Вун хлузі́ну вазьмі́ ды сьцібані́ хырашэнька — і пойдзіць, ато сьвіньню́ будзіш увішча́ць: ідзі ў пуню. Узяў ба хмызі́ну ды пыдыгнаў. Вун пыць сьцяною хлыбазі́ны выляюцца сколька хочыш. Такую ж ёмкыю пруці́ну вы́різыў, іна пы табе пря́ма пла́чыць.

### 290. Прывы́кнуць

*прывыкнуць, адчуць сябе свабодна, на сваім месцы* — асво́іцца *п. азнаёміўшыся;* абвы́кнуць, абвы́кнуцца *п. прыцярпеўшыся;* прыжы́цца *п. прыстасаваўшыся;* зжы́цца *п. да зблíжэння;* прыцярпе́цца (прыце́рпецца), сцярпе́цца (сце́рпецца), абцярпе́цца (абце́рпецца) *п. да непрыемнага, непажаданага, дрэннага;* звы́кнуць *п. моцна;* звы́кнуцца *п. моцна, малаўж.*

Я б, ка́жыцца, нізашто ні пріві́кла жыць у горыдзі. Нічога, асвоілыся б і жыла, як усе жыву́ць. Ну, як табе жывецца за́мужым, ці абвы́кла троху? Зразу ўсе так гаворюць, а тады абвы́кнуцца і жыву́ць. І пыкла́дзістыя, і ліса́выя, і умеіць апхадзі́цца, айдзе хочыш пріжывецца. Айдзе ім дзецца, жжыву́цца і яшчэ як жыць будуць. Пріцярпелыся там неік, троху мадзела. Пріцерпіцца якнебудзь, паўгода прыжывець. Канешня, ні салодка було,

а сьцярьпеўся, троху жыў. Цісныта́ ўсігда была, ну сьцерьпіліся, неік жылі. Пакуля апцярьпелыся, усё мне ў іх здыва́лыся ні так. Апцерьпіліся і жывём патроху, ла́дзім. Звы́кла сарока ціпля́т ціга́ць, зьнісла ўжо трёх штук, нада паццэліцца ды забі́ць. Звы́клыся цёлычка ў ячмень, цяперь па́лкыю ні таб'есься.

### 291. Пры́вычка

*прывычка, схільнасць, спосаб дзеяння, якія сталі пастаяннымі* — звы́чка, панаро́ўка *п. дрэнная;* завядзёнка *п., набытая даўно, традыцыйная;* манера *п. намераная, неадабр.*; ухва́тка *п. нядаўна набытая;* абы́чай *п. як цвёрда ўстаноўлены спосаб, лад жыцця;* мода *п. часовая, іран.*

У яго ўсігда тыкая прівы́чка: ні дадзелыўшы ня кініць. Кінь ты сваю дурну́ю звы́чку ла́зіць ні ў сваё дзела. Узяў сабе зы пынароўку і ўзяў, кылі ідзець аткуль, каб абіза́цільна узяць што-небудзь пыт паху. Можа каму твыя зывядзёнка і хырыша, толька ня мне. У іх дзяреўні зывядзёнка спруўля́ць дакоскі. Ну што ў цябе зы манера гываріць, чаго ні знаіш. У бацькі ухва́тка зыгарецца і зразу асты́ць і ў сына во тыкая. У і́хній сям'е ужо ў абы́чый увайшло абедыць ра́зым, а ні пы аднаму́. Твыя мода вылежывыцца, калі работа гарі́ць, мне дужа-дужа ні ныра́віцца.

### 292. Прыдра́цца

*прыдрацца, пачаць чапляцца, беспадстаўна абвінавачваючы* — прычапі́цца, прывяза́цца *п. назойліва;* прыскяпа́цца, прыскяпі́цца *п. нахабна;* прыкаса́цца, прысука́цца *п. настойліва;* накаса́цца *п. выпадкова;* прышы́цца *п. груба;* прыле́зць *п. раптоўна, груба;* прыста́ць з кароткімі гужа́мі (з нажом к горлу) *п. настойліва і груба.*

Удваіх нейкія пыдыйшлі́ і прідра́ліся, што на мне іхнія боты. Прічапі́ўся к якім-то чужым, а тады біцца палез, дык зывялі́ ў міліцыю, а посьлі суд быў, прінуды да́лі. Што табе нада ат мяне, чаго ты прівіза́лыся. Пріськіва́ліся нейкія утраіх, каб ні свае хлопцы ря́дым, ні знаю, што було б. П'яный зысыжа́ніц пріськяпі́ўся: ты аччапі́ў пірямоткі ў мяне. Чаго ты ка мне прікыса́лыся, нікуды я ні пайду, мне некылі. Во ўсігда так — прісука́ецца, а тады ідзі адбырыняй. Ніхай ныкыса́іцца, ні прі-

ду́мыіш, як ат яе аччапі́цца. Усігда такей: прішы́іцца — хуць прасі́, хуць малі́, будзіць тріло́ду перць. Прілез і ні ацстаець, пакуліцька ні тпіхну́лі. Прістáлі к яму с кароткімі гужáмі: ты лáзіў у анбáр. З нажом к горлу прістáлі: пойдзім з намі,— і пашоў.

## 293. Прые́хаць

*прыехаць, прыбыць транспартам* — прыкацíць *п. з форсам, іран.;* прымчáцца, прымчáць *п. шпарка;* прымчы́цца *п. шпарка, рэдкаўж.;* прыляцéць *п. вельмі шпарка*; прысмалíць *п. шпарка і з форсам, іран.;* прыгрáнуць *п. нечакана;* прыгрымéць *п. нечакана, з шумам, іран.*

Мае госьці толька што пріехылі, пыбягу́ абед гутувáць. Во папомніш маё слова: цірізь нядзелю прікоціць нызад. Прімчáўся ны мытацы́клі рызадзетый, што куды там. Прімчáў учора, сядзі́ць вун ны палу́. Прімчы́ліся пад вечыр ны ліхкавой, трахту́йця іх, узнасі́ціся піряд імі. Ны машыні пріляцелі, пукруці́ліся нешта лі пуні і нызад пыкаці́лі. Прісмалі́ў, ду́мыў тут піряд ім шапкі будуць ськідáць. Ня ду́мыла і ні гыдáла, што пріедуць, а яны ноччы і прігря́нулі папу́тныю машынаю. Прігрімелі мае ўчора, усі ўпіцяры́х.

## 294. Прыжáцца

*прыцíснуцца, шчыльна прыхінуцца* — прыцíснуцца; прытулíцца *п. ціха, асцярожна;* прыхіну́цца *п. ціха з пяшчотай;* прыльну́ць *п. моцна з пяшчотай;* прыпáсць *п. з вялікім пачуццём.*

Пірясты́лі ціля́ты, пріжáліся адзін кы днаму́ шчы́тнінька-шчы́тнінька. Пріці́снуўся зу вуглом, ду́мыіць, яго ніхто ня ві́дзіць. Прітулю́ся я к мáмычкі родный, к зязю́лькі сваёй дырагой. Адна к адной пріхіну́ліся і горька-горька плáчуць. Во ты прільну́ла к сваяму дырагому, атырвáцца ня можыш. Пріпáла к поду гыря́чыму, во атагрелыся, ато, думыла, і кроў зылідзянела.

## 295. Прылáдзіцца

*прыстасавацца, асвойтацца з парадкам* — прыспасóбіцца *п. добра;* улáдзіцца *п. крыху, часова;* прымудры́цца *п. з хітрыкамі, жарт.;* прыстасавáцца *п. поўнасцю, кніжн., рэдкаўж.*

Прiла́дзiўся троху с тыпаром, во i баню ськiдыў. Якоя тут уменьня дужа нада лi бырыба́на стыяць, прiспасобiсься, пыль толька. Мiж сукоў ула́дзiўся, расьсеўся i песьнi пяець. Прiмудрiцёся, дынiсiцё, ета нi ўставiшна так бува́iць. Во ўжо ўскресла ты, што прiстусува́лыся ня вiдзiць яго п'я́ных дуроў.

## 296. Прыла́дзiць

*прыстасаваць, выкарыстаць без асаблiвага майстэрства* — прыдзе́лаць *п. прымацаваўшы;* прымудры́ць *п. з хiтрасцю;* прыспасо́бiць, прыснасцíць *п. непадыходзячае;* прымасцíць *п. нязручна;* прыснудзíць, наснудзíць *п. ненадзейна.*

Прiла́дзiў нешта на жэрдзi сярпом резыць сечку. Во прiдзелыў на кол умува́льнiк, дык хуць ня стой ды нi ўздыва́й. Троху прiмудрíў тута во, дзяржы́цца, глíныю зыма́зыў. Прiспасобiў нешта к дзьвiря́м, хуць ня сту́кыюць, ато ўсё гак ды гак. Прiснасьцí якую палку ды ўскачы́, цi мне лесьвiцу цягну́ць. Прiмасьцí хуць во тут, што ж кылi ўсё зы́граможджына, лу́ччый мясьцíны нiма. Як жа ты прiснудзíў — пы такой лесьвiцы ня то што лезьць, а глядзець стра́шна. Нуснудзíла неiк, чуць дзяржы́цца, глядзí, зыва́лiцца.

## 297. Прыпуцíцца

*уладкавацца, знайсцi прыстанак, прытулак* — прыстро́iцца, прыла́дзiцца *у. ненадзейна;* устро́iцца, ула́дзiцца *у. надоўга цi назаўсёды;* прытулíцца, прыюцíцца *у. часова;* прычалíцца *у. вельмi ненадзейна;* прыхiну́цца *у. часова (звыч. у знаёмых, сваякоў);* прыткну́цца *у. без дазволу, вымушана.*

Троху прiпуцíўся, пыстареў дык пурузумнеў. Кызаў, ду́мыiць прiстроiцца у Лiдагошчы, там нейкыя удыва́ ёсьць. Многа на месiц нейкiй прiла́дзiцца, доўга ён жыць ня будзiць. Во калi ня ўстроiцiся айдзе работыць, яй-богу, пы ста́рцых хадзíць будзiця, ды нiхто дыва́ць ня будзiць лабрэтым такiм. Нейдзi ўла́дзiлыся у горыдзi, i, кыза́лi, нядренна жывець. Ходзiць, глядзiць, каб прiтулíцца айдзе ноч, айдзе дзень. Быў прiюцíўся у Праскоўi, ды нешта дужа скора iна вы́пiрла. Паеду, можа як у сваiх прiчалюся на первыя ўремя. Ды каго ж мне прiхiну́цца, як нi

ды цябе, радней жа цябе нікога ў мяне німа. Во́, Іва́нька ныработыіць, нейдзі быў пріткну́ўся, дык зы п'янку прыгна́лі.

## 298. Прыпуці́ць

*уладкаваць, знайсці прыстанак, прытулак* — прыстро́іць, прыла́дзіць *у. ненадзейна;* устро́іць, ула́дзіць *у. надоўга ці назаўсёды;* прыпарадзі́ць *у. грунтоўна, гумар;* прытулі́ць, прыюці́ць *у. часова;* прычалі́ць *у. вельмі ненадзейна;* прыткну́ць *у. без дазволу, вымушана;* даць толк (лад, рад, пара́дак) *у. надзейна.*

Я ужо ўсіх сваіх дзяцей пріпуці́ў — адзін шохвір, другей трыктарі́ст, а трецьція ныста́ўніцыю. Нада прістроіць к якому дзелу, што ён будзіць лы́ндыць пы дзяреўні. Пріла́дзь-ка ты й майго ў гыражэ, ён дужа зы машы́нымі гыня́іцца. Хо́чыш — я цябе устрою на курсы трыктарістыў. Ула́дзіла ны лісапі́лку, ніхай пыработыіць, свайго хлеба папробыіць. А пріпырядзі́ў ужо, абоя ны сваім хлебі. Спасі́ба Вульля́ні, прітулі́ла нас у таком горі. У яе дыбря́чый хра́кцір, саўсім чужых дзяцей пріюці́ла. Прічалі́ла, ніхай трошку пыжывець. Пыдажджы́, пріткну́ куды, толька чым ён во мне атплоціць. Ня ўмеіш ты даць толк дзіцям, не, ня ўмеіш. Ты толька ні біспакойся, даць лад я сумею. Пына́сывы сваім даду́ць ряд, яны ў мышы́ныю дзірку улезуць. Ён умеіць даць пыря́дык, ныпярёд усігда глядзіць, ня то што хто.

## 299. Прыста́ць

*прыстаць, пачаць надакучаць* — навяза́цца *п. неадступна;* наста́ць, навя́ліцца, насе́сць *п. напорыста;* прыстра́ць *п. з неадчэпнымі ўгаворамі;* прылі́пнуць *п. вельмі надакучліва;* учапі́цца, укле́шчыцца *п. навязліва;* прыста́ць як смала́ (як каро́ста), прыста́ць як сляпэ́й (сляпы́й) к це́сту *п. вельмі навязліва.*

Устрэціў Яхі́ма, як пріста́ў ка мне: хадзі, я табе пырасёнка прыда́м. Як ныввя́жыцца, хуць ма́хылым мыха́йся. Ныста́ла і ныста́ла, ну як мне було атка́зывыцца, я й заехыў. Нывя́ліўся, каб я абіза́цільна ішоў ны памінкі, усёдно, як тама бізь мяне ні хвыта́іць. Насела, каб і яе с сабою узяў, ні ччапі́цца, хуць здохні. Як прістря́ла, як прістря́ла—зайдзі і зайдзі ны мінутку. Устрэціла—

ну пряма пріліп, ні твіза́цца, аж усьцерьвіўся, што я ні-бы́тта бы скызаў яму ніпра́ўду,— скажы праўду і як яму нада. Учапі́ўся, каб і яму купля́ў такея ж боцікі. Уклешчыўся, дывай яму ку́ртычку, зу рука́ў дзяржы́цца, ні тпуска́іць. Піста́ў як смыла́, ні ткыра́скыісься ат яго. Усігда такей: пріста́ніць як кароста, і будзіць табе аб'ісьня́ць. Ну што ты пріста́ў як сляпэй к цесту. Пріста́ніць як сьляпый к цесту і ні твя́жысься, і ні ччэпісься.

## 300. Прытвары́цца

*прытварыцца, паказаць сябе свядома ў іншым стане* — прыста́віцца *п. у паводзінах;* прыкі́нуцца *п. у стане;* разыгра́ць *п. у дзеяннях.*

Нарошня прітворіцца глумаком, бытта нічога ні знаіць і ні пынімаіць. Лісьнікі злаві́лі, дык ён піста́віўся нейкім Сідырым Пылікарпывым зь Віхря́н,—тэя й паверілі. Удаўцом прікі́нуўся і пашоў к нейкый там у сва́ты, іна й пріні́ла́ зя́ця. Каго хочыш можыць рызыйгра́ць, і голыс пыдбярець, і паходку, ні атлічы́ш ат тога.

## 301. Прыўчы́ць

*прывучыць, даць умовы прывыкнуць* — прывучы́ць *п., малаўж.;* звучы́ць *п., даўшы поўную волю, неадабр.;* спана́трыць, пана́дзіць *п., ні ў чым не абмяжоўваючы, неадабр.*

Пріўчы́лі яго сьлядзі́ць, куды я іду, дык вун сядзі́ць зу кустом. Не, я сы сваімі ні вазі́лыся, зразу к пыря́дку пріўчы́ла: вобуў у сенцых, усё гря́зныя за дзьвері. Сыма звучы́ла пы гародых ла́зіць, а цяперь войкыіць. Спына́трілі сваіх хлопцыў, нягож ні спына́трілі, цяперя места ім німа нійдзе. Папомніш: пына́дзіш — сыма сябе будзіш кусаць за локці.

## 302. Прыці́снуць

*прыціснуць, прываліць, надавіўшы зверху* — прыдаві́ць *п. моцна;* прышчамі́ць *п. да немагчымасці вызваліцца;* прыжа́ць *п. значным цяжарам;* даўляну́ць *п. моцна аднаразова;* прыгне́сць *п. вялікім цяжарам, рэдкаўж.*

Пріці́снуў нагу, дый так жа больна. Будуць дура́чыцца зь дзьвіря́мі і піда́вюць адзін другому па́льцы. Ня

су́нься, прішчэміш рукі — пішчэць будзіш. Бярном прі-жа́ў нагу к сьцяне, кожу ссу́нуў. Нагу дыў́лянуў і, ка-жыцца, ня дужа больна, а цяперя пу́хнуць пычыла́. Прі-гнёў пальцы між бярьвеньня, аж нохці пычарнелі.

**303. Прычарці́ць**

*падагнаць, давесці шчыльна адно да другога (пра бярвенне)* — прыпусці́ць *п. дакладна;* дапусці́ць *п. умела;* падагна́ць, прыгна́ць, падпусці́ць *п. вельмі старанна.*

Якей жа сь цябе хызя́ін, калі ты бірнушка́ ў пу́ні ня ўмеіш прічырці́ць. Зы́латэя рукі, бярно як пріпу́сьціць, кыма́р носа ні патточыць. Антон ужо калі дапу́сьціць, дык дапу́сьціць, зьдзелыіць — ні прідзяресься. Кріўё бу-ло, лам'ё, а пыдыбра́ў, пыдыгна́ў, як яйцо, запечкі зьдзе-лыў, праўда, ня скора. Ніхай сабе медлінна, зато ўжо як пріго́ніць, дык пріго́ніць. Бірнушко к бірнушку́ путпусь-ціў, абма́сьліў усё, кажный сучок, кажный бугарочык.

**304. Прышы́ць**

*прышыць, прымацаваць ніткай* — прысцябну́ць *п. наспех;* прыхваціць *п. вельмі спешна;* прымякну́ць *п. слаба (пры прымерцы) або наскора;* прыметляваць *п. слаба (пры прымерцы);* прышыць на жывую (скорую) нітку *п. неста-ранна, слаба, у спешцы.*

Па-мойму, крепка прішы́ў, ні дылжна́ атырва́цца. Ны хаду́ прісьцябну́ла гузік, а ён дарогыю атырва́ўся і пы-ціря́ўся. Пріхваці́ла трошку і бягі, ато скот у пасевых ачынецца. Зьнімай, прісьцягну́ хля́сьцік: буўтаіцца, як у атряхі пасьледніга. Прімякні рука́вы, каб дзіржа́ліся, дый пріміря́й. Я йшчэ ні прішыва́ў саўсім, толька пріміт-люва́ў, каб меріць. Пріш́ый хуць ны жыву́ю нітку гу́зікі ды надзень пінжа́к, сты́дна так іціць на людзі. На ско-рыю нітку пріш́ыла і бягом усьлед.

**305. Пу́канкі**

*апад, яблыкі, што апалі з дрэў* — па́данкі *а. малаўж.*

Я кажныя раньня пу́кынык нысыбіра́ю, нысыбіра́ю, парежу і на под, ніхай сохнуць к зіме. Хто іх, тэя па́дын-кі дужа хочыць есьць, вун зь дзеріва рвуць і то глідзя́ць, каб лу́ччыя.

### 306. Рабо́та

*праца, працэс атрымання карысных вынікаў* — труд *п., неалаг.;* дзе́ла *п. як сукупнасць працэсаў;* заня́ція *п. як нецяжкі працэс;* слу́жба *п. як абавязак быць пры месцы і выконваць прадпісанні;* пра́ца *п., кніжн., рэдкаўж.*

Іка́я работа — ні работа, а хуць ня шлындыіць ру́кі ў брю́кі. Труд у цябе, канешна, ладный, толька нешта у кырма́ных вецір сьві́шчыць. Кылі сам стыря́цільный, то дзела сабе усігда знойдзіць. Хру́зычкіна заня́ція ні цяжолыя і грошы пулуча́іць — пражы́ць можна. Ны харошую ўстроіўся службу, што яму атходзіць. Твае працы тут і ня відна дайжа, ты ні за што і рукою ні бра́ўся.

### 307. Радні́цца

*радніцца, адчуваць, праяўляць сваяцкія сувязі* — своіцца *р. з блізкімі сваякамі;* ку́чыцца, юці́цца *р. з далёкімі сваякамі;* хіну́цца *р. з далёкімі сваякамі, іншаск.*

Чаго ж яны ня будуць радні́цца, яны ж дваю́рыдныя. Адна сістра своіцца, а друга́я ня дужа. Ну як жа я ні стану ку́чыцца, калі мыя цётка і твой дзядзька блізкыю раднёю былі, а яшчэ мыя ма́ці й твыя ма́ці пяклі́ бліны́ ў адной ха́ці. Іна нейкыя далёкыя пляменьніца, а ўсігда ю́ціцца ка мне. Усігда хінецца, што ні гывары́, а свыя кроў.

### 308. Радня́

*радня, людзі, звязаныя сваяцкімі сувязямі* — ро́дзічы *р. блізкая, гумар.;* сваякі́, сває́ *р. у цэлым;* род *р. уся па крыві*; пле́мя *р. вялікая па колькасьці*; полк *р. вялікая па колькасці, іншаск.;* плані́да, пло́йма *р. вельмі вялікая па колькасці, іран.;* каму́на *р. у цэлым, іншаск., абмеж.;* абу́за, кубло́, ко́дла, пень *р. вельмі вялікая па колькасці, груб.*

Шурокую свадзьбу спра́вілі, усю радню́ зызва́лі, і блізкыю, і далёкыю. Родзічыў іна ні разу ні зубува́іць, усігда заходзіць. Усіх свыякоў ду́мыю гукну́ць. Купцовы ж свае, ды яшчэ блізкія якея. Калі свае ня хочуць пысабі́ць, што тады і кыза́ць пру чужых. Род у мяне бальшэй, і дзя́дзік, і цётык, і дваю́рыдных, і траю́рыдных ні сышчыта́ць. Ваша племя адзін зы днаго гарою. А хвыта́іць іхніга пылка ўсюдых, і ў Лешчынкі, і ў Каўшові, і ў Лідагошчы, знаць,

ёсьць. Узноў уся планіда сыбрáлыся, нешта абмярькова-выюць. Іхнія плойма дрýжныя, усігдá адзін другому пыц-сыбляюць. Відзіш, ікáя іх камýна, большы пыўдзяреўні. Іна ніхай скызáла, а ты б прумуўчáла, ці табе зь еткыю абýзыю спрáвіцца. Іх кубло адзін другога у абіду ні да-дýць. Ета кодла апунувáла дзяреўню і вірядýюць як хо-чуць. Каго зь іхніга пня зачэпюць, усе зразу пыднімá-юцца.

## 309. Разбáлавацца

*рассваволіцца, стаць дураслівым, гарэзлівым* — распус-ціцца *р. вельмі;* распатвóрыцца *р. ад паблажлівасці;* размудрэ́ць *р. звыш меры;* развінціцца, рассупóніцца *р. крыху, іншаск., гумар.*; збáлавацца, скруціцца *р. да апошняга;* адбіцца ад рук *р. да непаслушэнства*; узяць многа волі (свабоды) *р. да самавольства.*

Ты ўжо так рызбáлывыўся, што калі ні ўняць, то ні знаю, што бýдзіць. Лýччы січáс у рукі бярí, распýсьцiц-ца—ніякыга ладу ня бýдзіць. Я ўжо зразу віджу, што яны ў цябе калі ні рыспатворіліся, дык рыспатворюцца. Руз-мудреў мáліц, дужа рузмудреў, успыкáівыць яго нада ды нада. Рызьвіньціўся ты дужа, нада табе гайкі закрýчы-выць. Ты, знаць, у мяне ціряшчýр руссупоніўся, я цябе прібярý к рукам. Абоя збáлывыліся, лáду німа. Так скру-ціўся, што большы некуды. Змáлку за ім ні глядзелі і ні глядзелі, дык пазьней ён і саўсім ат рук адбіўся. А па-мойму, дык ты дужа многа волі сабе ўзяў. Прыпадзеш ты зь ім, кылі ён многа свабоды сабе возьміць.

## 310. Разбаўтáць

*разбалбатаць, расказаць пра тое, што не падлягае ага-лосцы* — растрапáць *р. шырока;* разбалбатáць *р. вельмі шырока;* разнéсць *р. у многіх месцах, іншаск.;* распісáць *р. шырока з шматлікімі дадаткамі, іншаск.;* раззваніць, раструбіць *р. з асаблівай энергіяй;* разгласіць *р. пра та-емнае, руск.;* распусціць чýтку (дзейку, пагалоску, слух) *р. пра малавераготнае.*

Рузбуўтáў ýсюдых пра ўсё — што було, а чаго й ува сьне ня сьнілыся. Во нехта ж рыстріпáў, а я й знаць ні-чога ні знаю. Ня ўмеіць ніскoлька дзіржáць язык зу зу-бамі, усё рызбалбочыць ды яшчэ й прібáвіць. Я муўчáла, ета Матруна рызьніслá па ўсёй дзяреўні. Яны ніхай толь-

ка што пачуюць, у тэй жа міг расьпі́шуць. Я ж табе скызáла як чылавеку, а ты рыззваніў усім чыста. Я знаю, хто руструбіў — Мáрычка, кромі яе ніхто ня мог. Ну вот вы гаворіця, што я рызгласіў, а ета ж ніпрáўда. Зы каго ж ты мяне шчытáіш, каб я руспускáў чýткі. Руспусьцілі дзейку, што бытта бы і Антон быў у той кымпáніі. Тут зічычáні былі, яны і руспусьцілі пыгалоску. Слух распýсьцюць, а тады й самі верюць етый бряхне.

## 311. Разбі́цца

*разбі́цца, рассыпацца на часткі* — разабі́цца *р., рэдкаўж.;* дры́знуць *р. на дробныя кавалкі (звыч. пра шкло)*; разляцéцца *р. на дробныя кавалкі, іншаск.*; размалаці́цца, раскалаці́цца, размазкатáцца *р. ушчэнт у выніку неасцярожнага абыходжання, неадабр.;* размяжджýліцца *р. (пра мяккае);* расквáсіцца *р. (пра каштоўнае ці мяккае), іншаск.*

Абы нáпыл разьбілыся, а там ляхчэй пойдзіць. Тыкáя была харошыя лáтычка і рызабілыся. Чáрка дры́знула, толька шклянкі пасыпыліся. Што ж ты мне надзелыў, такей дырагей гаршчонычык рызьляцеўся. Пасýда ў яшчыку дрёгылыся, рызмылаці́лыся ныпылавíну. Рыскылаці́лыся міска, толька чыряпкі рызьляцеліся. Сам жа гаршчок ні рызмызкытáўся, верна ж нехта пыхадзíў. Быракі рызьмяжджýліліся пыд ныгáмі, пыт кыткáмі. Пызалочыныя тарелка рысквáсілыся, а ета ж быў самый дырагей пыдáрык.

## 312. Разбі́ць

*разбíць, раздзяліць на часткі ў выніку ўдару* — разабíць *р., рэдкаўж.*; размалаціць, раскалаціць, размазкатáць *р. ушчэнт у выніку неасцярожнага абыходжання, неадабр.;* размяжджýліць *р. мяккае;* расквáсіць *р. каштоўнае ці мяккае, іншаск.;* згы́ркаць *р. у выніку недаравальнай неасцярожнасці, груб.*

Нíслá стыкáны ў решыці, вы́пусьціла з рук і разьбіла ўсе ды днаго. Міску з гырячыю крупенію рызабіў ды яшчэ рýкі папёк. Што, другей гырлáчык рызмылаціла? Такей гаршчок рыскылаціць, біз яго ж як бяз рук. Рызмызкытáла кушунок, во адна ручка астáлыся. Гарбýз рызь-

мяжджу́лілі, толька сьвіньня́м цяпер па́ріць. Што, і лыханок рыскві́сіў?— я ж у яго карову, бувала, цы́ркыла. Ку́хлічык згы́ркыў, цяперя зы ча́шкі бярецца.

### 313. Разбушава́цца

*разбушавацца, падняць шум са злосці, гневу* — расхадзіцца, разайціцца *р. узрушана, нястрымна*; усхадзіцца, узайціцца *р. раптам нястрымна;* усхваціцца, падхваціцца *р. раптам нястрымна, іншаск.;* узняцца, падняцца, падскачы́ць *р. раптам, вельмі бурна, іншаск.*; разгуляцца, разыйгра́цца, узыйгра́ць *р. бурна, іншаск., іран.*; расшалудзіцца, расшалапу́ціцца *р. бяссільна (пра слабага, палахлівага), іран.;* разваява́цца *р. надзвычай бурна;* разбуя́ніцца *р. надзвычай бурна, неалаг.;* узбясіцца *р. шалёна, іншаск.*

Ціхій, спакойный мушчы́на, а ніха́й толька вы́п'іць — як рузбушу́іцца, ні ўняць, ні ўспакоіць, толька віза́ць. Як расходзіцца, як рузбушу́іцца, усё ў яго дыгары́ кареньнім ляціць. Узноў ты рызыйшла́ся, усё німа табе спакою. Нешта ты усхадзіўся ня ў меру. Ну, хто ж тама ста́ніць вуюва́ць, Мыка́ріха узыйшла́ся. Чу́іш, ны дваре усхваціўся, аж сьцены ходырым ходзюць. Ні с таго, ні сь сяго пытхваці́лыся як дурна́я бу́ря, расхадзілыся ніізьвесна чаго. Сядзеў ціха, муўча́ў, а тады як узьня́ўся, як панёс, што на́ рыт лезіць, а іка́я яму нячы́стыя сіла пыцскачы́ла. За нейкы́ю чупуху́ як пыдня́ўся быў, а тады ві́дзіць: кругом сьмяю́цца — асеўся. Ну чаго ты пыцскачы́ў, чаго, што — праўда вочы коліць? Вяршы́ла як рузгуля́ўся, здаецца ўніму ня будзіць, а Рыманёнык пыдыйшоў, зразу ўспакоіў. Рызыйгра́ліся так, што цэлыю ку́чыю прішлося успыка́івыць. Ну што, узноў узыйгра́ў, узноў уталону табе ніяк німа. Рушшулудзі́ўся, ні пытхадзі: уб'ю, а ў сымаго каленкі трясу́цца. Хто яго ста́ніць пыніма́ць, што ён рышшылапу́ціцца. Ці раз, бува́ла, п'яный прі́дзіць, рызваю́іцца, усіх с хаты вы́гыніць. Рузбуя́ніліся — ні пуцступа́йся, пакуль ні зьвіза́лі абоіх. Саўсім чылавек узьбясі́ўся, вун ваю́іць, гыня́іць сваі́х пы хаці.

### 314. Разда́ць

*раздаць, размеркаваць часткамі* — расто́ркаць *р. невялікімі часткамі, неадабр.;* расшмы́гаць *р. невялікімі часткамі, непрыкметна, неадабр.;* размы́каць *р. непрыкметна*

*без неабходнасці, неадабр.;* расшмы́каць *р. дробязнае, неадабр.*

Пасы́лку як палу́чыць, на месьці рызда́сьць, ніхай, гаворіць, усі паспробуюць. Пыпрасíла ў яго горстку гароху, мнюга ж сеіла, — айдзе там, ужо расторкыла. То таму, то сяму рашшмы́гыла, і сабе ня будзіць нічога, а каб пріблю́сьць, дык не. Хра́кцір ужо такей: размы́кыіць, а тады бегыіць, пыбіра́іцца. Рашшмы́кыіш — я цябе сныбжа́ць ня буду, тады можа на́ўчысься бярежч.

**315. Разрашы́ць**

*дазволіць, даць дазвол* — пазво́ліць *д. паблажліва;* дазво́ліць *д., кніжн., малаўж.*; благаславíць *д., іншаск. жарт., абмеж.*

Я табе больш ні рызрішу́ як ноч ціга́цца німаведыма айдзе. Ра́зьві ж я пазволю сабе скыза́ць ны вас што-небудзь дренныя. Дызвыля́ў і ныдызвыля́ўся, во паспробый ні дазволь,—што захочыць, то й зьдзелыіць. Блыгыславíла свайго жанíцца, ніхай бярець, каторыю хочыць.

**316. Разу́мный**

*разумны, з добрай развагай і знаходлівасцю* — талко́вый *р. з асаблівай разважлівасцю;* талкавíтый, талкавíстый *р. з выдатнай разважлівасцю;* галава́стый, башкавíтый, башкавíстый *р. з асаблівымі здольнасцямі;* сабразіцельный, паня́тлівый, ця́мкій *р. з асаблівай вастрынёй разумення*; рассудзíцельный *р. са спакойнай разважнасцю.*

Хра́кцірым ён, канешня, ёй ні патходзіць, а так чылавек разу́мный. Каб дужа талковый быў, дык не, а толька ж троху пынімá ў у жы́зьні, што к чаму. Ні прыпадзець, чылавек ёй тылкавíтый пупа́ўся. Тылкавíстый хлопіц, на ўсё спасобін. Гылыва́стый быў, а толька зьвіза́ўся зь нейкыю кымпа́ніію, і зьвялі яго. Мужык бышкавíтый, а во з вычамі нешта ні ла́дзіцца. Каб ты на ўсё быў такей бышкавістый, як ны гарелку. Каб ты быў такей сыбразіцільный, як Мікіцёнык, цябе б ні пыдвялí. Абоя мальцы дужа пыня́тлівыя, і аткуль у іх што бярецца, ны ляту схва́тыюць. Ця́мкыя дзяўчонка, раз прычыта́іць і пасьці́ слова ў слова рыска́жыць. Ён руссудзíцільный, і правесьць яго ні ўда́сца, і абы-чаго ні тріпанець.

## 317. Ра́на

*рана, у ранні час перад пачаткам дня* — удо́света, удо́свецце, до́свеццем, до́светкам *р. на світанні;* заро́ю, зо́ркаю, на зарэ́, на зо́ркі *р. перад усходам сонца;* чуць свет, чуць дзень *р. перад світаннем;* ні свет ні зара *р. надзвычай, неадабр.*

Сяньня я ўстаў рана, быя́ўся, каб ні прыспа́ць. Ня дужа ты захочыш пыднімаццa ўдосьвіта. Пытхваці́ўся удосьвіцьця: пыбягу́ пяшком, ня буду ждаць таго кыня́, і пабег,— і сяньня бегыіць. Кажын дзень досьвіцьцім вядзець карову ны расу́. Бу́ду-ка я зьбіра́цца, досьвіткым сьвяжэй бежч. Прыхваці́ўся зарёю, спыласну́ўся, шырабу́рья троху ны сябе і бягом ны станоўку. Пыднімайся, паедзім зорькыю, ні так будзіць жа́рка. Ускруці́ўся ны заре і ня сьпіць, хуць што хочыш. Пыдня́ліся на зорькі і кытану́лі ў я́гыды зы Піря́дніна. Пыднімайся чуць сьвет ды йдзі кышані́, ні вылежывыйся. Ехыць далёка, дык вы́брыліся чуць дзень. Чаго табе пыднімацца ні сьвет ні зыря, толька разбу́дзіш усіх, пыляжы с пуўчыса́.

## 318. Раскало́цца

*раскалоцца, раздзяліцца на часткі (пра драўніну)* — разбіцца *р. (пра моцнае);* разабіцца *р. (пра моцнае), рэдкаўж.*; раскяпіцца, раскяпа́цца *р. адразу;* разда́цца *р. з цяжкасцю, іншаск.;* рассе́сца *р. паволі, іншаск.*

Толька цю́кнуў, і калодка зразу рыскалолыся. Дубіна, ды сукува́тыя, проста ні рызаб'ецца, нада сілу пріклáсць. Ударь-ка так, тут жа дзіржа́ць нечыму, дылжна рызабіцца. Ду́мыў, раськепіцца пень лёхка, патрескыный, а нумурдува́ўся здорыва. Бярі-ка сасновыю па́лку, іна дылжна́ рыськіпа́цца роўна. Бі яшчэ раз, ня можыць таго быць, каб ні рыздыла́ся. Як даўбнёю уда́ріў пу кулуну́, а тады яшчэ пы кліна́х, дык расьсеўся целіш.

## 319. Раскало́ць

*раскалоць, раздзяліць на часткі шляхам расколвання* — разбіць *р. моцнае;* разабіць *р. моцнае, рэдкаўж.;* раскяпа́ць, раскяпіць *р. параўнальна лёгка;* рассадзі́ць *р. вельмі тоўстае, моцнае, іншаск.*; расшчапіць, расшчапа́ць *р. на трэскі, уст.*

Дыцімна́ бузува́ўся, ну рыскалоў пень, чуць змог. Глядзі́, ету па́лку лу́ччы разьбіць во так, між сукоў. Ні рызабіў ба — і так згарела б, зімою нада ныжа́ріць ды ныжа́ріць. Нада було б рыськіпа́ць яшчэ раз, троху туўстува́та. Ду́мыў рыськяпіць бірнушко, адну плашку злума́ў. Рыссадзіць такую калодзішчу нада лоўкысьць. Рышчапі якей круглячок біс сучкоў, ныськіпа́ім лучыны. Калодку дробнінька рышчыпа́ў, іна смыліна́я, ны паттопу пойдзіць.

## 320. Раскрыча́цца

*раскрычацца, узняць крык, лаянку* — расшумецца *р. значна;* расшабуце́цца *р. моцна;* разгрыме́цца *р. з лаянкай;* разгалдзе́цца *р. гаманліва (пра кампанію);* раскуда́ктацца *р. моцна, прарэзліва, іншаск.*; раскіпе́цца *р. са злосцю, іншаск.;* рассіпе́цца *р. са стрыманай злосцю, іншаск;* распу́рхацца, расшу́рхацца *р. з-за дробязей;* расчыні́ць (распусці́ць) горла (глотку) *р. гучна.*

Рыскрічя́ўся аж уходу яму німа нія́кыга. І адзін, і другей рашшумеліся, усёдно́ як ім там ніізьвесна што зьдзелылі. Я дайжа ні хачу і ў рязон браць, што яны рушшубуцеліся. Чуіш — узноў рызгрімеўся, во некыму чылавека ўспакоіць. Што яны там рызгалдзеліся?— нада спаць лажы́цца, устыва́ць рана. Рускуда́ктыліся, ажно поля тряшчы́ць. Як рыськіпеўся, як распу́рхыўся, божа ты мой, а за што, зы я́кыя, каб хто спрасі́ў. Рысьсіпеўся ўжо ста́рый, нешта ні па ём. Уві́дзіў, што ку́ріца ўскачы́ла ны ячмень — распу́рхыўся, кажыцца, каб прімеў — зьеў ба яе. Дужа нехта цябе баіцца, што ты рашшурхыўся. Рышчыні́ў горла, аж ву́ліца тряшчы́ць, як ён ні рызарьвецца. Ты ўжо калі рашчы́ніш глотку, ня скора сьціхніш. Горла распу́сьціць, ні глядзі́ць, ці ста́рый, ці ма́лый, усе ў яго пыд адну грябёнку. Па-мойму, ета Домна глотку руспусьці́ла, іна адна можыць так.

## 321. Распрэ́жч

*распрэгчы, вызваліць з вупражы або воза* — адпрэ́жч, вы́пражч *р. з вупражы або воза;* адкла́сць, адлажы́ць *р. з воза, іншаск.*

Рыспрягі кыня, нашто ён будзіць калёсы ціга́ць зы сабою. Пыгадзі́ мінутку, атпрягу́ і пойдзім купанёмся.

Вы́пріжч мне нядоўга, толька нашто, мы ж цірізь мінуту едзім ныза́д. Нада аткла́сьць коні і пусьціць с хумута́мі, ніхай пускубу́ць. Атлажы́ў, пусьці́ў і забы́ўся, а ён за́гырыдку аткінуў, зайшоў ны гря́ды і зьмясі́ў усё.

## 322. Рассе́рдзіць

*раззлаваць, увесці ў злосць* — раззлава́ць, узлава́ць *р., іран., малаўж.*; усе́рдзіць *р. раптоўна*; разазлі́ць, абазлі́ць *р. моцна;* азлабі́ць *р. моцна і надоўга;* азло́біць *р. моцна і надоўга, малаўж.;* разгне́ваць, разгняві́ць, угне́ваць, угняві́ць, прагне́ваць, прагняві́ць *р. крыўдліва-га, іран.;* вывесць з сябе, давесць да бе́лага кале́нія *р. да страты самавалодання.*

Ну й расьсердзілі яны мяне сваімі дура́мі, пывыгыня́ць хацеў. Ты ўжо толька гывар́і спакойна, ні раззлу́й тую халеру. Ну, што, ўзлува́ў, цяперь ідзі піріпра́шывыць, ды яшчэ ці просьціць. Чым ета ты ўсердзіў Максіма, ідзець аж хляхочыць. А ня трогый чорта, рызазьліш, толька сквіл пычанецца. Ня столька тых дроў, сколька абазьлі́ў чылавека. Азлабі́ш, і к табе так будуць атнасіцца. Абеіх азлобіў, ну ета табе ня пройдзіць. Разгневый, разгневый, і есьць ні дасьць. Ты ж яе можыш рызгняві́ць, січас зыкапы́ліцца. Угневылі, ні па ёй слова скызалі. Глядзі ж ні ўгняві́ тую нягеглыю, у цябе розвылкі хва́ціць. Прагневый, год разгыва́рівыць ня будзіць. Ну прыгнявілі цябе, прыгнявілі, як ты толька жыў будзіш. Ну, вы́відзіш ты мяне сь сябе, дыбяру́ся, сьсяку́ на горькыя я́блыка. Каго хочыш дывядуць да белыга каленія, такея халерышныя людзі — уся сім'я.

## 323. Растра́ціць

*растраціць, выдаткаваць без патрэбы* — растра́ціцца; стра́ціць *р., малаўж.;* пратра́ціць, пратра́ціцца *р. поўнасцю;* распарадзі́цца *р. хутка, іншаск. іран.;* разбаза́рыць *р. многа і хутка;* прашмы́гаць, прашы́каць, прашы́кацца *р. легкадумна, іран.;* прамэ́нчыць *р. поўнасцю, неадабр.;* распусці́ць, спусці́ць *р. легкадумна многа, неадабр.;* праманта́чыць, праматаць, прагайда́чыць, прагайдама́чыць, прагалдама́чыць *р. легкадумна без розліку;* растранжы́рыць, пратранжы́рыць *р. легкадумна без разліку, неалаг.;* прасвіста́ць, пераве́сць *р. легкадумна без разліку, іншаск., асудж.*; распаса́дзіць *р. многа*

*асудж.;* параспаса́дзіць *р. многа па частках, асудж.;* збэ́йсаць *р. дарэмна, груб.;* пугну́ць, а́хнуць *р. вельмі многа адразу, іншаск., асудж.;* ухло́пацць *р. усё адразу, неалаг., іран.;* прасадзіць *р. усё ў гульні ці выпіўцы, асудж.;* пусці́ць на ве́цер (у трубу́) *р. упустую, асудж.*

Ка́жыцца, нічога і ні купі́ў, а рыстра́ціў пасьці дзіся́тку. Хвядос умеіць грошы бярежч, біз нужды капейкі ні растра́цііцца. Многа стра́ціў і пасьці́ ныпра́сна, іка́я ж ета купля, чугунок ды вілкі. Ажно сам сабе ня верю, што столька прытра́ціў. З естыю ку́плію так ніўда́ла ў мяне вы́йшла, прытра́ціўся саўсім. За тэй месіц ладна ты рыспырядзі́ўся, нада як шчытней апхадзі́цца. Паехыў, рызбыза́ріў усё і вярну́ўся двору біс капейкі зу душою. Прашмы́гыў сколька було, а цяперя глядзі́ць, каб у каго пазычыць. Прашы́кыць ты ўмеіш, што толька хочыш. За трі дні прашы́кыўся і глядзі́ць, каб яшчэ даў. Ты толька адно ўмеіш — прамэнчыць, калі ікая капейка зывядзецца. Руспусьці́ў пацьцёлка, гадуй, матка, другога. Грошы спусьці́ў зы дарогу, біс капейкі пріехыў. Ні дывай многа, усё прымынта́чыць ды капеічкі. Во хызя́ін: істру́б новый прымыта́ў, цяперь сенцы зьбіра́іцца. Што—што, а грошы прыгыйда́чыць умеюць. Бярі, толька ні прыгыйдама́ч бязь дзела, калі купля́ць, то пу́тныя што. Сколька ўзя́лі, столька і прыгылдыма́чылі. Прыда́ў ба́ню: ну, куплю цёлку,— а рыстранжы́ріў — на ку́ріцу ні ста́лыся. Калі ты мне яшчэ хуць раз прытранжы́ріш столька, двору ні іўля́йся. Сколька ні дай, прасьві́шчыць уміг. Даў сотню — зы два дні пірявёў. Рыспыса́дзіў ужо й кыравёнку, купіў баню. Усё чыста пырыспыса́дзіў, гол як сакол, скора пырыспыса́джывыіць усё с хаты. Такей быў касьцюм і тэй збэйсыў, ды чаго гарелка дывіла́. Нада ж быць такому бізгаловыму, тріста рублей пугну́ў. Ета ж нада такоя быга́ства а́хнуў. Грошы ўзяў, ды капеічкі ухлопыў, ныза́ўтріга яві́ўся — дай, бацька, даехыць. Табе каб тысічы, ты б іх прысадзі́ў мымінта́льна. Пыдажджы́, пыдажджы́, скора пу́сьціць на веціp і тваё быга́ства. Нашто ж так дзелыць—пусьці́ў у трубу́, а цяперя просіш.

**324. Расчыні́ць**

*расчыніць, адкрыць усё або на ўсю шырыню* — раскры́ць *р. кніжнае;* растварыць *р., неалаг.;* парасчыні́ць, парасчыня́ць *р. многа, усё, неадабр.;* раску́таць *р., час-*

*цей печ, комін, уст.;* расхля́біць, раззя́піць *р. на ўсю шырыню без патрэбы, асудж.*

Рышчыні вароццы, цёлычка прібягіць і ля́жыць. Вароты раскры́ў, а зычыніць забы́ўся. Рыстварі дзьвері, ніхай хырашо вы́вітріцца. Пырышчыніў кругом, кінуў так і пашоў. Ну й прівы́чка ж у чылавека: пырышчыня́ць — пырышчыня́іць, а ты хадзі зычыня́й за ім. У гумне вароты раску́тылі, скот зойдзіць. Раску́тый печ, ніхай дух ідзець. Рысхля́біць — рысхля́біў, а хто зы табою зычыня́ць бу́дзіць. Усігда́ так: рызьзя́піць і пойдзіць.

## 325. Ратазе́й

*разявака, рассеяны, няўважлівы чалавек* — разя́ва, разіня, разяво́н *р. непаваротлівы*; ве́траннік *р. легкадумны;* шу́гала, шугале́й *р. дурнаваты;* расця́па *р. нязграбны;* размазня́ *р. нерашучы*; цяце́ра, цецярлю́к *р. глухаваты, абраж.;* варо́на (загумённая) *р. няспрытны.*

Гываріла ж, глядзі, ні забудзь купіць нітык шытны́х, дык ці рытазей ку́піць. Рызя́ву дай, а тады йдзі ўсьлед глядзі, айдзе ён пыціря́іць. Разі́ня ж абыча́йна так дзеыіць: пыкладзець і забу́дзіць. Айдзе ты відзіў, каб рызівон скыза́ў што нада. Ветріньніка пашлі за дным, ён прінясець другоя. Шу́гылу нічога ні ўкладзеш у гылаву і ні ўталкуіш. Скыза́ў шугалею, ідзі зы сьвярдзёлкым, гляджу — нясець руба́нык. Прікыза́ла, глядзі ж, глядзі пісьмы ні забудзь укінуць, пріехыў, хваці́лыся — у пінжаку́, ну, ета ж ні рысьця́па? Ці ета рызмызьня́ зьдзелыіць як нада? Хадзіў цяцеря пыўдня́ і ныбра́ў горсьць сыравежык, а другея вун пы вядру́ адных бырывікоў прінясьлі. Гываріла ж ціцірлюку́: солі вазьмі па́чык, дык узяў,— пызыча́ць бегыла. Каб знаў, такую варону ні пысыла́ў ба нізашто. Пыпрасіў варону зугумённую, дык зьдзелыла,— пыдряд пірядзелываў, а рустулкува́ў жа усё як нада.

## 326. Рашы́цца

*рашыцца, рызыкнуць дзейнічаць* — арашы́цца *р., абмеж.;* асме́ліцца *р., пераадолеўшы страх, сарамлівасць;* атва́жыцца *р., пераадолеўшы ваганні, няўпэўненасць*; рыскну́ць *р. з рызыкай;* рызыкну́ць *р. з рызыкай, кніжн.;* адча́яцца *р. у цяжкім ці безвыходным становішчы.*

Я б, кажыцца, нізашто ні рішы́ўся ляцець ны ірыпла́ні. Ці арішы́сься ты калі-небудзь жаніцца, ці ўжо быбылём дыжывеш век? Я яго пызна́ла, толька пыдыйціць неік ні асьмелілыся. А вот і ні атва́жысься адзін уноччы цірязь лес іціць.— Хто, я ні атва́жуся? Я дайжа ны магільніку пірінача́ю. Рі́скну́ла адна паехыць у Кызань, даеду як-небудзь, людзі ж езьдзіюць. Доўга ні знаў, як быць, а тады різыкну́ў пайціць адзін,— і дайшоў. А што було дзелыць — аччаіліся ехыць біз дарогі.

## 327. Ро́зум

*розум, здольнасць да глыбокай разважнасці* — вум; па́мяць, паня́цце, разва́га *р., іншаск.;* сазна́нія, саабражэ́нія *р., іншаск., неалаг.*; ро́звалка, клёк *р., гумар.*; галава́ *р., іншаск., неадабр.*

Розум у чылавека быў, толька упруўля́ць ім нада було. Ну дурноя дзела вума многа ні нада. Каб у цябе па́міць была ў гылаве, ні разу б ні зьвя́зывыўся с тою хылайдрою. Ні було ў цябе, ляпёха, пыня́цьця ні разу ні́якыга, німа і да гроба ня бу́дзіць. Рызва́гу нада ймець, тады і ў жы́зьні толк будзіць. На ўсё ты дужа разу́мін, а пріснакі́ пірівярну́ць сызна́нія ні хваціла. Сам хвалі́ўся, што сыабражэнія дужа многа, а што ж ты дзелыіш. Ні ў якім дзелі ні́якый розвылкі, адны Жыга́лкі на ўме. Ці быў у вас клёк, калі вы голыя выбіра́ліся. Гылыва́ у яго канешня ёсьць, етыга ні атніміш, ну толька і дурь калі пацскочыць, дзяржы́ся. Ну ці я ж ня ду́мыў, ці ў мяне гылавы ны пліча́х німа, проста нейкій за́плут зайшоў.

## 328. Росць

*расці, падымацца ўверх (аб раслінах)* — паднімáцца, цягну́цца *р. прыкметна, іншаск.;* іціць, бра́цца *р. добра, іншаск.;* буя́ць, бушава́ць *р. бурна, іншаск.;* адурава́ць, шалець *р. вельмі бурна, іншаск.*

Вербы хырашо расту́ць, і бярёзкі ўзялі́ся. Ічмяні́ нічога пыднімáюцца, а пышані́цы нешта заселі. Сыка́ трошку ця́гніцца, а пы бірігáх ні чыртá німа, што ты хочыш, хылады́. Посьлі дажджоў трыва ну лугáх нічога пычылá іціць. Каноплі ужо так бяру́цца, ны вычáх пыд-

німáюцца. Гною укрятыў ны гряды у чэцьвірць, дык усё буяіць. Відзіш, брýква бушýіць, во што зыла дзелыіць, а ты: на вуліцу сып. Нейкыга удабренія трошку пацсы́пыла, дык ны грідáх усё адурюваíць. Ячмень зы балотым шалеіць, во што значыць знаць, калі пасеіць воўрімя.

## 329. Рот

*рот* — пасць, зяпа, зеў *р., груб.;* хайлó *р., груб., рэдкаўж.*

Ну-ка, ну-ка, шырі рот, я пыгляджý, што там у цябе з зубамі. Што ты пасьць разíнуў, мух сыбрáўся лавíць, ці што. Зычыні сваю зяпу, іна ня дужа каму аньціресна. Ну, рышчыні́ў зеў, яшчэ шы́рі рызьзяп. Аччыні́ў хайло, пы-сыбáччы аттуль скáчыць.

## 330. Рухáвый

*рухавы, хуткі ў рухах* — падзвіжный, падзвіжнэй *р., неалаг.;* жывэ́й, жывы́й *р. вельмі;* правóрный *р. са спрытам;* шáсткій *р. з рэзкасцю;* бы́стрый, бы́йстрый, скóрый *р. з імпэтам*; жвáвый, шýстрый *р. з шпаркасцю*; вёрткій, крýткій *р. з паваротлівасцю;* ю́ркій *р. з выкрутлівасцю;* вяртля́вый *р. залішне, неадабр.;* непаседлівый *р. нястрымана, неадабр.*

Ні глядзі, што зь віду шкет, у любой рабоці рухáвый. Ты ў мяне падзьвіжный дык ціряшчýр. Пыдзьвіжнэй, у прадоньня ускочыць. Жывэя дзевычкі, мінуты ціха ні пысідзяць. Ён у цябе дужа жывы́й. Ужо такей правóрный, што й аткуль ў яго ўсё бярецца. Якей шáсткій, а? — метры два сьценка, дык як птýшка піріляцеў. Ны ўся́кыю работу бы́стрыя, і сь сярпом, і з грыбля́мі, і с карзíнкыю. Як ны вічарíнку, дык ты бы́йстрый, а як схадзіць пыкáшывыць — не, нядýжа. Куды ні пызавýць, гатоў, дужа ўжо лíшніга скорый. Такей жвáвый, кажыцца, ў шкýрі ня месьціцца. Яшчэ шýстрый старíк, яму хуць жанíцца. Ух, вёрткій, як узяўся — траіх раськíдыў, як шчэпкі ляцелі. Ніхай сабе гады, а йшчэ крýткій, ня дужа зь ім спрáвісься. Ці ты ўсігда еткій юркій, ці толька січас? Можа замеціў, такей віртля́вый у вуглу стыя́ў, дык ета Трыхімёнкыў самый меншый. Чаго ты такей ніпаседлівый, нійдзе табе места німа.

### 331. Рэдка

*рэдка, час ад часу* — зрэдку *р. кніжн.*; ізрадка́ *р. руск.;* урэмя ат урэмя, калі-нікалі *р., але неаднаразова*; койкалі, гады́ ў рады́, гады́ наўрады́ *р. вельмі.*

Мае дык редка пішуць, верна, ліня́цца. Ты ж ні зубува́й, хуць зредку наведывый. Раншы ізрідка зыхадзіў, а пасьледнія ўремя нешта пірістаў. Ізрідка́, бува́іць, толька дужа редка. Часта ні асобінна ёсць калі, а ўремя ат уремя зыбіга́ю. Раншы калі-нікалі зыхадзіў, а ў пасьледнія гады і носа ні пыка́зыіць. Қой-калі заходзіць, саўсім редка. Калі я тэй горыд відзіла, схаджу́ гады́ ў ряды́, калі ўжо німа як біш чаго абыйціцца. Як пышла́ за́муж, дык мы зь ёю відзімся гады́ ныўряды́.

### 332. Рэзаць

*пілаваць, разразаць пілою* — пілі́ць *п., неалаг.;* пілава́ць *п., малаўж., жарт.;* шмуля́ць *п. з цяжкасцю, тупой пілою;* муры́жыць *п. вельмі тупой пілою;* грызць *п. слаба, іншаск., іран.*

Резылі увесь дзень ны жарі́шчы, нымарі́ліся, аж гылыва ста́ла як мыкацёр. Хва́ціць расьседжывыцца, пашлі пілі́ць. Няўжэлі ты цэлый дзень пілува́ў? Я шмуля́ў, цяперь на ты пушмуля́й, піла ту́па як палка. У кула́к тае палкі, а муры́жыць цэлый час. Грызу́ць вун па́лку пуўдня́, адну калодку чуць-чуць атрезылі.

### 333. Саабшчы́ць

*паведаміць, давесці да ведама* — сабшчы́ць; наказа́ць, пераказа́ць *п. праз іншага;* перада́ць *п. праз іншага, іншаск.;* паве́даміць *п. афіцыйна, неалаг.;* уве́даміць *п. афіцыйна, звыч. пісьмова, неалаг.;* апавясці́ць *п. многім па чарзе, неалаг.*; ізвясці́ць *п., звыч. пісьмова, руск.;* даць знаць *п. умоўлена пры неабходнасці.*

Мне позна сыабшчы́лі, я ужо ніку́ды ня мог пасьпець сесьць. Калі будзіць у цябе што нымі́ча́цца, сабшчы мне. Нада було б як сваім ныкыза́ць, ды ніхто ні бягіць у тэй бок. Глядзела, каб кім пірікыза́ць, і ніхто ні пупа́ўся. Толька сва́дзьбу адгуля́лі, на трецьцій дзень пірідаець: пріі́жджа́й, бацька, зыбіра́й, ні хачу́ зь ім жыць. Ні знаю, як жа быць, я ж сястре ні паведыміла. Як хто пріедзіць, мы табе пывідамі́м. Я й зьбіраўся табе як уве́дыміць, ды

ніхто ня йшоў у Каўшова. А ці ўвідаміла ж ты сваім у горыд? Як буду зьбірацца ў дарогу, я цябе апывяшчу. Прі́дуць — ня прі́дуць, а ізьвясьціць нада, ніхырашо так. Мы ўжо ўсім да́лі знаць, далжны́ пыдыйціць січа́с.

**334. Сабіра́цца**

*збірацца, намервацца або рыхтавацца рабіць* — збіра́цца; замышля́ць, заду́мываць, зага́дываць *з. у думках.*

Сыбіра́юся атвярну́цца за́ўтря ў Шыряі, ні знаю, як вы́пыліць. Паехыць-то я зьбіра́ўся, ды яшчэ бу́льбы ні дыкыпа́ны. Я то зымышля́ла пабыць у цябе, ды ніяк ні пулучы́лыся. Заду́мывыла многа зьдзелыць, а ня зьдзелыла ні радзі́мца. Вот ты зыга́дыіш ехыць, а ці паду́мыў: «А хто там мяне жджэць?».

**335. Сабра́цца**

*сабрацца, ажыццявіць намер* — дабра́цца *с. з цяжкасцю, іншаск.;* субы́чыцца *с. праз значны час.*

Нія́к ні сыбяру́ся сваіх атведыць, усё то тоя дзела, то тоя. Нешта ніяк ні дыбяру́ся купіць хыладзі́льнік, а зь ім ба ж многа лу́ччы. Пыдажджы́-ка, субы́чуся і я зьезьдзіць у Горкі, там жа ў мяне родніанькыя цётычка.

**336. Сабра́ць**

*сабраць, прымусіць сысціся ў адным месцы* — сагна́ць *с. фізічным прымусам;* скруці́ць *с. у цесны гурт (пра статак жывёлы);* збутуры́ць *с. з цяжкасцю (пра жывёлу).*

Пріляглі дый засну́лі, скот рысьцягну́ўся, чуць сыбра́лі ўместа. Ціля́ты пу кустах рыспаўзьліся — ні сыгна́ць. Калі Лявон пасець, ні ра́зу кароў ні накорміць, у амша́рі скру́ціць на цэлый дзень і дзяржы́ць. Чаго ты зь імі ду́жа возісься, ны ўся́кій клінок лезіш, збутурі́ вун у ваду, ніхай пыстыя́ць.

**337. Сабы́ція**

*падзея, асобны выпадак з жыцця* — слу́чай *п. выпадковая;* случа́й *п. выпадковая, рэдкаўж.;* праісшэ́ствія *п. незвычайная, руск.*; дзела *п. задуманая*; гісто́рыя *п. мінулая.*

Лаўрін у тое сабы́цiя зь я́блыкымі умішáўся пу-дурному, яму ні нада було саўсім лезьць. Посьлі таго слу́чыя, як ваўкі пірястрелі, стаў трошку астарожній цігáцца. Былí ў мяне случáі дужа ніпрія́тныя, толька неік выхáдзіў. Мне пра ета прыішшэствія рыскáзывылі, толька я ня ду́жа веріў. Во з намі раз дзела було, як толька мы жы́вы астáліся. Што йта зы гісторія у вас была с сапры́ныўскімі хлопцымі?

## 338. Сайцíць с умá

*звар'яцець, страціць розум* — памяшáцца *з. канчаткова, па-маньяцку;* трóнуцца *з. часткова, па-маньяцку;* рахну́цца *з. прыкметна;* адурэ́ць, ашалéць *з. канчаткова, буйна, груб.;* звар'яцéць, абязу́мець *з. канчаткова, буйна, рэдкаўж.;* (а) рашы́цца вумá *з., малаўж.*

Ны Мáрыіным ба месьці любэй сайшоў с ума: гудувáць, гудувáць еткыга сына і схувáць. Ці ў іх у пріродзі што зывіря́іцца, ці што: матка пымішáлыся, а цяперь і сына зывязьлí ў Мугулёў. Ня мог піряжы́ць свайго хызя́йства і тронуўся. Пастой, пастой, пысьмяесься тады, як сам ряхнесься. Памёрла жонка, дык ні піряжы́ў, адуреў, зьвізáлі і пывязьлí некуды. Ашалеў, па полю бегыў, а яго лавілі у вярёўкі. Нейдзі лі Дры́біна, кызáлі, дык адзін звырьяцеў посьлі такея бяды. Як тут ні абязу́міць — столька піріжывáньніў зы адзін месіц. Прібеглі, гля́нулі — кіпіць пастройка, дык ён нічога, зубамі зыскріпеў, а сыма на месьці вума арішы́лыся. Ат горя ні зырікáйся ат нія́кыга, во ці ду́мыла, ці гыдáла баба, што сын вума рішы́цца.

## 339. Свáрка

*сварка, зневажанне абразлівымі словамі* — лáянка, лáянне *с. з грубасцю;* ру́гань, ругня́, ругáнне *с. з грубасцю, руск.;* мацюкáнне *с. з мацяршчынай;* грызня́, гры́жа *с. з асаблівай злосцю;* з'едзь, заядáнне *с. зацятая;* разня́, рэзанне *с. з асаблівай рэзкасцю, іншаск.;* брахня́, брахáнне *с. з зацятай грубасцю, іншаск.;* апастыля́нне, апасты́ліванне, пасты́льства *с. беспрычынная;* кшчэнне, хрышчэнне, благаславéнне, благаслаўлéнне, благаслаўля́нне, спóведзь, спавядáнне, мальбоны *с. доўгая, іншаск., іран.*

Іхнія сва́ркі слу́хый—ні піряслу́хыіш, як сыйшліся, так і зывялі́ся. Узноў пычына́іцца ла́інка,— устрецiліся. Ат тога ла́іньня у вушах тряшчы́ць. А ці вы бяз ру́гыні абыйці́цца ня можыця? Чаго — чаго, а ругні у іх хвыта́іць. Кыза́ў, ня можыць вынасі́ць руга́ньня, у іх та́мыцька ні руга́юцца. Уніміціся з муцюка́ньнім, адзін харош і другей дужа ла́дзін. Кажный дзень у хаці ныстыя́шчыя грызьня́. Вот за што б ета вам ды таку́ю гры́жу узьніма́ць. Між імі ета зьедзь нескылька гадоў ця́гніцца. Чула і́хнія зыіда́ньня брешуць, што на́ рыт лезіць. Толька і глядзіць, каб рязьню́ пыдняць сь кім-небудзь. Наверна ужо ўсім і́хнія резыньня у пячонкых сядзі́ць. Вот жа яе ніхто ня трогыіць, а як прішла́, так і пычына́іць бряхню́. У бріха́ньні да́йжа Аўдотку пірішчыгіля́іць. Такоя ў іх апыстыля́ньня біз уся́кінькый пркчы́ны. Ваша апасты́лівыньня усім пріелыся хужы горькія редзькі. Ну няўжэлі табе ні ныдаесьць хуць калі пасты́льства зь людзьмі́. Наслу́хыўся кшчэньня, даволін аста́ўся? Во якоя яе хряшчэньня, цяперіцька будзіш знаць. Схадзі і ты і́хніга блыгыславеньня паслу́хый. Ну, чуў, якоя у Сьціпані́ды з Мартолію блыгыслаўленьня. Узноў блыгыслыіўля́ньня, калі тэй уні́м будзіць. Наслу́хылыся тых сповідзіў, хва́ціць зь мяне. Ты йшоў міма,— ці ў іх там спывіда́ньні кончыліся, ці йшчэ не? Сла́ва богу, аччыта́лі адна адной мальбоны, рызыйшлі́ся.

### 340. Сварыцца

*сварыцца, даваць праборку, наганяй* — прабіра́ць, прайма́ць *с., прабіраючы да глыбіні, іншаск.;* дава́ць *с. вельмі грунтоўна, іншаск.;* грызць *с. бесперапынна, на кожным кроку, іншаск., адм.;* муры́жыць *с. бесперапынна і рэзка, іншаск., кніжн.;* есць *с. пастаянна, іншаск., адм.;* брыць *с. вельмі востра, іншаск.;* калі́ць *с. ушчуваючы, іншаск.;* распяка́ць *с., востра ушчуваючы, іншаск.;* мы́ліць *с. працягла і грунтоўна, іншаск.;* крыча́ць *с. за дрэнныя ўчынкі (на дзяцей), іншаск.;* дава́ць праборку (узбу́чку, наганя́й), сыпаць у косці *с. строга;* трапа́ць (бузава́ць) як ану́чу *с., рэзка зневажаючы;* есць поедам *с. бесперапынна і здзекліва.*

Ну рысьпілілі лісі́цу, у лесі, паедзіш, другу́ю атрежыш, чаго сварі́цца. Ду́мыіш, большый толк, кылі ты яго прыбіра́іш,—нічога ні даходзіць. Пройміш ты ла́іньнім,—

ня хочыць ён слу́хыць нічагенька. Даюць яму здорыва, ла́інкі ён чуіць уволю. Грызу́ць яго і грызу́ць, ён цярьпеў, а тады ўжо дацерьпіўся: ляцелі, як самі зналі. Чуіш? — узноў узя́ліся удзьвюх муры́жыць,— во як зіцям буваіць, за комбіцу будуць пыўдня пілува́ць. А ніхай яны ды́мым возьмуцца і па́сыдкі, і за́сыдкі, як ты зы ірунду́ пряма ясі чылавека. Во́ бры́іць, ты паслу́хыйка толька яе. Да́лі яму краньнё, калі́лі ўжо, калі́лі, ці дос, ці яшчэ. Як узялі́ся яго рысьпіка́ць, як сталі, кажыцца б скрозь зямлю прываліцца нада. Мы́люць Зьмітрыка ўсігда́, ніхай толька пыч ча́ркыю прідзіць. Ці ты крічы́ ны яго, ці ні крічы́ — у рязон ні бярець. Ніхай толька калі ня слу́хыіць, я ні гляджу, што студзент, даю праборку. Доўга дыва́лі абоім сваім узбу́чку, можа абразу́юцца. Дыва́ла ныгыня́й зы касьцюм, нашто було міня́цца. Сы́пылі ў косьці яму доўга, ніхай зна́іць, як ня слу́хыць. Дзень у дзень яго треплюць як анучу, і ўсё церьпіць. Сколька жыў зь імі — бузува́лі як ану́чу. Еткій мушчы́на, ціхій, спакойный, ні прап'ець, ні прыгамзіць, а воч жа яду́ць і яду́ць поідым.

**341. Се́рдзіцца**

*злавацца, выражаць злосць* — зліцца *з. моцна,* кіпе́ць, кіпяці́цца, хлехата́ць *з. вельмі бурна, іншаск.;* ду́цца *з. моўчкі;* злава́цца, сердава́ць *з. крыху, кніжн., гумар.;* сярча́ць, гне́вацца, гняві́цца *з. крыху, іран.;* бясі́цца *з. да страты самавалодання;* вока ймець *з. скрытна;* выхадзі́ць з сябе, зямлю есць (рваць), як рэпу (рэдзьку) рваць *з. вельмі моцна.*

Усё сердзіцца і сердзіцца, а чаго яму сердзіцца, ён і сам ні знаіць. Дні трі зьлі́ўся, а тады троху забы́ў і пірістáў. Скажы́ ты мне чылавек, чаго табе кіпець із-за нейкага там куста бу́льбы. Учора хадзіў як туча і сяньня нечыга кіпяці́цца. Слова толька яму ня тоя скажы, расходзіцца, ажно хляхочыць. Перш ду́іцца, а тады ба́нным лістом ліпніць, каб харошыю дужа быць. Ну ня злу́йся, ня злу́йся, ты ў мяне самыя лу́ччыя. Во ві́дзіш, і ты пычыла́ сірдува́ць. Ты, падру́жка, ні сірча́й, быў у нас такей случа́й: твой мілёнык дырагой прывыжа́ў мяне дамой. Ужо другей дзень гневыіцца і ні слова ні гаворіць. Ну, можа хва́ціць табе ўжо гняві́цца, ку́кла еткыя? Во бесіцца нечыга, узноў яго хвыта́іць нешта за шлу́ньня.

Калі йта што було між імі, а й січас яшчэ адзін ны днаго вока ймеюць. Рызышоўся, ажно сь сябе выходзіць, чуць біцца ня кідыіцца. А што мне, ніхай зямлю есьць, раз розуму свайго ў гылаве німа. Нешта ні пы яго выйшла, ходзіць як туча, аж зямлю рьвець. Відзіла яго тама, нешта дужа рызыйшоўся, як репу рьвець. Ужо дзьве нядзелі ніяк ні ўнімáіцца, пря́ма як редзьку рьвець.

## 342. Сíла

*моц, фізічная магутнасць* — крэ́пасць *м. з вынослівасцю;* змагá, мага *м. у намаганні;* мошч *м. увогуле, рэдкаўж.;* здарóўе *м. з добрым фізічным станам, іншаск.*

Сілы ў яго яшчэ хвытáіць, айдзе ён яе рыстрáціў, пы зіця́х ходзючы. Крепысьці табе ні пызычáць, зы піцяры́х пыця́гніш. Німа ўжо мае змагí цягнýць разым с усімі. Кынчáіцца мыя мыгá, бярíся і хызя́йнічый сам, як хочыш і як умеіш. Мошч яго ўжо, канешня, ні тая, што рáншы, а толька ж ішчэ цігáіцца. У яго здароўя — такіх, як ты, чэцьвіра нада: мех пяць пудоў уськінуў адною рукою і панёс.

## 343. Сíлаю

*сілаю, з прымяненнем сілы* — сілкóм, насíльна, гвáлтам *с. з прымусам;* прынудзíцельна *с. з прымусам, руск.*

Хацелі сілыю павесьць — айдзе там, крутнýўся і пыляцелі ўсе ў бакі. Што ты мяне сілком ця́гніш, некылі мне пы пірýшкых рысхáджывыцца. Ні хацеў садзíцца, дык яго насíльна ўськінулі ны калёсы, ды яшчэ прідавілі зьверьху. Што ты гвалтым зыстыўля́іш, ня хочыць, ніхай ня йдзець. Прінудзíцільна цябе зыстыўля́ць ня будуць, толька нада було б сымамý паслýхыць і пайцíць.

## 344. Сказáць

*сказаць, выразіць думку* — шапнýць, шапарнýць *с. патаемна, іншаск.;* бýркнуць *с. невыразна і ціха, неадабр.;* зю́кнуць *с. па сакрэту або неабдумана;* сказанýць, вы́паліць *с. недарэчнасць;* брáзнуць, брáкнуць, ля́пнуць *с. неасцярожна, неадабр.;* бразкатнýць *с. пустое, неадабр.;* трапанýць *с. не падумаўшы, неадабр.;* ця́пнуць *с. неасцярожна непрыемнае, іншаск., іран.;* ця́ўкнуць, гáўкнуць *с.*

*непрыемнае і дрэннае, іншаск., груб.;* бу́хнуць, бабу́хнуць *с. нечакана і неабдумана, іншаск., іран.;* здуры́ць, зглуздзі́ць, згалдзі́ць, збалдзі́ць *с. абы-што, іран.;* брахну́ць, брахану́ць *с. хлусню, іншаск., груб.;* прамычэ́ць *с. невыразна, іншаск., неадабр.;* гы́кнуць *с. невыразна і груба, груб.;* гы́ркнуць *с. невыразна і злосна, іншаск., груб.;* ру́хнуць *с. невыразна і зняважліва, іншаск., груб.;* разану́ць *с. рэзка, іншаск.;* секану́ць *с. вельмі рэзка, іншаск.;* прамя́мліць *с. нясмела*; вы́лезць (уле́зць) з язы́ком *с. не да месца;* ушчамі́ць язык *с. няпрошана.*

Ты зна́іш, што я табе даўно зьбіра́ўся скыза́ць: выхадзі́ зы мяне за́муж. Ну, дык хто табе шапну́ў, што я зь Лісяёнкым сты́яла? Сам ты нічога ня відзіў, а шыпарну́ць табе нехта шыпарну́ў. Нешта бу́ркнуў скрозь зубы, я дайжа ні рызыбра́ў што. Ты калі што зю́кніш, дык можна паслу́хыць. Сядзеў, сядзеў, слу́хыў, а тады як скызану́ў — усі за вушы хваці́ліся. Пры Ігната з Марусію такоя вы́пыліў, што ўсе й раты пырызіўля́лі. Каб ты ні бря́знуў сваім ізыком, ніхто б ні сном ні ду́хым ні знаў. Ты толька язык зу зубамі дзяржы́, ато бря́кніш — красьней зы цябе. Што ён там узноў ля́пнуў, што ўсе аж пыка́тыюцца. Во брізкатну́ў жа некыму, а людзі пытхваці́лі. Тріпанець, што хочыш, лёгінькій Пітрачок. Ні падумыўшы ця́пніць, а тады сымаму́ стыдна. Вот ты тады ця́ўкнуў, а тоя пытхваці́лі, пірівярну́лі і ў дзесіць раз дыба́вілі,—во й сплетня. Знаю яе: га́ўкніць, а тады і ні гыварі́ла, і ні знаю нічагенічка. Ні паду́мыўшы бу́хнуў, а тады глядзіць: што йта я скыза́ў. Усігда такей: бабу́хніць, а тады ўжо ду́мыіць, ці тоя скыза́ў, ці не. Хто-небудзь зду́ріць, а тады адзін другому пірідаю́ць: во́ гыварі́лі. Я знаю, хто мог такоя зглузьдзі́ць, біс Хадоскі ні абыйшлося. Па-мойму ета згалдзі́лі, у сва́ты ён іціць ні зьбіра́ўся. Мала што Пракоп збалдзі́ць, ты толька слу́хый тряпло тоя. Адзін бря́кнуў, а другей у трі редзі дыба́віў. Вольгычка бріханець што хочыш, а ты ўсяму гатоў паверіць. Што ён тама прымычэў, гывареньнік такей? Ці ён пы-чылавечыму скажыць? — нешта гы́кнуў і пашоў. Як сыбака гы́ркнуў: «Ідзі на лён», — а сам аж кіпі́ць. Толкым ат яго нічога ні даб'есься, рю́хніць і пойдзіць. Неік зычапіў адзін раз — різану́ла яму, пашоў як мыла зьеўшы. Як сіканець на іхнія сьмешычкі, зразу сьці́хлі і ўнялі́ся. Прымя́мліць слова як ніжывэй адно ў час, тады два часы другоя дыжыда́й. Усё було б ціха і зьмі́рна, каб ты ня вы́лізла зь

ізыком, як сыбака с хвастом. Вот нада ж, улез сы сваім ізыком, як яго нехта прасіў. Толька цябе аднаго тут ні хвыта́ла, і табе нада язык ушчаміць свой.

### 345. Скака́ць

*танцаваць, рухацца пад музычны рытм* — танцава́ць *т., неалаг.;* пляса́ць *т. бурна, неалаг.;* адпля́сываць *т. з асаблівай стараннасцю, неалаг.*; то́пацьь *т. няўмела, іншаск.;* выкіда́ць каленцы *т. з асаблівымі рухамі, адзінк.*

Во хырашо ска́чуць жыга́лыўскія дзеўкі, нашы так ня ўмеюць. Не, саўсім ня гордыя, я пызваў тынцыва́ць і зразу пышла, ні як другея. І вы ўся́кый рабоці двына́ццыць у іх сядзіць, і вы́йдуць пліса́ць — любому ачко даду́ць. Вы́піў і ўсё вышапру́дзіўся — атпля́сывыў «Ба́ріню» у той пылі́шчы. Якея скокі, троху топылі ў ціснаце, там ні пывярну́цца. Мысквічы́ Са́шкіны пріехылі ў госьці, ны вічарі́нкі выкіда́лі каленцы адзін пиріда дным.

### 346. Скасі́ць

*скасіць, зрэзаць касой або касілкай (пра расліны)* — збры́нкаць, пабрыля́ць *с. рэдкае няўмела*; збіць *с. невысокае няўмела*; сагна́ць *с. многа, іншаск.*; стуры́ць *с. многа спяшаючыся, іншаск., неадабр.*; змахну́ць *с. лёгка і многа, іншаск.*

Ра́нінька ўстаў дый касу прігна́ў як нада, дык скасі́ў восімдзісят сотык. Бугаркі́ збры́нкылі к абедзьдзю, там дужа касіць німа чаго. Лужкі́ пыбрыля́лі, німа на іх дужа нічога. Пы вірьха́х троху зьбіў, пу куп'ю касы дужа ні пріжмеш. Рукі нада було прікла́сьць здорыва, каб за дзінь еткій пляц сыгна́ць. Прішоў меріць — ого, думыю, сколька стурі́ў, а капну́ў пыт пакосымі: там жыва́я трыва́, не́, ма́льчык, гывар́ю, бярі́сь-ка ды пірікáшывый, а не — дык яшчэ аштраху́ім. Што ім, такея лабрэты, у іх косы ў рука́х аж гудзя́ць, за трі часы змахну́лі аборык, а там ла́дный гікта́р.

### 347. Ско́ра

*хутка, праз кароткі адрэзак часу* — ускo´расці *х. адносна;* неўзаба́ве *х. досыць;* неўза́даўзе *х. досыць, адзінк.;* во-во, вот-вот *х. вельмі*; дня́мі, не ся́ння—за́ўтра *х. адносна дзён;*

тут жа, зра́зу, раз-два *х. без затрымкі;* з міну́ты на міну́ту *х. адносна хвілін;* з часу на час *х. адносна гадзін;* з дня на́ дзе́нь *х. адносна бліжэйшых дзён;* тую мінуту (секунду) *х. без перапынку.*

Ты міну́тку пыдажджы́, я ду́мыю, ён скора верніцца. Мы трошку пысядзелі, ускорысьці і яны пыдыйшлі́. Я то хырашо ні знаю, толька абішчаў ніўзыба́ві быць. Трошку пысядзелі удваіх, а ніўза́дыўзі і Юрка пыдыйшоў. Ты лі яго ціха: у яго ж во-во радзі́ны. Па-мойму табе луччы пысядзець, ён вот-вот должын падбежч. Я думыю, што Юцік будзіць тут днямі. Абішча́лі ні сяньня—заўтря пыцскачы́ць, а ўсё німа й німа. Толька мы селі за стол, тут жа й Сярьгей падбег. Зразу прішоў, мы яго нісколька ні жда́лі. Пріехылі раз-два, яшчэ цямнець ні пычына́ла. Мы во сядзі́м і пыджыда́ім, зь мінуты ны мінуту павінны пад'ехыць. Ждалі, ждалі, ш часу ны час далжны́ былі пыявіцца, а іх усё німа і німа. Гатоўлюся, з дня на́ дзінь госьці далжны пріехыць. Толька ска́жу, тую мінуту пыбягіць. Слухмя́ный ма́ліц, што ні скажы́, тую сіку́нду зьдзелыіць.

### 348. Скрыпе́ць

*рыпець, утварацьрыпенне* — скры́пацьс. *шматразова;* рыпе́ць *р. паціху;* ры́паць *р. паціху надакучліва;* ры́гаць *р. доўга надакучліва, неадабр.;* скры́гаць, скрыгата́ць *с. раздражняльна, неадабр.*

Пыдма́ж-ка чым-небудзь завесы: дзьвері скріпя́ць, нільзя слу́хыць. Хто там чым скрі́пыіць, дзелыць яму нечыга ці што. І ма́зыў жа крюкі́, і ўсёроўна ріпя́ць. Як ідзеш па столі, дык рі́пыіць. Ня ры́гый, мне толька ёсьць уремя слу́хыць тваё ба́лыўства. Варотымі скры́гыў, пакуль яго пру́тым ні пыгна́ла. Толька ты мне ні пірі́ста́нь скрыгыта́ць, я цябе ўспакою.

### 349. Скупі́цца

*скваапнічаць, праяўляць скупасць, прагнасць* — скна́рыцца, скна́рнічаць *с. у дробязях;* гне́сца *с. вельмі, іншаск., іран.*; трэ́сца, калаці́цца *с. празмерна, іншаск., іран.;* гну́цца, прыжыма́цца *с., моцна прыбядняючыся, іншаск., іран.;* жа́днічаць *с. з прагнасцю, асудж.;* даві́цца,

душы́цца *с. празмерна ў харчаванні, іншаск., груб.;* скупідо́мнічаць *с. з вялікай беражлівасцю, неадабр.;* стагна́ць, квакта́ць, кракта́ць *с., моцна прыбядняючыся, іншаск., іран.*

Ні скупі́ся, насы́п поўную карзі́нку, цэл будзіш, ні пыбяднеіш. Пыпрасі́ла ў яе дзіся́тку пазы́чыць: скна́рілыся іна, скна́рілыся, му́лілыся, му́лілыся, цёрлыся, цёрлыся, усёдно́ як я ні ддам. Хто яго ні знаіць: усігда́ скна́рнічыіць. Памёр ба ні знаў і ні паду́мыў, што ныт карзі́нкыю бульбы так ста́ніш гнесца. Купіў касьцю́м і трясецца над ім, нікуды ні ра́зычку ні надзеў. Ні кылаці́ся, просюць — і дай. Што ні пыпрасі́ — усігда гнецца, усігда ў яго нічога німа. Віджу я, што пыча́ў пріжыма́цца, зывярну́ўся і пашоў. Меншы жа́днічый, ато ўжо людзі сьмяю́цца. Што ўжо пры цябе й гывары́ць, — будзіш даві́цца, сам сабе пыжалеіш крошку сала зьесць. Душы́ся, душы́ся, скла́дывый, — каму тваё дабро аста́ніцца. Усю жызьню скупідомнічыла, аткла́дывыла. Пыпрасі́ — пычына́іць стыгна́ць, ну, то́лька торбу ныдзіва́ць і йціць пу куска́х. Нечыга квыхта́ць, нечыга, запа́сыў у цябе ны підзьдзіся́т гадоў. Усё крекчыць і крекчыць, рызагні́ся хуць раз ды свадзьбу спраў.

### 350. Скупэ́й

*скупы, такі, які шкадуе даць, патраціць, ужыць* — скупы́й; ску́пый *с., рэдкаўж.;* скна́рлівый, скна́рыстый *с. нават у дробязях;* прыжы́містый *с. досыць значна, іран.;* жа́дный *с. да прагнасці, асудж.;* закару́злый, закарэ́лый, каржане́лый *с. вельмі і адсталы ў поглядах, іншаск., іран.*

Чаго ты ўрадзі́ўся еткій скупэй, дык і хто цябе зна́іць. Скупы́й стаў пыт ста́рысць, ра́ншы такі́м ня быў. Што, і ты ўжо стаў ску́пый? Скна́рлівыя, скна́рлівыя, іна́ табе зы капейку бу́дзіць пуўдня́ тургува́цца. Скна́рістый старэй, усё вы́шчытыіць да мелычы. У яго ня вы́тыргыіш, пріжы́містый, ныт ка́жным яблыкым трясецца. Ты хацеў у Матруны пазычыць? — іна жадныя, у яе сьнегу зімою ні паста́ніш. Пыла́га тыкая зыкарю́злыя, што другая й ці ёсьць тыкая на белым сьвеці. Ты такей зыкарелый, як тэй Пархвен быў. Кыржанелый старі́к, за крошку будзіць пуўдня́ бурчэць, а сам ся́дзіць — апетыіць зы траі́х.

**351. Сла́бый**

*слабы, нямоцны фізічна* — слабасі́льный *с., з малой фізічнай сілай;* бяссі́льный *с. зусім;* плахе́й, пло́хій *с. вельмі, іншаск.;* сілы як у вераб'я (камара), ад ветру ва́ліцца (хіта́ецца) *с. вельмі.*

Сла́быя — ні сла́быя, а ду́мыю, дай сьціга́юся, хуць ну людзей пыгляджу́. Сколька я помню, ён усігда такей слыбасі́льный. Бясьсі́льный стаў саўсі́м, што ж, пыд дзіваноста пыдбіра́іцца. Відзіла Зьмітрыка́ летысь, ужо саўсім плахей быў. І Пятрок плохій, і Сярьгей ня дужа крепык. Айдзе табе са мною бра́цца: у цябе сілы як у віріб'я́. Сі́лы як у кымыра́, піхну́ў яго ціхінька, ён і пыляцеў. Што йта такоя с Кузьмою случы́лыся: ён жа ат ветру ва́ліцца. Якей зь яго жы́ціль: ідзець і ат ветру хіта́іцца, а есьць скуліндý, і то калі пыса́міцца што.

**352. Слу́хаць**

*слухацца, згаджацца, выконваць патрабаванні* — слу́хацца *с., малаўж.;* уважа́цца *с. з глыбокай павагай;* паніма́ць, прызнава́ць *с. з павагай, іншаск., абмеж.;* браць (пыніма́ць) у разо́н (ўніма́нія), весць ву́хам *с. крыху.*

Нада, дзетычка, слу́хыць, калі дзед просіць, пыда́й яму сьпіцу. Нешта ты, маліц рузмудреў, нікога слу́хыцца ня хочыш. Ты ж як паедзіш к Ціряшонкывым, дык увыжа́йся, дзелый, што ска́жуць. Ці ты яму гыварі́, ці ні гыварі́, дайжа ні пыніма́іць. Што ты сам сабе ду́мыіш, чаго ты нікога ні прізнаеш? Ай, ні гыварі́, рызба́лывыўся, ці я сыма́ ні знаю, калі ён мяне і ў рязон ні бярець. Што ні скажы́, дайжа у ўніма́нія браць ня хочыць. Вот ты чужэй саўсім, а цябе прініма́іць у рязон хуць троху. Ты ж прінімáй у ўніма́нія, калі табе што гаворюць. Бацьку троху слу́хыіць, а я што скажу—і ву́хым ні вядзець.

**353. Слухмя́ный**

*паслухмяны, схільны падпарадкоўвацца, слухацца* — паслухмя́ный, паслу́шный, паслу́шлівый; падхва́тный *п. да ўслужлівасці.*

Тут я ўжо нічога ні скажу́, што слухмя́ный хлопіц, то слухмя́ный. Ён то вапшчэ пуслухмя́ный, ну, буваіць, зынату́ріцца, то ўжо ні дашлесься і ні дапросісься. Дзеці ў

яе паслу́шныя расту́ць. Каб ты быў паслу́шлівый, я б табе купіў што-небудзь, а так не, ні куплю. Меншый у цябе ня дужа пытхва́тный, ета большый быў — што ні ска́жыш, раз і зьдзелыіць.

### 354. Случы́цца

*надарыцца, выпасці на долю* — прыцііцца, даве́сца *н. абавязкова;* вы́пасць *н. непазбежна;* касну́цца *н. выпадкова, іншаск.;* праізайцііць *н. пры выпадку, іншаск., руск.*

Я ду́мыў абіза́цільна паехыць, ну случы́лыся, што ніяк нільзя було. Што там гывараць, прідзісь табе, ты тожа так ба зьдзелыў. Дывядзісь мне, і я тоя б са́мыя скыза́ў. Як ні круціла, ні вярцела, ну вы́пыла так, што ні мыгла́ атырва́цца. У ўся́кім дзелі такей: ізыком первый, а касьнісь к дзелу — зра́зу ў кусты́. Калі прыізайдзець пына́дыбіцца памошч, я ні ткажу.

### 355. Слядзі́ць

*сачыць, весці нагляданне* — сачы́ць *с. спецыяльна, рэдкаўж.;* глядзе́ць, нагляда́ць, назіра́ць *с. няўважліва, урыўкамі;* па́свіць *с. уважліва, звыч. таемна, іншаск.;* вачэй не спуска́ць *с. вельмі ўважліва;* з вачэй не спуска́ць *с. вельмі ўважліва, ходзячы следам.*

Я ні прісьлядзіў, дык сьлядзі ты, можа айдзе увідзіш. Сачу, сачу, айдзе йна нясецца, і ніяк прісачы́ць ні магу. Глядзі, ён далжон січас іціць. Ыгліда́й-ка, мне яго дужа нада злавіць. Троху нызіра́ю, калі мне тоя ўремя ёсьць сьлядзіць дужа. Во рызба́лывыўся чылавек, пасі ды пасі яго ўсё ўремя. Я ўжо хырашо ізучы́ла, дык гляджу́, вачэй ні спуска́ю. Ты яго з вачэй ні спуска́й, ато ўзноў ныбярецца, ра́кым ріпаўзець.

### 356. Сляса́к

*слясак, пад'ёмны рычажок у клямцы* — язычо́к *с., іншаск., уст.*

Нешта сьлісак зыска́кыіць, час буту́ісься лі дзьвярей, пакуль аччы́ніш. Ізычок у кля́мкі атлума́ўся, нада неік хуць с провылкі што прімудрíць, аччыня́ць жа і зычыня́ць дзьвері нада.

**357. Сма́шный**

*смачны, прыемны на смак* — уку́сный *с., неалаг.;* зае́сца, аб'е́сца, аб'е́д, аб'ядзе́нне, хоць зае́шся, па́льчыкі аблі́жаш, за ву́ха не атве́сць *с. вельмі.*

Сма́шныя былі і быракі́, і бульба ту́шыныя. Ну што, уку́сныя абеды жонка гырыдзка́я гатовіць? Во ся́ньня зварі́ла кулеш — заесца. Дыла́ мне папробывыць ю́шкі— аб'есца. Қапуста так сабе, праўда, есьць можна, а ба́бка — аб'ед. Қалі ні зва́ріць ва́ріва — аб'ядзеньня. Бульбу путуўкла́ сы сьміта́ныю, а тады ны скыўраду́, іна пацсохла, ста́ла хуць заесься. А ты паспробый ка́шу, іна ж па́льчыкі аблі́жыш. Сьцю́дзінь пулучы́ўся за вуха ні атвесьць.

**358. Сме́лый**

*смелы, пазбаўлены пачуцця страху і небяспекі* — хра́брый *с. з мужнасцю;* атва́жный *с. да бясстрашнасці;* му́жественный *с. са спакойнай рашучасцю;* геро́йскій *с. з легкадумнай рашучасцю*; адча́янный *с. да крайняй безразважнасці*; рыско́вый, рыско́ўный *с. да безразважнасці;* рызыко́ўный *с. да безразважнасці, малаўж.*

Ты ж будзь сьмелым, чаго табе быя́цца, там жа нічога німа стра́шныга. Зь дзяўчонкыю вуюва́ць ты дужа хра́брый. На што дык ён дужа атва́жный, а як пыпрасі́ла вазок прівезьць, дык лісьнікоў баю́ся. Якей ён му́жысьцьвінный, хто б ета адзін асьмеліўся так кінуцца. Айт, ізыком толька гіройскій, а касьніся якога дзела — січас у кусты, зь віду толька ўгар. Ачча́інный мушчы́на: скажы яму у ваду, у агонь — січас гатоў, і ні заду́мыіцца. Якей ён рісковый, калі кусты пірябежч уноччы баіцца. Рískoўный чылавек, зразу сыгласі́ўся, дайжа ні паду́мыў, што можна пупа́сца. Ну й різыкоўныя ж людзі, хуць к чорту ў зубы січас гатовы.

**359. Смерць**

*смерць, стан небыцця* — кане́ц, магі́ла, гроб, капе́ц, кля́мка, кры́шка *с., іншаск.;* гі́бель *с. прымусовая;* пагі́бель *с. прымусовая, адм.;* канчы́на *с., неалаг.;* каю́к, гамо́н, халэ́мус, амба *с., жарт.;* кандры́чка, кандра́шка, капу́т, амі́нь *с., адм.;* здыхата́, лом, во́падзь, по́падзь, перало́ма *с., груб.*

Як хто ні жывець, а сьмерць усякыму страшныя. У Мікіцёнка і вочы пыўпалі, і рукі дрыжаць, верна, скора канец. Відзіў Паўла: ужо ўвесь, доўга ні прыцягніць, скора яму магіла. Там яму й гроб быў. Знаў, што яго капец жджэць, і пашоў. Папробуй падлезь, тут табе на месьці клямка. Ня хочыш, каб была крышка, тады атыйдзі. Як стукну, тут табе й гібіль будзіць. Толька прілезь, зразу пагібіль будзіць. Хочыш — дык січас канчына будзіць. Сідыру ўжо каюк, і кыляд ні дыждаў. Во калі табе гамон. Ніякій цябе халэмус ня возьміць. На месьці яму амба. Ікая яго кандрычка хваціць. Во схваціць кындрашка і ўсё табе. Ня зьдзелыў табе капут, дык зьдзелыю. Тут табе і амінь. Здыхату сам сабе шукаіць і найдзіць, яй-богу, найдзіць. Німа ны вас лому, як вы мне упякліся. Нада ны вас вопыдзь ікая, як вы серца ат'елі. А ніхай на іх попыдзь, ну друзей етых, яны да ніткі агалілі. Во каб ужо ікая пірялома выскычыла ны вас.

**360. Спакой**

*спакой, стан сцішанасці* — пакой; спакойствія, успакаенія *с., неалаг.;* упын, унім *с., неадабр.;* уталон, уталонне, угамон, угамонне, ухадор, здзерж *с., асудж.*

Дай ты мне хуць ба адну мінутычку спакою. Носюцца і носюцца, пакою ім німа нійдзе. Ці будзіць ім калі спакойствія, ці ні разу ня будзіць, ні знаю. Чаго вам німа успыкаенія, жджыцё, каб узноў хлыбазіну узяў. Ні находзюць яны, знаць, упыну ні днём, ні ноччы. Ніхай ба вам, дзеці, хуць ны якую сікундычку унім быў. Айдзе ім тэй уталон будзіць, ходзюць хыдаром, адно гылыгаленьня на ўсю акругу. Я вам січас дам уталоньня, калі самі ні ўгамуіціся. Хуць ба трошку табе угамон быў. Дам січас такоя угамоньня, што і сам будзіш помніць, і дзісятыму зыкажыш. Цэлый дзень хыдаром хадзіў — ухадору ні було, а цяпер во угыманіўся. Што—што, а зьдзерж вам будзіць, такей, што лучча некуды.

**361. Спаць**

*спаць, знаходзіцца ў стане сну* — хропсць, храпець *с. глыбокім сном з храпам;* дрыхнуць, абрузаць *с. доўга, асудж.;* пухнуць, брузнуць *с. доўга або не ў час, іншаск., груб.;* задаваць храпака *с. з асалодай, жарт.*

Учора к вечыру пудупра́віўся, скот пріпырядзіў і лёг спаць рана, знаў, што сяньня ня прі́дзіцца. Зываліўся хропсьць на ўвесь дзень. Хрыпя́ць абоя вун у сенцых. Зываліўся ўчора с посьлібе́дзьдзя і дры́хніць ужо чуць ня су́ткі. Што яму, зыва́ліцца і пу́хніць, а ты піклу́йся адна і зь дзіцёнкым, і с хызя́йствым, яму ні ўстаць, ні памошч і ні брыдзі́ць. Ідзі вун будзі, кылі дабу́дзісься, брю́знуць абоя ны саломі. Пыт капою зыдаець хрыпыка́, ціга́ўся нейдзі ноч.

## 362. Спужа́цца

*спалохацца, адчуць страх* — спуга́цца *с. малаўж.;* струсіць, трухну́ць *с. ад маладушнасці;* ператрусіць, ператрухну́ць *с. моцна ад маладушнасці*; перапужа́цца, перапуга́цца *с. вельмі моцна.*

Іду, а там у куста́х нешта шам-шам-шам, я ажно спужа́ўся. Што, утраіх аднаго спуга́ліся! Як крі́кну: «Зь места ня трогыцца!» — зразу струсі́лі. А-а, стру́сіў, ні асьмеліўся іціць адзін. Ны маём месьці і ты трухну́ў ба. Думыю, вы там здорыва пірітрусі́лі. Што, пірітрухну́ў, храбрец, адзін у нізнакомым лесі. Ці ты ні піріпужа́ўся тут ат еткыга ўдару? Ішлі, нічога ня ду́мылі, а бык тыц з-зу вугла, дык мы пря́ма піріпуга́ліся.

## 363. Спяшы́ць

*спяшацца, рабіць як мага хутчэй* — хвата́цца *с. беспарадкава;* тарапі́цца *с., руск.;* патара́пліватца *с. крыху;* спяша́цца *с., кніжн., іран.;* паро́ць гара́чку *с. неабдумана ў справах.*

Так ужо сьпяшы́ла, так сьпяшы́ла і ні пасьпела ны якіх мінут пяць, аж абі́дна. Ні хвыта́йся, зьдзелый як нада, танцу́лькі нікуды ня дзенуцца. Ну дык што ж, кылі ты тырапі́ўся, нада було ра́ншы вы́йціць і ўсё. Нада пытыра́плівыцца сь сеным, дождж, глядзі, зьбярецца, ві́дзіш — ныця́гыіць. Сьпіша́цца, кызаў, ня буду, цэлы бу́дуць і бізь міня пірізіму́юць. Ні пары́ гыря́чку, а перша паду́мый, што і як тут вы́йдзіць.

## 364. Ссаць

*смактаць, уцягваць у сябе вадкасць* — цягну́ць *с. працягла і аднастайна, іншаск.;* смакта́ць *с. з прагай і прыем-*

*насцю;* дудóліць *с. доўга;* даіць *с. пастаянна, іншаск., жарт.*

Ссаў, знаць, ці ні да двух гадоў. Ігня́ты пы жырябёнку, а ця́гнуць аўцу і ця́гнуць. Даўно ўжо смокчуць пырыся́ты, нада ацса́джывыць. Карову дудоліў чуць ня месіц, таго такей і гла́дкій. Што, доіш, матку, толька пысьміха́ісься, ра́дзінік ду́жа.

**365. Стагна́ць**

*стагнаць, абзывацца стогнам* — е́нчыць *с. з крыкам;* якатáць *с. з плачам;* квактáць, квахтáць, квóхаць *с. знарок, іншаск., іран.*

Стагні́ — ні стагні́, а печ тапі́ць нада пыднімáцца. Ня енчы, а сыбярі́ся ды зьезьдзі к доктыру. Зайшоў у хату — ікытáла на печы, дык іна ўсігда якочыць. Пы двару́ сагну́тый ходзіць, квокчыць: ой, сьпіна балі́ць. Сядзі́ць на печы і квохчыць: звáлі ны свáдзьбу, а тут ныга луману́ла. Квохыла нечыга зы пірігародкыю, я ні стала дапы́тывыцца, што зь ёю.

**366. Стаптáць**

*стаптаць, патаптаць і стравіць (пра пасевы і луг)* — змясі́ць *с. да звання;* сталавáць *с., паваліўшы і пацёршы расліны;* згóйзаць, збузавáць *с., пакруціўшы расліны;* пакла́сць, палажы́ць *с., паваліўшы расліны, іншаск.*

Кусок жыта коні стыптáлі, там ні зяренца ня бу́дзіць. Прыгнáлі пы Гырбáцкыму лагу́ табу́н, зьесьць там нічога ня зьелі, а зьмясі́лі ўсё чы́ста. Луг ат Кылатовіна скатом стулувáлі, калі йна там атрасьцецъ і трывá тая. Нічога ат ячменю ні сталося, усё згойзылі. Во пылядзі́ш, засну́ць пустухі́, скот увáліцца ў пышані́цу і збузу́іць. Зяці́цкія коні і пыклáлі тую грячы́ху, ці туды с Ходыс прівадзілі сьпіцыя́льна. Авёс коні пылажы́лі, цяперь за жыта возьмуцца.

**367. Старáцельный**

*старанны, вельмі ўважлівы і схільны да занятку* — ру́патный, ру́патлівый *с. вельмі;* руплі́вый *с. вельмі, кніжн.;* усе́длівый, усі́длівый, усі́дчывый *с. пры аднастайных занятках;* прыле́жный *с. і дакладны.*

Стыря́цільныга зя́ця ўзіла́ сабе, усё глядзі́ць, каб што прідба́ць. Нада быць у твае гады ру́пытным, а цябе ні дашлесься, ні дату́ркыісься. Ша́гу лі́шніга ляні́цца зьдзелыць такей ру́пытлівый. Не, руплі́вый ня дужа, ета ны слыва́х усё дзелыіць. Нашто ўжо гывары́ць, дужа уседлівый, за што возьміцца — ня кі́ніць. Усі́длівыя дзеўка, ня то што другея — толька гулю́шкі ну вуме. Яны ўсі́ччывыя, прі́тна работыюць, пуўдня будуць сядзець с пра́ньнікым, ні падні́муцца. Родныя браты, адзін прілежный, а другей гульта́й.

## 368. Ста́рый

*стары, з адзнакамі працяглага жыцця* — стары́й, старэ́й *с., малаўж.;* дра́хлый *с. вельмі;* ве́тхій *с. вельмі, абмеж.;* як грыб *с. вельмі, гумар.*

Ці помніш ты ста́рыга Ахрема, я помню, як ува сьне. Стары́й Піліп нечыга пріхадзі́ў. Ці старэй, ці маладэй, ні глядзі́ць, кроіць пачом зря. Цесьць у яго дря́хлый, а цёшча мылыда́я, хуць за́муж аддыва́й. Кыныстра́т ветхій, куды яму з мылады́мі спра́віцца. Аксюта саўсім дря́хлыя, ёй ужо зы дзівяноста, і Мільлян як гріб, ажно рукі трясу́цца.

## 369. Стóіць

*каштаваць, абысціся ў пэўную суму* — вы́йціць, абайці́цца *к. наогул*; стаць *к. дорага*; стаць (уляце́ць) у капе́ечку (капе́йку) *к. вельмі дорага.*

Дарога стоіла ня дужа дорга, толька там ла́дна грошы ля́снула. Хата мне вы́йшла ні так дорга, а ў хунда́мінт здорыва грошы усадзі́ў. Лу́ччы б я гатовый касьцю́м купі́ў, шыць абыйшлося ў два разы дыражэй. Дайжа б ні разу ні паду́мыў, што пастройка столька ста́ніць. Сва́дзьба ста́ла ў капеічку, столька ж роду, ды знакомых, друзей нада було сызва́ць. Адзежа уляцела у капеічку, біз грыша́ аста́ўся. Ну яе, такую й ку́плю, іна мне стала ў капейку. Уляцела ў капейку пастройка, ні знаю, як з даўгоў вы́лізьць.

## 370. Страда́нія

*пакуты, душэўная скруха, маркота* — му́ка, мучэ́нне *п. з цяжкімі перажываннямі;* пяча́ль *п. з сумам;* таска́ *п. з*

*тугою, кніжн., абмеж.;* перажыва́нне *п. са скрухай, абмеж.;* ка́тарга, пекла *п. невымерныя.*

Што ж стрыда́ць, стрыда́нія табе ні паможыць. Му́ка ёй вы́пыла на ўсю жы́зьню, хто яе цяперя возьміць. Нагледзіліся ны Та́нькіна мучэньня, во́ ка́ра вы́пыла чылавеку. Ніхай твыя піча́ль па ветру разьвеіцца. Тыска́ ні тыска́, а хлеба ўку́сіць нада. А ач чаго тваё піріжыва́ньня, нада було ду́мыць, якую пятлю́ на шыю вешыіш. Яку́ю ка́тыргу Пёкла піряносіць, каб толька хто знаў ды ведыў. Сям'і німа, пекла чылавеку, як ста́рысьці ждаць аднаму́.

## 371. Страда́ць

*пакутаваць, цярпець пакуты* — тужы́ць, ташнава́ць *п. з тугою;* пяча́ліцца *п. з сумам;* таскава́ць *п. з цяжкой тугою, кніжн., абмеж.;* клапаці́ць, бедава́ць *п. з тугою і клопатамі;* му́чыцца *п. з мукаю;* перажыва́ць *п. з перажываннямі;* гарава́ць *п., моцна перажываючы;* сакруша́цца *п. з вялікімі перажываннямі;* убіва́цца, захадзі́цца *п. страшэнна;* браць (прыніма́ць) к серцу (к душэ) *п. спачуваючы*; браць (прыніма́ць) у галаву́ *п., моцна задумваючыся;* ру́кі лама́ць *п. невыносна.*

Ныйшла́ ты па кім стрыда́ць, ён твае падмёткі ні ва́ртый. Ні тужы́, пад'едуць скора, будзіць табе ра́дысьці. Сыбра́ліся ўтрёх, сідзя́ць і ташну́юць не́ п чым. Меншы піча́лься, дык яно лу́ччы будзіць. Як вы паехылі, доўга тускува́ла, што ж вы хочыця, не к кыму гылаву́ прісланіць. Калі ня ўстречу — усё клапоціць: як адной дыжыва́ць. Устреціла Аксю́ту, — дужа бідува́ла, што ўжо ні гады́, здароўя німа і сын паехыў. Дужа му́чыцца, ажно жа́лка ны яго глядзець. Піріжыва́іць дужа-дужа цяжола, ну што ж, хваці́сь ка́жныму такоя нішча́сьця. Хва́ціць табе ужо гурюва́ць, нічога ж ні паможыш. Як жа так жыць — сукруша́іцца другей год. Што цяперь — убіва́йся, ні ўбіва́йся, а з магілы ні падніміш. Во біда чылавеку, аж заходзіцца, сьвету белыга ня відзіць. Айт, за нейкыю дзіхця́рку к серцу так браць. Ты толька прініма́й к серцу, — тая ла́нка ду́мыць ны цябе забы́ла. Ну што ўжо ты бяреш к душэ, ні паможыш жа. Горя, канешня, горя, только дужа ўжо к душэ ні прінімай. Брала і брала у гылаву, во так і пулучы́лыся. Ні прініма́й ты так у

гылаву, вы́йдзі луччы зь людзямі пысядзі́. Што ж ты рукі лума́іш, бяры́ся што-небудзь дзелыць, жыць жа нада.

### 372. Страля́ць

*страляць, рабіць выстралы з агнястрэльнай зброі* — біць *с. гучна;* паліць *с. часта і гучна, іншаск.;* садзі́ць *с. упарта, іншаск.;* ба́хаць, баба́хаць *с. гучна рэдка;* печ *с. гучна і часта, іншаск., абмеж.*

У сорык трецьцім немцы хацелі цэп'ю прайці́ць Радкеўшчыну і пычалі́ ўжо стріляць с краю, а нашы ныскачы́лі, дык тэя ўцяклі́, ато ўсіх ба пыстрілялі. Помніш, за Мінскым толька пыча́лі мы біць, немцы зразу пабеглі. Нейкія гырадзкея лі затокі доўга палі́лі, а ныза́д ішлі — нічога ні нясьлі́. Адурелі тэя хлопцы саўсім: шапкі пыткіда́юць і содзюць з ружжа. Вы́йдзіць ра́нінька і дыва́й бахыць пы вароных: чаго яны тут літа́юць. Ты ня ві́дзіў, хто там і чаго быба́хыў у сысьняку́? Ета Земскій посьлі, як пырыся́т пыкралі, вы́йшыў зь неськім у сосны, шапку павесілі на сук і дывай печ с атреза, — пужа́лі.

### 373. Сту́каць

*стукаць, утвараць шум ударамі* — гру́каць *с. моцна*; грука́ць *с. моцна і працягла;* стуча́ць *с. спецыяльна, неалаг.*; ля́пацць *с. звонка;* бубне́ць, бараба́ніць *с. доўга і рэзка;* ля́скаць *с. вельмі рэзка;* лескатаць *с. вельмі рэзка і працягла, неадабр.;* хло́пацць *с. коратка, адрывіста;* мазката́ць *с. вельмі моцна і працягла, асудж.*

Ня сту́кый, ніхай ма́лый засьнець. Схадзі́-ка глянь, чым тама карова грю́кыіць, каб ні твіза́лыся. Грюкочуць і грюкочуць, ні́якыга ўні́му ім німа. Можа б ты пірістаў ужо стуча́ць, ныдаеў як горькыя редзька. Нехта ля́пыіць у дзьвері, вы́скыч аччыні́. Піріста́нь бубнець, дзелыць табе нечыга. Вы́йдзі-ка глянь, чым ён тама бырыба́ніць. Ля́скыіць і ля́скыіць нечым, ніхай ба чым другі́м зыня́ўся. Ні ліскачы́, січас зьлезу і аччыню́. Што ты там хлопыіш у ря́му, балонкі вы́сыдзіш. Як узя́ўся мызкыта́ць, на ўсю дзяреўню чутна.

### 374. Стыд

*сорам, адчуванне няёмкасці, сарамлівасці* — страм *с. з ганьбай;* пазо́р *с. з вялікай ганьбай;* со́рам *с., кніжн., рэдкаўж.*

Пашлі сы стыдом усе ку́чыю, што ж ім астыва́лыся дзелыць. Ня йдзі ты, пысядзі́ ў дваре, толька стра́му ныбярэсься. Було ім абоім пазору, як з ношкымі прівялі пряма к праўленію. Сырыма́ ў цябе, чылавек, німа ні на грош прізмушча́ць малыга дзіцёнка, чаго яму лезьць на тэй пакот.

**375. Стыдзі́ць**

*сарамаціць, прымушаць адчуць сорам*—страміць *с. моцна;* со́весціць *с. дакорліва*; канфу́зіць *с. дакорліва, іран.;* пазо́рыць *с. публічна і рэзка*; празантава́ць *с. ганьбуючы;* вочы калоць (пароць) *с. з рэзкімі папрокамі.*

Пычыла яго стыдзіць, як табе ня сты́дна, гыварю́, выду́мывыць, дык рягочыць і ўсё. Ты ж усю нашу сям'ю стра́міш сваімі вы́дзілкымі. Ці ты яго совісьці, яму як з гу́ся выда́. Ты ні мяне канфу́зь, а вун дзядзьку свайго. Ні хачу толька пазоріць пірід людзя́мі, ато б я цябе ні мінуты ў хаці ні дзіржа́ла. Што ты мяне прузунту́іш, ты лу́ччы сябе прузунту́й, мяне з ношкымі ні лавілі. Доўга калола яму вочы каноплімі. Як айдзе ўстрэціць — поріць ёй вочы пацьсьвінычкым.

**376. Сты́дна**

*сорамна, непрыемна да няёмкасці* — стра́мна *с. ад інтымных дзеянняў ці лаянкі;* со́весна *с. ад усведамлення недазволеных дзеянняў;* нялоўка, няўдо́бна (неудо́бна) *с. часткова ад усведамлення недазволеных дзеянняў;* пазо́рна *с. да ганебнасці;* ву́шы вя́нуць *с. да агіднасці.*

Ідзі, толька гылавою думый, каб посьлі стыдна ні було. Ну як жа табе ні стра́мна усё мыцірікoм і мыцірікoм. Чаго йта мне совісна, я ж у чужэя кырма́ны ні ла́зіла. Канешня, троху нялоўка іціць нізва́ным і дужа нада б увідзіць Зьмітрыка́. Так абеім було няўдобна, што большы некуды. Ніудобна бу́дзіць, калі нас тут увідзюць. Ужо так пазорна, што большыга пазору і приду́мыць нільзя. Вушы вя́нуць слу́хыць такоя, ня то што гыварíць.

**377. Схваці́цца**

*схапіцца, уступіць у спрэчку, лаянку* — схапіцца *с., кніжн., малаўж.*; счапіцца, схляснуцца *с. рэзка, востра;*

зрэ́зацца *с. вельмі рэзка, груба;* пайці́ць у рогі *с. без злосці, гумар.;* схваці́цца ў рогі *с. раптоўна без злосці, гумар.*

Схваці́ліся там за нейкыю ірунду́, што добрыга слова ні варта. Як схопюцца, хуць вадою рызьліва́й, хва́ціць сва́ркі на ўвесь дзень. Ну, шчапі́ліся, цяперь доўга адна другу́ю будуць муры́жыць. Во ўві́дзіш, абіза́цільна схляснýцца, так у іх ня бойдзіцца. Як зрезыліся, гна́лі адна на дну што на́ рыт лезла, а за што зы я́кыя, каб хто спрасі́ў. Пашлі адна з другою ў рогі, ня скора ўспакоюцца. Ну, схваці́ліся ў рогі цётка с пляменьніцыю, будзіць камедзія, во́ прірода ўжо.

### 378. Сцярэ́жч

*сцерагчы, ахоўваць ад знікнення* — бярэ́жч *с. пільна;* ахраня́ць *с. спецыяльна значны аб'ект;* карауу́ліць (караýліць) *с. спецыяльна, займаючы пэўнае месца або наглядаючы за асобным аб'ектам;* вартава́ць *с. пэўны аб'ект, кніжн., малаўж.*; старажы́ць, старажаваць *с. пэўны аб'ект пільна, уст.;* ахо́вываць *с. значны аб'ект пільна, малаўж.;* нагляда́ць *с., назіраючы час ад часу, з він. і творн.*

Айдзе Стыхва́н бу́дзіць сьцярежч, толька найшоў сабе прічэльля. Сыма ўзіла́ся бярежч, то й бегый, глядзі́, я ні нынятый. Нынялі́ Кыласкова ахрыня́ць луг, дык ён дужа ні глядзеў, пройдзіць гады́ ў рады́. Як кыраву́ліў, такую і шану пулучы́ў. Ня думыю, каб Даніла стаў коні кыраýліць. Я ўсю восінь капцы вуртува́ў, ла́дна зыпіса́лі. Ідзі́ця ўжо вы стыражы́ця, мне сы старожыю ні сьцягну́ць. Я тыкі, верна, вазьму́ся стуружува́ць, старожу нічога пішуць. Ну, як ты аховывыіш цяперя лес, пней нешта многа. К дачке паехыла у Інта́рныя, нас пыпрасі́ла хату ыгліда́ць.

### 379. Счыта́цца

*лічыцца, прымаць пад увагу* — прызнава́ць *л. паважаючы;* ду́маць, паніма́ць *л. не заўсёды;* пра́знаваць *л. не заўсёды, абмеж.*

З ма́ткыю яны ўсе дужа шчыта́юцца, што ні ска́жыць — закон. Пакуля была сіла ды ногі хадзі́лі, дык прізныва́лі, а цяперь ужо і коса пыгліда́юць. Што яны

мне, закон ці ўказ, і ду́мыць я іх ні хачу. Ні пынімáіць ён цябе, я віджу, саўсім, знаць, у руках ні дзяржы́ш. Прáзнывыць я цябе ні хачу і ня буду зы твае гіморы.

**380. Счытáць**

*меркаваць, трымацца думкі* — меркавáць *м. са значнай упэўненасцю;* лічы́ць *м., кніжн., малаўж.;* ду́маць *м. з асабістай перакананасцю;* прадпалагáць, палагáць *м. без дастатковай упэўненасці.*

Я так шчытáю, што пысядзець ба табе ў дваре дужа б лáдна было. Як ні мярькуй, а біс каровы жыць тру́дна, нада ўзьбівáцца ны якей хвост. Як ты лічыш, ці стоіць мне ацскачы́ць у Рожыва. Ні мáлінькій, сымаму́ нада ду́мыць, хвáціць цябе зу руку́ вадзіць. Прідпылыгáю, што нада було паможч, дык ты ж ні сыізволіў пріці́ць. Я ж пылыгáў, што далжно рыспагодзіцца, і растрёс капёшку, а тут на табе, зыліўнэй.

**381. Сярдзíта**

*злосна, у стане злосці* — гнéўна *з. вельмі*; злосна *з. з рэзкасцю, кніжн.;* зло́бна *з. з лютасцю;* свірэ́па *з. з шаленствам.*

Ніхай глядзíць сярдзíта, ніхай ні сярдзíта, мала я яго ду́мыю, вогіря еткыга. Чаго б ета, думыю, Сьціпан так гнеўна пыглідáіць ны Аксю́ту, ажно рыскызáла пры яго п'янку. Нешта злосна пыглідáіць, ці ня ўзноў якую мыхалею пачуў. Прысіпеў злобна, што едзіць у горыд, і пыдаўся ны станоўку. Ні пыглідáй так сьвірепа, дужа ты некыму важна сы сваёю злосьцю.

**382. Сярдзíтый**

*злосны, усхваляваны ад злосці* — гнéўный *з. вельмі;* зло́сный *з. рэзка, кніжн.;* злэй (злый) *з. з асаблівай усхваляванасцю*; свірэ́пый *з. з шаленствам*; не ў духі *з. з дрэнным настроем;* злэй як чорт *з. празмерна.*

Прішоў са сходу сярдзíтый, сярдзíтый, ажно чую нызáўтріга: лáдна прыбірáлі. Якей ня бу́дзіць гнеўный, дайжа віду ні пыкáжыць, можа толька вочы зыблішчáць большы. Калі помніш Астапёнка — усігда хадзіў злосный. Твой шаноўный нешта злэй, злэй хадзіў кыла пу́ні.

Ўчора быў злый, сяньня атыйшоў, айдзе й злосьць дзё-лыся. Есьлі я́віцца сьвірепый, то ні пытыка́йся з рызга-ворымі. Цэлый дзень ня ў духі, ходзіць толька бубніць. Айдзе ты пыгаворіш с Кузьмою, злэй як чорт.

**383. Та́йна**

*таемна, непрыкметна для іншых* — тайко́м; цішком *т. без шуму;* сякрэ́тна *т. з асаблівай скрытнасцю;* скры́тна *т. хаваючыся;* укра́дкаю, укра́дня, укра́дкам *т. пры зручным выпадку;* з-пад палы́ *т. між сабой пры куплі-продажы.*

Два гады хадзіў тайна к Матруні і ні дна жыва́я душа ні знала. Усігда глядзіць, каб тайком што зьдзе-лыць, такей ужо хракцір. Шмыгні цішком і сходзіш, ці зы табою хто гнацца ста́ніць. У дзяреўні доўга нічога ня будзіць сякретна, скора ўсі ўзна́юць. Максім думыў скры́тна завесьць цёлычку, а тут нехта ўві́дзіў і дылажы́ў. Стаю я, неік заду́мыўся, а тады глянуў — нехта укра́д-кыю, укра́дкыю пы мяжэ і зу гумно. Ні галодзін жа, сыт па горла, а ўсёдно́ сы стыла́ што ў кырма́н і зьесць укра́дня. Ві́дзіў, укра́дкым пабег с касою, верна, аборы-чык нагледзіў. Нейкій хлюст быў вы́тырнуў боты с-пыт палы, можа кра́дзіныя.

**384. Толк**

*сэнс, карысны вынік* — пуць *с. у перспектыве;* рад *с. у адносінах да нормы;* смысл *с. у адносінах да іншага дзеяння*; разо́н *с. як магчымасць.*

Якей толк, калі ты дажджом пыця́гнісься, там нікога ня будзіць. Хадора усяму дасьць пуць, толька жджы. Ня будзіць зь яго ні́якыга ря́ду, во сьпі́ўся, звылацу́жнічыў-ся і на етым усё. Ні було смы́слу яму ехыць у тэя Різа́н-цы, яй-богу, ні було. У етым тваім грымажджэнні ні́кы-га рязону німа, яно пыляці́ць, пыглядзі́ш, пыляці́ць.

**385. То́ўчца**

*тоўпіцца, знаходзіцца ў цісканіне* — тало́чца; таўха́цца, таўка́цца *т. рухаючыся, іншаск.;* то́ўхацца, то́ўкацца *т. рухаючыся, іншаск., малаўж.;* таўпясі́цца, таўмясі́цца *т. у цеснаце;* куламе́сіцца *т. у вялікай цеснаце, неразбя-рысе.*

Тоўкся ды самыга цёмныга у той куламесі, а што там нада було табе. Ахотычка ж табе талоцца ў цісна-це. Туўха́ліся нешта ны бызá́рі, лі кароў стыя́лі, тады к пы́рыся́тым пріцэнівыліся. Туўка́ўся між людзей, ішоў у бок мыгазі́на. Тоўхыісься нешта бязь дзела, луччы б якей сноп аббіў. Тоўкыліся нечыга лі вазоў бязь дзела. Там прады́хыць нечым ад дыму, ат копыці, а яны тыўпі-ся́цца. Дождж, грязь, а яны тыўміся́цца і ня ду́мыюць рысхадзі́цца. Хваціць куламесіцца, пойдзім двору, хуць зьясі чаго гыря́чыга ды атагреісься.

### 386. Трудалюбі́вый

*працавіты, такі, які любіць працу* — рабацяшчый *п. вельмі*; працаўнэ́й (працаўны́й) *п., неалаг.*; працаві́тый, працалюбі́вый *п., кніжн., малаўж.*

Абоя дужа трудулюбі́вые, скора абжыву́цца. Рыбы-ця́шчый мушчы́на і ўмеюшчый, за што ня возьміцца, усё аж гаріць у яго руках. Мікі́пыр прыцаўнэй, ён табе ні ста́ніць, як ты, вылынга́цца. Абы чылавек прыцаўны́й, тады ўсё астальноя само сабою пріложыцца. Уся сім'я прыцаві́тыя, адзін ты вы́рыс ні ў кола ні ў мя́ла. Такога пруцулюбі́выга мушчыну ўпусьці́ла, ён жа ўсё чы́сьцінька зы яе дзелыў.

### 387. Тушы́ць

*тушыць, ліквідаваць гарэнне* — гасі́ць *т. адразу*; заду-ва́ць *т. дзьмухаючы*; выключа́ць *т. электраасвятленне*; заліва́ць *т. вадою.*

Паку́ль тушы́ў капу́, і чухвалок свой прыпалі́ў. Гасі́-ка ты ўжо сьвет ды будзім спаць. Пыдажджы́, пыцярь-пі́ мінутку, січас я зудува́ю. Ці вы сяньня саўсім ня ду́мыіця выключа́ць, поўныч жа ны дваре. Зылівá́й ўсё, нашто тут агню гарець, яшчэ веціp куды і́скырку зы-нясець.

### 388. Убядзі́ць

*пераканаць, давесці пераканальна* — уве́рыць *п. запэў-ніўшы*; заве́рыць *п., канчаткова запэўніўшы*; унушы́ць *п. унушыўшы*; переканá́ць *п. цвёрда, кніжн., рэдкаўж.*

Сколька хто ні гывapі́ў, ні маглі́ убядзі́ць, пыстá́віў

ны сваім і ўсё. Уверіў сам сябе, што там нехта ёсьць, і ня йдзець хуць здохні. Утраіх чуць заверілі: упёрся, ні пайду, ніхто мне там ні нада. Унушы́лі яму, што Аньку відзілі зь нейкімі хлопцымі, і зразу паверіў, прібег аж кіпіць. Што ты хочыш мяне пірікына́ць, во сам папробуй дажджы зь яго чылавека.

### 389. Уважа́ць

*паважаць, адносіцца з павагай, пашанай* — пачыта́ць *п. глыбока*; шанава́ць, паважа́ць *п. глыбока, кніжн., рэдкаўж.*; весць (счыта́ць) за чалавека *п. параўнальна глыбока*; на рука́х насі́ць *п. бязмежна.*

У нас яе ўсе увыжа́лі, пользывылыся бальшым аўтыріцетым. Ня хочуць ужо нешта мыладэя пычыта́ць стары́х. Шану́іць ладна: біз мыцірíка́ слова ні ска́жыць. Мяне пывыжа́юць, ні знаю, як да́льшы будзіць, а січас пывыжа́юць. А чаго цябе далжны́ весьць зы чылавека, есьлі ты сам нікога ні ўвыжа́іш. Трахіма шчыта́юць зы чылавека, ён у пачоці у Дзім'янкоў. Пяць гадоў Пятрок сваю ну руках насі́ў, а йна во што зьдзелыла.

### 390. Уважэ́нія

*павага, паважныя адносіны* — уважэ́нне; пачо́т *п. пастаянная*; паша́на, ша́на *п., малаўж.*; пава́га *п., кніжн.*

Уважэнія у людзей нада зуслужы́ць, само ня прідзіць. Німа табе уважэньня і ня будзіць, раз так дзелыіш. Мыла́нка у іх у пачоці: гарелкыю поіць чуць ні ка́жын дзень. Пыша́на — ні пыша́на, алі ж ня тоя, што табе: і зы чылавека ні вядуць. Пыдажджы́, пыдажджы́, ат Ільлі ты ша́ну палу́чыш, будзіць палу́чына. Як жа́ла, тыкая й ша́на. Мільлянок у Домны у пыва́зі: зы зяця мецюць, часта пойдзіць і абначы́цца там.

### 391. Увайці́ць

*увайсці, уступіць унутр*—зайці́ць *у. спакойна*; гры́мнуць *у. нечакана*; уваліцца, убу́хацца, укаці́цца, усу́нуцца *у. шумна, раптам, вялікай кампаніяй.*

Глянь-ка, хто там увайшоў. Мне нада зы скатом бежч, а яны зайшлі́ і рузмунды́куюць, і ня вы́гыніш. Грі́мнулі ку́чыю, ну й сідзя́ць. Дужа мне твыя хеўрэ

нада, ува́люцца — толька убіра́й тады за імі. Убу́хыюцца з гармоньню, во табе й вічарі́нка. Атвечыра укацілісе ўвысьмяры́х: стаў ім заку́скі. Во січас кума усу́ніцца ў хату, усе новысьці са сьвету рыска́жыць і пріба́віць яшчэ.

### 392. Уваліцца

*уваліцца, упасці ў паглыбленне* — ша́мнуць *у. раптам, ціха, іншаск.;* уляце́ць *у. з ходу;* шу́хнуць *у. раптам з шумам, іншаск.;* усу́нуцца *у. па недагляду, адм.;* убу́хацца *у. у гразкае або ў снег*; шабулды́хнуць *у. у ваду*; чабулды́хнуць *у. у ваду, рэдкаўж.*

Упацёмку ўваліўся ў яму, аткуль зямлю ны запечкі і пут хунда́мінт бра́лі. Стаў на кры́шу: крепка — і ша́мнуў на столь, ап столь, іна тресь, ён скрозь столь і аб мост, як ні забі́ўся. Нада ж так уляцець у погріб, як толька ног ні пыпірілума́ў. Ямка шу́хнула, прі́дзіцца зямлю вазі́ць, ды многа ўвойдзіць. Каб глядзеў пад ногі, дык ба ня ўсу́нуўся. Убу́хыўся с канём у нажор, а кругом лёд, чуць вы́брыўся. Абоя шубулды́хнулі ў я́мішчу, во було, пакуля вы́брыліся. Як чубулды́хнуў, а там вады па поіс, ажно піріпужа́ўся, ду́мыў: ужо саўсім таплю́ся.

### 393. Уваткну́ць

*уторкнуць, пагрузіць у цвёрдае асяроддзе* — уто́рнуць *у. злёгку*; усу́нуць *у. крыху, у адтуліну*; убадзю́ліць *у. крыху з цяжкасцю*; увагна́ць *у. з сілаю*; усадзі́ць *у. глыбока зразмаху.*

Уваткні вун у гряду́, хто іх тут возьміць, ві́лкі тває. Як ты ўторнуў етый кол, ён жа дзіржа́цца ня будзіць. Нашто там зыбіва́ць, пря́ма ўзяў і ўсу́нуў: зімля́ ру́шыныя наскрозь. Так ужо ўбі́та зімля́, лупа́тка войстрыя, войстрыя, а ні ўбадзю́ліць. Увыгна́ў тапор пы са́мый абух, паспробый, цяперь дыста́нь. Ня дужа ўсодзіш, такея сукі, тапор ацска́кыіць.

### 394. Увідзець

*убачыць, успрыняць зрокам*—уба́чыць *у., кніжн.;* увіда́ць *у., руск., іран.*; заме́ціць *у. далёкае, скрытнае*; зме́ціць, згле́дзець, угле́дзець, пагле́дзець *у. рэдкае, скрытнае*; агле́дзець, дагле́дзець *у. схаванае.*

Я зразу цябе увíдзіў, пызнáў пу пулушýбку, большы такога ні ў кога німа. Што ж ты харошыга на вы́стыўкі убачыў? Хувáйся дáльшы, яны цябе зы дзьвіря́мі могуць зразу увідáць. І ўнімáцільна глядзеў, і ні замеціў, як яны праехылі. Ты мне толька зьмецць яго, рызгывáрівыць я сам буду. Як жа мне згледзіць Хрýзычку, кызáла, вот-вот будзіць бежч. Ай-яй-яй, ня ўгледзіла, як тая прыскачы́ла. Я прыйшлá і нічога ні пагледзіла, а ён зразу дагледзіў. Нічога ат іх ні схувáіш, усё агледзюць. Во калі хочыш пыд зямлю схувáй, і там дагледзюць, — німа ат іх места нійдзе.

### 395. Увóлю

*уволю, да поўнага здавальнення* — удóваль *у., малаўж.*; да атвáлу, сколька душэ ўгодна *у.* (*пра ўжыванне*); па горла, ад пýза *у., груб.*

Глядзела я íхнія бызáства: усяго ўсякыга уволю. Усяго ў іх удовыль, цёплінька сідзя́ць. Яблык у Пархвенывых ды атвáлу, куды толька дзівáць будуць. І быракоў, і морквы, і капусты пряма сколька душэ ўгодна і яшчэ усё хвытáюць, ніяк ні ныбярýцца. Кáжыцца ж, па горла ныхвытáлі і саломы, і сена, дык мала: аторю хвытáюць, як ні парвýцца. Ныпіклá сваім пірагоў: ежця ат пуза, хуць рысьпіряжы́ціся.

### 396. Угашчáць

*частаваць, даваць есці, піць, праяўляючы гасціннасць* — частавáць *ч., кніжн.*; трахтавáць, часцíць *ч., іран.*; паднасíць *ч. ветліва, іншаск.*; гасцявáць *ч. раскошна, іншаск.*

Угышчáлі — ўсяго було, пі і еж, хуць пýза рысьпіряжы́. Даўно зьбірáюцца, бырáнчыка днямі зарезылі, зяцёў чуствувáць будуць. Піряд кім ты ўзносісься, яго ні трухтувáць, а пáлкыю с хаты гнаць нада. Часьцілі ладна, пыднасíлі і аднаго, і другога, ці мне многа чаго нада. Пыднасíлі ўсяго ўсякыга, дужа хырашо прігатовіліся, і віны разныя былі. Чаго там гыварíць, гусьцювáлі бытата, сталы аж ламíліся ад закýсык.

### 397. Узбíць

*насадзіць, надзець цесна* — набíць, насадзíць; узагнáць, нагнáць *н. з цяжкасцю*; уссадзíць *н. з цяжкасцю, малаўж.*

Узьбі́ў мылаток ны чыря́на, ды нешта крівува́та. Во набі́ў лупа́тку, пірібіва́ць нада. Нысадзі́-ка ты мне тапор, у цябе, знаць, нічога пулуча́іцца. Узыгна́ць то узыгна́ў, толька разьбі́ў канец. Абручы́ ныгна́ў, а дно вы́скычыла, узноў пуўдня вазі́ся, скла́дывый. Сколька тае работы, ка́жыцца, а да беда прывазі́ўся, чуць усcадзі́ў етый тапор.

## 398. Узбудзі́ць

*разбудзіць, прымусіць прачнуцца* — разбудзі́ць *р., малаўж.*; пабудзі́ць *р., рэдкаўж.*; падня́ць *р. катурхаючы, іншаск.*; растаўха́ць, растоўхаць, растаўка́ць *р., катурхаючы штуршкамі, іншаск.*; расшаваліць, расшавяліць *р. паступова, іншаск.*; прашну́ць *р. неасцярожным абыходжаннем, адзінк.*; расту́ркаць, усту́ркаць *р. крыкам*; расшту́рха́ць *р., досыць моцна катурхаючы, іншаск.*; растармасі́ць, растармашы́ць, растрэ́сць *р., моцна трасучы, іншаск.*; успаро́ць, узагна́ць, устуры́ць, узбутуры́ць *р. рэзка, груба, іншаск.*

Я ны мінутку пріля́гу, толька ж глядзі узбудзі́ мяне к шасьці, каб ні спазьні́ўся ны аўтобус. Цішэй гывары́ і ня сту́кый дужа: дзіцёнка разбу́дзіш. Пубудзі́ таго карю́зьліка, іціць нада. Я пыдніму́ скора, у мяне вылежывыцца ня будзіць. Рустуўха́й, ніхай пыдніма́іцца, скот гнаць нада. Ра́нінька растоўхыў, толька пычына́ла зыря́ць. Ты толька ні пыдла́зь, я яго січас скора рустуўка́ю. Пыдажджы́-ка, можа я рышшывалю́. Айдзе ты яго рышшывеліш, ніхай пасьпіць троху, хуць і вылежывыцца некылі. Астарожній кыпашы́ся: прашнеш мне дзіцёнка — горя будзіць, ня ўложыш. Ты глядзі́, час пройдзіць, пакуль яго расту́ркыіш. Ну й сьпіш жа ты, цярьпеньня нада усту́ркыць цябе. Айдзе ён дзеніцца, рашшту́рьхыю, вазі́цца доўга ня буду. Рушштурьха́й, ніхай сваё прічында́лы ідзець прібіра́іць. Рыстырмасі́, сам ён і ціряс трі часы ні ўста́ніць. Чуць-чуць цябе рыстырмашы́лі, мычы́ш і ўсё. Нада як растресьць, ці ён жа тут аста́ніцца спаць адзін. Ня бойся, сьпі, я цябе ўспарю́, калі нада. Калі сам січас жа ні ўста́ніш, я жыва узганю́, аж дзіві́цца будзіш. Я січас пайду яго ўстурю́. Нада ўзбутурі́ць, ён жа спозьніцца ны работу, і як яго даты́ркыцца, хуць стріля́й над ім, а ты ўсё маліш.

## 399. Узда́ць

*узліць, лінуць вады на каменне ў лазні* — падда́ць, падкі́нуць *у. у дадатак*; ускі́нуць, ліну́ць, узлі́ць, кі́нуць *у. нямнога*; шу́хнуць *у. многа, без патрэбы.*

Узда́й-ка кру́жычку яшчэ, як слова, мулува́та трошку. Пыдда́й, пыдда́й, духу яшчэ ні хвыта́іць. Не, не, замрі́ етыга дзела паткі́нуць, і так чуць сяджу, дыха́нія зыхва́тыіць. Уські́нуў саўсім трошку, а с пылка́ усе сыскачы́лі — так баня ныжа́ріна. Ліні́-ка поўную кружку, ніхай троху первый раз сойдзіць. Узьліў, ды, відна, мала, ду́хым і ні па́хніць. Многа ні нада, а паўкру́жычкі кінь. Шу́хнуў зь відра́ ня ду́мыючы, ажно каменьня зытряшчэла, ну, ўсе і пыкаці́ліся с пылка́.

## 400. Узна́ць

*даведацца, атрымаць звесткі* — разузна́ць *д. падрабязна*; дазна́цца *д. пра скрытнае*; вы́знаць *д. пра скрытнае з цяжкасцю*; дакапа́цца, раскапа́ць, разве́даць *д. праз пошукі*; праве́даць *д. пры выпадку*; даве́дацца *д., кніжн., рэдкаўж.*; прапыта́ць, распыта́ць, распыта́цца *д. прапытваючы*; прачу́ць *д. па чутках*; вы́ясніць *д. дакладна*; пранюхаць, разнюхаць, вы́нюхаць, вы́вудзіць *д. хітрасцю, іншаск.*

Узна́й-ка ты як-небудзь, хто ету бума́гу пісаў. Хацела рузузна́ць, як ён тама жывець, ды нікога з Засожжа ня ўвідзіла. Ну ці дызна́ўся ты што-небудзь ай нічога. Не, Ганна ні тыка́я, у яе ня дужа што вы́зныіш. Чыріз паўгода, а дыкыпа́ліся, хто капу́ ўкраў. Пріехылі, пычалі́ рыспра́шывыць у аднаго, у другога, усё рыскыпа́лі. Ні знаю, каб ты разьведыў што-небудзь, на ета нада сы́йшчык. Як ба мне праведыць, калі хто ў Сялец зьбіра́іцца. Даведыйсь-ка там, ці ні прыдаець хто пацьцёлка. Усё хачу, каб прыпыта́ць айдзе халу́піну сабе, ніхай ба мыладэя адзьдзельна жылі. Пыхадзі́ла і рыспыта́ла, айдзе тэй дваццыць трецьцій дом. Ну што ты рыспыта́лыся, ці часта можыць рожа атрыга́цца. Нада прачу́ць, пачом цяперь у Дры́біні ны быза́рі каровы, нада б якей хвост купіць. Вы́ісьніла я, хто табе такея лухты наплёў ніпыцьсіва́ныя. Нешта ўсё цёрся, відна, хацеў праню́хыць пры Марью. Пыдажджы́-ка, я схаджу луччы цябе разьню́хыю. Хадзіў тут, нешта хацеў вы́нюхыць. Іна варона, што хочыш вы́вудзіць можна, усё рыска́жыць.

## 401. Узнóў

*зноў, яшчэ раз, спачатку* — апя́ць *з., неалаг.*; бо́льшы *з., пры адмаўленні*; яшчэ́ *з., вярнуўшыся да пачатку*; на́нава, за́нава *з., вярнуўшыся да пачатку, малаўж.;* унóў *з., уст.*

Знаць, прі́дзіцца ўзноў сьціга́цца ў бальні́цу, нешта німа пыляхчэнія. Апяць тэя самыя купцы прішлі, ныра́віцца ім твыя хата. Ну, есьлі ты так атносісься, то большы мыя ныга ў цябе ня будзіць. І ўчора быў, а сяньня яшчэ нечыга прішоў, ці ня скоблі. Калі тут бра́цца на́ныва січас пірядзелывыць, ніхай трошку спытыхнець жыра́. Ні хацеў ба я пычына́ць усё за́ныва, ніхай ба ішло, як ідзець. Ніхай сабе вы́грызьлі коні аборкі, дождж прашоў, і ўноў ацскачы́ла трыва як шчотка.

## 402. Укра́сць

*украсці, забраць патаемна чужое* — сцягну́ць, звало́ч, пацягну́ць, павало́ч *у. несхаванае, іншаск.*; спу́ліць, сты́рыць, сці́брыць, сцёбнуць, сві́снуць, злэўдзіць *у., іран.*; сперць *у., груб.*; падлэўдзіць *у. крыху, іран.*; узяць *у. нахабна, іншаск.*; вы́грэсць, вы́скрэсць *у. усё дачыста*; сташчы́ць, увырава́ць *у., іран., руск.*

Восіп такей: укра́дзіць і будзіць бажы́цца, што ў вочы ня ві́дзіў. Нядýмна сьцягну́лі с калёс мяшочык, пряма с-пад рук, ну хуць у ім нічога дужа ні було. Ны мінутку атвярну́лыся — і ужо німа кулька́, звылаклí, жале́ла я, жалела, айдзе яго на́йдзіш. Нейкій бысяк прашоў і пыцягну́ў вузялок с кашолкі. Бу́дзіш так кідыць, і ў цябе пывылаку́ць. Рука́стый хлопіц, што хочыш спу́ліць. Нешта сты́ріў, а яго злаві́лі і пыдзіржа́лі ў руках, дык атахоціўся браць большы. І ў мяне сьці́брілі кышалёк. Сцёбнулі авечку і прыдалí. Што — што, а сьві́снуць умеіць, і айдзе толька наўчыўся. Яны злэўдзюць што хочыш, ма́хырі етыя. Узноў нешта сьпёрлі, паехылі прыдыва́ць. Падлэўдзіць што-небудзь і жывець етым. Узя́лі карову с-пыд зымка і цялёнка зыбра́лі і пывялí. У вакно ўлезьлі і вы́грíблі усё с сундука́. Кіда́й, кіда́й, ні зымыка́й, за́йдуць і вы́скрібуць што хочыш. Пяшком прішоў з Мугулёва: грошы сташчы́лі. Ні стыўля́й касы́, увырыва́ць могуць, тады лума́ць пойдзіш — у пылі́шчу.

## 403. Улаго́дня

*у настроі* — у ду́ху, у настрае́нії, пад настрае́ніем.

Каб ні была ўлагодня, на́білык ба табе ніза́штычка ні дыла́ б. Ідзі-ка ты пыталку́й с Пыньцялеім, ён, кажыцца, сяньня ў ду́ху. Хуць раз ты прішоў у ныстраеніі. Як толька ў ча́рку панюхыў, тады ён пыд ныстраеніім, такей мяккій, рызгаворчыстый.

## 404. Умяша́цца

*умяшацца, унікнуць непасрэдна ў чужыя справы* — учалі́цца *у. часткова*; устра́ць *у. энергічна*; уле́зць, падле́зць *у. недарэчы, неадабр.;* увяза́цца, упу́тацца *у. без патрэбы, неадабр.*; уто́рнуцца, падто́рнуцца, падто́ркнуцца *у. недарэчы і нечакана, неадабр.*; усу́нуцца, падсу́нуцца, усу́нуць нос *у. не ў сваю справу, асудж.*

Ні знаю, што б там було, каб міліцанер ні ўміша́ўся. Чаго ты ўчалі́ўся, у іх свае сямейныя дзялы́. Як устря́ла, як устря́ла, і рызьвіла́, ато пызыбіва́ліся б. Усігда такей: улезіць, куды яго саўсім ні заву́ць. А ты чаго яшчэ сюда падлез? Увіза́ўся ніізьвесна чаго і нашто. Упу́тыўся, а цяперь ні знаіць, як вы́лізьць. І ён уторнуўся, як бізь яго ні абыйціцца. А ты чаго патторнуўся? Патторкніцца сы сваім ізыком, як сыбака с хвастом. Каб ты ня ўсу́нуўся, многа б луччы було. Яшчэ адзін пацсу́нуўся, ні хвыта́ла тут. Ідзі, ідзі, усунь свой нос, тама цябе дужа, дужа дыжыда́юць, пряма ні дажду́цца ніяк.

## 405. Умяша́ць

*умяшаць, уцягнуць у чужыя справы* — уцягну́ць *у. настойліва;* увяза́ць, упу́таць *у. без патрэбы;* утраві́ць *у. спрытна.*

Зьмітрачонка глядзі́, ён усігда другога лю́біць уміша́ць, а сам убок. Я знаю, ты мяне ўзноў уця́гніш у якую-небудзь пятлю́. Хто другей — не, а ты увя́жыш у што хочыш, і так, што ня вы́лізьць можыць быць. Сам улез і мяне ўпу́тыў, а нашто ета дзелыць було. Цябе утра́вюць — ты й палезіш, а тады ныт табою сьміяцца будуць.

## 406. Уняцца

*суняцца, супакоіцца, стаць нарэшце ціхім* — успакóіцца, суня́цца; уціхамі́рыцца, аціхамі́рыцца, усміры́цца *с. пасля шумных паводзін;* сці́шыцца, аці́хнуць, прыці́хнуць, пацішэ́ць, паці́шыць *с. часова, крыху;* сці́хнуць, уці́хнуць, уці́шыцца *с. пасля бурных паводзін;* угамава́цца, угамані́цца *с. пасля грубых паводзін;* асéсць, асéсца *с. адразу.*

Унімі́сь-ка ты, чылавек, сы сваім ціга́ньнім. Пушумеў троху зь вечыра, а тады успакоіўся. Пыра́ табе, ой, пыра́ суня́цца. Ну, ці вы самі уціхамі́ріціся, ці нада успыка́івыць. Можа, возьміцца за розум, аціхамі́ріцца. Ну каб ні ўсьміріўся, мы б цябе усьмірілі, доўга б помніў. А сьці́шыўся толька пыд раньня, ато рады ні було. Ну, ці аці́х ты тама, ці нада яшчэ ўсьміря́ць. Як зы каршэнь узя́лі, ра́зым пріці́х і дуры́ айдзе дзеліся. Троху пыцішэў, ну толька яшчэ ў руках дзяржы ды дзяржы. Ай, пацішыў, айдзе такей бися́к паці́шыіць. Сьціх ш шубуценьнім, а раншы бува́ла уніму німа́. Ці ён уці́хніць калі, ці ўзноў уніма́ць нада. Пыдажджы, ня трогый, ён сам уці́шыцца. Во тыкі ўгумува́ўся, заснуў, ато пряма ні зна́лі, што дзелыць. Як зьвіза́лі, тады угымані́ўся, нягож ні ўгымані́ўся. Пріграз́ілі — тады асеў, пірістá ў адурюва́ць. Ты яшчэ ні асеўся? — пыгадзі́ трошку, ася́дзіш, ста́ніш цішы вады ніжы травы, ня будзіш дзяреўнію варочыць.

## 407. Уняць

*суняць, прымусіць супакоіцца* — успакóіць, суня́ць *с. без злосці;* уціхамі́рыць, усміры́ць *с. шумлівага;* сці́шыць, аці́шыць, прыці́шыць, паці́шыць, уці́шыць *с. часткова, часова;* угамава́ць *с. груба;* асадзі́ць, асéч, зрэ́заць *с. рэзка, іншаск.;* прызва́ць к пара́дку, вы́гнаць (вы́біць) ду́рыкі; збіць (злама́ць, аблама́ць, зрэ́заць, спілі́ць, скруці́ць) рóгі *с. строга, патрабавальна.*

Уні́мі ты сваю хуць троху зь ізыком, ато ён у яе дужа доўгій. Як рызріўла́ся, чуць успакоіў. Некыму цябе суня́ць, ой, некыму, толька я дыбяру́ся калі-небудзь. Уціхамі́рь свайго вы́пыўзьня, рызба́лывыўся большы некуды. Я с табою чы́кыцца ня буду, скора усьмірю́. Ты сваіх троху сьціш, пряма ны гылыва́х ходзюць. Даўно пріш́ла́ пыра́ цябе аці́шыць. Калі цябе ніхто ні пріці-

шыў, дык я пріці́шу жы́ва. Што, цябе йшчэ ні пацішылі? Ні ўспакоісься — уці́шуць, аж будзіш дзіві́цца. Калі матка цябе ня можыць угумува́ць, дык я мігым угаму́ю. Я яго січас летышнію бу́льбыю асаджу́, успакоіцца. Ну й здорыва ж ты Хрісьцінку асекла, змоўкла і ні слова. Як зрезыла, дык сьціх, большы слова ні скыза́ў. Быў рушшумеўся, ну скора прізва́лі к пыря́дку. Доўга ні ца́цкыўся, ураз вы́гныў ду́рікі. Пастой, бацьку рыскажу́, ён сь цябе вы́біць ду́рікі. Нада рогі зьбіць, саўсім стаў адурюва́ць. Злума́лі рогі, шаўковый стаў. Пріціх, рогі аблума́лі, ато, бувала, ны гылаве пы дзереўні хадзі́ў. Зрежу рогі, яны ны табе дужа пырасьлі́. Пыдажджы, пыдажджы, сьпілю́ табе рогі. Усё ні було ўходу, пакуль рогі ні скруці́лі.

## 408. Упіра́цца

*упарціцца, упарта не пагаджацца* — нараві́цца *у. па натуры;* нату́рыцца *у. вельмі па натуры;* супара́тываць, супара́тывацца *у. жартам*; упра́міцца *у. наперакор разумнаму сэнсу;* упа́рціцца *у., кніжн., рэдкаўж.*

Ні ўпіра́йся, схадзі, яны ж усіх гука́юць. Так ныраві́цца ужо дайжа нікрасі́ва. Што, і ты нату́рісься, тожа нада як ма́ліонькыга канхветыю прізмушча́ць? Усігда супура́тыіць, калі ёсьць урэмя і калі некылі. Ну, хва́ціць супура́тывыцца, бягі ўжо скарей. Упря́міцца, упря́міцца, як мылалетычка ікая. Вот нувучы́ўся ты упа́рціцца, любіш дужа, каб угыва́рівылі ды ўпра́шывылі.

## 409. Упо́рлівый

*упарты, непадатлівы пры ўздзеянні* — упо́рыстый *у. вельмі;* нату́рлівый, нату́рыстый *у. па натуры;* упра́мый *у. па капрызу;* упа́ртый *у., кніжн., рэдкаўж.*

Скажы́ ты мне, чаго ты такей упорлівый. Упорістый старэй, як увапрецца, нізашто ні ўгаворіш. Глядзі, конь нату́рлівый, і дугу можыць пулума́ць, і аглоблі. Ну й нату́рістыя ты баба, як пріпа́дык у табе сядзі́ць. Я сь цябе ета упря́мства вы́гныў ба, ня быў ба такім упря́мым. Упа́ртый чылавек, як што заду́мыіць, хуць кол ны гылаве цяшы́, зьдзелыіць.

## 410. Упрака́ць

*папракаць, рабіць папрокі* — папрака́ць; кары́ць, ука-ра́ць, дакара́ць *п. ганьбуючы;* пяня́ць *п. выгаворваючы;* упяка́ць, папяка́ць *п. крыўдна;* выгава́рываць *п. з ушчуваннем;* калоць вочы *п. злосна.*

За што ён упрікáў, дык я.і ні рызыбра́лыся дужа. Што ты мяне ціпля́тымі пыпрікаіш, я магу́ табе курей пымяну́ць. І карілі, і стыдзілі, а яму ўсё божжыя рыса́. Укыря́й ці ні ўкыря́й, а пріціць я ня мог: сена касіў. Дыкыря́ў ужо, дыкыря́ў, і страміў, і ўсё яму пымяну́ў. Дужа піня́ла, што ты ні прішла́ к ім у скрысеньня. А ну іх, адну ўвідзіла — упіка́іць, і другую устреціла — пыпіка́іць. Ніхай пыпіка́юць, я ні вінува́та, а рот людзя́м ні зачы́ніш. Выгыва́рівыла, што я пышла́, а яе ні гукнула. Пычыла́ яму калоць вочы — насу́піўся і гылавы дайжа ні пыдня́ў.

## 411. Услу́жываць

*услугоўваць, аказваць паслугу* — услу́жывацца *у. паддобрываючыся;* прыслу́жываць, прыслу́жывацца *у. прыніжана;* услуго́ўваць (услуго́вываць), прыслуго́ўваць (прыслуго́вываць) *у. у дробязях, кніжн., гумар., іран.;* хадзіць лісіцаю *у. вельмі ветліва.*

Як ужо іна брігадзіру услу́жывыла і вазьмі тря́сцу — ні да́ў кыня́ ны сва́дзьбу. Чаго ты піряд імі так услу́жыісься, ла́скі ня вы́служыш. Ат мяне ня жджы, каб я табе пріслу́жывыў. Ай, як ужо Мятру́на пріслужывылыся, ніхто ні знаіць толька. А што ты хочыш, кылі нада, дык нада і услугоўвыць. Пыдажджы́, пыгадзі трошку, я табе січас услуговывыць стану. Лю́біць, каб яму пріслугоўвылі. Нягож, буду я пріслуговывыць, вун вобуў — і бярі. Што йта ты піріць Сямёным лісіцыю ходзіш, ці ні ў радню́ меціш?

## 412. Успо́мніць

*успомніць, аднавіць у памяці* — успамяну́ць *у. цёпла, прыязна;* памяну́ць *у. пры выпадку;* папо́мніць *у. у будучым;* прыпо́мніць *у. з нядобрымі намерамі.*

Успомні, якей успы́льчывытый быў Ісай, пря́ма як сьпічка, жыг і зыгаріцца. Успымя́ніш ты матку яшчэ ні раз. Сыбра́ліся, доўга сядзелі, пымяну́лі ўсіх — і жывых, і мёртвых. Папомніш маё слова, што гуркі табе так ня бойдуцца. Ты зьвіза́ўся з Дывыдзёнкым ныпра́сна, ён пріпомніць ета сянцо, ні забу́дзіць.

### 413. Успы́льчывый

*запальчывы, схільны да ўзбуджальнасці* — успы́льчывытый *з., малаўж.*; гара́чый *з. вельмі, іншаск.;* раздражы́цельный *з. у дробязях;* як спічка *з. вельмі.*

Як ты жывеш с такім успы́льчывым. Усе троя успы́льчывытыя, зь імі ніхто і зьвя́зывыцца ня хочыць. Ня будзь ужо, ня будзь такім гыря́чым. Што ты рыздражы́цільныя, дык дужа мне ва́жна. Ух, іна ж тыкая, як сьпічка, чуць што, січас успы́хніць, зыгаріцца і пышла ізыком та-та-та-та-та.

### 414. Уста́ць

*устаць, падняцца з пасцелі пасля сну* — падня́цца *у. нехаця;* узня́цца *у. шпарка, абмеж.;* усхваціцца, усхапіцца, падхваціцца, падхапіцца *у. імкліва*; ускачы́ць *у. імгненна;* ускруціцца, успаро́цца, ускапашы́цца, узбутуры́цца *у. дачасна, вельмі рана, без патрэбы, неадабр.*

Уста́ну на зорькі і пыбягу́ ны аборык, яго толька і скосіш з расою. Пыдня́ўся-тыкі, прыспа́ў пасьці су́ткі. Ня верь Хлімону, ён можыць узьня́цца ды пітухоў, а можыць прыспа́ць да беда. Усхваціліся яшчэ пріцімна, ды пакуль туды-сюды пытаўклі́ся, і сонца ўзыйшло. Строгія дзяўчонкі, усхапіліся чуць дзень, пы стыка́ну мылыка́ вы́пілі і пабеглі. Яшчэ сонца ні ўсхадзіла і дайжа птушкі ні турлы́чылі, пытхваці́лыся, корку хлеба ў кырма́н і кытану́ла ціріс паріміну ў лес. Калі ж ён спаў, — так рана пытхапіўся. Рана ты ня ўскочыш, я ны цябе ні надзеюся дайжа во настолічка. Табе толька са́мыя пыра́ спаць, а ты ўскруціўся гылыгалець і ны гылаве хадзіць. Успароўся пріцімна, надзеўся ціхінька і шмыгнуў за дзьвері. Ускыпашы́ліся чуць ні пысярёд ночы і адурюва́юць. Узбутуріліся ні сьвет ні зыря́, што яны будуць дзелыць.

**415. Устрэ́ціць**

*сустрэць, спаткацца, ідучы насустрач* — стрэць; сустрэ́ць *с., малаўж.;* перастрэ́ць *с. спецыяльна з нядобрымі намерамі*; налу́чыць, натра́піць *с. выпадкова*; папа́сць *с. выпадкова, іншаск.*; наткну́цца *с. нечакана.*

Ты зна́іш, каго я ўстрэціў сяньня дарогыю? — Міхалку Пыльчынка́, у грібы́ ішоў. Хадзіла трошку лі мыгазі́ныў, ду́мылыся, каго сы сваіх стрену. Сустреў Дывыдзёнчыху, ды пыгывары́ць ні прішлося, іна дужа сьпяшы́ла. Ён прыда́ў і пашоў сабе, а яны кругом, пірястрелі ў куста́х: дыва́й грошы. Доўга хадзіў і нікога зь мі́дзькыўскіх ні налу́чыў. Пыгліда́й-ка, можа нытра́піш гыліiўча́н, пірідасі́ куму, ніхай за́йдзіць. Калі пупадзеш там Храсі́ньню, скажы, каб зыйшла́. Наткну́ўся ў Колтыві ны Стыльмашонка: што ты тут ходзіш? — прапы́тывыю пацьцёлка, гаворіць.

**416. Уступа́ць**

*уступаць, ісці на згоду* — саступа́ць *у. з павагі*; наравіць, наравіцца *у. з-за стрыманасці*; абнараўля́ць, абнараўля́цца, абнара́ўліваць, абнара́ўлівацца *у. часамі з-за стрыманасці*; перапуска́ць *у. у чарзе;* зважа́ць, зважа́цца *у. з-за чалавечнасці;* уважа́ць, уважа́цца *у. старэйшаму, паважанаму.*

Зь людзьмі́ жы́ўшы, нада умець і ўступа́ць, і ні сварі́цца. Каб ні сустпа́лі адна другой, даўно б пызарезыліся. Ня ўмеіш ты ныраві́ць, ой, ня ўмеіш, глядзі, так ні прыжывеш. Зразу ўзіла́ся як сьпічка, поцступу німа, а посьлі пычыла́ троху ныраві́цца. Як мы жылі́? — абныры́ўля́лі адна другой, так і жылі́. Сколька жыла, усё абныры́ўля́лыся, і калі што ні па ёй, ні пыка́зывыла віду. Табе нада було абныра́ўлівыць, нічога б с табою ня зьдзелылыся. Ніхай ска́жуць, а ты абныра́ўлівыйся, карона сь цябе ні спадзець. Ён такей чылавек, яму ўсігда ўсюдых пиріпуска́юць. А што ты хацеў, каб і ні звыжа́ць нікому. Ныдаела ўжо мне ім звыжа́цца. Ты і ўваж, іна ж старей, табе нада увыжа́ць. Глядзі́, вядзі́ сябе хырашо, увыжа́йся, яны ж усе старейшыя, а ты ні ў сваёй ха́ці.

**417. Ухажываць**

*заляцацца, праяўляць прыхільнасць да жанчыны* — уха́джываць *з., уст.*; бе́гаць, прыўдараць *з. настойліва,*

*жарт.*; ударáць *з. настойліва, жарт., рэдкаўж.*; паганя́ць *з. легкадумна, іншаск., іран.*; цягáцца, валачы́цца *з. дзеля забавы, іншаск., асудж.*; падкáчывацца, клінкí падбівáць *з., робячы папярэднія захады, гумар.*; лістóм слáцца *з. празмерна, неадабр.*; пяткі адтáптываць *з. настойліва, жарт.*

Нешта ўхáжывыў, ухáжывыў, і разыйшлíся. Як пычáў ухáджывыць, як пычáў, а йна ані блíзка. Бегыў, бегыў, мала што бегыў, ці ён зы адною бегыў па ўсёй акрýгі. Зрáзу стаў дужа зы Анькыю прыўдыря́ць, а тады нешта ацíх, так, буваіць, калі сходзіць. Як пычáў, як пычáў удыря́ць зы Адáркыю, гады два ні вылáзіў з Ры́лыўшчыны. Тут глядзíш, як вы́вірнуцца, што прідбáць, а ён, як вечыр, і пашоў пыгыня́ць за дзеўкымі. Қызáлі, за нейкыю стырасельскыю цігáўся троху, толька ён ні на ком ня жэніцца. Пробывыў вылачы́цца за нейкыю распýстыю ў горыдзі, ды йна яго нешта ачшы́ла. Відзіш, к Пырáськіный дачке пыткáчыіцца. Сенька даўно к Ганьні клінкí пыдбівáіць, толька нешта ня дужа клеіцца. Што ты піряд ёю лістом сьцелісься, у яе другей на ўме. Ні аттáптывый ты ёй пяткі, іна сыма гатова зы табою бегыць.

## 418. Учынíць

*расчыніць, заквасіць цеста для хлеба* — расчынíць; раствары́ць, развéсць, затвары́ць *р. крыху*; забаўтáць (забóўтаць), разбаўтáць (разбóўтаць) *р. спяшаючыся.*

Сяньня пайду трошку пазьней: хлеб учынíла, нада ў печ укíнуць. Рышчынíла хлеб і к зáўтріку пару прíснакоў сьпікла. Мінýтку пысядзí, я рыстварю ны пару бýлычык хлеба. Бліноў рызьвілá, ды мнугувáта, да беда прíдзіцца вазíцца. Зытварíла лáдык, сь сьмітаныю будуць к заўтріку. Ныдаела ўсё бульба ды бульба, зубуўтáй-ка ты троху бліноў. Нада, знаць, хуць вáдзінькыга забоўтыць бýлычку якую. А, рузбуўтаю, ня выйдзіць піряпечка, спяку прíснок, зьядуць. Хацела чаго разбоўтыць, а тады пірядýмыла, ёсьць яшчэ пуўбухáнкі.

## 419. Хацéць

*хацець, мець ахвоту* — пáдаць, смя́гнуць *х. вельмі, іншаск.*; дрыжэць, трэсца, калацíцца, млець *х. надзвычай, іншаск., неадабр., абмеж.*

Ні хацí ты такога бырáства, як у тых бялíшчынскіх

лыбытрясыў. Домна Вакýліна у дзецтві зу вугáльлім пáдыла, божа мой, сколька зыдáла. За морквыю сьмягніць, кáжыцца б, большы і ня еў нічога. Абоя дрыжэлі зы гародніныю, і моркву, і гуркí як зы сябе елі. Чаго ты етык трясесься за йгрýшымі, яны ж дáўкія ні прыглыціць. Кылацíўся ехыць у лес, а я і ні ўзяў с сабою. Ня млей ты такога здароўя, ета зь віду як бýря, а так дзень ходзіць, два ляжыць.

## 420. Хвацíцца

*схамянуцца, раптоўна ўспомніць* — схвацíцца, спахвацíцца, шчапянýцца, хамянýцца, схамянýцца; пахвацíцца, хапянýцца, схапянýцца *с.*, *рэдкаўж.*; спахапíцца *с., кніжн., рэдкаўж.*

Хырашо, што воўрімя хвацíліся ды зывязьлí ў бальніцу, там апірáцыю зьдзелылі. Схвацíлыся бежч, а тут ноч ны дваре, прішлося астáцца. Спыхвáцісься калінебудзь, толька глядзí каб позна ні було. Што ж ты шчыпянýўся, калі позна було. Прішлá двору, а тады хымянýлыся: ета ж я нітык ні купíла. Пыглядзíш, схымянесься, папомніш маё слова. Пышлá гуркí сеіць і тады толька пыхвацíлыся, што нечым — семя пыгніло. Во калі ты хыпянýўся сена касíць, што ж ты летым дýмыў. Схыпянýліся іціць пыц сáмыя раньня. Што ж ты спыхапíўся так позна, нада рáншы дýмыць пра дровы.

## 421. Хвáціць

*хопіць, дастаткова* — бýдзіць, дос, до; дóсіць *х., гумар.*; давóльна, дастáташна *х., неалаг.*

Хвáціць табе ўжо вылынгáцца, устывáй, зáўтрік стынíць. Бýдзіць, мне большы ні пыдлівáй. Дос табе duратý тварíць, зьдзікáісься як малютычка. До вам сьміяцца ныд мáлым, ці ён што пынімáіць. Можа ўжо досіць табе язык свой нізыбáрсывыный чысáць? Давольна табе гігікі строіць, касý кляпí. Па-мойму, дык ужо дыстáтышна кычáцца, бакí можна атлежыць, ато пýкніш с пакота, як Гічанок з рызлáтыя йгрýшыны.

## 422. Хвóраст

*галлё, дробныя галінкі* — хмыз, хмызнік *г. вельмі дробнае;* хлуз *г. нікчэмнае;* пáціпнік, прýцце *г. тонкае.*

Нада б хворысту насеч, ды ўсё ўремя ня вы́біру. Прівёз два вазкі́ хмы́зу, нада пасеч пыць сьцяну, ніхай сохніць. Насеклі хмы́зьніку, ду́мыім атвечыра прівезьць. Якей ня быў хлуз, дык і тэй пыдыбра́лі. Што зы тапленьня па́ціпнікым, пых і німа. Пру́цьця запхну́ла, яно пы́хнула, гаршкі́ дайжа ні зыкіпелі, нада паткі́нуць буйнейшыга.

## 423. Хіста́ць

*хістаць, вагаць збоку ўбок* — хіта́ць *х. паціху, памалу*; шата́ць *х. моцна ў аснове*; гі́бацць *х. прагінаючы*; ківа́ць *х. паволі*; калыха́ць *х. паволі шырока, іншаск.*

Бу́дзіш хіста́ць — рысхіста́іш, і верба ня пріміцца. Папробывыў хіта́ць, дык яно і зь места ня ру́шыцца. Ты мала шыта́ў, дай-ка я пышыта́ю. Гі́быў і дагі́быўся — рябі́нку злума́ў. Ківа́й яшчэ, должын вы́рвыцца, калі якога сучка́ німа ўнізу́. Ні кылышы́ клінка́, ён і так чуць ліпі́ць, ныўря́д ці вы́жывіць.

## 424. Хма́рыцца

*пахмурнець, зацягвацца хмарамі* — хма́рыць; ту́чыцца, ту́чыць *п., малайж.*; кула́жыцца, кула́жыць *п. моцна;* крыві́цца *п. моцна, іншаск.*

З ночы яшчэ хма́ріцца, дождж пряма вісі́ць. Дыва́й скарей сена хвыта́ць, хма́ріць зычало. І ўчора так ту́чылыся, а дождж ні сыбра́ўся. Відна, нада зьніма́ць адзёжу: ту́чыць, каб ні зымя́кла. Раз пычало кула́жыцца, то глядзі́, зьбярецца дождж. Два дні кула́жыла, а сяньня трошку во рызыгна́ла. Нешта крі́віцца і крі́віцца, відна пойдзі́ць січас дождж.

## 425. Цаля́ць

*намервацца, мець намер злаўчыцца* — лацна́ць *н. з хітрасцю*; лаўчы́цца, лаўчы́ць *н. з хітрасцю, неадабр.*; ла́дзіць, меркаваць *н., падбіраючы зручны момант*; меціць, цэ́ліцца, цэ́ліць, падцэ́ліваціца *н., робячы абыходныя манеўры, іншаск.*; ме́рыцца *н. пры выпадку*; ме́рыць *н. пры выпадку, абмеж.*

Цыля́й-ка ты як-небудзь пыцскачы́ць на той нядзелі ў Ша́мыва, — пі́ріка́зывылі. Я буду лыцна́ць, каб зразу

паехыць у Рослыў. Лаўчыўся ён, лаўчы́ўся схува́цца ац стыршыны́ і пря́ма таму на вочы пупа́ўся. Лаўчы́, каб трошку ра́ншы вы́йціць, дагонюць дык пыдвязу́ць. Я сьпіцыя́льна ла́дзіў пупа́сьць з вамі пад'ехыць. Міркува́ў пупа́сьць к аўтобусу і спазьні́ўся. Табе б нада було меціць пасьпець у абеды. Цэльсь-ка залезьць у машыну первым, а я ўсьлед зы табою. Цэліў пупа́сць ну лужок, а вы́біг саўсім у другоя места. Паццэлівыліся зыхваці́ць у сільсавеці, іна на месьці ні разу дужа ні бува́іць. Меріўся пад'ехыць сь кім, дык ніхто ні ўзяў. Меріў да сонца вы́йціць, а прілёг, зыдріма́ў, дык сонца на гоні вы́скычыла.

## 426. Церць

*церці, націраць да болю скуру* (*пра абутак, збрую*) — му́ляць, му́ляцца *ц. нямоцна*; рэзаць *ц. вельмі моцна, іншаск.*

Абу́ўся, ды нешта зусука́лыся, трець і трець. Пыпра́ў гріву пут хумутом, каб ня му́ліла. Пыдажджы́-ка, я гляну, што та́мыцька му́ліі́цца. Пінжа́к пыт па́шкымі режыць, нада знаць, пірішыва́ць, ці што зь ім дзелыць.

## 427. Цеч

*цячы, ліцца струменем* — лі́цца, ліць *ц. значным струменем*; іці́ць *ц. павольна, іншаск.*; турчэць, цурчэць *ц. тонкім струменем, рэдкаўж.*; бежч *ц. невялікім струменем, іншаск.*; рэяць *ц. значным струменем* (*звыч. пра кроў*); хляста́ць, біць *ц. моцна*; свіста́ць *ц. з вялікай сілай пад напорам.*

Гля́нула я, цякець бочка, а там клёпка треснула. Паслу́хый-ка, што тама льлецца, аж плешчыцца нешта. С твайго тулу́па ні цякець, а пряма льлець выда. Выда́ ідзець і пы кына́ві і троху балота зыхва́тыіць. Турчы́ць с усіх бакоў, дык каб толька ты ві́дзіў як. Посьлі дажджу цурчы́ць выда пы гря́дкых, пудмува́іць троху бульбу. Ладный дождж пріпусьці́ў, па вуліцы біга́ць ручайкі. Рызвалі́ла сечкыю ладонь, кроў реіць — ні ўняць. Выда з норы хлешчыць і хлешчыць у погрібі. Б'ець выда хвынта́ным с усіх бакоў, айдзе ты чым зьдзержыш яе. Бягі скарей што дзелый, сьві́шчыць выда́ у погріб, відна дзі́річку якую ныйшла.

## 428. Ціхій

*ціхі, вельмі стрыманы ў паводзінах* — спако́йный *ц. з ураўнаважанасцю;* мірный, змірный, смірный *ц. да рахманасці*; ціхамірный *ц. з паслухмянасцю*; ліса́вый *ц. з ласкавай абыходлівасцю*; рука́стый *ц. без баязлівасці*; ніжы вады́, цішы травы́ *ц. да пакорлівасці.*

Не, етыга ты ні кажы́, рожыўцы ня ціхія. І спакойныя дзяўчонка, і дужа прыцыўна́я. Іна мірныя, жыць зь ёю можна. Хлопцы яны зьмірныя, бацька іх у строгысьці дзіржа́ў. Сьмірныя, сьмірныя, а во на табе: прінісла́ ма́ткі ля́льку ў пыста́ньні. Яны ні ціхамірныя ма́льцы, дужа рызба́лывыныя. Дужа ліса́выя нявестка і апхадзіцільныя, к ка́жныму умеіць пыдыйцііць. Рука́стыя воўцы, хуць рызьбярі, ні пыбіга́ць уціка́ць. Я Трішку луччы цябе знаю: ён вады́ нікому ні заму́ціць, усю́дых ніжы вады́, цішы травы́.

## 429. Цягну́ць

*цягнуць, перамяшчаць волакам* — вало́ч *ц. з сілаю, груба;* ташчы́ць *ц. з сілаю, руск.;* цяну́ць *ц., руск., рэдкаўж.*

Ні цягні, уськінь на плечы, тут ні большы двух пудоў будзіць весу ўсяго. Валок маку́шку між кустоў, зычапіўся за нейкыю прытырча́ку і брязь, каб трошку — вы́сыдзіў ба вока. Та́чку та́шчыць зы сабою і крекчыць: «Ух, ціжало», — а яе ж ба лу́ччы пiрiц сабою піха́ць. Сена ж у ношкых ны пліча́х носюць, а ты пы грязі ця́ніш, ды яшчэ ў лу́жу увылакеш.

## 430. Цяжо́лый

*цяжкі, з вялікай вагой* — ця́жкій *ц., рэдкаўж.*; уве́сістый, цяжолаве́сный *ц. нечакана*; у падо́йму *ц., ледзь можна падняць*; у по́рву *ц. вельмі, неадабр.*; як каню дзёрнуць *ц. вельмі (пра воз).*

Пінька́ цяжолыя, многа ні нывязывый. Нашто ж ты еткій ця́жкій воз кладзеш. Ні глядзі што пяць гадоў, ён увесістый. Гаворіць, дужа ціжылавесный мяшок, данесьць яго — потым зальлесься. Нылажы́ў ношку ў падойму, толька рва́цца ныпра́сна будзіш. Што ж ты ношкі вя́жыш у порву, пасьпеіш, пірінясеш меншымі. Ныкла́ў вузюга́н як каню́ дзёрнуць, жа́днысьцць усё дзелыіць.

## 431. Чад

*чад, дым ад недагарэўшага вугалю* — брыд *ч. горкі*; угáр *ч. едкі з выпаленай печы.*

Зірні-ка ну вугáльля, нешта ты зычыніла і зразу чад пашоў пы хаці. Ніхай дзьвері пабýдуць аччы́ніны, трошку брыд яшчэ ёсьць. Я там мінýтычку і пысядзела, а ўгáрым пря́ма апхвацíла гылавý, зыбалела, зыбалела зразу, дык што ня дзелыла, і тряпку пріклáдывыла, і пырашок хвытала,—ні пымыгаіць.

## 432. Чýда

*цуд, нешта небывалае, нябачанае, што выклікае здзіўленне* — дзíва; указэя *ц. надзвычайны*; чудáсія *ц. надзвычай смешны, адзінк.*; дзíва дзíўнае *ц. вялікі.*

Ну, айдзе ты большы такоя чуда увíдзіш. Во ўжо айдзе було дзíва, дык дзíва, жываты́ пырвáлі. Нысты́шчыя указэя зь естыга хлопца, як стáніць прістыўля́ць. Што там толька ні выдзелывылі, пряма жывáя чудáсія была. Нагледзіліся ўсе, ныхыхытáліся, ета ж дзíва дзíўныя, ды первый раз увíдзілі.

## 433. Чужэ́й

*чужы, няродны, не звязаны сваяцкімі адносінамі* — чужы́й; ніхто, ні брат ні сват, ні брат ні сват ні родный дзя́дзька *ч. поўнасцю*; прысцябáй, прышы́й кабы́ле хвост *ч., з уяўнай сваяцкай сувяззю, іран.*; ніякій чорт *ч. поўнасцю, груб.*; дзеся́тая вадá на кісялí *ч., з неістотнымі сваяцкімі адносінамі.*

Во Кузьмá саўсíм чужэй, а мне ён як родный брат. Ну, табе ж Зосім, кажыцца, ні чужы́й быў. Табе яго, канешня, жáлка, як-ніяк кум, а мне ён ніхто. А што ты пры Мікілáя гаворіш, мне ён ні брат ні сват. Пахом мне ні брат ні сват ні родный дзядзька. Калі табе свой, ты й цáцкыйся зь ім, а мне ён прісьцібáй, вун вецір хату вы́мыхыў, пыпрасíла торху прівезьць, — стаў паўлітра. Ён і мне ікрáз тыкáя рыдня́ як табе — прішы́й кабы́лі хвост. Ніякій чорт ён мне, а ня свой. Ну што ён там зы рыдня́, дзісятыя выдá ны кісялí, такея радні ў мяне хуць гаць гаці.

## 434. Чыніць

*рамантаваць, устараняць няспраўнасць* — пачыня́ць *р. грунтоўна;* ладзіць *р. з большага;* пра́віць, папраўля́ць *р. крыху;* падпраўля́ць *р. нязначна;* раманці́раваць *р. кваліфікавана, неалаг.*

Ста́вы саўсі́м пулума́ліся, нада неік чыні́ць. Бяри́сь-ка пычыня́ць са́ні, нада ж ехыць. Ла́дзіў, ла́дзіў калёсы, трайню́ зьдзелыў, паду́шку зьбіў, а тру́бка ўзіла́ і рассы́пылыся. Пра́віў пінжа́к троху, толька ён узноў нешта ціскій. Ны прібу́душчый год хату зьбіраюся пыпрыўля́ць. Я тваё бёрда пытпрыўля́ць ні бяру́ся — ня ўмею. Па сколька нам зыпіса́лі, што сані рімацці́рывылі?

## 435. Шко́да

*страта, убытак, нанесены псаваннем, пашкоджаннем* — квас, купа́лішча *с. вялікая;* урэд, ушчэрб, урон *с. значная, неалаг.*; утра́та, стра́та *с. частковая;* убы́так *с. невялікая.*

Ну як жа ты глядзеў, такую шкоду зьдзелыў, а тут етый яшчэ рыскріўля́ўся. Ай-яй-яй, якей квас зьдзелылі сьві́ньні ў гародзі. Во купа́лішча дык купа́лішча, як піряжы́ць такоя. Ат курей усігда многа ўреду: і гарод паложуць і пышыні́чка ці ячмень якей ні ста́нуцца. Ета ж прямэй ушчэрб ат твайго пыства́. Многа ўрону буря нынісла́, нада на́нывa усё пра́віць. Ну што ж ты зьдзелыіш, і ўтра́ту піріжывеш. Канешня, рызаренія, а стра́ты будуць. Ву́гыл ячменю коні вы́білі, канешня ж, убы́тык.

## 436. Шпар

*паз, выбраная спецыяльна доўгая канаўка ў дэталі збудавання ці абсталявання, выемка паміж бярвеннем у збудаванні* — паз *п. шырокі.*

Што ж ты дзелыў, гу́льма пругуля́ў дзень — чуць субы́чыўся шпар вы́дзіўбыць, а дзень жа з год. Пазы́ гліныю пызыляпіла, ды патрескыліся, нада як дыбра́цца пытпра́віць, а посьлі пыбялі́ць.

## 437. Шука́ць

*шукаць, займацца пошукамі* — іска́ць; разы́йскываць, разы́скываць *ш. працяглы час;* глядзе́ць *ш. позіркам, іншаск.;* ша́рыць *ш. старанна, неадабр.;* шны́харыць,

шны́парыць *ш. празмерна старанна, пранырліва, неадабр.;* нюхаць *ш., уважліва прыглядаючыся, іншаск., асудж.;* шмы́гаць *ш. таемна, імкліва, іран.;* паро́ць *ш. вельмі старанна ўсюды, іншаск.;* цы́гаць, цмы́гаць *ш. павольна, старанна, неадабр.*; трэсць, калаці́ць *ш. у чужым доме.*

Шука́ю во, нейдзі рашчоска вы́вылілыся. Нейдзі ключ абрані́ў, іска́ў, іска́ў — ні найшоў. Ты ўжо ці ня трецьцій месіц долыта разы́йскывыіш. Айдзе я буду разы́скывыць, айдзе кінуў, там і шука́й, пары́ся. Глядзі́-ка там, можа, лі сьцяны руба́нык зываліўся. Ша́ріў, ша́ріў і вазьмі́ трясцу, німа́, ні зна́ю, айдзе дзеліся вязёнкі. Шны́хырілі яны, шны́хырілі і нічога ні найшлі́. Убег і дыва́й шны́пыріць пу вугла́х, што айдзе ляжы́ць. Чаго ён там ню́хыіць па пу́ні, што яму нада? Шмы́гыў нешта пы гароду, можа што схува́ў, а цяперь ні на́йдзіць. Я і ў шчэпкых пароў і пат хворыстым, а чырта́ ны вакенцы ліжа́ла. Што ты цяперь бу́дзіш цы́гыць, нада було ні ціря́ць. Ні глядзеў, ні глядзеў — цяперя цмы́гый, айдзе ты ў лесі на́йдзіш. Трясьлі́ таго сьвятога зь міліцанерым, — трясту́ калхозныю пат печ хува́ў. Ну што ты калоціш там, калі ні клаў нічога.

## 438. Шуці́ць

*жартаваць, гаварыць несур'ёзна*—смяя́цца *ж. у насмешку*; жартава́ць *ж. гулліва.*

Шуці́ць — шуці́, ды меру знай, ато адзін пріміць за шу́тку, а другей і расьсердзіцца можыць. Ета ж Зьмітрок сьміяўся, а ты ду́мыіш, што ён ныпра́ўду хочыць табе нешта зьдзелыць. Журтува́лі, журтува́лі, а тады: «Ты ны мяне так скыза́ў, а ты етык»,— і чуць біцца ні схляснуліся.

## 439. Яда́

*ежа, прыгатаваны прадукт спажывання* — харча́ *е., малаўж.;* харч *е., адзінк.;* пішча *е., неалаг.;* е́жа *е., кніжн., рэдкаўж.;* жра́тва́, жратво́ *е., груб.*

Еж вун, іда́ ёсьць, ці я табе выпісывыць бу́ду. Іка́я табе яшчэ хырча́ нада, із-за моря ці што? Нашто ж ты кідыіш харч ні прібра́ўшы, ні прікры́ўшы. Відна, ат пішчы жывот рызбалеўся, усё са́льныя ды са́льныя. Кінь якея ежы, прібіга́ць жа с пыцьця́гнутымі духа́мі галод-

ныя як чэрці. Жра́твы етыя ны вас ні ныгату́ісься. Вун жрытва́ ны стале, я табе служы́ць ня буду. Гатоў ім жратво, а яны будуць вылынга́цца і яшчэ пысьмяю́цца ныт табою.

## 440. Як-не́будзь

*неяк, якім-небудзь чынам, так ці інакш* — як-ніб́удзь, не́як, як-лі́ба, сяк-так *н. з намаганнямі*; кой-як *н. з бо́льшага*; з грахо́м папала́м *н. з цяжкасцю*; бог ба́цька *н. на рызыку;* ча́сам з ква́сам, паро́ю з вадо́ю *н., вельмі няроўна.*

Хачу ўсё як-небудзь к сыну зьезьдзіць, ды ўсё некылі і некылі. Пыгадзі-ка ты, як-ніб́удзь і я вы́біруся ў Ходысы. Ня бойся, неік устроімся, ня вы́йдзіць — дык у маіх піріначчу́іш. Ну што, што дождж, нада як-ліба дыбіра́цца, ні нучува́ць жа у полі. Сяньня сяк-так прісныка́мі піряб'ёмся, а заўтря ацскочыш дый ку́піш хлеба. Ні скыза́ць каб дужа здароўя було, кой-як ліплю. Зьежджу і я з горім пыпыла́м, язык да Ківа дывядзець. Зіму піріцягну́ла, а вясною бог бацька, на сонца вы́йду пагреюся. Жылі патроху, часым с квасым, парою з вадою, а ўсёро́ўна колык нам ніхто ня быў.

# ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК

## (словы з ілюстрацыйных прыкладаў)

**Абначыцца** -ч-ўся, -ч-ысься; *зак.* Заначаваць выпадкова ці вымушана. *Хадзілі, хадзілі, не знаім, куды іціць, во кыпа пупалыся, у ёй і абначыліся.*

**Адкінуцца** (аткінуцца) -н-іцца; *зак.* 1. Адкінуцца. *Ніхай пыляжыць, увечыры аткініцца.* 2. Пакінуць назусім гняздо (пра птушку). *Ці вы ні знаіця, чаго аткінулыся? — бегылі, ні дывалі сядзець, таго й аткінулыся.*

**Адскачыць** (ацскачыць) -ч-ў, -ч-ыш; *зак.* 1. Адскочыць. 2. Хутка схадзіць, з'ездзіць. *Ацскачў-ка я суботыю к сваім, неік ужо дайно ні былá.* 3. Хутка адрасці ў спрыяльных умовах. *Вісна зразу узілася цёплыя, цёплыя, і жыты зызілянелі хырашо, і трыва за двоя судык ацскачыла.*

**Апетаваць** (апетывыць) -ту-ю, -ты-іш; *зак.* З'есці. *Што ты тарелку ныліла, ета як сыбаку мўха, — яму вядзернік стыўляй — апетыіць.*

**Арду узняць (падняць).** Пачаць гучны крык, сварку, лаянку. *Узьнялі арду на полі, зы пяць вёрст чутна. Пыднялі арду, як толька людзей ня стыдна.*

**Атваліцца** -л-іцца; *зак.* 1. Адваліцца. 2. Зменшыцца (пра цану, жару, мароз). *Ны пырысят цэны скора атвалюцца. Ну, марозы, кажыцца, атваліліся, к вясьне дзела йдзець.*

**Атрыгацца** -á-іцца; *незак.* 1. Адрыгацца. 2. Паўтарацца (звыч. пра хваробу, захворванне). *Каторый раз ета рожа ў мяне атрыгаіцца.*

**Бардадын** (быpдадын) *м. іран.* Высокі няскладны чалавек. *Табўн рыспасьцёрся па ўсёй амшáрі, а бырдадын тэй, наверна, сьпіць.*

**Біндавокій** *прым.* З выбітым, выбалелым вокам, аднавокі. *А што кылі біндавокій, а ці адной жыць лўчы?*

**Бургу́н** *м*. 1. Купіна, грудок. *Тэя бургуны́ толька тра́ктырым і возьміш.* 2. *перан*. Жаўлак. *Відна, зустудзі́ўся, што бургуны́ пашлі па ўсёй сьпіне.*

**Бэнсь** (бэньсь) *м. асудж*. Неслух, гультай (пра хлапчука). *Надзейся, твой бэньсь пытхва́ціцца зьбегыць, бу́дзіць зьбегына.*

**Віразу́бый** (вірязу́бый) *прым*. Рэдказубы. *Прікажы́ сваймy вірязубыму, ніхай сяньня ж прінясець вілкі.*

**Во́галаў** (вогылыў) *м*., **вогалава** (вогылыва) *н*. Аброць без повада. *Ду́мыць нада, што за вогылыў будзіш пла́кыць. Нада ж новінькыя вогылыва пыціря́ць.*

**Вы́паўзень** (вы́пыўзінь) *м. абразл*. Худы, непаслухмяны хлапчук; непажаданае дзіця; апошняе дзіця. *Во ўда́ўся вы́пыўзінь, хуць кол ны гылаве цяшы́. Прідба́ла вы́пыўзьня сабе, ня́нчыцца.*

**Гаварок** (гыварок) *м. гумар*. Гаварун. *Такей ужо гыварок, ён табе сіку́ндычкі моўча ні пысядзіць, на ўсё ў яго ёсьць рызгавор.*

**Гладану́ць** (глыдану́ць) -н-у́, -н-е́ш; *зак*. 1. Грызянуць; укусіць. *Ён юс-юс ды нагою, а йна як глыданець зы сапог.* 2. Перакусіць у спешцы. *Калі було садзіцца, глыдану́лі стоючы і пабеглі.* 3. Скубнуць крыху (пра жывёлу). *Што на тым аборку глыдану́ць, там вы́біта на ток, нада зы амша́ру гнаць.*

**Глуздзі́ць** (глузьдзі́ць) -дж-у́, -дз-і́ш; *незак*. Гаварыць бязглуздзіцу. *Што ты глузьдзі́ш, усяго було, што йна аттушнува́ла пы Высілю́, ніхто толька ні зна́іць сколька.*

**Дарабок** (дырабок) *м*. Слабы ці трэснуты гаршчок, гладыш. *Трошку ліпеў дырабок, а тут сту́кнула — і расьсеўся.*

**Даробка** *ж*. Слабая ці трэснутая гліняная пасудзіна. *Якую даробку на́йдзіш і налі, ты ж ні с па́ньськыга роду.*

**Дзяржа́ва** (дзіржа́ва) *ж*. 1. Дзяржава, краіна. *Наша дзіржа́ва кряпчэй усіх.* 2. Моц; тое, на чым трымаецца; магчымасць трымацца. *Іка́я тут дзіржа́ва, кылі ўся паду́шка паломына, паетыму і трыйня́ шавеліцца. Ніа́кія дзіржа́вы німа, уся пры́тылка разьбіта.*

**Доінка** *ж. гумар*. Карова. *Прыда́ў сваю доінку, добря й чыніў, мылыка ат яе як ат казы, а з-зы Сыжа прівёў, нічога карова.*

**Задорлівый** *прым*. 1. Задзірысты. *К любому падлезіць і зачэпіцца, такей ужо задорлівый.* 2. *перан*. Задзірлівы,

пакручасты (пра лесаматэрыял). *Задорлівыю палку гладка ня выстругыіш, іна і вылáмыіцца, і зыдзіpáіцца.*

**Закандрычыць** (зыкандрычыць) -ч-у, -ч-ыш; *зак.*; *гумар.* Зарэзаць. *Во якей стрáшный, хочыш — зразу зыкандрычыць і як звацъ ня спросіць.*

**Засадка** (зáсыдка і зысáдка) *ж.* 1. Засаўка. *Троху цісанўў кусок якея пáлкі, во й зáсыдка.* 2. Пастка. *Іна табе прызівáіць, прыйшлá — і зáсыдкі німа, і ня відзіў, што брала.*

**Захвостават ый** (захвостывытый) *прым.* Закручаны (пра вяршаліну дрэва). *Макўшка сукувáтыя і яшчэ настолька захвостывытыя, пряма пыпірякрўчывыныя.*

**Збежца** (зьбежца) зьбягіцца; *зак.* 1. Збегчыся. 2. *перан.* Зморшчыцца ад жары (пра скураны абутак). *Пыстáвіў ны загнет баціпкі, ды, знацъ, дылікувáта, зьбегліся зá ныч.*

**Згуртавáць** (згуртувáць) -тў-ю, -тў-іш; *зак.* 1. Згуртаваць, аб'яднаць. 2. Скласці абы-як, без разбору. *Нашто ж ты згуртувáў рáзым і чыстыя і грязныя, і адзежу, і вобуў.*

**Здрыганўцца** (здрiганўцца) -н-ўся, н-есься; *зак.* 1. Здрыгануцца. 2. Пайсці; рушыць. *Усі дзярэўні здріганўліся на кірмáш, народу было — ня зглед зіць, айдзе там було каго шукáць.*

**Зелянцы** (зілянцы) *мн.* Недазрэлыя, недаразвітыя расліны канапель. *Пучкі трі зілянцоў выляіцца пыць сьцяною, пріпуціў ба куды.*

**Зналопу** *прысл.* Раптам, раптоўна, нечакана. *Кінуліся ны яго зналопу, дык ён і рысціряўся, ні знáіць, што і скызáць.*

**Знáтна** *прыс.* Прыкметна відаць. *Ня дўжа знáтна, каб рыспагодзілыся. Ну што ты ні знáтна, ёй жа радзіць скора.*

**Знесца** (зьнесца) зьнясўцца; *зак.* 1. Знесціся. 2. Знесці ў адно месца. *Нічога ж ні астáлыся, дык людзі зьнясьліся, абед спрáвілі.*

**Зрáзу** *прысл.* 1. Адразу, зразу. 2. Спачатку. *Якея ета зборы — зрáзу адзін прішоў, ціріш час другей пляцецца.*

**Іравáцца, рвáцца** -в-ўся, -в-ёсься; *незак.* 1. Рвацца. 2. *груб.* Крычаць. *Чаго ты рьвесься, чаго ць цябе хвытаіць. Узноў пычаў ірвацца.*

**Каб лялька** Нікога. *Ехылі мы лі бызáра, там каб лялька, ну хто такою завеію палезіць, трáктыр топіцца.*

**Кáпнуць** -н-у, -н-іш; *зак.* 1. Капнуць. 2. *жарт.* Памерці. *Канешня ж, работа цяжолыя: тут і дайціць нада — цэлыя вірстá, і прыкычáцца цэлый дзень пут кустамі ня шутка дзела,— так і кáпнуць можна.*

**Карáўка** (кыряўка) *ж.* 1. Брудная трапка, адзежына. *Вун тваё кыряўкі ссохліся ў кычарежніку.* 2. *перан., лаянк.* Неахайная жанчына, гразнуха. *Я б с табою кыряўкыю і тулкувáць ба ні стаў.*

**Карўзлік** (карюзьлік) *м., груб.* Недарослы, нізкі. *Хацеў ты, каб я такому карюзьліку пыччыніўся.*

**Кляве́ц** *м.* 1. *уст.* Малаток. *Пыціряў клявец, цяперь вазьмі трясцы.* 2. *гумар.* Кляпальшчык. *Відзіш, кляўцы ўселіся — лыпатўху ныгыняць.*

**Комбіца** *ж.* Хамуток на бязмене. *На комбіцу рімушок тоніенькій нада ці крепкую нітку редзі ў трі-чатыры.*

**Краннё** (краньнё) *н.* Крадзеж. *Краньнём сыт ня будзіш, а гылаву зламіць можыш,— пысáдзюць і бўдзіш сядзець.*

**Крынджáлы** (кріндж**á**лы) *мн.* Спецыяльныя калёсы для перавозкі бярвення, распускі, касуры, раскаты. *Коля сь Пітрачком ны кріндж**á**лых у Дуброву мытанўлі.*

**Кры́цаю** (кріцыю) *прысл.* Вельмі цяжка, аж не падняць, аж не падняцца. *Чаго ты там лёг кріцыю, ці места табе німа большы айдзе лежч.*

**Кукшы́н** *м.* Жаўлак. *Ны прáвый руке кукшуны дык пряма пу кулакў.*

**Лабудá** (лубудá) *ж.* 1. Хлам. *А як ба так іна нáўзныч, ды на ету лубудў?* 2. Пустазелле, быллё. *Лубудў пызьбівáў троху касою, вўліца на вўліцу паходжа стáла.*

**Лало** *прысл.* Добра, прывольна. *Лало яму зы бáцькывыю сьпіною сядзець, выгуліўся лáдна.*

**Ламáць** (лумáць) -á-ю, -á-іш; *незак.* 1. Ламаць. 2. Праехаць бараною ўзаранае па разу. *Як толька ўспáшыш і лумáй зрáзу, пакуля ні пірясохла.*

**Лáнка** *ж., гумар.* Мажная жанчына. *Ого, такім лáнкым чаму ні жаць, па трі капы за дзінь ныклáсьць могуць.*

**Лáсіца** *ж., жарт.* Мажная рухавая жанчына. *Носіцца лáсіца туды-нызад, горы гатова звырачывыць.*

**Лісíца** *ж.* 1. Лісіца. 2. Кавалак бервяна, які кладзецца на сані пад бервяно пры перавозцы. *Дывáй і лісіцу*

*піряре́жым на́пыл, нашто ёй выля́цца, а так расколіш і вы́сыхніць.*

**Ляпёха** *ж. іран.* Мажная нязграбная жанчына. *Узіла́ся ляпёха за кросны, згародзіць бырану́, вы́йдзіць пылатно зь дзі́рькымі.*

**Ма́ліць** -л-ю, -л-іш, *незак.* Лічыць малым; выдаваць за малога. *Ні маль ужо, ні маль сваю, вічарі́нык ні прыпуска́іць, а работыць ма́ла,— ніха́й-ка ідзець торху пырізаіць.*

**Ма́ліцца** л-юся, л-ісься, *незак.* Лічыць сябе малым, прыкідвацца малым. *Ты б ма́лі́йся,— ні касі́ць, ні пыха́ць пыпіросу ў зубы і ру́кі ў брю́кі рысха́джывыць.*

**Ма́хар** (ма́хырь) *м.* Прайдзісвет. *Ой, махырь, ні я буду, кылі ён шыі сабе ня скру́ціць.*

**Мурзапон** *м.* Мурза, неахайны. *Ходзіць мурзапон, грязь на шчокых зыкарела, а рубашкі і за́ гыд ні дамы́ісься.*

**Надвор'е** (надворья) *н.* 1. Надвор'е. *Спорцілыся надворья, другу́ю нядзелю ніяк ні ныла́дзіцца.* 2. *рэдкауж.* Двор. *Зыграможджына надворья, што хуць літа́й там ці поўзый, а па-людзку ня пройдзіш.*

**Надубы́рыцца** (нудубы́ріцца) -р-юся, -р-ісься, *зак.* 1. Наставіць хіб. *Нудубы́рі́йся кот ны сыбаку.* 2. *перан., іран.* Надзьмуцца, натапырыцца. *Нудубы́ріцца і ні сь кім ні рызгыва́ріць.*

**Накачага́рыцца** (ныкычыга́ріцца) -р-юся, -р-ісься, *зак.* 1. *гумар.* Стаміцца, топячы печ, звыч. у лазні, асеці. *Ныкычыга́рі́йся я сяньня, дровы сырэя, ні гыря́ць хуць здохні.* 2. *іран.* Напіцца п'яным, звыч. самагону. *Ныкычыга́ріліся у Мыланкі, чуць ідуць.*

**На́ўгру́дкі** *прысл.* Дзёрзка, па-забіяцку. *Слова яму ні скажы́ і дзелыць нічога ні зыста́ў — кідыіцца на́ўгрудкі.*

**Неканешня** (ніканешня) *прысл.* Неабавязкова. *Вот табе выпрыўля́цца на тую свадзьбу саўсі́м ніканешня.*

**Ноў** *ж.* 1. Што-н. новае, невядомае раней. *Ты ўжо зыкарю́з, табе ўся́кыя ноў стра́шна.* 2. Навіна, хлеб новага ўраджаю. *З наві ныпяклі хлеба, во сма́шный сьвежый.*

**Па́валка** (па́вылка) *ж.* Павалока, павуцінне. *Тума́н ні тума́н, а нейкыя па́вылка. Па́вылка па полю, ета увосінь усігда́ так.*

**Падмята́йла** (пыдміта́йла) *м.* і *ж., іран.* Паслугач. *Няўжэлі табе ня сты́дна сымаго сябе і людзей служы́ць зы пыдміта́йлу.*

**Падонне** (падоньня) *н.* Падонкі. *У вуглу трошку падоньня астáлыся, ня хочыць, скацíна есьць.*

**Падпароць** (пытпароць) -р-іш, -р-іць; *зак.* 1. Падпароць. 2. Падагнаць. *Убойный конь, ня дужа патпоріш.*

**Пáзалкі** (пáзылкі) *мн.* Астаткі попелу пасля шчолаку. *Шчолык як зьдзелыіш, пáзылкі куды ж іх, ны гарод выкініш.*

**Пакот** *м.* Насціл з жэрдак на бэльках. *Пакóт, бувала, зьдзелыю ў пуні, сьвірепкі насушý і пыкладý туды, тады трошку яшчэ сольлю трухнý яе — і зіму спакойны, скатý толька вады пысьпівáй насíць.*

**Паллё** (пальлё) *н.* Палкі; дровы. *Нывазíлі троху пыльлá, нада як прíпырядзíць,— што парезыць, што пасеч.*

**Панебніца** *ж.* Перакладзіна ў кроснах, на якой падвешваюцца ніты. *Ніхай сабе панебніца ня дужа цэнна, а стáвы стáвіш, і йна пад рýкі нада, нітоў бізь яе ні павесіш,— дзіржáць жа ня бýдзіш іх.*

**Папрáннік** (пыпрáньнік) *м.* Пернік. *Як куплю пыпрáньнікыў сваім, ныпірягонкі грызуць, дужа гынáюцца.*

**Пáсадка** (пáсыдка) *м.* Пастка. *Пыстáвіў пáсыдку ны мышэй, а кот лáпыю ўлез, як закрічы́ць пысярёд ночы,— устывáў, рітувáў.*

**Пасáміцца** (пысáміцца) -м-іцца; *зак.* З'явіцца апетыту; паказацца смачным; захацецца есці. *Я ўжо, знаць, нядзелю ня ела, во сяньня крупеня зыкыўкáныя пысáмілыся неік, ложычкі трі сірбанула. Нешта гарбýз пысáміўся, пыпрасíў зварíць.*

**Пáства** і **паствó** *н.* Пасьба. *С тваім паством мылыкá ні дажджэсься. Якоя там дужа пáства, глядзі, каб двору ня беглі.*

**Перабíра** (пірябíра) *м.* і *ж.* Пераборлівы. *Пірябíра цёлычка, мікчугý ня хочыць, клівярок пыдывáй.*

**Перадаражы́ць** (пірідыражы́ць) -ж-ý, -ж-ы́ш; *зак.* Запрасіць надта дорага. *Каб ні пірідыражы́ў зрáзу, і прыдáў ба, зрáньня купцы́ ныхадзíліся, а так вязíся во нызад.*

**Перамотка** (пірямотка) *ж.* Тонкая вяроўка, якой злучаюцца ў санях накліскі з розвальнямі. *Січас пірямотку даўю, пірімытáім сані і паедзім, пасьпеім — самыя што бызáр бýдзіць.*

**Перапечка** (піряпечка) *ж.* Белы хлеб, спечаны з цеста, якое расчыняецца не на ноч, а раніцай. *Прáзьнікі скора, сьпякý-ка я, знаць, піряпечык.*

**Плашы́** *прысл.* Цяжка. *Плашы́ маімі гыдамі цягнýц-*

*ца за тэй Сож. Табе ж мінўтныя дзела зьбегыць, а плашы́ дыбірацца з маімі ныгамі.*

**Прабры́знуць** -н-іць; *зак.* Пакапаць (пра невялікі дождж). *Тут і дождж такей, чуць прабры́знуў, алі ж сена гресьць ня бўдзіш.*

**Пракі́нуцца** -н-іцца; *зак.* Пачаць расці зрэдку. *Летыся бырывікі пракінуліся дужа рана.*

**Пра́лля** (пря́льля) *ж. гумар.* Папрадуха. *Ну што ты, пря́льля, ці дўмыіш есьць ліць?*

**Праскоўка** *ж.* Кароткая вяроўка, якой барана прывязваецца да ворчыка. *Кусок задоўкі атрезыў — во табе й праскоўка.*

**Праснўшка** (пряснўшка) *ж.* Прэсны праснак. *Пару пряснўшык зымясі, рыскыча́й, і ніхай дзень грызўць.*

**Прачуха́нка** (пручуха́нка) *ж.* Наганяй, праборка. *Бўдзіць табе за ета дзела пручуха́нка, ой, бўдзіць.*

**Прывярнўць** (прівярнўць) -н-ў, -н-іш і -н-е́ш; *зак.* Прывярнуць. *Прівярні кыня́ к пря́слу. Ну што ты, ня ўмеіш аглабель прівярнўць* 2. Прываражыць, прывабіць. *Нейкыю траву сушы́ла, у гарелку сы́пыла, паіла, дўмыла, прівернііць.*

**Прынўда** (прінўда) *ж.* 1. Прынука. *Ні зыстаўля́й, я й біс прінўды вазьмў.* 2. Асуджэнне да прымусовых работ. *Чаты́рі гады́ прінўды адбы́ў, пыцішэў, а раншы ж ны гылаве хадзіў.*

**Прысты́ць** (прісты́ць) -ын-у, -ын-іш; *зак.* 1. Прымерзнуць. *За́ ныч вядро прісты́ла на марозі — ні тырва́ць.* 2. Прысохнуць. *Грязь кымка́мі прісты́ла, атмува́ць нада.* 3. *лаянк.* Засядзецца. *Ці ты прісты́ў тама, што ня вы́йдзіш, цялёнка ня ўстреціш.* 4. Прастудзіцца. *Ра́з прісты́ў рыспацеўшы, другей раз і зьлёг.*

**Прытўлле** (прітўльля) *н.* Прытулак; прыпынак. *Айдзе ім бўдзіць прітўльля, гультуя́м етым, так жа хлебым карміць ніхто ні ста́ніць.*

**Прытушы́ць** (прітушы́ць) -ш-ў, -ш-ыш; *зак.* 1. Прытушыць. 2. Задушыць. *Рыска́зывылі, што радзіла і падўшкыю прітушы́ла, дык судзілі.*

**Прычэлле** (прічэ́льля) *н.* 1. Прыпынак; прытулак. *Найдзіць айдзе прічэльля, пірізімуіць.* 2. Нязначная прычына, повад. *Ёй каб толька було прічэльля пысваріцца, хуць сь кім-нібудзь — зь любы́м гатова.*

**Пугнўць** -н-ў, -н-е́ш; *зак.* 1. Пугнуць. *Пугнўў ат аўса, а яны ўбры́кі ў грячы́ху.* 2. Прадаць без патрэбы. *Пугнў-*

*лі карову, усьлед сенцы.* 3. Змарнатравіць адразу. *Столька грошы пугну́ць, айдзе ж твыя гылыва́ была, як ты жыць бу́дзіш.*

**Пу́кнуць** -н-у, -н-іш; *зак.* Упасці (часцей пра плады садовых дрэў). *Што пу́кніць — пыдбярець, а зь я́блыны ні трясець. Пу́кнуў з ба́лькі як выранёнык,— не, ні зыпла́кыў, пабег.*

**Пупок** м. 1. Ручка ў касе, прымацаваная да сярэдзіны кассея. *Гла́дкыя арешына — са́мый лу́ччый пупок, ну й бярёзу гнуць, і дуб, і лазу́.* 2. Памянш. ад пуп.

**Пя́цьміна** *ж.* Пляма. *Зыка́пыў рубашку, пя́цьміны ні тмува́юцца,— і новыя адзежынка, і ні надзець.*

**Разла́тый** (рызла́тый) *прым.* Сукаваты. *Зывалілі ёлку, іна ныпылавіну ссохшы, ды рызла́тыя, рызла́тыя, ні пуцступіцца.*

**Раскрыўля́цца** (рыскрiўля́цца) -я́-юся, -я́-ісься; *зак.* 1. Пачаць крыўляцца. 2. Расплакацца. *Як рыскрі́ўля́іцца, хуць ля́сьніся, ня ўніміш і ні ўгаворіш.*

**Расценіе** (расьценія) *н.* 1. Расліна. *Дождж нада ны кожныя расьценія.* 2. Рост. *Хылады́, паетыму і німа дужа ўсходым расьценія,— ну, можа, скора пыцяплеіць.*

**Ро́збарыш** (ро́збырыш) *м.* Барыш пасля выканання здзелкі. *Плотнікі ўчора кончылі ў Пынкрацёнка, пілі́ розбырышы.*

**Саве́тніца** *ж.* 1. Дарадчыца. *Во відзіш, як твае саветніцы падводзюць.* 2. Посцілка. *Вы́ткыла саветніцу, уся ў цьвіта́х.*

**Саракаву́шкі** (сырыкаву́шкі) *мн.* Лапці лыкавыя. *Дзед, бува́ла, сплящець і любу́іцца: харошыя сырыкаву́шкі.*

**Сваякіня** (свыя́кіня) *ж. іран.* Сваячка. *Свыя́кіню зьбіра́іцца трухтува́ць, буты́лычку кра́сьніпькыга купля́ла.*

**Свісту́н** (сьвісту́н) *м.* 1. Свістун. 2. Чарвівы арэх (з дзірачкай). *Стой, ні куса́й, ета ж сьвісту́н, вун дайжа дзірічка ў баку́.*

**Селяток** (сіляток) *м.* Цялё-сяголетак. *Цялёнык узя́ўся, дык ні скажыш, што ён сіляток, на летышка зма́хыіць.*

**Скалоцвіны** (скалоцьвіны) *мн.* Сыроватка, якая аддзяляецца пры збіванні масла. *Можа хто й п'ець скалоцьвіны, мы дык сьвіньня́м вылівáім.*

**Смаллянка** (смыльля́нка) *ж. жарт.* Жыхарка Смаленшчыны. *Ня ду́мый, тую смыльля́нку ня дужа прывядзеш.*

**Спатыхну́ць** (спытыхну́ць) -н-е́ць; *зак.* Зменшыцца

(пра агонь, жару). *Пірякінься ны сяньнік і пыляжы, спытыхнець жырá і пойдзіш.*

**Ступéнь па пень** Лянота; неахвота. *Дык што, ужо ступень па пень стáла дайжа ды стылá дайціць,— жджы: я табе буду узнасіцца і трухтувáцца.*

**Сход** *м.* 1. Сход. 2. Апошняя чвэрць. *Сход пычáўся, ночы цёмныя-цёмныя стáлі.*

**Сцёмшыся** (сьцёмшыся). Гужам. *Во ýжо сяньня людзей будзіць, са ýсіх бакоў пряма сьцёмшыся ідуць.*

**Сцягнýць** (сьцягнýць) -н-ý, -н-іш; *зак.* 1. Сцягнуць. 2. Украсці. 3. Справіцца. *Я зы сваю жызьню падбіўся, трі вайны прайшоў, у гірмáнскыю гáзу хваціў, мне з мыладымі ні сьцягнýць.*

**Танінá** (тынінá) *ж.* Тонкасць. *Еткыя тынінá, айдзе ж тут што бýдзіць дзіржáцца.*

**Убойный** *прым.* Непаслухмяны. *У яе два пудурösткі і такея убойныя, пряма слова ні гыварі.*

**Угаманíць** (угыманíць) -н-ю́, -н-іш; *зак.* 1. Супакоіць, уняць, угамаваць, угаварыць. 2. Забіць; знішчыць. *Злавілі, зывялі троху ў бок адзь дзярэўні і ўгыманілі.*

**Угáр** *м.* 1. Чад. 2. Разудалы. *Сімянок такей ужо угар, што куды там,— ён і на вы́думкі і на скокі, і на ўсё.*

**Узны́к** *м.* Памяць; успамін. *Паехыў, нейдзі прыпáў і ўзны́ку во німа. Якей такой нячы́стый сілі ўзнык бýдзіць.*

**Умáлку** *прысл.* У дзяцінстве. *І ўмáлку быў выранёнык, і цяперь ат мáлку дужа ні атрос.*

**Упя́ліцца** -л-юся, -л-ісься; *зак.* 1. Уперціся. *Як упя́ліцца — хуць ты яго жывога вылакі ці гылаву́ атарьві.* 2. Пачаць назойліва, бессаромна углядацца. *Ну што ты ўпя́ліўся ну людзей, так жа нікрасіва.*

**Уставíшня** і **уставíшна** *прысл.* Заўсёды, пастаянна. *Во хто работыіць — ета Мікіта, калі ён сьпіць, калі ляжы́ць,— рáзым с сонцым уставíшня і пашоў, і пашоў.*

**Ухайдóшыць** -ш-у, -ш-ыш; *зак.* Забіць. *А Мыксімёнык, ці чулі, вуўкá ухайдошыў. Зь нейкымі бысікáмі зьвізáўся, і яго ухайдошылі.*

**Хлю́ндра** *м.* і *ж. асудж.* Неакуратны чалавек, звыч. жанчына. *Што пра хлю́ндру кызáць, каб у яе што путноя було.*

**Хрáпка** (хря́пка) *ж.* 1. Храпка. 2. Нос. *Што, пупýла пы хря́пкі?* 3. Дровы з маладога сасняку. *Прівёз хры́пяк, ім нада лета сохнуць, а тады яны будуць гарець.*

**Цэль** *ж.* Лесаматэрыял. *Во нывазіў цэлі: чы́стыя,*

*гла́дкыя, роўныя як струна́, зімнія ва́лкі, бярно ў бярно,— хата будзіць як звон.*

**Чужбіна́** *ж.* Чужое. *Ні бра́ла я ні разу чужога, і ты чужбіны́ ні хацí.*

**Чухвало́к** *м.* Усякая накідка. *Вун чухвалок накінь на плечы і пірібягіш ву́ліцу.*

**Чы́сціцца** (чы́сьціцца) -ч-уся, -ц-ісься; *незак.* 1. Чысціцца. 2. Рабіць аборт. *У ба́бык чы́сьцілыся і пышла́ на тэй сьвет.*

**Чэ́рня** *ж.* Чорная фарба. *Сыма ж помню: купля́ла па́чычку чэрні, а цяперіцька нійдзе ні найду́.*

**Шкару́днік** (шкарю́днік) *м.* Задзіра; упарты. *Ра́зьві ж ты ні зна́іш, што ён такей шкарю́днік.*

**Шморка** *ж.* Кавалак вяровачкі, шнура. *Якую шморку пупа́ў, тою й зывіза́ў, ці табе ны пыка́з.*

# ІНДЭКС

**Б**

**Ц**

# ЛІТАРАТУРА

Абакумов С. и Солонино М. К вопросу о работе над синонимами. «Русский язык в советской школе», № 2, 1929.

Авалиани Ю. Ю., Ройзензон Л. И. Проблема фразеологической синонимики в современном языкознании (обзор литературы). Труды Самаркандского гос. ун-та им. А. Навои. Новая серия, вып. № 132 кафедр ф-та ин. языков. Самарканд, 1963.

Александрова З. Е. Словарь синонимов русского языка. М., 1968.

Александров П. С. К вопросу о некоторых лексикологических и лексикографических терминах. Ученые записки Куйбышевского гос. пед. ин-та им. В. В. Куйбышева. Кафедра русского языка, вып. 26. Куйбышев, 1959.

Александров П. С. Краткий очерк истории разработки русской лексической синонимики. Сборник статей по теории и методике русского языка. Ученые записки Куйбышевского гос. пед. ин-та им. В. В. Куйбышева, вып. 38. Куйбышев, 1963.

Александров П. С. О принципах составления словаря синонимов русского языка. Лексикографический сборник, вып. 6. М., 1963.

Апресян Ю. Д. Проблема синонима. «Вопросы языковедения» № 6, 1957.

Баранникова Л. И. К вопросу о диалектной синонимии. Вопросы стилистики. Вып. 1. Саратов, 1962.

Бережан С. Г. О критериях синонимичности в лексике. «Филологические науки», 4(40). М., 1967.

Галкина-Федорук Е. М. Синонимы в русском языке. «Русский язык в школе» № 3, 1959.

Гречко В. А. О лексической синонимии в русском языке. Научные доклады высшей школы. Филологические науки, 2(22). М., 1963.

Григорян В. М. Материалы к словарю синонимов. Прилагательные по данным языка А. С. Пушкина. Ереван, 1957.

Гурскі М. І., Булахаў М. Г., Марчанка М. Ц. Беларуская мова, ч. І. Мінск, 1961.

Дегтярева Т. А. К проблеме синонимики. Ученые записки І-го Московского гос. пед. ин-та иностр. языков, т. V. Харьков, 1953.

Деркач П. М. Короткий словник синонімів української мови. Київ, 1960.

Евгеньева А. П. Проект Словаря синонимов. М., 1964.

Евгеньева А. П. Язык русской устной поэзии (Синонимия). Труды отдела древнерусской литературы. VII. Ин-т русской литературы. М.—Л., 1949.

Захарова М. Н. О разграничении синонимов и видо-родовых обозначений, выраженных существительными. Ученые записки Кишиневского гос. ун-та, т. 71. Вопросы общего и русского языкознания. Кишинев, 1964.

Звягинцев В. А. Замечания о лексической синонимии. Вопросы теории и истории языка. Сборник в честь проф. Б. А. Ларина. Л., 1963.

Клышка Міхась. Матэрыялы да слоўніка сінонімаў і блізказначных слоў. «Полымя» № 5—11, 1965; № 1, 2, 6, 7, 9—11, 1966; № 1, 3, 4, 6, 8, 1967; № 3, 4, 6, 1968; № 2, 6, 1969.

Клюева В. Н. Краткий словарь синонимов русского языка. М., 1959; изд. 2-ое. М., 1961.

Клюева В. Н. Синонимы в русском языке. «Русский язык в школе» № 3, 1954.

Лексическая синонимия. М., 1967.

Лукина Г. Н. Синонимы и антонимы в пределах лексико-семантической группы слов. Лексикографический сборник, вып. 6. М., 1963.

Очерки по синонимике современного русского литературного языка. М.—Л., 1966.

Палевская М. Ф. О синонимическом словаре русского языка. Ученые записки Кишиневского гос. ун-та, т. LXI (языковедческий). Кишинев, 1962.

Палевская М. Ф. Проблема синонима и составление синонимического словаря. Ученые записки гос. пед. ин-та им. Т. Г. Шевченко, вып. VIII (за 1958 год). Кишинев, 1960.

Палевская М. Ф. Синонимы в русском языке. М., 1964.

Палевская М. Ф. Синонимы в современном русском языке. Ученые записки Кишиневского гос. ун-та, т. 47, вып. I (филологический). Кишинев, 1962.

Сиротина В. А. Лексическая синонимика в русском языке. Львов, 1960.

Скшидло А. Я. К вопросу о синонимах. Труды Иркутского гос. ун-та им. А. А. Жданова, т. XXVI. Серия языкознания. Вып. I. Иркутск, 1958.

Херольянц Р. В., Кретова В. Н. Лексическая синонимия в народном говоре. Известия Воронежского гос. пед. ин-та, т. 53. Воронеж, 1966.

Чумаков Г. М. К проблеме синонимов (Функциональная синонимика). Доклады и сообщения на итоговой научной конференции за 1962 г. Луганский гос. пед. ин-т им. Т. Г. Шевченко. Серия филол. наук. Тезисы. Луганск, 1963.

Шапиро А. Б. Некоторые вопросы теории синонимов (на материале русского языка). Доклады и сообщения Института языкознания АН СССР, VIII. М., 1955.

Шкляров В. Т. О фразеологических синонимах в русском языке. Труды кафедр русского языка вузов Восточной Сибири и Дальнего Востока, II. Иркутск, 1962.

Шоцкая Л. И. О словаре русских синонимов. Труды кафедр русского языка вузов Восточной Сибири и Дальнего Востока. Иркутск, 1960.

Язовицкий Е. В. Говорите правильно. М.—Л., 1964.

# ЗМЕСТ






*Юрченко Георгий Федорович*

**НАРОДНАЯ СИНОНИМИКА**

Издательство «Наука и техника»
Минск, Ленинский проспект, 68

Рэдактар *Н. Гняўко.* Мастак *С. Русак.* Мастацкі рэдактар *В. Саўчанка.* Тэхнічны рэдактар *Г. Якубоўская.* Карэктар *І. Пархімовіч*

АТ 02175. Здадзена ў набор 28/III-69 г. Падпісана ў друк 4/VII-69 г. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Друк. арк. 8,75. Ум. друк. арк. 14,7. Уч.-выд. арк. 13,2. Выд. заказ 645. Друк. заказ 314. Тыраж 1100 экз. Цана 52 к.

Друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка» АН БССР і Дзяржкамітэта Савета Міністраў БССР па друку. Мінск, Ленінскі праспект, 68